

8

ЖНІВЕНЬ

МІНСК, 1970

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



Выдавецтва ЦК КП Беларусі

Вокладка **Г. Скамарохава.**

Шмуцтытулы: **В. Шаранговіча** (3 стар.) і фота **М. Амельчанкі «Дзень добры, сонца!»** (87 стар.)



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Сяргей ЗАКОННІКАЎ
- Леў КУНЬКО
- Пятрусь МАКАЛЬ
- Уладзімір ХАЧЫРАШВІЛІ
- Казімір КАМЕЙША
- Васіль ГРОДНІКАЎ
- Алесь ШПЫРКОЎ
- Васіль ЖУКОВІЧ





Сяргей ЗАКОННІКАЎ



● ——— ●● ——— ●●● *Восеньскі роздум*



●

Раямі ляцяць зоры
Над вогнішчам салдат.
Ад грукату залпаў «Аўроры»
Бурліць, нібы вір, Петраград.
Лістоўкамі лісце клёнаў
Плыве над густой зарой:
«Былі і будзем чырвонымі,
Як наша гарачая кроў!»
Шыпіць бліскучай змяёю
Пад шабляй белы пагон.
Над вызваленай зямлёю
Чырвоны ляціць эскадрон.
На бруку падковы звоняць
Ля вёсак, крыніц і бароў:
«Былі і будзем чырвонымі,
Як наша гарачая кроў!»
Гмахі растуць да неба,
Праца — мэта адна.
Пахне потам і хлебам
Першая баразна.
Спяваюць гудкі заводаў
Ранняй, вячэрняй парой:
«Былі і будзем чырвонымі,
Як наша гарачая кроў!»
Грымелі віхуры, навалы —
Камень не мог устаяць.
А ты стаіш, як стаяла,
Радзіма, айчына мая.
У час, цяжкі і трывожны,
Пішаш штыком і пяром:
«Былі і будзем чырвонымі,
Як наша гарачая кроў!»
У праўды такая мерка,
Такія законы быцця:
Чорны колер — у смерці,
Чырвоны — колер жыцця.

●●

Дзеці — гэта тыя ж марсіяне,
На зямлі ўсё чыста нова ім.
Ну а мы, абвыклыя зямляне,
Мудрацамі каля іх стаім.
Думаем, што нам усё вядома,
Нас, дарослых, не здзівіць нічым.
А малы, як выбег ранкам з дому,
Стаў у садзе ціха і маўчыць.
Ведае хлапчук, што хутка птушкі
Ручаямі звонка зазвіняць,
Што сады рыхтуюцца пагушкаць
Жаўтадзюбых цёплых птушанят.
Тонкі кужаль маладых галінак
Вісне сарамліва на плячах.
Новая чароўная краіна
Ажыла ў задумлівых вачах.
Ён святы сваёй упартай верай
У жыццё, здзіўленне, дабрату.
І прырода адчыняе дзверы
На яго пагляд і сэрца стук.
Для яго ярчэй і сонца свеціць,
І ралля крычыць яму: «Люблю!»
...Навучыце нас, дарослых, дзеці,
Бачыць так, як вы, сваю зямлю.

●●●

Па сасонніку, па бярэзніку
Звон зялёны — ау, ау...
Я адзін між сствалоў плыву,
Не шукаючы ўзбярэжжа.
Не грыбнік і не паляўнічы,—
Непрыкметны ў бары чалавек.
Вецер цягне па галаве
Павуціны сівыя ніці.
Я нікога сёння не клічу.
Я з табой на спатканне прыйшоў.
Нібы птушкі, плыве над душой
Развітальны пошум лісцяў.
Залатая пара. Восень, восень...
Ягад гронкі ў вачах на дне.
Твая мудрасць, блізкая мне,
Раўнавагу і веру прыносіць.
Не чакаю ніякага цуду.
Цуд адзін толькі ёсць — жыццё,
Цуд адзін толькі ёсць — жыццё,—
Помню цвёрда і помніць буду.
Хай яно будзе доўгім, як вечнасць,
Хай яно, можа, пройдзе, як дзень...
Нарадзіўся, жыву між людзей...
Ну, а што трэба больш чалавеку?



Леў КУНЬКО

Мал. А. БАРАНОЎСКАГА

# ПА СВАІМ ЖАДАННІ

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ



жо даўно прагула заводская сірэна, ужо даўно скончылася змена, а Пракоп Аўдзеевіч Шабанаў усё яшчэ сядзеў у сваёй канторцы і, шчоўкаючы лічыльнікамі, падрахоўваў работу цэха. Ён і без гэтага добра ведаў, што цэх адстае ад графіка, але самому хацелася ўсё падлічыць. Як ні перастаўляў ён лічбы, а выходзіла, што цэх з пачатку месяца адстае на добрыя тры дні.

Тэлефонны званок адарваў ад гэтага не зусім прыемнага занятку.

— Зайдзі, Пракоп Аўдзеевіч, справа ёсць, — пачуў ён у трубцы голас дырэктара.

«Ведаю, што гэта за справа,— паморшчыўся Шабанаў.—Сам над гэтым галаву ламлю. А толк які, што ты мяне выклікаеш».

Ад гэтых думак яму зрабілася нявесела. Амаль трыццаць гадоў яго лічылі неблагім начальнікам цэха, а тут нá табе, на старасці год у адстаючыя трапіў. Як хлапчука якога дырэктар будзе адчытваць, а ты стой, як ёлупень, і апраўдвайся.

З такім невясёлым настроем прыйшоў Пракоп Аўдзеевіч да дырэктара.

— Я не збіраюся вучыць цябе,— выслухаўшы Шабанава, заўважыў дырэктар.— Але па-твойму выходзіць, што вінаваты ўсе, толькі не ты. Але ж ты начальнік цэха, табе і адказваць.

— Ды хіба я адказнасці баюся? Ты лепей ліцейкай заняўся б, а не натацыі мне чытаў. А то працуюць там... як пры цару Гароху... А мы задыхаемся без адлівак. Прывыклі ўсе кіраваць, а працаваць дык і няма каму.

Дырэктар не адказаў. Ён устаў з-за стала, некалькі хвілін моўчкі хадзіў па кабінеце, і толькі чуваць было, як у яго пад нагамі парыпвае падлога.

Маўчаў і Пракоп Аўдзеевіч. Адчуваў, што сказаў лішняе, але нейкая незразумелая ўпартасць прымушала маўчаць.

— Не будзем спрачацца, Пракоп Аўдзеевіч, і ўдакладняць, хто кім кіраваць павінен. Кожны робіць тое, што даручана. А хацелася б, каб рабіў ён крышачку больш, чым прадугледжана службовымі абавязкамі. Вось у цябе, прабач, гэтага крышачку і няма. А шкада. Калісьці ты быў не такі.

— Дык што ж, па-твойму, я мала працую? Не спраўляюся? — узгарэўся Шабанаў.

— Параіцца хацеў з табой, а ты вунь як... — Дырэктар выйшаў з кабінета, злосна ляпнуўшы дзвярыма.

Ад гэтай гутаркі на душы было прыкра. Супакоіўся Пракоп Аўдзеевіч толькі тады, калі вярнуўся ў цэх. Знаёмы гул станкоў, пах металу і нагрэтага машыннага масла крыху супакоілі.

У канцы цэха ён убачыў высокую, нязграбную постаць свайго намесніка Віктара Філіна. Схіліўшыся над станком, той штосьці тлумачыў рабочаму. Філін працаваў у цэху даўно. Быў токарам, потым майстрам. А летась дырэктар прызначыў яго намеснікам Шабанава. Пракоп Аўдзеевіч не пярэчыў. Ён нават радаваўся, што сын яго сябра будзе цяпер намеснікам, аблегчыць клопаты начальніка цэха. Што ні кажы, а свой чалавек, пры выпадку і падтрымаць здолее. Маладосць — не загана. Была б галава на плячах.

Але выходзіла не так, як спадзяваўся Пракоп Аўдзеевіч.

Пасля гутаркі з дырэктарам ён непрыязна паглядзеў на свайго намесніка.

«Здаецца, і хлопец разумны, веды і энергія ёсць, але ж занадта лёгкадумны. Усё яму хочацца перайначыць на новы лад, праводзіць эксперыменты. А па сваёй маладосці не ведае: працуе машына, і не чапай яе. У адным месцы знойдзеш — у другім згубіш. А нам не эксперыменты, а праграма патрэбна, праграма...»

Пракоп Аўдзеевіч так захапіўся сваімі думкамі, што нават не заўважыў, як апошняе слова вымавіў уголас.

— І я вось кажу — праграма. А хіба зробіш праграму гэтую без разцоў? — Шабанаў толькі цяпер заўважыў, што побач з ім ідзе брыгадзір токараў.— Падпішыце, Пракоп Аўдзеевіч, нарад. Без подпісу начальства на складзе і гаварыць не даюцца. Так, кажуць, Філін распарадзіўся.

— Ну і ідзі да Філіна, хай ён падпісвае,— кінуў на хаду Пракоп Аўдзеевіч.

— Хіба Віктар Андрэевіч падпіша? Ён спачатку лекцыю прачытае па эканоміі інструменту. Скажа, што ў норму не ўкладваемся. А нам не разважаць, а працаваць трэба. Самі ж кажаце — праграма...

— Але ж вы і сапраўды быццам глытаеце гэты інструмент. Пастарому працуеце, вось што я табе скажу. Новага баіцёся. Ну, пачакайце, я да вас дабяруся...

«Новага баіцёся». Пракоп Аўдзеевіч наўмысна сказаў гэтыя словы, якія не раз чуў ад свайго намесніка, каб падкрэсліць, што яны працуюць душа ў душу.

Але ці так гэта? Знешне, мабыць, і так. Ніхто ў цэху не прыкмячаў, каб паміж Шабанавым і Філіным былі непаразуменні. Нават ка-

лі дырэктар спытаў аднойчы, ці зжыліся яны, то Пракоп Аўдзеевіч адказаў:

— Ён добры работнік, дармо што малады. Ініцыятыўны, справу сваю ведае. Практычнага вопыту толькі малавата.

— Ну, наконт вопыту ты мне не кажы. У цябе яго на дваіх хопіць, толькі не скупіся.

Пракоп Аўдзеевіч і не скупіўся. Яму падабалася, што Віктар шчыра браўся за справу і заўсёды стараўся памагчы яму. І ўсё ж прызначэнне Філіна парушыла звыклы ход падзей у цэху. Пракоп Аўдзеевіч бачыў, што Віктар часта не згаджаўся з ім, але не спрачаўся. Ён моўчкі выконваў распараджэнні начальніка цэха, хаця рабіў гэта часам па-свойму. Вось і надоечы для выканання тэрміновага задання Пракоп Аўдзеевіч прапанаваў Віктару зняць людзей з іншых аперацый. Віктар неяк нехаця, але згадзіўся. «Зробім», — сказаў ён, хаця відно было, што зробіць, напэўна, інакш.

«Ну-ну, глядзі, каб добра ўсё...», — незадаволена буркнуў Пракоп Аўдзеевіч.

Вось так заўсёды. Моўчкі выслухае, а зробіць па-свойму. Праўда, выходзіла ў яго нядрэнна, але ж гэта балюча біла па самалюбстве Пракопа Аўдзеевіча.

Шабанаў адчуў да свайго намесніка нейкую непрыязнасць і нават крыху баяўся яго. Саромеўся гэтага пачуцця, але не хацеў прызнацца нават самому сабе, што недалюблівае Філіна. Злосць разбірала Пракопа Аўдзеевіча, калі ён бачыў, што распараджэнні Віктара рабочыя выконваюць з большай стараннасцю, чым ягоныя.

Мабыць, яны так і працавалі б, каб не гэтая нарада. Адбылося ўсё нечакана як для Пракопа Аўдзеевіча, так і для Віктара.

Пачалося ўсё з выступлення начальніка зборачнага цэха. Калі размова зайшла пра адставанне завода, то той, чалавек грубаваты і не вельмі тактоўны, прама сказаў:

— Пакуль Шабанаў не наладзіць работу свайго цэха, няма чаго і думаць пра выкананне плана. Не магу ж я працаваць, калі кожны дзень прастойваем з-за таго, што няма то адной, то другой дэталі. Адным словам,— заключыў ён,— цэх Шабанава падводзіць завод.

— А ты вось паспрабаваў бы на маім месцы. Тады можа не тое гаварыў бы,— падаў голас Пракоп Аўдзеевіч.

Рэпліка Шабанава прымусіла выступіць Віктара. І, на дзіва ўсіх, ён падтрымаў начальніка зборкі.

— Старым аўтарытэтам жыве наш начальнік. Хто перашкодзіў расставіць станкі па прынцыпе замкнутага цыкла? Наш начальнік. Кожны ж бачыць, колькі часу трацім дарэмна на перавозку дэталей ад станка да станка. Не бачыць гэтага толькі Пракоп Аўдзеевіч. Хто быў супраць мадэрнізацыі такарных станкоў? Той жа Пракоп Аўдзеевіч. Ды што там гаварыць... Не дзеля таго каб лепш ішла справа, выкарыстоўвае свой аўтарытэт наш начальнік цэха. А мы моўчкі згаджаемся з ім.

— Разважаеш так, быццам ты ніякіх адносін да работы цэха не маеш,— кінуў нехта рэпліку.

Але Віктар ці то не пачуў гэтага, ці не захацеў адказваць.

— Я лічу,— працягваў ён,— што прычынай усяму — парадкі, заведзеныя ў цэху. І змяніць нам іх павінен памагчы сам начальнік цэха. Ад яго залежыць, як мы далей будзем працаваць.

Віктар сеў на сваё месца. І адразу ж слова папрасіў Пракоп Аўдзеевіч. Усе прыціхлі, чакаючы, што скажа Шабанаў свайму намесніку.





Ён павольна падняўся на трыбуну, хвілінку памаўчаў. Загаварыў, як заўсёды, спакойна і разважліва. Усіх здзівіла, што ён нічога не сказаў пра выступленне Філіна, а зноў паўтарыў свае меркаванні наконт нявязак паміж нарыхтоўшчыкамі і механічным цэхам. Доўга гаварыў пра вялікі брак, што ідзе з ліцейкі. А гэта, маўляў, станочнікам бокам выходзіць, толькі метал у стружку пераводзяць.

— З эксперыментамі ж, што тут прапаноўвалі, спяшацца не трэба. Бяда, мусіць, не ад гэтага. Філін малады, таму і лічыць, мусіць, што кожная выдумка карысць прыносіць. Але ж так не заўсёды бывае,— спакойна, не павышаючы голасу, закончыў прамову Пракоп Аўдзеевіч.

Як толькі нарада закончылася, Віктар хуценька апрануўся і адзін выйшаў з заводскай прахадной. Незадаволены сваім выступленнем і тым больш выступленнем Пракопа Аўдзеевіча, ён панура плёўся па знаёмай сцежцы цераз парк. Думкі блыталіся, набягалі адна на другую.

А мо дарэмна пакрыўдзіў ён дзядзьку Пракопа? Можа, не трэба было? Але чаму не трэба? Хіба прыемна кожны дзень чуць кпіны зборшчыкаў? Але ж дзядзька Пракоп не горш ведае завод, чалавек паважаны і аўтарытэтны. Хто ж з нас памыляецца? Я, малады інжынер, ці гэты стары, вопытны чалавек?

Ужо добрай паўгадзіны кружыць ён па прысадах парку, не заўважаючы ні рэдкіх прахожых, ні гэтага па-сапраўднаму цёплага красавіцкага вечара. Абапал паркавых сцежак яшчэ ляжалі кучы пачарнелага снегу, з-пад якіх вузенькімі ручайкамі сачылася вада і, расплываючыся па асфальце, люстэркам блішчэла пад святлом вулічных ліхтароў. Там-сям прабівалася ўжо маладая трава, і Віктару рабілася весела, што хутка пачне зелянець усё вакол, абновіцца свет. І думкі зноў скіраваліся на Пракопа Аўдзеевіча.

«Можа, і Пракоп Аўдзеевіч не чуе новага, як не чуе цяпла гэты зляжалы снег?»

Гэтае параўнанне адразу надало Віктаравым думкам упэўненасці і цвёрдасці. Ён не шкадаваў ужо аб тым, што здарылася там, на нарадзе. Не дзеля ж сваёй карысці гаварыў ён усё. Няўжо гэты разумны, вопытны чалавек не можа зразумець, што так далей працаваць нельга? Усё на свае сілы і вопыт спадзяецца. А сілы ўжо не тыя. Ды і жыццё не стаіць на месцы. Ніяк не хоча ўцяміць, што адзін чалавек — не ваяка, не той час цяпер...

А назаўтра раніцой, як толькі зайшоў у цэх, Віктар адразу ж накіраваўся да Шабанава. Той сядзеў за сталом, уткнуўшыся ў нейкія паперкі, і нават не паглядзеў на свайго намесніка. На прывітанне адказаў суха. Віктар хацеў быў загаварыць пра ўчарашнюю нараду, але ўбачыў стомленага Пракопа Аўдзеевіча і нечакана для самога сябе спытаў:

— У вас дрэнны выгляд, Пракоп Аўдзеевіч. Як вы сябе адчуваеце?

— Што табе да майго выгляду? — адрэзаў Шабанаў.— Чакаеш таго часу, калі на пенсію пайду? Дні лічыш? Доўга ж табе, галубок, чакаць давядзецца...

Віктар змоўчаў. Каб супакоіцца, адышоў да акна і нейкую хвіліну глядзеў на заводскі двор. У памяці праплывалі тыя далёкія дні, калі яго, шаснаццацігадовага Віцьку Філіна, гэты ж дзядзька Пракоп прывёў на завод. Яны доўга хадзілі па цэхах, і Віктар з хваляваннем і разам з тым з замілаваннем глядзеў на ўсё, прыслухоўваўся да заводскага гулу.



— Выбірай любы станок. З дырэктарам я дамовіўся. Вучыцца будзеш,— гаварыў дзядзька Пракоп.

А потым, калі Віктар пачаў працаваць самастойна, Шабанаў часта заходзіў да яго маці, расказваў, як працуе сын.

«Можаш ганарыцца, Кандратаўна. Не пасарамаціць сын Андрэевай памяці. Філінаўскай закваскі хлопец. Кажу табе, што ён яшчэ намі, старымі, кіраваць будзе. Светлая галава. Шкада, Андрэй не дачакаўся гэтага часу».

А цяпер той жа дзядзька Пракоп вось як гаворыць з ім.

Віктара пакрыўдзілі Шабанавы словы.

— І вам не сорамна,— ледзь чутна вымавіў ён. І, стрымліваючы абурэнне, дадаў: — У мяне ёсць да вас справа... Толькі адно пытанне... Чаму вы свой аўтарытэт выкарыстоўваеце не там, дзе трэба, і замінаеце рабіць тое, што сёння асабліва неабходна?

— Я даўно табе замінаю. Ведаю гэта. Кансерватар, баюся новага, па-старому працую. Усё ведаю. Калі ласка, магу саступіць месца,— ён падняўся і паказаў на крэсла.— Сядай... Кіруй, калі ў начальніках пахадзіць захацелася.

Віктар стаяў збялелы. Ён не чакаў такога ад Шабанава. Ды і сам Пракоп Аўдзеевіч засаромеўся, відаць, сваіх слоў і нервова перакладваў на стале паперкі.

— Ты казку пра двух казлоў ведаеш? — нечакана, але ўжо больш спакойна спытаў Шабанаў.

— Як-ніяк буквар у свой час адолеў,— з'едліва кінуў Віктар.

— Ну і добра, калі так. Лепш зразумееш мяне. Бачу, што сустрэліся мы з табой, як тыя казлы на кладцы. Стаім адзін супраць другога, а размінуцца не можам.

Віктар адчуваў сябе зняважаным. Ніколі яшчэ ніхто не абвінавачваў яго ў карыслівасці ці кар'ерызме. А тут — на́ табе! Ён падрывае аўтарытэт начальніка, на яго месца замахваецца... І гэта гаворыць чалавек, які лепш за іншых павінен ведаць і разумець яго.

— А вам не здаецца, што ў гэтым выпадку лепш іншая прымаўка падыходзіць? — спытаў Віктар.— У народзе кажуць, што пешы коннаму не таварыш.

— А хто ж з нас, па-твойму, пешы?

— Вядома, я. У вас вопыт, аўтарытэт.

Віктар крыху памаўчаў. І, ужо выходзячы з канторкі начальніка цэха, дадаў:

— А я, дурань, думаў падтрымаць вас на кані, каб падзеі з сядла не выбілі. А вы вунь як...

Пра гэтую сутычку на заводзе ніхто не ведаў. Некаторыя толькі сталі заўважаць, што начальнік цэха стараўся не сустракацца з Віктарам. Яны абміналі адзін аднаго.

А праз некаторы час Пракоп Аўдзеевіч захварэў і вымушаны быў легчы ў бальніцу. Для яго гэта былі пакутлівыя дні. Ён прывык уставаць у адзін і той жа час, прывык да заводскай мітусні, а тут трэба было ляжаць і час лічыць не па заводскім гудку, а па тым, калі сястра прыносіла тэрмометр. Пра завод стараўся не думаць, бо гэтыя думкі міжволі паднімалі з ложка.

Праведаць Шабанава прыходзілі многія. Зайшоў неяк дырэктар. Пра механічны цэх ён не гаварыў, быццам яго і не існавала на заводзе. Пракоп Аўдзеевіч не вытрымаў.

— Як там?

— Здаецца, нармальна,— зразумеў дырэктар. І каб паказаць, што пра цэх няма чаго гаварыць, прыладзіўшы акуляры, пачаў разгля-

дацъ бутэлечку з лякарствам.— Ды, прызнацца, я ў апошні час і не цікавіўся. Вось прыйдзе Філін, і ён, думаю, лепш за мяне ўсё раскажа.

Што Віктар зойдзе, Пракоп Аўдзеевіч не чакаў. Не адзін раз думаў ён пра тую сутычку і пачаў ужо каяцца, што дарэмна пакрыўдзіў хлопца. Але адганяў ад сябе гэтую думку.

«Хай папрацуе з маё, дык не такое выкіне. Не паспеў аперыцца, а вучыць ужо лезе»,— апраўдваў сам сябе Пракоп Аўдзеевіч. Гэтае апраўданне, аднак, мала супакойвала. Яно зноў і зноў прымушала перабіраць у памяці падзеі апошняга часу, шукаць заганы ў паводзінах Віктара. Але ўсё, што калісьці не падабалася і раздражняла, цяпер здавалася дробным, не вартым увагі.

Віктар прыйшоў падвечар. Касыя сонечныя промні ўжо не заглядвалі ў палату, і ў вячэрнім паўзмроку Пракоп Аўдзеевіч не адразу пазнаў яго. Беласнежны бальнічны халат нязграбна цяляпаўся на яго даўжэзнай фігуры. Віктар моўчкі прысеў на крэсле і замест прывітання паправіў пад галавой Пракопа Аўдзеевіча падушку.

Памаўчалі.

— Схуднеў ты, за дваіх лямку цягнеш. Цяжкавата? — першы парушыў маўчанне Пракоп Аўдзеевіч.

Гаварыў ён ціха, спагадліва. І гэтая спагадлівасць неяк крыху згладзіла няёмкасць сустрэчы пасля той непрыемнай размовы.

— Так, не зусім лёгка,— згадзіўся Віктар.— Папраўляйцеся... Прыходзьце хутчэй.

— Тут, брат, свой тэхнічны кантроль,— пажартаваў Пракоп Аўдзеевіч.— Урачы не адпускаюць. Кажуць, капітальны рамонт патрэбен. А запчасткі, сам ведаеш, на складзе не возьмеш. Так што старыя рэстаўрыруюць.

Зноў памаўчалі. Адчувалі сябе ніякавата, здавалася, і гаварыць няма пра што.

— Ну, а ў цэху як? — спытаў Пракоп Аўдзеевіч.

— Нішто сабе. Зрабілі без вас што-кольвечы.

— Зноў эксперыменты?

— Ды выходзіць, што так.

— Глядзі, Віктар. Не да спадобы мне гэтыя твае выдумкі.

— Ды вы не хвалюйцеся, дзядзька Пракоп. Усё добра выходзіць.

— Што ж, пажывём — убачым.

Віктар пайшоў. Хоць нечага не дагаварвалі, але Пракоп Аўдзеевіч не злаваў ужо на яго. Наадварот, паявілася павага да гэтага хлопца.

«Бач ты, усё ў яго добра выходзіць»,— думаў Пракоп Аўдзеевіч.

Дні пайшлі неяк хутчэй. Праз некаторы час Пракоп Аўдзеевіч выпісаўся з бальніцы. І хоць урачы рэкамендавалі пабыць тыдзень — другі дома, ён праз які дзень ці два пайшоў на завод. Трывожыўся, што там без яго. Шчыра хацелася, каб усё было добра, і, разам з тым, падкрадвалася сумненне, што не ўсё там зроблена як належыць. А міжвольна нейкая ўнутраная сіла прымушала радавацца гэтай думцы.

У цэх зайшоў так, што ніхто і не заўважыў. Працавала яшчэ начная змена. Але што гэта? Цэх той і не той. Станкі перастаўлены з месца на месца. Здавалася, у пралётах стала чысцей, свабадней.

— Вас і не пазнаць,— весела сустрэў яго Віктар.— Памаладзелі...

Падышоўшы да дошкі, дзе адзначаліся вынікі работы цэха, Віктар неяк сарамліва ўсміхнуўся, быццам вінаваты быў у чым. Пракоп Аўдзеевіч паглядзеў на дошку, потым перавёў позірк на Віктара.

— Выходзіць, што і без мяне нядрэнна працавалі,— ціха сказаў ён, звяртаючыся да свайго намесніка, ці то да самога сябе.



У пралёце паказалася група рабочых.

— Вось і змена прыйшла,— заўважыў Віктар.

— Змена прыйшла,— паўтарыў Пракоп Аўдзеевіч.— Мабыць, і так...

А на наступны дзень ён сядзеў у кабінеце дырэктара. Той уважліва выслухаў начальніка цэха і толькі спытаў:

— Ты перакананы, што так будзе лепш?

— Лепш для справы. Я не баюся цяжкасцей, зразумей гэта. Але мне не па плячы ўжо тое, што можа зрабіць Філін.

— А ці не рана мы, Пракоп, у адстаўку просімся? — перапыніў яго дырэктар.— Я ж яшчэ трымаюся. А пачыналі ж разам?

— Для мяне — не рана. Тым больш, што змена прыйшла, і добрая змена.

●

Гэта непрыдуманая гісторыя. Яе расказаў мне сам Пракоп Аўдзеевіч. Кожны раз, калі я бываю на заводзе, то абавязкова заходжу ў механічны цэх, дзе начальнікам працуе Філін, а яго намеснікам Шабанаў. Карыстаючыся правам старога знаёмага, я папрасіў дазволу расказаць пра гэтых людзей. Пракоп Аўдзеевіч не пярэчыў, а вось Віктар доўга не згаджаўся.

## У бліжэйшых нумарах чытайце апавяданне Уладзіміра Караткевіча «Вока тайфуна»

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Купрына ў вераснёўскім нумары публікуецца апавяданне «Гамбрынус»



## Пятрусь МАКАЛЬ







### ●

Няхай жыве рамонт!
Бразгочуць вокны, дзверы.
Рамонт, як гулкі фронт,
Праходзіць па кватэры.

Пакояў перакрой.
Спакою перакоўка.
Грымотнаю гарой
Злятае ўніз тынкоўка.

Скрыгоча цвік-працяк,
Якім дыван прыбіты.
Не выцягнеш ніяк,
Як мешчаніна з быту.

Ступае па двары
Пыл, як вярблюд, сутулы.
Нагамі дагары —
І столікі і стулы.

Патрушчаны датла
Парадак учарашні.
Хвала табе, хвала,
Пераварот дамашні!

Як трэба страсянуць
Падчас былыя скарбы,
Каб потым удыхнуць
П'янлівасць свежай фарбы.

Вывешвае рамонт
Свае сцягі — шпалеры.
І як бяскроўны фронт,
Праходзіць па кватэры.



### ●●

*А будучыня — гэта дом сяброў*

Камяні, якімі продкі
прабівалі сабе чарапы,
пакладзіце ў падмурак,
закапайце глыбока,
каб уцячы не надумалі
у век каменны.

Сцены змацуйце металам,
што калісьці начамі
у пірацкіх руках
намацваў сэрца суседа.

Дзверы зрабіце шклянымі,
каб не ўпускалі
толькі вецер і сцюжу,
а замкі і ключы
здайце ў музей старажытнасці.

Дах пакіньце адкрытым,
дах накрыйце блакітам,
каб зоркі віднеліся
і жыхарам не давалі
згінацца і горбіцца,
каб хатнія гаспадыні
маглі разліваць у талеркі
радасць
палонікам Вялікай Мядзведзіцы.

Будуйце дом сяброў.

### ●●●

Кожная сцежка
шукае дарогу
І знаходзіць яе па-свойму —
то пятляючы доўга
між купін і хмызняку,
то пераскокваючы гулліва
пагоркі і яміны,
то абвіваючы дрогка
стромы каменныя
над абрывам,
то з разгону — наўпрост...

Свой бег паскараючы,
сцежка зусім не думае,
што, дасягнуўшы дарогі,
загіне сама
пад спрасаванаю гладдзю
асфальту...
Сцежкі — як карані, што
прабіраюцца ў цемрадзі
падзямелля,
сок несучы да камля.
Каранёў не відаць,
але ці ж не яны

ад працы счарнелымі пальцамі
дрэва трымаюць,
не даюць яму ўпасці
пад націскам ветру,
які штодзень змяняе кірунак?

Дзякуй сцежкам,
якія нястомна шукаюць дарогу,
Дзякуй дарогам,
якія цярпліва чакаюць сцежак.

●●●●

Пружыніць яшчэ хада,
І стома яшчэ не валіць.
І нават бяда не бяда,
Што лаюць часцей, чым хваляць.

Яшчэ я на ўліку ў людзей.
І нешта яшчэ важыць
Скарбонка маіх надзей
І спадзяванняў вашых.

А ці не мотанна вам
Ад адыёзнага пошчаку,
Калі пры жыцці фіміям
Кураць, нібы нябожчыку?

Шалее літаўраў медзь:
Ты думаеш — апяваюць,
Не могучы зразумець,
Што гэта цябе адпяваюць...

Не вешаю галаву.
Хай іншыя славу сядлаюць,
Я ведаю:
я жыву,
Пакуль мяне хваляць і лаюць.

●●●●●

Трывогу журавы дарма
Трубілі — надрывалі глоткі.
Ступіўшы на зямлю, зіма
застала ўсіх знянацку ўсё-ткі.

І наскараецца штодня, —
Як подых тысяч хваляванняў,
Паспешлівая сумятня
Запозненых прыгатаванняў.

Хаця дарогі не відно,
Таропка цягне, як ні цяжка,
Саломіну, як бервяно,
У мурашыны дом мурашка.

У натапыраным галлі
Асіплы вецер стогне глуха.
І белы світэр для зямлі
У спешцы вяжа завіруха.





Уладзімір
ХАЧЫРАШВІЛІ

Мал. Г. СКАМАРОХАВА



# ДВА АПАВЯДАННІ

## БУСЛЫ ЗБІРАЛІСЯ Ў ВЫРАЙ



Яшчэ з раніцы, калі сонца толькі залаціла верхавіны недалёкага лесу на другім баку Нёмана, буслы адзін за адным узнімаліся ўгору і, робячы вялікія кругі, кароткім ланцугом плавалі ў блакітным прасторы.

Яны ўзнімаліся ўсё вышэй і вышэй, каб як мага далей ахапіць сваім зрокам празрысты абшар палёў і лугоў, цёмныя лясы на сініх даляглядах, срэбную стужку ракі, абкладзеную, як ватай, ранішнім туманам.

Але было ў іхнім палёце і нешта трывожнае, вядомае толькі буслам. Там у вышыні ішла барацьба, і для аднаго з іх яна павінна была скончыцца вельмі сумна.

Падзьмулі вятры.

Тры каржакаватыя, з лысымі ад старасці верхавінамі сасны каля могілак злосна шумелі, быццам скардзіліся на непагадзь, на шалёны вецер і касы, дробны, прасеяны як праз рэшата халодны дождж. Усё навокал — лес, дарога, будынак лесапільні, вёска на ўзгорку — было брудна-шэрага колеру. Нават зруб новай капліцы на могілках быў у шэрых плямах, быццам хтосьці павэцгаў яго бруднымі рукамі.

Пахаваліся ў цёплыя хаты людзі. Птушкі, што не адляцелі ў вырай, знайшлі прытулак пад стрэхамі, у старых гнёздах і дуплах, звяры разбрыліся па норах, і толькі адзінокі бусел нерухома стаяў у сваім, адкры-

тым дажджу і ветру гняздзе на верхавіне старой сасны і, як пільны вартавы, азіраў наваколле.

Яго постаць праз полаг дажджу здавалася высечанай з шэрага моцнага каменя.

Аб чым думала старая птушка?

Аб цёплай краіне з вялікімі балотамі і тонямі, дзе многа жаб, вужак і слімакоў? Аб сваіх родзічах, што былі маладзейшыя і дужэйшыя, чым ён, і пакінулі яго на роднай зямлі, цяпер халоднай і непрывятлівай, якая стане яго магілай?

Мусіць, горкія думкі запаўнялі птушыную галаву, бо ўсё ніжэй і ніжэй апускалася яна, трацячы некалі горды, незалежны выгляд.

Думаў бусел, успамінаў, і невядома што часам прымушала яго раптоўна ўзмахваць крыламі, задзіраць угору галаву і трывожным сумным клёкатам будзіць наваколле. Але потым ізноў птушка замірала, дранцвела, нібы прыгнутая цяжарам пражытых гадоў.

Каму патрэбна старасць, калі навокал бурлівае, радаснае жыццё! Старыя павінны даваць дарогу маладым, яны зрабілі сваё і павінны памерці.

Ён быў важаком, адчуваў сваю дужасць і быў страшэнна здзіўлены, калі пасля палёту першым апусціўся ў гняздо і ўбачыў, што другія буслы яшчэ лятаюць. Ён хацеў узняцца зноў, але сіл не было, яны зніклі раптоўна, разам з маладосцю.

І бусел застаўся адзін — па законе, які быў жорсткі і бязлітасны да слабых.

●

Вечарэла. Вецер пругка налягаў на сцены, і яны, здавалася, дыхалі. Шыбы дрыжэлі і скардзіліся на холад. У коміне нешта нема выла і гу́кала.

Дзед аблізаў лыжку, адсунуў ад сябе міску з заціркаю, марудна ўстаў з услончыка і пазяхнуў бяззубым ротам. Потым падышоў да акна, адсунуў убок фіранку і, зірнуўшы на вуліцу, сказаў:

— Узгуляў, нячысцік! Як бы страху не раскрыла...

— Кладзіся, няма чаго там выцікоўваць, божа літасцівы,— азвалася з печы бабка.

Дзед яшчэ раз пазяхнуў і, уздыхнуўшы, палез на печ.

●

У хаце скончыліся смалякі. Раніцою бабка доўга не магла запаліць у печы дровы. Яны дымілі і ніяк не хацелі гарэць. Яна ахвяравала амаль апошнюю газу і — накінулася на дзеда:

— Сядзіш, стары корч, а таго няма, каб схадзіў у лес ды смалякоў насек. Бач, газу выліла...

Бабка была ад прыроды злосная, а тут яшчэ дровы сырыя.

Дзед падняўся з лавы, плюнуў у куток, ні слова не кажучы накінуў кажух, падпераўся сырамятнаю папругаю, засунуў за яе сякеру і, узяўшы з-за коміна шапку, выйшаў на ганак.

Уначы выпаў снег. Вецер сціх. Ад лёгкага марозу паветра было звонкае і злёгку дрыжэла. Дымілі коміны; бабы збіраліся ля студні, хто вады, хто падзяліцца навінамі; недзе ў хляве мыкала карова, галасілі пеўні; з адчыненых дзвярэй калгаснага гумна даносілася шастанне сячкарні — рэзалі сечку.

Ад гэтых гукаў, ад таго, што дыхалася лёгка, дзед адразу забыўся пра сваю злосную бабку. Яму стала весела. Ён адчуў сябе памаладзелым і бадзёраю, нестарэчаю хадою рушыў да хвойніку.



Дворны дзед быў добрым чалавекам; людзі не памяталі, калі і каму ён зрабіў зло. Яшчэ пры пане ён рабіў конюхам на панскім двары. Таму і звалі яго дворным. Калі прыйшла Савецкая Армія, пан уцёк, а мянушка за дзедам засталася. У вёску прыйшла вайна, мужчыны амаль усе пайшлі ў партызаны, і, здавалася, людзі забыліся пра дзедаву мянушку. Але калі разбілі фашыстаў і вяскоўцы, вярнуўшыся дамоў, заняліся мірнаю працаю, нехта ўспомніў пра дзедава прозвішча, і вось яго зноў завуць Дворным.

Каб скараціць дарогу да хвойніку, дзед пайшоў цераз могілкі. Зняўшы шапку, перахрысціўся на капліцу, успомніў вяскоўцаў, забітых гітлераўцамі і пахаваных тут, сабраўся ісці далей, але заўважыў пад сасною белую, як кіпень, пляму; выразна выдзялялася яна на шэрым першым снезе.

— Што б гэта магло быць? — падумаў дзед і накіраваўся да сасны.

На карнявішчах ляжаў бусел.

Ён падкурчыў цыбатыя ногі, уціснуў галаву паміж крыл і не варушыўся.

— Бач ты, змерз! — сказаў уголас дзед, але адразу засумняваўся.— А мо і жывы?

Рукою памацаў бусла пад крыламі. Там яшчэ было цяпло. Нечакана ўзрадаваўся:

— Зараз я цябе дадому знясу. Глядзі, як табе не пашанцавала, бедалага! — гаварыў, а сам спрытна абсякаў сякераю прымерзлае да карнявішча пер'е.

Падыходзячы да свае хаты, ён убачыў над комінам дым.

— Распаліла-такі і без смалякоў... Зараз ляманту наробіць, што бусла прынёс.

Але бабка, на дзіва, маўчала, толькі памацала птушку за гузень і сказала:

— Пакладзі ў закутак на печы. Мо і адыдзе...

Дворны дзед распасцёр у закутку посцілку і паклаў на яе птушку.

Прайшло некалькі гадзін. Бусел апрытомнеў, заварушыўся, падняў на момант галаву, але не ўтрымаў і адкінуў зноў на крылы.

Дзед ласкава, дрыжачай рукою пагладзіў яго і спытаў, больш у сябе:

— Чым жа карміць цябе, бедалага? — Потым пайшоў у камору, адрэзаў кавалак мяса ад свінога сцегняка, паклаў у чыгун з вадою і паставіў варыць.

Увечары ён нарэзаў мяса кавалкамі на талерку і паставіў перад буслам. Але той нават не зварухнуўся.

Дворны расчапіў яму дзюбу і пачаў кідаць мяса прама ў горла.

Бусел глытаў.

Мінула некалькі дзён.

Птушка ўжо магла ўставаць на ногі і спрабавала чысціць пер'е. Мяса яна патрабавала ўсё больш і больш, а аднойчы, калі дзед з бабкай снедалі, яна падышла ззаду, вывалакла з дзедавай міскі і праглынула вялікі кавалак мяса.

Дзед сцебануў бусла лыжкаю па лбе, а той падскочыў, нямоцна дзеўбануў дзеда ў патыліцу і паволі адышоў убок, усім сваім выглядам паказваючы, што яму не спадабаўся дзедаў учынак.

Па вёсцы пайшла гаворка.

— Жанкі, чулі? Дзед Дворны бусла ў хаце трымае,— казала раніцою бабам каля студні Патапчыкава Волька.



— Ну ж, і я чула. Кажуць, ён яго хоча зарэзаць на каляды. Я і не ведала, што буслінае мяса можна есці,—дадала Язэпава Хрысця, самая языкатая на сяле.

А бусел жыў!

З кашчавай, змардаванай птушкі ён ператварыўся ў статнага птаха з чырвонай, як кроў, дзюбай.

Ён важна пераступаў сваімі цыбатымі нагамі па падлозе і хіліў галаву набок, як быццам прымяркоўваўся да чаго.

Аднойчы Дворны дзед, вярнуўшыся дадому, убачыў у яго пад нагамі двух забітых пацукоў. Буслу яны, відаць, спадабаліся, бо з таго часу ён ужо з меншаю ахвотаю еў мяса.

Пацукоў у дзедавай гаспадарцы было хоць пазычай каму, і яны лезлі ў хату, як нечысць, шукаючы спажывы.

Каля бусла прыжыўся і кот. Яны пасябравалі. Кот пачуў, што можна мець выгаду ад такога сяброўства, і з таго часу бусел паляваў на дваіх.

Вечарамі Дворны дзед любіў размаўляць з птушкаю. З бабкаю не пагаворыш, калі не пасварышся, а бусел моўчкі слухаў, колькі хацелася дзеду.

Скончылася зіма. Прыйшлі сонечныя дні. Сонца, хаваючыся вечарам за лес, забірала з сабою ўсё больш і больш снегу. Зямля агалілася, напомніўшы людзям, што трэба рыхтаваць плугі і сеялкі, што яна гатова зноў аддаць ім свае сокі.

Паветра, напоўненае дурманам хваёвага лесу, перапрэлых лісцяў, салодкім пахам цёплай зямлі і почак, разбудзіла прыроду, пагнала па жылах амалоджаную кроў і толькі не змагло ажывіць старасць.

Даўжэйшымі сталі дні, шчасцем і жыццём веяла адусюль. Пачалі прылятаць птушкі. Чакалі буслоў.

— Ну, ідзі, ідзі, дурненькі! Паглядзі, хараство якое. Цяплынь! — дзед паціху штурхаў бусла з сенцаў на ганак.

Нарэшце той выйшаў на двор, пастаяў, узмахнуў крыламі, скочыў раз, другі, узляцеў. Адвыклыя за доўгую зіму ад палёту крылы не ўтрымалі, і ён цяжка ўпаў на страху, але адразу ж падняўся, нацягнуўся целам угору, нібы спрабуючы дастаць неба, закінуў назад галаву, расчапіў дзюбу і нерухома застыў, абліты сонцам.

Ён нічога не еў, не паляваў на пацукоў, а панура стаяў у кутку пад абразамі.

Дворны дзед не ведаў, што рабіць. Спрабаваў карміць сілаю. Але дзе там! Бусел скакаў і адбіваўся.

Аднойчы, калі дзед клеіў старыя боты, бусел падышоў збоку і паклаў дзюбу яму на калені. Здзіўлены, дзед аж рот раскрыў.

— Зірні, старая! Быццам развітваецца... І сапраўды, цяпер цёпла і ежы на лузе хапае. Ідзі,— сказаў і пагладзіў птушку.

Бабка адчыніла дзверы і стала збоку.

Бусел падышоў да печы, закінуў галаву, заклекатаў і кінуўся ў агонь.

З вуліцы данесліся крыкі дзяцей:

— Ляцяць! Ляцяць!

Высока ў небе, над трыма старымі лысымі соснамі, апускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй, выгнутым кароткім ланцугом плылі буслы.

Вось першы — важак — выпраставўшы ногі, апусціўся ў гняздо, і працяглае галёканне ўскрыкам дзіцяці, што вярнулася дадому, далёка разнесла радасную навіну.

Буслы прыляцелі!

# КВАТАРАНТ

Мы часта гулялі вечарамі. Доўга стаялі ля брамы.

— Анка, дадому пара ісці,—клікаў голас яе маці.

Мы жадалі адзін аднаму добрай ночы, развіталіся, і Анка знікала. Мы не шукалі процілегласцей у словах і ўчынках і таму ніколі не сварыліся. Першае каханне запоўніла ўсю маю істоту, выцесніла ўсякія справы, і, мусіць, праз гэта я пачаў адставаць у інстытуце па некаторых прадметах і не вельмі турбаваўся наконт блізкай сесіі.

Неяк я вяртаўся дадому пасля адной пагулянкі. Тралейбусы ўжо не хадзілі, а ісці трэба было далёка, і, запіхнуўшы рукі як мага глыбей у кішэні, утуліўшы твар у шалік, я паціху ішоў па здранцвелай ад марозу вуліцы.

Быў канец зімы — самыя моцныя маразы і віхурыстыя завеі, калі людзі ўсё часцей успамінаюць вясну. Я ішоў і думаў пра вясну. На душы было трывожна. Ад чаго — я і не ведаў, але даўно прывык да гэтай нічым не выкліканай трывогі. Яна прыходзіла якраз тады, калі ўсё было добра.

Наперадзе, падскокваючы на белым снезе, мільгала нейкая шэрая пляма. Спачатку я не вельмі прыглядаўся да яе: скача, ну і няхай сабе скача. Але яна не знікала, а мігацела перад вачыма, то зліваючыся з ценем, то зноў з'яўляючыся ў роўным святле неонавых лямп. Яна так смешна мітусілася, што мяне разабрала цікавасць. Спыняўся я, пляма таксама спынялася, а пачынаў ісці—і яна адбягала далей. Урэшце гэтая гульня абрыдла мне, і я бягом кінуўся за таямнічым ценем.

У ямцы на дарозе, сціснуўшыся ў камяк, сядзеў трус. Шэры, пухнаты, вушы нібы прыклееныя да спіны, ён дробна дрыжэў, скасавурыўшы на мяне вочы. Я ўзяў яго на рукі, расхінуў паліто і прыціснуў труса да грудзей. Ён не ведаў, як мне раптам стала весела. Яго ліхаманкава трэсла, ён туліўся да цяпла, якое прыйшло так нечакана і, здаецца, у час. Я не думаў аб тым, адкуль узяўся трус на вуліцы сярод ночы ў такі холад. Навокал у прыватных доміках жыло нямала ласуноў, што, мусіць, любілі рагу з труса, і хтосьці з іх забыўся зачыніць дзверы ў хлеўчуку ці ў клетцы.

Трус забрыкаўся, прасунуў галаву мне пад руку і сціх. Ён, мусіць, сагрэўся, бо болей не дрыжэў і пачаў варушыць лапамі. Яму, відаць, трэба было ўлегчыся па-свойму, а не так, як трымалі мае рукі.

У гэту ноч я гуляў доўга.

Зоркі дрыжалі ў небе ад холаду, правады гулі жаласна і сумна, быццам скардзіліся на сцюжу. Цішыня соннага горада адзывалася ў вушах неверагодным дысанансам танюткіх гукаў, народжаных у правадах, у рыпенні снегу пад нагамі, у маўклівых мнагавокіх будынках, у звонкім ад марозу паветры. Пасінелы месяц, што нагадваў лядовы круг, які вынялі з вядра, лёгка слізгаў праз змардаваныя крыгі воблакаў. Ноч марудна паўзла да раніцы. Галіны дрэў, выкаваныя з срэбра, замерзлі ў напрузе і, здавалася, дакраніся рукою, загойдаюцца, зазвіняць—і пальецца крыштальна-чыстая сумная музыка. Мы былі адны на ўвесь горад. Мы адны валодалі гэтаю цішынёю, бясконцым і глыбокім, як чалавечы сум, небам, сінімі, таямнічымі ценямі, вуліцамі, і мне здавалася, што я даўно ведаю гэтага труса. Я нібы апускаўся з ім у свет майго бестурботнага дзяцінства, і ўсё рабілася простым і ясным, як некалі за школьнаю лаўкаю, дзе нараджаліся ясныя мары.





У гэтую ноч я гуляў вельмі доўга, даўно мне не было так добра і лёгка, нават з Анкаю.

Мая маці не зносіла ўсялякай жыўнасці ў хаце, і таму несці яго дадому не было як. Ды і хто згодзіцца трымаць труса ў кватэры, ды яшчэ на чацвёртым паверсе! І таму я, не разважаючы, рашыў падараваць яго Анцы. У яе бацькоў свая хата, і там яму знойдуць месца, тым больш, што ў іх ужо жылі куры, сабака і кот — самая належная кампанія для труса.

Пасля кароткага стуку крайняе акно засвяцілася, і праз некаторы час да брамы падбегла Анка, захутаная ў вялікае футра.

— Што здарылася? Ужо вельмі позна. Я спала.

— Разумееш, неспадзяванасць! Трэба аднаго таварыша ўзяць на кватэру,— адказаў я.

Яна пільна глянула мне ў вочы. Трус заварушыўся, і вусатая мыза вытыркнулася з-пад шаліка.

— Вой, што гэта? — Анка адхіснулася назад, потым засмяялася і працягнула да мызы руку.

— Трус! Дзе ты яго знайшоў?

Я кораценька расказаў пра здарэнне.

— Дык гэта яму патрэбны прытулак? — спытала яна і, не чакаючы адказу, спрытна ўхапіла труса за вушы, выцягнула з-пад паліто, і той, дрыгаючы ў адчаі лапамі, знік пад футрам. Я пажадаў Анцы прыемнага сну і заспяшаўся дадому, уяўляючы сабе, як яна накорміць яго чым-небудзь і пакладзе на мяккую посцілку ля цёплай печы.

Праз тры дні я сустрэўся з Анкаю. Была адліга. Паветра напаіла мяккая вільгаць, дыхалася лёгка, і гуляць было прыемна. Анка з захапленнем расказвала пра маладога вучонага, які чытаў лекцыю ў іх інстытуце. Гэта было непрыемна слухаць, і я перамяніў гутарку.

— Як жыве-маецца твой даўгавухі кватарант?

— Ужо адмаяўся,— са смехам адказала яна.— Мы яго ўчора з'елі. Такі смачны быў! — яна зрабіла націск на слове «смачны».

«Мы яго ўчора з'елі» прагучэла так проста, так звычайна, што да мяне не адразу дайшоў сэнс гэтай фразы.

Болей я Анку не бачыў.



## Казімір КАМЕЙША







●

Пацямнеў ад выбухаў бярэзнік.
Дыму нахілілася сцяна...
Быццам грушыну,
зямлю за грудзі трэсла
Сілаю трацілавай вайна.
І ніхто за тым не бачыў шквалам,
Як жанчына босая ішла.
Сэрцы два ў грудзях яна трымала
І ўтрымаць ніяк іх не магла.
Так ішла.
Аб стволле апіралася,
Чула, як грукоча першы гром.
Эх, каб першы...
І яна кулялася
Разам з тым бярэзнікам кулём.
Лес палаў,
нібы сцягі разгортваў,
Крык дзіцяці болем кроіў слых.
Толькі ён адзін трывожыў
мёртвых,
Перасцерагаў усіх жывых.

●●

Дабрата твая, сівая пушча —
Залатая спадчына сяла.
Цень зялёны з крон тваіх
адпушчан
І разліў лагоднага святла.
Быццам абажуры,
верхавіны
Па-над поўняй гойдае свяжак.



Разыходзяцца,
бягуць сцяжыны,
Па святле шукаючы бальшак.
Воч не запарушыць тут іголіца
Чалавеку з роднага сяла.
Пушча, ты — маўклівая святліца:
Свой прамень у кожнага сцябла.
Нас не раз'яднаць нічым з прыродай,
Са святлом,
з Радзімаю,
сялом.
Поўняй узыдзі,
маё чало,
Толькі б светла ў нас было заўсёды.

●●●

Ціхі домік на сямі вятрах,
Засаўка піскілявая ў дзвярах.
На сцяне крыж-накрыж два багры,
Быццам герб далёкае пары.
Нехта домік лазняй ахрысціў
І духмень у дзверы упусціў.
Аж пад вокны запаўзла трава.
Дзе ёй ад цікаўнасці ўтрываць.
Там бунтуе чырвань на плячах,
Чхае парай здаравенны чан
І танцуюць пад куслівы свіст
Венікі ўстарэлы танец твіст.
...Сем вятроў трымаюць у руках
Пах бярозавы,
гаючы пах.

●●●●

Калегі і таварышы твае
Тваёй дапамагаюць адзіноце.
Пакой і ты, і сціпла на стале
Раскладзеныя думкі, нібы ноты.
Ды бедакі не мараць пра бяду.
А ты чакаеш —
адзінота грымне.
А думкі недзе мчыць
нячысты дух,
І цыгарэтны дым
трасецца грывай.
Чакаеш — цыгарэта дадыміць,
(Нібы ў руцэ бікфордаў шнур дыміцца.)
І той жаданы выбух прагрыміць —
Той крок,
які табе ўсе ночы сніцца.
Калегі і таварышы твае...
Яны напэўна без цябе сваволяць.
Ці клямкі на дзвярах не існуе,
Чаму яна не бразнула ніколі?
Ліецца неба чыстае ў акно,
Дурманіць пераспелымі садамі.
Зара, як недапітае віно,
На шыбіне паволі асядае.



● Васіль ГРОДНІКАЎ

● Мал. В. ШРАМЯКОВА

# ПАПАРАЦЬ ЦВІЦЕ НА ДОСВІТКУ

## АПОВЕСЦЬ

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

Дзенісевіч прачнуўся, падышоў да расчыненага акна. Нізка плаваў густы туман. Там, дзе ўзыходзіла сонца, ён быў жаўтаваты.

Дзенісевіча зноў апанавалі думкі... Некалі непакоіла адно: застацца ў немцаў. Цяпер здабыў іх давер. А што далей?.. Ён успомніў, як Антонаў абняў яго на дарогу, пацалаваў тройчы і ціха, як сыну, сказаў: «Беражы сябе, Іване. У нас больш няма кім замяніць цябе...»

І вось ужо трэці месяц канчаецца, сёе-тое зрабіў: нават каменданта акругі залучыў. Але непакоіла адно: цяпер да яго, начальніка «рускага разведцэнтра», прыстаўлены, мусіць, не адзін шустры і дасціпны гестапавец. Вядома, камендант чым больш давяраў, тым пільней выследжваў кожны ягоны крок. Не туды ступіў — і лічы, што цябе няма.

Толькі праз два дні даведаліся ў паліцэйскай управе і камендатуры, што начальніка раённай паліцыі Шупені няма. Праўда, вывудзілі і тое, што Шупеня выдаў тайных паліцаяў і агентаў-«партызан» і што ўсе яны разам з начальнікам раённай паліцыі расстраляны.

У той дзень чатыры разы выклікаў камендант Вуленку і яго, сакратара акруговай паліцыі, распытваў, хто апошні раз бачыў Шупеню, дзе, пра што ён гаварыў, ці надзейны быў чалавек. Але тыя звесткі, якія давалі Дзенісевіч і начальнік, не задавальнялі Аўсберга. Да Бёлле даставілі сям'ю Шупені, ды і гэта не памагло. І тады Бёлле загадаў

Заканчэнне. Пачатак гл. № 7.



стварыць спецыяльную камісію, якую ўзначаліў супрацоўнік гестапа Фогель. У камісію ўвайшлі нямецкія афіцэры і Вуленка. Дзенісевіч чакаў першых звестак ад свайго начальніка.

Першая праграма падрыхтоўкі агентаў не была выканана: камендант быў заняты расследаваннем. Дзенісевіч без дазволу Аўсберга прачытаў сваім «вучням» лекцыю пра культуру арыйскай нацыі, захапіў з сабою канспект лекцыі па замежнай літаратуры, дзе гаварылася пра Гётэ.

Вечарам, як і было дамоўлена, Дзенісевіч паведаміў Аўсбергу, чым ён займаўся.

— Адкуль вам, Дзенісевіч, вядома пра нашу культуру? — падазрона запытаў камендант.

Дзенісевіч усміхнуўся:

— У нас ва ўніверсітэце быў добры выкладчык замежнай літаратуры... У мяне і канспект захаваўся.

— Значыць, выкладаеце нямецкую культуру праз прызму савецкай прапаганды? — вочы ў каменданта звузіліся.— Пахвальна, нічога не скажаш...

— Што вы, пан штурмбанфюрар. Я хваліў высокую ступень нямецкай культуры. Эрудыцыю народа, яго культуру... Я і пра вас гаварыў. Хіба ж вы не прыклад высокай цывілізацыі. Ведаеце французскую мову, польскую, рускую...

Аўсберг памякчэў.

— Пытанні яны задавалі?

— О, яшчэ колькі. Пра таленавітых людзей. Потым я назваў прозвішча фюрара. А потым гаварылі пра Гётэ. Нават вывучылі адзін урывак з «Фауста».

— У вас добры густ, Дзенісевіч... Толькі не зазнавацца і быць больш акуратным у рабоце. Гэта ніколі не шкодзіць... А што вы прачыталі лекцыю, хорошо. Спалучэнне высокай культуры і адданасці нацыі, якая ёсць носьбіт гэтай культуры — выдатная якасць разведчыка... Але аб гэтым потым,— камендант раптам перамяніў тон і загаварыў прыглушана, задумліва: — Скажыце, Дзенісевіч, шчыра — як вы думаеце, чаму няма Шупеня? Толькі шчыра!

Дзенісевіч уздыхнуў:

— Я часта думаю пра гэта. Мне здаецца, што нехта падбухторыў яго пайсці да партызан. Шупеня ведаў многа. Можа разлічваў, што партызаны дадуць больш высокую ўзнагароду... Украсці яго партызаны не маглі. Яшчэ такога не было ў горадзе. Значыць, сам пайшоў...

— Высокую ўзнагароду ён атрымаў сёння ўночы, — сказаў камендант. — Яго расстралялі разам з нашымі разведчыкамі.

— Вось як! — усклікнуў Дзенісевіч.— Можа не ўсё сказаў?..

— Усё. Нават больш...— камендант сеў на стол.— Хоць нашы данясенні супярэчлівыя. Адны паведамляюць, што Шупеня не прызнаўся, другія — што выдаў усіх. Каму верыць?

— А можа быць, хто-небудзь выдаў тых, каго, як вы лічыце, выдаў Шупеня? — нясмела запытаў Дзенісевіч.

— Што?! — Аўсберг падняў галаву. Хвіліну якую глядзеў на Дзенісевіча.

— Прабачце, пан камендант, але вы прасілі, каб я шчыра...

— Кажаце, што мог прадаць наш? — не заўважыўшы апраўдання Дзенісевіча, разважаў Аўсберг.— Можа быць і так... Але чаму якраз тады, калі прыйшоў да партызан Шупеня?.. Так, так... Не, такога не можа быць. Яны не ведаюць адзін аднаго... А можа выдаў аднаго, а той напарніка... І так пайшло па «ланцугу»...

Камендант падняў трубку:
— Хопіць правяраць, мой мілы сябар,— камендант, мусіць, гаварыў з Бёлле.— Ёсць добрая ідэя. Зрабіць сярод нашых людзей крыжавую праверку. Нам праз нейкі час стане вядома, хто выдаў... Няма людзей? У мяне ёсць людзі. І я бяруся за гэтую справу. Давяраеш?.. Потым растлумачу... Значыць, ты не супраць?..
Аўсберг скончыў размову і ўстаў. Зірнуў на Дзенісевіча.
— Тэрмін падрыхтоўкі разведчыкаў неабходна паскорыць. За дзесяць дзён!
— Так мала? — здзівіўся Дзенісевіч.
— Выконвайце загад,— строга абарваў ён Дзенісевіча.— І глядзіце, каб пра гэта наш салдат не ведаў. Ясна?
— Яволь!..
У тую ноч Дзенісевіч сустрэўся з Меранюком і настойліва папрасіў пабачыцца з Антонавым.

## II

У суботу Дзенісевіч наведаўся дадому. Узрадаваная маці пачала ўвіхацца каля сына і частаваць яго.
— Еш, Іванка, еш... Еш, што бог паслаў.
Іван смяяўся над матчынымі словамі.
— Ды не бог гэта, мама, паслаў. Камендант Кухтэ па загадзе Аўсберга пасылае. Яму і дзякаваць трэба...
— Ціпун табе на язык,— не згаджалася Піліпіха.— Няхай ім зямля калом, анціхрысты праклятыя. А мо ты да іх назусім перайшоў, ды толькі ад маці тоіш?
— Каб толькі ад цябе можна было таіцца...— уздыхнуў Іван.
— Цяжка табе, сынок,— паспагадала маці.— Цяжка, сама бачу. Не таіся можа? — Яна садзілася бліжэй да яго і ціха гаварыла: — Чула, што ты ў іх дужа паважаны. Ты можа так не ўлягайся, каб хвалілі... Ці мо я не так кажу?
— Нельга інакш, мама. Нашы так загадалі...
— А-а, ну калі нашы, то глядзі. Табе відней,— а потым сціснуліся яе вусны і яна ўсхліпнула.
— Ну чаго ты, мама?.. Жывы ж я, здаровы. Не бойся. Нічога са мной не здарыцца.
— Чуе маё сэрца, Іванка, чуе бяду. А то ж як гэта можна. І аднаму служы, і другому памагай. Гэта ж не такая работа, каб падзяліць яе пароўну. А тут, бачыш як, ноч на ноч налягае, і ўсё неспакойна...— Яна паплакала яшчэ трохі, выцерла слёзы і глянула на Івана так, быццам прасіла літасці: — Хоць Марусі скажы, каб не каламуцілася. А то дзеўка... Ты ж ведаеш, на трэці дзень вялікадня, акурат на Май, над камендатурай чырвоны сцяг павесілі. Немчура вой жа як перапалохалася! — І цяжка было зразумець, радуецца маці ці не.— А тады лістоўкі гэтыя... Загадаў усякіх на кожнай хаце гэты гітлюр начапляў.— Сціхла, быццам успамінала, пра што гэта яна гаварыла. А тады: — Дык ты ж скажы ёй, сынок, няхай, можа, гэтак не ўвіхаецца. Можа, ужо няхай гэтак, як ты, ціха, каб ніхто не ведаў...
Неўпрыкметку змяркалася ў хаце. Івану было пара, ён устаў з-за стала, папрасіў маці:
— Калі хто з паліцаяў будзе пытаць пра мяне, скажы: напіўся, што і лыка не вяжа...



— Добра, сынок. А ты ж куды гэта на ноч гледзячы? Можа не ішоў бы, а то неспакойна цяпер...
Дзенісевіч прытуліў да сябе маці, супакоіў:
— Не бойся, мама! Я вярнуся. Лажыся спаць...
— Няхай цябе бароніць бог, сынок,— прашаптала Піліпіха, выходзячы з хаты.
Постаць сына патанула ў цемені, і старая пачула толькі, як зашастаў бульбоўнік. «Мусіць, у лес, да сваіх», — падумала яна і зачыніла сенцы.
...Роўна гудзеў хваёвы лес. Дзенісевіч выйшаў на палянку, дзе аднойчы ўжо сустракаўся з Антонавым, прахрыпеў дзеркачом раз, другі. Ціха. Раптам зусім блізка пачуў:
— Смелы ты, Іван Піліпавіч...
Дзенісевіч пазнаў голас Антонава.
— Да сваіх прыйшоў бо.
— Не баішся адзін хадзіць?
— Пакуль няма добрага напарніка,— не то жартам, не то ўсур'ёз сказаў Дзенісевіч.
— Дрэнна,— нібы паспачуваў Антонаў.— Ну, не прымай блізка да сэрца.— Ён падышоў бліжэй, падаў руку.— Што новага, хваліся... Не давяраеш сувязному?
— Давяраць давяраю, ды параіцца няма з кім.
— Я так і ведаў, што за парадай ідзеш. Пазнаёмся спачатку,— з цемры падышлі двое.— Упаўнаважаны абкома партыі Якаў Нікіфарук і з абкома камсамола Паша Астапаў. Зойдзем у нашу старую зямлянку, пагаворым... Ну, як ты там? Прышчапіўся трохі? Жыць можна?
— Прышчапіцца то прышчапіўся, ды туга прыходзіцца. Дзён праз дзесяць немцы мяркуюць акружыць вашы атрады. Падключаюць некалькі акругоў... Сцягваюць тэхніку. Учора Аўсберг даў мне каманду адрамантаваць нават стары бранявік. Паліцэйскія пакуль пра блакаду не ведаюць, а сярод нямецкіх афіцэраў валтузня. І ўсё пад маскіроўкай, быццам адпраўляюцца на фронт...
— З якой крыніцы дадзеныя? — запытаў Нікіфарук.
— Падслухаў размову Аўсберга з начальнікам гестапа.
— Значыць, прыгадзілася нямецкая мова? — Нікіфарук усміхнуўся.— Як думаеце, таварыш начальнік «разведцэнтра», запускаць да нас разведчыкаў? Трэба ж падрыхтавацца...
— Вось з гэтым я і прыйшоў да вас. Дзён праз восем-дзесяць... Спіс я прынёс і характарыстыкі на кожнага. Мусіць, думаюць выпусціць перад акружэннем.
Гаварылі доўга. Нікіфарук і Астапаў дзяліліся думкамі, як быць з разведчыкамі. З тымі, хто прыйдзе працаваць на немцаў, перад адыходам трэба развітацца, а сваіх людзей выкарыстаць для работы ў асобым аддзеле пры абкоме партыі.
— Ёсць і яшчэ адна просьба,— калі, здавалася, усе пытанні былі вырашаны, дадаў Антонаў: — Са зброяй у нас няважна. Прыходзяць людзі, а з дубінкай іх у бой не пусціш. Можа, падказаў бы, дзе што кепска ляжыць?
— Немцы дрэнна не кладуць... З Вуленкам мы думалі вось што зрабіць. Пад выглядам барацьбы з партызанамі ўзяць атрад чалавек сто—і ў лес. Здаць іх вам у палон, га? Я прыкінуў план. Вось...
Дзенісевіч растлумачыў ход аперацыі. Падумаць было над чым. Як-ніяк, сам Дзенісевіч збіраўся весці атрад. А раптам запінка якая, сарвецца што або з тайных паліцаяў хто пранюхае пра аперацыю? Як

ні рызыкоўна, але сто ствалоў нідзе не валяюцца... Палохала адно: а раптам хто выдасць Дзенісевіча як разведчыка. Тады што? Зноў ваяваць усляпую?

— Многа сваіх людзей думаеш браць? — запытаў Астапаў.

— Чалавек дзесяць, не менш...

— А сам застанешся адзін?

— Ёсць і яшчэ на прыкмеце людзі,— успомніў Дзенісевіч.

— Нам могуць даць загад адысці на захад,— сказаў Антонаў на развітанне.— Блакада ёсць блакада. Сам ведаеш. Калі нас тут не будзе, паспрабуй наладзіць сувязь з адным атрадам. Ён тут астанецца. Гэта ваенны атрад... Яго пакуль няма, але хутка павінен быць... Меранюка да цябе больш не пускаю. Здаецца, за ім пачалі сачыць. Сувязь трымай з Тоняй Зелянюк. Памятаеш, ты праз яе перадаваў у вёску лістоўкі... За настаўніцай не так будуць глядзець... Ага, і яшчэ адно,— Антонаў на момант сціх, быццам не ведаў, гаварыць ці не: — Можа і задужа ўжо для цябе. Ну, ды час такі. А не здолеў бы ты схітрыць так, каб твае хлопцы да нас на браневіку прыкацілі. З шыкам, разумееш?!

Дзенісевіч задумаўся. З-пад носа ўкрасці ваенны бранявік—гэта не так проста.

— Не дасць камендант,— пажартаваў нарэшце Дзенісевіч.— Ды яшчэ калі даведаецца, што для вас прашу... Скнара. Але што-небудзь прыдумаем.

Яны паціснулі адзін адному рукі, абняліся.

### III

З-за лесу ўжо выкацілася чырвонае сонца, а ў вёсцы хоць бы хто рыпнуў варотамі ці бразнуў вядром ля студні.

Была нядзеля. Аднак на кірмаш мала хто ездзіў. Не кожны мог атрымаць аўсвайс, не кожны меў што прадаць. Таму і на дарогах мала каго сустрэнеш.

Дзенісевіч ехаў на сваім веласіпедзе, яшчэ даваенным, на якім пакрышкі перавязаны аборкамі, спіцы закручаны адна за другую, колы з «васьмёркамі». А ўсё ж хутчэй, чым пеша.

Ранішняя прахалода свяжыла, бадзёрыла. Адкуль браўся добры настрой. Нават падумалася: вось бы напісаць верш пра цішыню, пра раніцу... Рыфмаваў словы, а калі не мог падабраць добрай рыфмы, лавіў сябе на тым, што цяпер не да паэзіі. Скончыцца вайна, і сядзе ён тады за свой стол. Будзе час напісаць і паэму. Будзе... Думалася яшчэ і пра Бёлле. Мусіць, не адзін год яго рыхтавалі для гестапа. Пра тое, што рабіў Бёлле і яго людзі, нават мала ведаў сам камендант. Аўсберг больш праставаты і адкрыты. Ён лічыў, што вайна амаль скончылася і цяпер яго задача — вылоўліваць партызан, вербаваць людзей для работы ў Германіі і збіраць сельскагаспадарчыя падаткі з насельніцтва акругі. Непакоіла толькі чыгунка — усё ляцелі пад адхон эшалоны, якія ішлі на фронт. Не падабалася Аўсбергу, што ўсю інфармацыю пра дзейнасць партызан Бёлле трымаў у сваіх руках. А чым горшы за Бёлле Аўсберг? Ён будзе мець сваю інфармацыю. Толькі адновіць тайную агентуру, якую пахавалі партызаны. А ў яго, Аўсберга, амаль гатовы людзі для засылкі. Цяпер шаноўны начальнік гестапа будзе прыходзіць да Аўсберга па інфармацыю.

Хто з іх небяспечней, цяжка было разабрацца. Абодва гулялі ў





дэмакратыю. Часам падкрадвалася думка: можа ўхапілі нітачку і ў цёмных кабінетах ужо размотваюць увесь клубок? А потым запросяць яго да сябе і скажуць: «Досыць, Дзенісевіч, забаўляцца». І ўсё скончана... Бо ўсім відаць, Бёлле не дужа спалохаўся, што знік Шупеня. Мусіць, засталіся свае людзі ў партызанскіх атрадах. Ды і Аўсберг не перажываў. А што ім? Акружылі сябе тайнай паліцыяй, агентурай, рознымі прыхваснямі ды баязліўцамі...

Каменданту і Бёлле жылося тут, удалечыні ад перадавой, ціха, спакойна. Машына працавала, яна трымала ў жалезных рукавіцах цэлую акругу, шэсць даваенных раёнаў. Вось тут і паспрабуй зрабі што, калі вакол на цябе скіраваны ствалы аўтаматаў... Нават даверапы чалавек, той жа Кісцянкоў, які да вайны быў звязаны з немцамі, мала чаго ведае. І ці доўга будзе так? А што з атрадамі Антонава? Куды яны? З кім жа трымаць сувязь, калі не ўдасца знайсці новы атрад?..

Сухі стрэл абарваў ланцуг думак. Балюча сцебанула ў левую руку. Руль падвярнуўся, і Дзенісевіч потырч паляцеў на халодны пясок. Скаціўся ў равок, што быў ля самай дарогі. Кулі ціўкалі над самай галавой, і чутно было, як дзынкнула спіца ў пярэднім коле. Дзенісевіч некалькі разоў стрэліў з пісталета ў рэдкі сасоннік. Гулка азвалася рэха ў прыглушанай раніцы. Узняў галаву: не так далёка ад яго, пятляючы між стваloў, уцякаў чалавек. Дзенісевіч пазнаў Цімоха Скрыпеню. Таго Цімоха-акружэнца, якога ён прывёў у Бярозаўскую падпольную камсамольскую арганізацыю, што стварыў сам Дзенісевіч у канцы сорак першага. Цімох быў адважны хлопец, але не вельмі паслухмяны. Для яго не існаваў загад райкома партыі заставацца на сваіх месцах. Цімох падгаворваў усіх падпольшчыкаў рушыць за лінію фронту ці да партызан у які іншы раён, каб як след помсціць ворагу. Дзенісевіч некалькі разоў гутарыў з ім, супакойваў, але той і слухаць не хацеў. Як казала потым Марыя, Цімох яшчэ больш загарэўся сваёй ідэяй, калі камсорг пайшоў у паліцыю. Пагражаў яшчэ, што пры зручным выпадку «прыстукне паліцая».

«Бач ты, спецыяльна цікаваў...» Стала млосна, неспакойна. «Свае ў спіну страляюць. Дачакаўся, Іван Паліпавіч...» Толькі цяпер зразумеў, што ён задужа смела паводзіць сябе. Камендант і той абураўся, што ездзіць дамоў без аховы, з адным пісталетам. Не думаў дагэтуль Дзенісевіч, што вось так, на глухой дарозе, хто-небудзь з партызан можа зрашэціць яго... І разбірайся тады.

— Вось табе і на... — сумна ўсміхнуўся Дзенісевіч, гледзячы на прастрэленую руку. Крыўдна стала за Цімоха.

У той жа ранак пра выпадак на дарозе даведаліся Аўсберг і гестапа. Усе спачувалі Дзенісевічу. Камендант тут жа даў распараджэнне напісаць загад для ўсіх валасных, раённых камендатур і для мясцовага насельніцтва па ахове паліцэйскіх камандзіраў.

Так была «ўзаконена» недатыкальнасць асобы начальніка «разведцэнтра», афіцыйнага сакратара акруговай паліцыі Івана Дзенісевіча.

## IV

Вязняў прывозілі быццам бы пілаваць дровы. Яны спачатку seклі бярозавыя кругл яки, што ляжалі на двары ў камендатуры, потым іх гналі «мыць падлогу і чысціць скляпы». Сёння, як і кожны дзень, дзевятнаццаць вязняў зайшлі ў памяшканне былога харчовага склада.



Тут у іх праходзілі заняткі па самба. Хлопцы доўга валтузіліся на саламяных плеценых матах. Два ўвішныя эсэсаўцы да дзесятага поту муштравалі «курсантаў». Асноўнымі прыёмамі будучыя разведчыкі валодалі гэтак жа хвацка, як і іхнія трэнеры. Дзядзька Піліп і той навучыўся «падсякаць» нагу і біць па сонных артэрыях. Пасля практычных заняткаў разведчыкі прыступалі да «тэорыі».

На гэты раз прысутнічалі трое чужых, апранутых у цывільнае. Зрэбныя кашулі, няголеныя твары, на нагах — лапці. Аўсберг і Кісцянкоў сказалі адно: свае людзі... І што дзіўна — яны былі падобныя адзін на аднаго, як блізняты. На гэтых занятках Кісцянкоў адкрыўся для Дзенісевіча па-новаму. Сёння ён даваў настаўленні будучым разведчыкам:

— Мне раней за вас давялося змагацца з чырвонай чумой. Рознымі метадамі. Гэтая барацьба, для якой вас рыхтуюць, прама скажу, надзвычай адказная. Гэта не тое, што насіць зброю за плячыма і па камандзе страляць. Вось,— Кісцянкоў паказаў рукой на «блізнят»,— сядзяць людзі, якія жывуць такім жыццём і валодаюць вопытам такой барацьбы. Яны вам раскажуць, як трэба працаваць на фюрара, на вялікую імперыю...

Дзенісевіч слухаў настаўленні Кісцянкова і не мог надзівіцца. Былы старшыня сельпо, які да вайны і слова не мог сказаць з трыбуны, цяпер гаварыў як сапраўдны прамоўца. Ага, ён тады больш слухаў, каб перадаваць пачутае туды, дзе рыхтаваўся напад...

Калі спыталі ў Піліпа Еўдакімава, як ён будзе працаваць у лесе, той, доўга не думаючы, сказаў:

— Ваяваць буду, як і ўсе. Я з людзьмі ўмею ладзіць. Адным словам, на месцы відаць будзе, да каго падлабуніцца...

Усе засмяяліся, а дзядзька пакрыўдзіўся:

— Зубы скаліце, а таго не ведаеце, што без ласкі нічога не будзе ў нашым дзеле. Ласкавае цялятка дзве маткі ссе...

Больш за ўсіх гаварыў лысы, што сядзеў ля сцяны. Вось ён назваў прозвішча Антонава. Але што з таго? Антонаў бывае ва ўсіх пяці атрадах. Нарэшце лысы раскрыўся. Назваў камандзіра маленькай групы Аўтухова, яго памочніка Іванькова.

— Набралі мы ўсякага дабра, прадуктаў, самагонкі — і па конях. Пад'язджаем да лесу, і толькі тады заўважылі карны атрад,— расказваў лысы. — Мы шух у ельнік. Я — за кулямёт. Паласнуў над галовамі, каб спыніць. Тыя адступілі. А я Аўтухову і кажу: «Прадала нас нейкая сvалата. Трэба вярнуцца і разабрацца». А той — гарачы... Вярнуліся ў вёску. Нам паказалі нейкага старога. Аўтухоў аж пачырванеў ад злосці. І, вядома, да таго дзеда... Вы думаеце, як свае ды сваіх бэсціць пачнуць, пойдуць людзі ў лес ці будуць памагаць партызанам?.. На вяроўках не зацягнеш...

Наступны «прамоўца» таксама быў з атрада Аўтухова. Гаварыў ён мала. Адзінае, што раіў — гэта сябраваць з камандзірамі атрадаў.

Трэці «настаўнік» быў з-за Сажа. Напэўна, ваенны, бо гаварыў, быццам сякерай адсякаў фразы. Акрамя таго, як прыкмеціў Дзенісевіч, быў больш вопытны, чым яго «калегі». Ён гаварыў пра канспірацыю, у якой немалаважную ролю іграе палюбоўніца. Мауляў, ідучы да яе, заўсёды можна перадаць інфармацыю ў цэнтр.

Потым выступалі «вязні». Але ніхто нічога істотнага не сказаў.

Пасля абеду меліся вывучаць рацыю. Гэта было даручана Кісцянкову. Цяпер Дзенісевіч здагадваўся: Кісцянкоў — нацысцкі шпіён. Бо адкуль гандляру ведаць рацыю, ды яшчэ нямецкую. І марзянку таксама.

Засталося ўведаць адно: валодае Кіцянкоў нямецкай мовай ці не.
Дзенісевіч сабраў адной рукой са стала паперы і панёс іх у сейф камендандкай канцылярыі. Там яго чакаў Васіль Цялюпікаў. Павіталіся стрымана.

— Абедаць? — абыякава спытаў Васіль.

— Пара ўжо,— у тон яму адказаў Дзенісевіч і папрасіў: — Скажы гэтаму, каб далёка не хаваў. Заўтра зранку мне патрэбны будуць гэтыя дакументы... Ты абедаў? Не? Пайшлі разам...

Вуліца ціхая і голая, як у летнюю спёку. Усе сядзяць у хатах ці корпаюцца на агародах. Тут можна і пагаварыць, не баючыся чужога вуха.

— Слухай, Піліпавіч,— перайшоў на ціхі голас Цялюпікаў.— Сёння, чуў я, на склад прывезлі снарады і міны. Усе не ўлезлі. Некалькі скрынак паклалі ў хлеў ля пошты. Вартуюць паліцэйскія... Можна зрабіць што-небудзь.

— А што можна зрабіць? — Дзенісевіч задумаўся.— У лес не пераправіш. Падводамі трэба, а падводы з горада ніхто не выпусціць. Падарваць хіба?

— Давай падарвем. Знімем вартавога ды бабахнем ноччу..

— Тады заадно трэба і плошчу замініраваць. Заўтра там парад франтавікоў пачнуць рэпетыраваць.

— Вось гэта нумар будзе! Двайны феерверк!..

— Не радуйся пакуль.

— Зробім, Піліпавіч, зробім... Толькі табе нельга... Мы з Вуленкам. Яму лягчэй зняць вартавога. А ў цябе рука...

— Рука якраз можа і выручыць,— сказаў Дзенісевіч.—Па ёй смуткуе ўся паліцэйская акруга... Каму гэта ўздумаецца з хворай рукой боепрыпасы падрываць. Пасля абеду пастарайся зайсці ва ўправу. Я папярэджу Вуленку... Падумаем.

Дзенісевіч прыжмурыў вока і ўсміхнуўся аднымі вуснамі.

— Прыемнага апетыту! — кінуў Цялюпікаву Дзенісевіч.

— Апетыт толькі пачынаецца...

## V

Спякотнае ліпеньскае сонца... У небе ні хмурынкі, на дарозе ні дрэўца, каб хоць хвілю пастаяць у цяньку. Млосна. А прывалу няма. Трэба ісці і ісці. Адзінае, што бадзёрыць,— празрыстае, як звон, паветра і мядовы водар, які плыве з белае грэчкі. І да ўсяго гэтага такі знаёмы і родны спеў перапёлкі! От каб не спякота гэтая...

Паліцэйскія брыдуць па дарозе, пакідаючы шэрую хмару пылу. Ад стомы пасмяглі вусны, пяршыць у горле, горка на душы.

Пух... Пух... Пух...— гулка топчуць боты попел-пясок.

Ні строю, ні парадку. Паныла, моўчкі, быццам пад канвоем, ідуць людзі.

Пух... Пух... Пух...

За пажоўклай пшаніцай пярэднія павярнулі направа. Дыхнула прэлым поплавам. Вось-вось дадуць каманду збочыць, адпачыць.

Зашамацела, зашморгала пад нагамі сухая трава і, здавалася, пастаці стомленых людзей ажывіліся. З палёгкай уздыхнулі пярэднія, і толькі апошнія брылі яшчэ ў шэрым пякучым пыле.

Высокі хударлявы афіцэр крочыў наперадзе. Ён не дурань лезці ў гэты пыл. Але ці хадзіў калі гэты цыбаты афіцэр першым у бой? Мусіць, не. Ён баіцца смерці, як і ўсе салдаты, якіх ён узяў з сабой. І сёння гэтыя «ваякі» не палезуць першыя ў атаку... Гэта Дзенісевічу загадана падняць паліцэйскіх і пусціць іх у рукапашную. Вось ён і вядзе іх на перадавы рубеж. Немцам жа трэба абараняць тылы. Дзенісевіч добра ведаў, як яны трымаюць абарону. Страляюць у спіну паліцэйскім, каб тыя не адступалі. Паліцэйскія павінны стаяць насмерць. Таму ў гэтых людзей, апранутых у чорнае, жыццё ненадзейнае. «Пры акружэнні, — папярэджваў камендант,— мы павінны берагчы салдат фюрара. Яны будуць патрэбны на фронце...» Вось чаму толькі адзін узвод салдат выдзеліў Аўсберг. «Бандытаў не отшень многа,— тлумачыў ён Дзенісевічу.— Іх разбіць лёгка. Віншую з бліц-перамогай...» І Дзенісевіч спадзяваўся на поспех. Была прадумана кожная дэталь аперацыі.

А гэтага афіцэра Дзенісевіч бачыў на імянінах у фройлен Аўсмы. Быў ён негаваркі, але прывабны з твару. Фройлен, напэўна, мела да яго сімпатыю. Тады гэты афіцэр з пагардай глядзеў на Дзенісевіча, цяпер — чула, з нейкай надзеяй падзываў да сябе, і немец-перакладчык гаварыў:

— Пан Дзенісевіч, вы дакладна ўяўляеце сабе будучую аперацыю?.. Добра. Перадайце сваім, каб больш рашучасці і смялейшых атак. Магчыма, давядзецца акружаць, а не з налёту... Вашы паліцэйскія збіліся ў гурт, што авечкі. Вучыцеся ў нас, як трэба хадзіць у страі...

Афіцэр фанабэрыўся, але чым бліжэй падступаў лес, ён усё часцей клікаў да сябе Дзенісевіча, раіўся.

Узбоч дарогі, з-за пшаніцы дыхнуў свежасцю стары Сож. Паліцэйскія загаманілі. Афіцэр азіраўся, штосьці пытаў у перакладчыка. Потым пачакаў Дзенісевіча.

— Што там у вас здарылася? — строга запытаў афіцэр.

— Просяць, каб пакупацца ці хоць прысесці трохі...

— О, гэта можна...

Пасля дажджоў шырока разліўся Сож. Праўда, вада была каламутная, але вабіла да сябе свежасцю, прахалодай. Падышлі да берага. Немцы паставілі зброю ў «козлы». Дзенісевіч падвёў сваю роту бліжэй да немцаў. Многія на хаду знімалі кіцелі, кашулі: паспрабуй утрымацца, калі побач рэчка...

— Камандзірам узводаў назначыць варту! — скамандаваў Дзенісевіч.

У адказ пачуліся незадаволеныя галасы:

— Навошта тая варта. Да лесу добрых пяць кіламетраў...

— Выконваць загад!..

Калі варта была выдзелена, афіцэр звярнуўся да Дзенісевіча:

— Вы добра плаваеце?.. Я баюся, не будзе каму камандаваць вашай арміяй... Ну, распранаемся! — рызыкнуў ён.

Якая гэта любата, пасля стомы і гарачыні скупанушча.

— Корошо... гут...—мармытаў побач афіцэр і нырaў у гнуткую люстраную гладзь Сажа. Потым фыркаў, соп і зноў знікаў у вадзе. А на беразе стаяла чалавек дзесяць паліцэйскіх, побач тры немцы, распранутыя да пояса, па чарзе пілікалі на губным гармоніку. У баку над полем заліваўся жаўрук. Дзенісевіч прыгадаў, як ён апрытомнеў на полі бою. «Тады таксама спяваў жаўрук. Лічы, паўтара года, як я на другім баку...»

Вінтовачныя стрэлы абарвалі думкі. Дзенісевіч глянуў на бераг. Трое немцаў схапіліся за жываты і асунуліся на зямлю. Паліцэйскія

ўзялі з нямецкіх «козлаў» па аўтамату і адзін з іх, камандзір аддзялення Сцяпан Каранёў, гучна абвясціў:

— Вы арыштаваны, паны... Імем Савецкай улады! — І тут жа параіў:— Выходзь строіцца... Па адным! Хто не паслухаецца, пусцім на дно. Ну?!

— Адставіць! — закрычаў на ўвесь голас Дзенісевіч.— Вы што, з глузду з'ехалі! Пятлі захацелі?..— Вада залівала рот: ён пляваўся, фыркаў і, цяжка дыхаючы, крычаў: — Апусціце зброю! Я вам загадваю!

— Хопіць, накамандаваўся, — адказаў голас з берага.— Паслужыў немцам, цяпер твой час настаў... Па адным!..

— Вас іст дас? *— спалохаўся нямецкі афіцэр і падплыў бліжэй.— Вас іст дас?..

— Партызанен! — крычаў немец-перакладчык.

Толькі цяпер здагадаўся афіцэр, што адбылося. Спачатку ўсе анямелі, потым падняліся крыкі, мітусня. Паліцэйскія, што сядзелі ў вадзе і баяліся выходзіць на бераг, крычалі і лаяліся на Сцяпана.

— З вады выходзіць па адным! — далей камандаваў Каранёў.— Вопратку атрымаеце тут,— ён паказаў на водшыб.— І строіцца ў калону... Хто задумае ўцякаць, куля ў спіну. Гэй, фрыц,— Каранёў звярнуўся да перакладчыка, — растлумач сваім, каб здаваліся, бо мы доўга ўпрошваць не будзем. А з табой, сабака,— Каранёў кіўнуў на Дзенісевіча,— размова будзе асобная... Народ цябе будзе судзіць. Шкура прадажная... Вылазь!

Перакладчык пераказаў Сцяпанаў загад. Дзенісевіч тым часам насцярожыўся. Ці да канца справяцца хлопцы са сваім «спектаклем»? Ён паволі пабрыў да берага. Услед плёўся нямецкі афіцэр.

— Ну, варушыся,— падганяў Сцяпан Дзенісевіча.— Для Гітлера дык ты шустры.

На беразе іх раздзялілі: Дзенісевіча ў адну калону, афіцэра і перакладчыка — у другую.

— Папярэджваю яшчэ раз,— голасна гаварыў Сцяпан. На яго грудзях віселі два аўтаматы, — адзін крок убок — і амба! Ісці страявым... Шагам... арш!.. Стой! Я загадаў страявым... Шагам... арш!

Ішлі берагам ракі. Сцяпан Каранёў трымаў калону далей ад хмызняку і нарэшце вывеў на зарослую трыпутнікам няезджаную дарогу. Цяжкія, трывожныя кіламетры... Ішлі, апусціўшы галовы, сцішаныя. Некаторыя крадком пыталіся ў Дзенісевіча:

— Што рабіць?

— Здавацца...— змірыўшыся са сваім становішчам, адказаў Дзенісевіч.— А што ты зробіш? Перастраляюць, як сабак...

Чацвёра канваіраў вялі ўперадзе немцаў, шасцёра — па тры з бакоў — роту паліцэйскіх. Нарэшце ў маладым ляску Дзенісевіч з радасцю заўважыў воблака пылу: — «Партызаны!» Але выгляду не падаў, сказаў толькі з жалем:

— Усё хлопцы... Канцы!

Воблака блізілася. Дзенісевіч заўважыў чалавека на вараным кані. «Антонаў». Каранёў скамандаваў:

— На месцы!.. Зараз страявым, як мае быць... Наперадзе начальства... Шага-а-ам... арш!.. Рот-та!

Збоку, мусіць, гэта выглядала смешна. Босыя немцы і паліцаі ішлі страявым. Нарэшце, калі Антонаў пад'ехаў бліжэй, Сцяпан даў каманду спыніцца, павярнуў калону тварам да начальства і па-вайсковаму далажыў:

— Таварыш сакратар райкома партыі! Узвод фашыстаў і рота іх прыхвасняў прыбыла для здачы ў палон. Аперацыя праведзена без накладак... Старшы сержант Чырвонай Арміі Каранёў.

— Ну, што, даваяваліся? — коратка і строга спытаў Антонаў.

Сакратар райкома скокнуў з каня, падышоў да Дзенісевіча. Вочы строгія, злосныя. Толькі ў адзін момант яны памякчэлі. Мусіць, гэта і было тое самае «здароў быў!».

— Прыемна бачыць у першых шарэнгах і цябе, пане журналіст. Што ж ты раней не прыходзіў да нас, а толькі цяпер, пад канвоем?.. Думаеш, зарплаты тут не даюць? Ты сваю атрымаеш зарплату... ад ваеннага трыбунала,— і ўсміхнуўся пагардліва.

Перакладчык тым часам тлумачыў афіцэрам пра ўсё, што пытаўся Антонаў у Дзенісевіча. Афіцэр палахліва пазіраў то на Дзенісевіча, то на сакратара райкома. Потым Антонаў адышоў і голасна, каб чулі ўсе, загаварыў:

— Сярод вас, бадай, многа такіх, хто яшчэ застаўся ў душы савецкім чалавекам. З кожным мы будзем разбірацца асобна...— Дзенісевіч бачыў, як дзесяць паліцэйскіх без каманды, адзін за адным выстраіліся за спіной у Антонава.— Лёс многіх выратаваны, калі рукі іх не ў крыві савецкіх людзей.— Антонаў павярнуўся і паказаў на нядаўніх канваіраў.— Вось людзі, якія засталіся верныя Радзіме. Адна толькі сённяшняя аперацыя дарує ім жыццё і поўную свабоду. Я ўпэўнены, што яны стануць надзейнымі змагарамі Савецкай Айчыны, а таму ад імя камандавання партызанскага злучэння аб'яўляю ім падзяку...

— Служым Савецкаму Саюзу!..— прагучэла ў адказ.

Напалоханая калона пад канвоем партызан пабрыла на лясную стаянку, а Сцяпан Каранёў з падводамі паехаў па зброю і адзенне палонных. На развітанне жартаўліва кінуў ім услед:

— Шырэй крок, ваякі... Цянёк хутка.

## VI

Дзенісевіча разбудзілі сярод ночы. Грукнулі дзвярыма, упхнуўшы ў зямлянку нямецкага афіцэра. Той, як сноп, чмякнуўся на падлогу і ляжаў быццам нежывы. Дзенісевіч падпоўз бліжэй да немца. «Не, здаецца, не білі. Не стогне, не войкае...»

— Я ім нічога не сказаў,— раптам загаварыў па-нямецку афіцэр.— Яны пыталіся пра размяшчэнне нашых войск і пра колькасць салдат. І яшчэ дапытваліся, якія ў нас планы супраць іх... Я нічога не сказаў... Адкуль я ведаю? Я нічога не ведаю...

— Нікс фаршытэен,— Дзенісевіч абыякава адказаў на яго апраўданні.— Адно ведаю, што нам тут капут.

Немец скурчыўся, цела яго ўздрыгвала. Ён нібы трызніў:

— О, майн гот!.. О, майн гот.. Я, я... Алес капут... Алес капут...

Лес гудзеў густа і нудна. Ля зямлянкі ціха тупаў вартавы, мармытаў нешта сабе пад нос. Дзенісевіч, войкаючы, устаў і пачаў абмацваць у зямлянцы сцены. Калі надакучыла хадзіць, ён прысеў:

— Дурні мы з табой, фрыц.— Дзенісевіч так і не даведаўся імя афіцэра.— Ну хто гэта пасадзіць нас у зямлянку, з якой можна ўцячы... Каб зрабіць падкоп... Але чым? Рыдлёўкі няма, за ноч не ўправімся. А назаўтра нас, мусіць, таго...

* Што такое? (ням.)

— Мы загінем байцамі,— немец сціснуў Дзенісевічу руку.— Стойка, як вучыў фюрар.
Дзенісевіч быццам не зразумеў яго, ціха сказаў:
— Хайль Гітлер!..
— Хайль Гітлер!. Зіг хайль!..
Можа і яшчэ што хацеў сказаць, але пачуў, як загаварылі каля зямлянкі.
— Як стаіцца, Пятрок?.. Ці гэтая свалата спакойна сябе паводзіць?
— А што ім? — голас насмешлівы, хрыплы.— Пасцель у іх ёсць, есці не просяць, а без шнапсу пацерпяць трохі...
— Заўтра мы іх...— гаварыў першы.— Камандзір сёння разлаваўся. Фрыц трохі гаварыў, а паліцай як вады ў рот набраў... Далі так, што крывёю наліўся.
— А што з імі доўга чыкацца. На асіну і ўсё. Двума паганцамі меней будзе...
— Во, закуры можа, ды ідзі кладзіся. Я досвіткам устуру цябе. Будзь спакойны, такую дзічыну з вока не спушчу. Не на таго нарваліся...
— Стахван павінен мяне змяніць.
— Стахван твой набраўся, як цэп. Мяне папрасіў... Прачнецца, зменіць мяне. Ідзі, спі...
Маўчанне. Мусіць, стары вартавы прыкурваў.
— Ну, як знаеш... Пайду я. Глядзі тут...
— Не засну, не бойся... Хай табе Маланння твая прысніцца...
Той засмяяўся, і чутно было, як пад яго нагамі затрашчалі ў начной цішы сухія галінкі. Крокі аддаляліся.
Дзенісевіч услухаўся ў голас новага вартавога і не мог даўмецца: дзе ён чуў яго. Такі знаёмы голас. Хто гэта мог быць? Ці не той трэці, што нядаўна выступаў на «курсах»? Вось каб яшчэ загаварыў.
Вартавы тупаў вакол зямлянкі. Вось ён спыніўся, чыркнуў запалкай. Кашляе. Потым зноў тупат вакол зямлянкі.
Цішыня зазвінела працягла, натужна. «Калі гэта той,— думаў Дзенісевіч,— то чаму тады Антонаў перамяніў сваё рашэнне. Было ж дамоўлена вывудзіць у немца ўсё і адпусціць яго, а мяне прытрымаць яшчэ на дзень-другі, а потым арганізаваць уцёкі...»
Вартавы прыціх, стоячы ля дзвярэй. Стаяў доўга, быццам прыслухоўваўся. Нарэшце шоргнула завала, у праёме паказалася постаць.
— Пан Дзенісевіч, пан обер-лейтэнант!..— голас ледзь вылучаўся з дрыготкай цішыні.— Хуценька! Вось вам па рэвальверы... Хуценька! А то нарвецца хто...
— Я пазнаў вас. Па голасе,— прызнаўся Дзенісевіч.— Дзякуй, дарагі... А ты ж як?..
— Я з вамі... Пайшлі!.. Асцярожна толькі.
Немец ціснуўся бліжэй да Дзенісевіча, і было чутно, як ліхаманка калаціла яго. Праваднік ішоў марудна, азіраючыся. Цяпер і сам Дзенісевіч баяўся, каб не трапіць на дазорных. Паднімуць трывогу — і ўсё прапала.
Нарэшце выбіліся на ўзлесак. Страх паступова адступаў. Фрыц і той стаў смялейшы.
— Ну, вот,— яны выйшлі на някошаны луг.— Можна лічыць, вырваліся.— Праваднік спыніўся, хацеў закурыць, але перадумаў. (Такая цемень наўкола, а тут запалка). Мусіў перачакаць, каб не наклікаць бяду.— Блізка вёска. Зойдзем перакусім, а заадно і пакурым.
— Партызанаў няма?..— насцярожыўся Дзенісевіч.
— Не, тут няма... Нашы сёння ўсе сцерагуць палонных,— ён упэўнена ішоў першы.— Вот вы, пан Дзенісевіч, мяне не знаеце, а я вас добра ведаю... Хвядосам мяне завуць, па прозвішчы Хвалько...
— Пазнаць то пазнаў, але паклікаць баяўся. А раптам збоку хто.
— Ну і правільна. Асцярожнасць у нашай справе — галоўнае. Гэта ж я падпаіў таго, катораму вас трэба было сцерагчы. А ён узяў ды папрасіў мяне, каб за яго пастаяў. Ну, я трохі паламаўся, пааднекваўся і згадзіўся. Ненадоўга, кажу. Праз гадзіну—дзве ўстуру...—Гучна засмяяўся, задаволены сваёй хітрасцю.
«Значыць, гэта выпадковасць. План наш ніхто не мяняў... Ну, што ж, можа гэта і к лепшаму...»
— Дзякуй табе, браце, дзякуй.— Дзенісевіч абняў Хвядоса.— А то сам ведаеш — капут...
Немец таксама схапіў яго за плячо і ледзь не плакаў:
— Данке, данке, майн фройнд... Вельмі корошо...
На краі вёскі рашылі пастукаць у першую хату. Доўга ніхто не адклікаўся. Хвядос забарабаніў мацней. Іван падышоў да акна. Заварушылася фіранка. Праз некаторы час у сенцах затупалі босыя ногі.
— Каго тут немач носіць?
Голас сонны, хрыпаты, старэчы.
— Адчыні, цётка Хадора, свае...
— Ніякая я табе не Хадора. А свае ў мяне ўсе спяць... Налізаўся, то ідзі, куды ішоў,— і яна патэпала назад.
— Тут нямецкі афіцэр і два паліцэйскія. Ад імя новага парадку— адчыняй! Чуеш?
— Няма такога парадку, каб па начах бадзяцца п'яным... І не адчыню.— Клямка на дзвярах ляпнула. Стала ціха.
Хвядос злосна плюнуў і ступіў з ганка:
— Пачакай жа, я цябе прывучу!..
На світанні нарэшце знайшлі старасту. Паснедалі ў яго, замачыўшы свой ратунак, і ляглі спаць.
Удзень усе трое паехалі ў горад.

## VII

Фройлен Аўсма зайшла ў кабінет да Дзенісевіча ўзрадаваная.
— Ганс!.. Жывы! — усклікнула яна.— Я так хвалявалася! Учора не магла прыйсці. А сёння раніцай пачула, што Фрыц, які быў з табой, застрэліўся. Ты не чуў?! Сёння ноччу. Пачула і адразу да цябе... Думала...
О, да гэтага яна і не ведала, што Дзенісевіч такі смелы, рашучы...
— Бёлле выклікае,— паведаміў Дзенісевіч Аўсме трывожную вестку.— Наконт таго, што правалілася аперацыя. Вінаваціць мяне, чаму я дазволіў сваёй роце купацца... Ну, а як трэба было рабіць?— Ён нібыта рэпеціраваў перад Аўсмай свае довады.— Пагнаць іх зморaных у лес? Панесла ж мяне на гэтых бандытаў. З хворай рукой, дурань, папёрся... Каб не Хвядос, гайдаліся б цяпер на партызанскіх асінах... А што я мог зрабіць, калі Фрыц дазволіў сваім купацца?! Пасадзіць, каб глядзелі, як купаюцца нямецкія салдаты?
— Не перажывай, Ганс,— супакойвала Аўсма.— Абыдзецца якнебудзь... Падумай сам: вырвацца з-пад самага носа ў бандытаў і выратаваць яшчэ нямецкага афіцэра. Гэта ж геройства! Так, так. Геройства. Высакароднасць... Думаю, што Аўсберг аб'явіць табе ўзнагароду...
— Дык каб гэта я выратаваў! — ледзь стрымліваў сябе Дзенісевіч.— Слухайце, фройлен, я адчуваю, што вінаваты перад фюрарам.

Не трэба гаварыць пра абставіны, непрадбачлівасць. Вінаваты я. Адзін. Трэба было самому падабраць людзей... Гэта ж мая першая аперацыя!.. І так правалілася... Як цяпер глядзець Аўсбергу ў вочы?! Ты ўяві сабе: мне даручылі першую аперацыю. Сам уцёк, а войска, зброя ў руках бандытаў. Нічога сабе ваяка!..

— Не бойся, Ганс. Хочаш, я пазваню Бёлле,— абнадзейвала Аўсма.— Ды гэта магло быць з кожным. Тут здраднікі...

— Здраднікі — паліцэйскія,— гарачыўся Дзенісевіч.— А я сакратар акруговай паліцыі. Ты разумееш гэта?..

— Ты ідзі і раскажы Бёлле ўсё, як было,— параіла Аўсма. —Ён паверыць. Паверыць, Ганс. Бёлле добры чалавек. Сапраўдны арыец. Ён не любіць непакорлівасці, а ты ж сам прыйшоў да нас і, нягледзячы на гэты выпадак, служыў фюрару верна... Ідзі смела, пакайся — і ён даруе табе.

— Не магу я каяцца. Не магу... Як я магу каяцца, калі факт гаворыць пра маю віну.

Нарэшце ён сеў за стол, падпёр рукамі галаву, маўчаў.

— Ганс,— не вытрымала фройлен.— А Фрыца білі бандыты?

— Не ведаю... Як мяне білі, то Шульцу трэба павучыцца. Размалявалі, як бог чарапаху...

— Я гэта бачу... Я цябе больш не буду пускаць у лес...

— Была б твая воля...— памякчэў Дзенісевіч.

— Дык, кажаш, Фрыца не білі? — зноў загаварыла пра афіцэра Аўсма.

— Я не бачыў. Яго павялі на допыт пасля мяне... Але яго, мусіць, менш білі. Можа, каб сінякоў не было. Яны ж не цацкаюцца...

— Ганс, а табе не здаецца, што гэта ён выдаў ваенную тайну, выдаў усё, што знаў? А потым уздумаў, што парушыў прысягу фюрару, і, баючыся расстрэлу, пакончыў з сабой...

— Дык ён застрэліўся? — толькі цяпер дайшло да Дзенісевіча.— Вось як... Ён і тады, калі яго ўкінулі ў зямлянку, нешта гаварыў мне, быццам каяўся ў чым. А ў чым — не ведаю...

Аўсма спахапілася:

— Ну, я пайду. Ды і табе трэба даўно быць у Бёлле. Ён не любіць, калі хто спазняецца. Толькі будзь смялейшы, добра?..

— Пойдзем, — пагадзіўся Дзенісевіч.

Кабінет Бёлле маленькі. На сцяне — партрэт Гітлера, ля стала тры крэслы, у кутку звычайны зэдлік. На яго садзяць парушальніка «новага парадку», і бывае гэта ў крайніх выпадках, калі сам пан начальнік гестапа робіць допыт.

Дзенісевіч зайшоў у кабінет, павітаўся. Бёлле выкаціўся з-за стала, запытаў:

— Як ваша рука, пан Дзенісевіч?

— Трохі зажыла, пан начальнік. Ды там яе выкруцілі.

— Не ўяўляю, як вы з прастрэленай рукой палезлі ў ваду. Так можна схапіць і гангрэну...

— Не вытрымаў, пан Бёлле... Такая спякота... А руку я не pамачыў. Трымаў над вадою...

Начальнік гестапа слухаў уважліва. Потым загаварыў.

— Сёння я выклікаў вас...— Ён узяў са стала паперы. — Вось паказанні обер-лейтэнанта, нашых людзей, пратаколы вашай гутаркі з работнікамі гестапа... Вас, папраўдзе кажучы, трэба было б расстраляць за правал карнай аперацыі, але мы, немцы... Майце на ўвазе... Справа на вас ужо заведзена. Яшчэ адно неабдуманае рашэнне і... самі разумееце... Мы цяпер больш уважліва будзем адбіраць людзей для



гэткіх аперацый. Зоймемся вашай паліцыяй... На ўсякі выпадак некаторым ненадзейным трэба падрыхтаваць змену. Правядзем чыстку... Але цяпер не пра гэта. Скажыце, пан Дзенісевіч, вашы людзі гатовы выступіць шырокім фронтам на партызан?.. Вядома, з дапамогай нашых салдат!

— Куды выступаць, пан начальнік?..— Дзенісевіч нахінуўся бліжэй да стала.— Нам ніякай каманды не было...

— Як гэта не было! — нахмурыўся раптам Бёлле.— Я аддаў распараджэнне: падрыхтавацца да блакады партызан адразу ўсімі раённымі ўправамі паліцыі... Вы што, не ведаеце?

— Вуленка мне нічога не гаварыў... Мы рыхтавалі толькі гэтую вось аперацыю...— Дзенісевіч пацісну плячыма.

— Якога д'ябла вы мне гаворыце пра гэтую аперацыю! — ускіпеў Бёлле і забегаў па кабінеце.— Каго рыхтавалі!.. Вас выратавала тое, што вы зусім нядаўна на гэтай рабоце. Вуленку мы пакараем строга... Партызаны ўжо садзяцца на фурманкі, не чакаючы нашага наступлення. Цяпер разумееце, што нарабілі вы з гэтай аперацыяй?!

Дзенісевіч маўчаў. Яму не хацелася падлазіць Бёлле пад гарачую руку. З ім не пажартуеш.

— Хто ж мог выдаць ім гэты загад?..— сказаў Дзенісевіч.

— А гэта я ў вас павінен спытаць! — наліўся крывёю Бёлле.— Вы таксама былі на фронце, у вас таксама пыталіся пра службовыя тайны. Хто тады з вас парушыў ваенную прысягу? Хто?! Замест таго, каб з камендантам займацца ўнутранай разведкай і праверкай мясцовай паліцыі, вы займаецеся самадзейнасцю. Гоніцеся за вялікім, а пад носам у вас д'ябал ведае што робіцца... Склад паляцеў у паветра, пятнаццаць лепшых салдат фюрара ўзарваліся на пляцы... А заўтра з вашай міласці паляцяць у паветра масты, камендатура, гестапа... і з імі вы, пан начальнік рускага разведцэнтра!..

Бёлле, як шалёны, бегаў па пакоі.

— Ваякі... Пакупацца ім захацелася. Курорт адкрылі. От цяпер няхай адпачываюць у партызанскіх санаторыях. У сваёй управе і то не можаце навесці парадак. Учора вашы паліцэйскія загналі ў лес бранявік і двух нашых салдат-вартаўнікоў захапілі з сабой... Як вы думаеце, пан Дзенісевіч,— дастаткова, каб вас і Вуленку павесіць?

— Пан начальнік...— апусціўшы галаву, выціснуў Дзенісевіч.

— Што «пан начальнік»?! — крыкнуў Бёлле.— Вам далі добрую работу, вялікую зарплату... А дзеля чаго? Дзеля таго каб вы гулялі ў дэмакратыю з паліцэйскімі... Вы разумееце, што ім нельга нічога давяраць? Вось што — без майго асабістага дазволу не выконваць ніводнага задання пана фон Аўсберга! Ясна?..

— Ясна, пан начальнік! — ускочыў Дзенісевіч.

— А за тое, што вы мужна трымаліся на допыце ў партызан, я аб'яўляю вам падзяку...

— Буду старацца, пан начальнік... Я ніводнага слова не сказаў...

— Я пра гэта ведаю...— Ён падышоў да шафы, адчыніў дзверцы і праз плячо запытаў у Дзенісевіча: — Віскі любіце?

— Ніколі не каштаваў...

— О, рускія, рускія...— Бёлле наліваў у кілішкі пітво.

Дзенісевіч адчуваў, што за гэтым пачастункам і лагодным сяброўскім тонам таіцца нешта падазронае.

Пілі і гаварылі пра вялікую Германію. Бёлле ад успамінаў расчуліўся, дастаў з шуфлядкі фатаграфію і паказаў яе Дзенісевічу. На ёй — сям'я начальніка гестапа. Бёлле ў цывільным касцюме, побач хударлявая жонка, трое дзяцей.

— Закончыцца вайна, пан Дзенісевіч, і вы будзеце мець цудоўную сям'ю, мілых дзетак... Я часта думаю пра ваш лёс, пан Дзенісевіч. Для большае блізасці да арыйскай нацыі вам трэба ўзяць замуж немку. Сапраўдную немку... Вось, напрыклад, такую, як фройлен Аўсма. Чым дрэнная пара? Га? Арыйская кроў. Аўсма гарачая, як сонца, і прыгожая, як фея. Скажу вам па сакрэце: фройлен выгадная пара для вас. Бацькі яе маюць вялікі маёнтак недалёка ад Берліна. Не думалі пра гэта?..

— Яна сапраўды добрая жанчына,— перабіў Дзенісевіч новага «свата».— Але спяшацца не трэба. Ідзе вайна, і ўсякае можа быць. Усе мы жывем пад богам. А вось кончыцца вайна... Даруйце, пан начальнік, але мне хочацца выпіць за перамогу... Бліскучую перамогу!..

Бёлле быў задаволены.

— Вы, Ганс, разумны чалавек. І зробіце сабе кар'еру. Я люблю такіх людзей... За перамогу!..

Закружылася ў галаве. Не прывык Дзенісевіч закусваць няхай сабе і такі слабы напітак адны́мі цукеркамі. Сюды б бохан хлеба, добры кавалак сала ды яшчэ цыбуліну. А што цукеркі...

Бёлле таксама захмялеў. А можа знарок прыкінуўся, што п'янее. Дзенісевіч слухаў, як начальнік гестапа адказваў па тэлефоне. Голас роўны, строгі. Так звычайна гавораць кадравыя ваенныя з падначаленымі.

— За што ж мы цяпер вып'ем, Ганс? — Бёлле паклаў трубку і падсеў бліжэй.

— За фройлен Аўсму, за яе прыгажосць!

Бёлле хітра прыжмурыў вочы:

— А вы лавелас, Ганс... Добры тост!

Дзенісевічу зрабілася весела, і ён адчуў, што п'янее.

Бёлле задумаўся, нахіліўся над сталом. Потым падняў вочы і пільна паглядзеў на Дзенісевіча.

— Вы не здагадваецеся, дзеля чаго я вас паклікаў... Правал апрацыі — гэта адно... Я дарую вам такую памылку. У вас многа спраў наперадзе, і вы будзеце мець магчымасць зрабіць так, каб пра яе больш не ўспаміналі. Ёсць важнейшая справа. Вы гатовы супрацоўнічаць асабіста са мной?.. Тыя звесткі, якія вы будзеце атрымліваць ад сваіх разведчыкаў, у першую чаргу давацЬ мне, а потым з майго дазволу Аўсбергу. Ведайце адно: мы, гестапа, вышэйшы орган кантролю фюрара, і нам у першую чаргу трэба такія звесткі. Тым больш, што я вам галоўны начальнік.

Дзенісевіч задумаўся. Чаго-чаго, а гэтага не чакаў ён ад гестапа. «Можа зноў пастка?»

— Астанецеся на ранейшай пасадзе,— начальнік гестапа сур'ёзна паглядзеў на Дзенісевіча і ўзяў яго за плечы.— Аклад мы павысім. Самі разумееце, што даць вам лепшую пасаду мы не можам. Ваша месца не вельмі прыкметнае, і гэта не будзе выклікаць падазронасці... Ну, як? Домовіліся?

Думаць няма калі і раіцца няма з кім. Але рашэнне яшчэ не прынята, і трэба выведаць у Бёлле, як надзейна ён будзе супрацоўнічаць з ім. І, нарэшце, ці варта так глыбока заходзіць?

— Баюся, пан Бёлле... Зразумейце, мяне пан Аўсберг выцягнуў з галечы, зрабіў чалавекам. Давярае мне, спадзяецца. І раптам я пачну працаваць супраць яго... Не, пан Бёлле. Гэта будзе непрыстойна з майго боку... Я ведаю, што гэта трэба для Германіі, для фюрара, але ж сумленне не дазваляе такое рабіць у адносінах да пана Аўсберга...

— Калі ідзе вайна, пан Дзенісевіч, трэба кіравацца не дзявочым



сумленнем, а тым, чаго патрабуе вайна.— Бёлле загаварыў строгім голасам, і Дзенісевіч заўважыў, што прапанова гестапа сур'ёзная і ад яго не адчэпяцца. «Адмоўлюся — прыбяруць з дарогі, каб не было лішніх сведкаў».

Бёлле гаварыў далей:

— Я прапаную вам супрацоўнічаць з гестапа, а гэта значыць, з галоўнай службай фюрара. Калі я так гавару, значыць, вы мне патрэбны і ад вас залежыць шмат. Ваша апошняе слова, пан Дзенісевіч? Згодны ці не?

«Пытанне рубам... Адмаўляцца нельга... Бёлле не на жарт раззлаваўся...»

— А калі даведаецца камендант? — спытаў Дзенісевіч.

— Пра гэтую гаворку ведаем толькі мы: вы і я. Калі даяце поўную згоду, я адкрыю вам і яшчэ адзін сакрэт. Ну?..

— Я гатоў падпарадкавацца вашай волі...

— Баязлівец вы, Ганс. Мне трэба больш рашучыя людзі. Шкада, што ў мяне няма выбару. Слухайце мяне ўважліва і запомніце: пра нашае супрацоўніцтва ніхто не павінен ведаць. Усю інфармацыю перадавайце... праз фройлен Аўсму. Гэта трэці і апошні сведка нашай сумеснай работы.— Бёлле пахадзіў яшчэ трохі па пакоі і дадаў:— Я вас, Ганс, зраблю сапраўдным разведчыкам.

— Яволь, пан начальнік... Дазвольце ісці?

— Жадаю поспехаў...

## VIII

Камендант атрымаў звесткі, што партызаны рыхтуюцца вызваліць ваеннапалонных. На інструктаж былі склікаты асобныя людзі. Тут была і фройлен Аўсма. Пасля настаўленняў каменданта яна кансультавала разведчыкаў, як карыстацца спецтэлефонам для перадачы разведдадзеных на вузел сувязі.

Потым было самае галоўнае. Камісія выклікала кожнага разведчыка асобна і выдавала паролі, клічкі, яўкі, час перадачы данясенняў і прыкметы тэлефонных слупоў, у якіх былі замаскіраваны разеткі і спецыяльныя тэлефонныя трубкі для перадачы інфармацыі. Кожнаму далі прачытаць тэкст смяротнага прыгавору. У ім было сказана, што калі хто не выканае заданне нямецкага камандавання ці пяройдзе да рускіх — расстрэл.

Дзенісевіч паказаў кожнаму, дзе трэба распісвацца, і кожны распісаўся. Чэчэнцу па клічцы «Крылаты» далі асобнае заданне: пранікнуць у атрад Антонава, падарваць штабную зямлянку, а калі не ўдасца — ліквідаваць сакратара райкома партыі і вярнуцца назад.

Пасля інструктажу з кожным развітваўся сам камендант, жадаў поспеху. Дзенісевіч пакуль не ведаў, якія заданні атрымала некалькі чалавек. Яшчэ раніцой іх выклікаў да сябе камендант і даваў настаўленні без сведкаў...

Пасля таго, як разведчыкаў адправілі ў лагер, камендант запрасіў да сябе Дзенісевіча, Кісцянкова і фройлен Аўсму. На стале разгарнуў схему лагера ваеннапалонных.

— Вось паглядзіце на карту... Падыходзяць партызаны не з боку лесу — там у нас моцныя сілы — а з тылу. Двум партызанам заданне — пранікнуць у энергаблок. Узарваць яго. Удасца — добра, не ўдасца — перарэзаць электраправады... І агонь, шквальны агонь па лагеры.— Аўсберг зіркнуў на ўсіх хітрымі вачыма.— Двое партызан— нашы людзі. Ім трэба толькі перарэзаць правады і адчыніць вось гэты

крайні барак. Палонныя, вядома, пачнуць уцякаць, але іх сустрэнуць нашы кулямётчыкі. Ніхто, акрамя разведчыкаў, не выйдзе з лагера. Цяпер я хачу пачуць вашу думку...

— Вы проста геній, Аўсберг! — заўважыла Аўсма.

— Мы не кампліменты прыйшлі гаварыць, фройлен... Больш думак! — не залюбіў Аўсберг.

— Энтшульдзіген зі... *

— Хто будзе выпускаць разведчыкаў? — запытаў Дзенісевіч.

— Вы, Ганс, — сказаў камендант.

— Яволь!..

Яшчэ раз абмеркавалі кожную дэталь аперацыі. Аўсберг папярэдзіў захоўваць усё ў вялікім сакрэце і дадаў:

— Аперацыя назначана на заўтра...

«Як, заўтра?..— не разумеў Дзенісевіч. — Сёння аперацыя. Апоўначы...»

Дзенісевіч прыўстаў. Усе паглядзелі на яго.

— У мяне ёсць прапанова, пан камендант. Ці не лепш папярэдне зрабіць некалькі засад.

Камендант, відаць, чакаў не гэтага.

— Разумная ў вас галава, Дзенісевіч. Але вы спазніліся са сваёй прапановай. Мы ўжо арганізавалі тайныя засады,— і звярнуўся да ўсіх.— Прабачце, дзеля праверкі я знарок сказаў, што аперацыя на заўтра. Аперацыя назначана на сёння.

— Асцярожнасць ніколі не шкодзіць, пан камендант,— Дзенісевіч быў задаволены, што ўрокі разведчыкаў пайшлі на карысць і яму.

— Асабліва пры рускіх...— сказаў Аўсберг і паглядзеў абыякава на фройлен і Кісцянкова.

●

У тую цёмную ноч Дзенісевіч сядзеў у траншэі. Вось-вось павінна згаснуць святло. Дзенісевіч падсунуўся да Аляксея Замошчына. Той павінен быў ісці з чачэнцам.

— Давай развітаемся, Аляксей,— Дзенісевіч узяў цёплую руку Замошчына і пацісну́ў, перадаючы складзеную паперку.— Я спадзяюся на цябе.

І каб не выклікала падазронасці ўвага да аднаго Замошчына, Дзенісевіч падпаўзаў да кожнага. Дзядзьку Піліпу наказваў:

— Глядзі, дзед, каб канапляныя вяроўкі вытрымалі...

— Дзякуй, паночак,— падміргнуў Піліп.— Я іх...

Недзе блізка застукацеў кулямёт, пачуліся вінтовачныя стрэлы, і некалькі выбухаў грымнула ля вартавой вышкі. Надрыўна загула сірэна. Вухнула недзе ля электраблока, і лагер ахутала цемра. Бразнулі дзверы крайняга барака, і нечы голас даў каманду: «Выходзь на волю, таварышы! Партызаны вас вызваляюць!..» Загаманіў барак, людзі сыпанулі на двор, пабеглі да калючага дроту...

— Пара...— разведчыкі кінуліся да агароджы.

Нехта з немцаў лічыў: «Адзін, два, тры...»

— Хутчэй! — камандаваў Дзенісевіч.

На двары чулася адрывістая каманда:

— Хальт!.. Цурюк! Хальт!..

Успыхнула святло аварыйнага электраблока. Дзенісевіч бачыў, як немцы секлі з аўтаматаў тых, хто ўцякаў. Вязні толькі цяпер заўважылі, што лагер акружаны гітлераўцамі. Кінуліся назад ад агароджы, пабеглі ў барак. Некаторых даганялі, рвалі аўчаркі... А за агароджай завязаўся бой. Хто ў каго страляў: партызаны ў немцаў ці свае ў сваіх — цяжка было разабраць.

Праз некалькі хвілін усё сціхла. Пражэктары паласавалі двор лагера і подступы да калючага дроту. Чулася каманда: «Пастроіцца!» З крайняга дашчанага будынка, парваныя і акрываўленыя, выходзілі на пераклічку вязні...

Тым часам камендант паклікаў Дзенісевіча ў бамбасховішча для сур'ёзнай размовы.

* Прабачце... (ням.).

## IX

Бралася на восень. Бярозы жоўклі. Чарнела на полі ржышча. Але па-ранейшаму весела і бестурботна спявалі лясныя птушкі. Здавалася, вайны няма і не было яе ніколі. На партызанскіх зямлянках, што гарбаціліся на новай стаянцы, ужо вырасла маладая травіца, побач былі пратаптаны сцежкі. Карнікі сюды не патыкаліся. Кожную раніцу партызаны вярталіся з чыгункі, і чуліся словы:

— Таварыш камандзір! Група падрыўнікоў заданне выканала...

Дзецям было цікава глядзець на такое, яны потым збіраліся на сваю лінейку і гэтак жа, як і старэйшыя, маршыравалі, рапартавалі, рабілі засады і «падрывалі цягнікі». Бесклапотнае, басаногае маленства! Дзеці яшчэ не ведалі, што праз дзень — другі атрад рушыць у вялікую дарогу, аж у Бранскія лясы, а ім давядзецца ісці са сваімі мацяркамі, бабулямі да знаёмых і родзічаў.

У камандзірскай зямлянцы гаварылі ціха. Тут быў упаўнаважаны абкома партыі Якаў Нікіфарук і начальнік аператыўнай разведкі абкома Мікалай Фядзеня.

Пачастунак для гасцей быў небагаты. Суп, бульба і, як дэлікатэс, ласяціна. Дазорныя памыліліся, прынялі ласіху за шпіёна і стрэлілі.

— Баюся я за Івана,— гаварыў Якаў Нікіфарук.— Начальнік гестапа — воўк мацёры. Ды і камендант не без зубоў. Але воўк ваўка не чапае. Паплоціцца Іван.

Мікалай Фядзеня дапіў малако.

— У нас ёсць звесткі, што Бёлле хоча пажаніць Івана з Аўсмай Крыге, а потым накіраваць іх у спецшколу пры абверы і закінуць на Вялікую зямлю... Яна добра ведае рускую мову і, па нашых меркаваннях, з'яўляецца тайным агентам гестапа...

— Гэта было б някепска,— перабіў Якаў Нікіфарук...— Але ў Івана ж свая сям'я... Вось у чым справа.

Антонаў збіраў са стала посуд і між іншым заўважыў:

— Яго яны і да гэтага часу правяраюць. Вось і з тым жа нямецкім афіцэрам. Аўсма сказала Івану, што ён застрэліўся...

— Дзе цяпер гэты афіцэр? — пацікавіўся Нікіфарук.

— Адправілі на перадавую за падазронасць, што выдаў нам план тайнага нападу.

Нікіфарук і Фядзеня ўсміхнуліся.

— Мы папярэдзілі Івана, каб пасля нас наладзіў сувязь з Запечкіным. Выдалі пароль і месца яўкі. Для іх гэта будзе сапраўдны скарб. Атрад ваенны, мясцовасці не ведае, людзей таксама.— Нікіфарук задумаўся. Потым спытаў у Антонава: — Слухай, Рыгор Антонавіч, у каго самы меншы атрад?.. У Аўтухова?.. Так... Анархіст ён вялікі, а людзей сабраў не шмат... Вось што. Пакінь яго атрад тут. Няхай па-



куль пабудзе, а калі прыедзе Запечкін, тады далучыцца да яго. Са «шпіёнаў» пакінем яму самых надзейных...

— За імі буду назіраць я, — сказаў Фядзеня.— Унясу карэктывы да інструкцыі... фюрара.

— Толькі не захапляйся,— Нікіфарук ведаў, што гэты малады чэкіст іншы раз рабіў эксперыменты, каб заблытаць ворага, а прайграваў сам.— Ведаю я тваё «навуковыя падыходы»... Ну, добра. Давайце пагаворым з «бежанцамі». Яны пакуль што пад вартай? — спытаў у Антонава.

— Вока не спускаем. Навучаны...

— Давай, Рыгор Антонавіч, па адным. Пастаў надзейную варту, і паспрабуем спачатку па-гестапаўску. Як яны будуць адчуваць?..

— Больш толькі пытанняў... Такіх, каб збіць з панталыку,— параіў Фядзеня.

Нікіфарук буркнуў, калі выйшаў Антонаў:

— Ён не менш за цябе разумее ў гэтай справе. Пасівеў, пакуль не





разблытаў клубок нямецкай разведкі. Так што глядзі... Не крыўдзі чалавека сваім «прафесіяналізмам».

Першы зайшоў Замошчын. Павітаўся па-вайсковаму. Яму прапанавалі сесці на ўслончык, бліжэй да стала.

— Скажыце, Замошчын, як вам удалося вырвацца з-пад шквальнага агню? — пытаўся Якаў Нікіфарук.

— Мая клічка «Зяблік», — пачаў той. — Завербаваны нямецкай разведкай. Вось дакумент.— Ён дастаў з кісета паперку,— наш «шэф» перадаў...

Пісьмо пайшло па руках. «Нашы Макрухін, Завадскі, Стрыжэвіч, Радзюшын, Емяльянаў, Замошчын. Астатніх праверце. Чачэнец мае асобнае заданне — узарваць камандзірскую зямлянку і вярнуцца назад. Іван».

На развітанне Антонаў папярэдзіў Замошчына:

— Заўтра вас з іншымі партызанамі пашлем па харчы ў вёску... Зможаце звязацца са сваім «цэнтрам» і перадаць, што мы прынялі іхніх разведчыкаў, як жаданых гасцей? Перадайце, што людзей у нас сотні тры. Не паверацъ, вядома, але скажыце, што далучылася рота ваенных.— Антонаў пераглянуўся з Нікіфаруком і дадаў: — Паспрабуйце вылучыцца сярод сваіх і «ўпісвайцеся» ў атрад. Гэта будзе нам патрэбна. Зможаце?

— Змагу, таварыш камандзір! Нас жа вучылі,— і, аддаўшы павайсковаму чэсць, выйшаў.

Следам зайшоў барадаты, худы чалавек гадоў сорак. Павітаўся, расказаў пра сябе, запэўніў, што выканае любое заданне.

— Як вы думаеце, Самсонаў,— Фядзеня перахапіў ініцыятыву,— чаму не ўдалася наша аперацыя па вызваленні ваеннапалонных? Мы зрабілі, здаецца, усё. І самае галоўнае выключылі энергаблок, з тылу, а не ад лесу зайшлі — і на́ табе! Усё выйшла не так, як было задумана. Толькі дзевятнаццаць чалавек і ўцяклі, і столькі ж, мусіць, лягло пад кулямі вартавых... Што вы думаеце?

Той падаў выгляд, што задумаўся. Потым пачаў плесці абы-што.

— Ведаеце, я сам электрык, таварышы... І думаю так. Як выключылі святло, немцы разгубіліся і ў паніцы не ўспомнілі, што ёсць запасны энергаблок. Вам трэба было адсекчы і яго. Тады ў цемры ўсе паспелі б выскачыць. А так...— і ён уздыхнуў.

— Так, прызнаемся, мы тут не дагледзелі,— падтрымаў Самсонава Нікіфарук.

Самсонаў гаварыў далей.

— Ляжу гэта я на нарах і раптам бачу, што святло патухла, страляніна пачалася. І голас кагосьці з вашых. Тут мы адразу кінуліся да агароджы. Удзень Янукевіч гліну капаў ля дарогі і маленькі падкоп зрабіў. Пакуль успыхнулі пражэктары, наш і след прастыў. Вось як яно, збавенне прыйшло... Дзякуй вам, таварышы...

«Мацёры воўк,— падумаў Антонаў і яшчэ пільней агледзеў «навічка». — З ім вуха востра трэба трымаць...»

Задавалі яшчэ шмат пытанняў. Папрасілі намаляваць схему лагера, назваць усіх начальнікаў, іх звычкі. І Самсонаў гаварыў, як па пісаным.

Астатнія раздзяліліся на два лагеры: адны называлі адразу свае клічкі, другія — толькі прозвішчы, і іх адказы ў асноўным супадалі з тлумачэннямі Самсонава. Дзенісевіч не памыліўся: шасцёра былі свае.

Камандзіры сядзелі яшчэ доўга. Абмяркоўвалі план пераходу; каго з «бежанцаў» адправіць з атрадам, каго пакінуць у раёне. Больш за ўсіх гаварыў Нікіфарук.

— Асноўныя сілы трэба адцягнуць,— такое рашэнне абкома партыі. У паход пойдуць усе, акрамя, як мы дамовіліся, Аўтухова. Трэба забраць ад яго тых двух. Пад выглядам, што папаўняем атрады надзейнымі людзьмі. А там, як дамаўляліся. Гестапа падумае, што загінулі ў дарозе. Возьмем з сабой «бежанцаў». Пакінем Замошчына і Емяльянава. Няхай працуюць у Запечкіна. На падыходзе атрад Грышні. Заўтра вечарам — у паход. Да абеду нікому не гаварыць. Перабяромся на новую стаянку...

Апошняя ноч перад дарогай. Астануцца тут пустыя зямлянкі, голыя сцежкі, папялішчы ад кастроў і гаманкія сосны.

Надрыўна ў балоце скрыпіць драч. Маўклівая, трывожная ноч...

## X

Кожныя суткі да поўначы дзяжурылі фройлен Аўсма і Дзенісевіч ля камутатара. Калі верхнія клапаны не свяціліся, гэта азначала, што ў лясах ціха. Фройлен чытала раман Талстога «Уваскрэшанне» і разпораз пыталася ў Дзенісевіча, што азначае тое ці іншае слова.

Кабінет фройлен, дзе была пастаянна ўключана рацыя, невялікі. Тут было горача і пахла печанай цыбуляй.



У гэтым доме размяшчалася некалькі тэлефонных камутатараў і радыёстанцый. На іх працавалі рускія жанчыны. За жанчын адказвалі Алена, а таксама нямецкія салдаты, якія абслугоўвалі некалькі камутатараў і ўсю радыёапаратуру. Салдатамі камандаваў каржакаваты стары эсэсавец у званні оберштурмфюрара.

Калі Дзенісевіч супакоіўся, фройлен спытала:

— Ты спіш, Ганс?

— Не, — адказаў ён.

— Ты богу верыш? — раптам запытала яна.

— Толькі д'яблу і жанчынам...— і засмяяўся.

— Ганс, я сур'ёзна...

— Веру, фройлен,— ужо сур'ёзна адказаў Дзенісевіч.— А ведаеце чаму? Веру таму, хто яшчэ мяне ніколі не ашукаў.

— Скажы, ты мяне кахаеш? Я хачу ведаць. Ну, скажы... Толькі праўду.— Яна прыхінулася да Дзенісевіча.

— Яволь, фройлен! — Ён пацягнуўся за цыгарэтай.

— Не куры, Ганс. І так дыхаць няма чым...

— Я мужчына, фройлен, і павінен курыць.

Памаўчалі.

— Усяму свой час, фройлен. Не бядуйце. Пасля вайны ў вас будзе столькі кавалераў... Ганяйцеся за жураўмі... За сініцай паспееце.

— А ў Зелянюк ты часта бываеш, — уздыхнула фройлен. — І не такі, мусіць, там ціхі.

— О не, фройлен, Зелянюк мая колішняя настаўніца. Я ёй прыносіў вершы на кансультацыю...

— Прысвечаныя ёй? — спытала Аўсма.

— Гэта надзвычай чулы чалавек. Да паэзіі і да людзей...

— Ну, гэта залішне,—не згаджалася фройлен.— Да паэзіі — разумею, але да вашых людзей, якія пазбаўлены самай элементарнай цывілізацыі...

— Вы не так зразумелі мяне, Аўсма,— пярэчыў Дзенісевіч.— Гэтыя беларусы, якія выраслі ў бядоце, галечы, ходзяць у лапцях, падшытых старою гумаю, у добрых умовах ператварыліся б у самую цывілізаваную нацыю...

— Я пра такое чытала ў Чарнышэўскага...

— І якое ж знайсці выйсце, каб набыць гэту цывілізацыю?

— Рускія не дужа прыхільна ўспрымаюць «новы парадак», Ганс.

— Вайна, фройлен. У кожнага народа вайна выклікае пратэст.

Запас фашысцкай прапаганды, відаць, скончыўся ў Дзенісевіча, і ён цяпер чакаў, што скажа фройлен.

— Ты, Ганс, пачаў з законаў прыроды. Але не ўлічыў адной акалічнасці. Існуе закон натуральнага адбору. Як сярод людзей, так і наогул у прыродзе. Дужы перамагае слабога. Ты згодзен з гэтым?.. Калі пераможам мы, а я ў гэтым не сумняваюся, рускай нацыі прыйдзецца стаць на калені.— Яна задумалася.

— Я ў гэтым не сумняваўся, Аўсма. А дзе мы будзем святкаваць перамогу?

— Нас запросяць Бёлле і Аўсберг. Гэта вялікія людзі. Ты мяне разумееш?

— Разумею, фройлен.

Раптам засвяціліся верхнія лямпачкі.

— «Гарызонт» слухае... «Зяблік»! — Дзенісевіч хутчэй узяў ручку.— Пішу... Калі? Тры дні назад?.. Чаму не папярэдзіў раней, балван!

Аўсма тузанула Дзенісевіча за руку. Маўляў, не лайся, спакайней.

— Вось што?! Калі прыйдзе новы атрад?.. Невядома. Добра. Як толькі будуць якія змены, паведамляй адразу. Будзь асцярожны, «Зяблік». Шчасліва. Перадай прывітанне ад усяго «Гарызонта». Чакаем вестак.

Паведамленне на гэты раз было прыемнае: усе ў наяўнасці. Большасць пайшла з партызанамі ў лясы на ўсход, некаторыя пакінуты для папаўнення новага партызанскага атрада.

## XI

Калі-нікалі прыходзіла да Дзенісевіча сястра, раілася з ім, забірала ад яго лістоўкі, якія яны з Вуленкам і Цялюпікавым пісалі для падпольшчыкаў, слухала апошнія зводкі Саўінфармбюро і, абнадзееная, вярталася дадому.

У Дзенісевіча асталіся толькі трое: Вуленка, Цялюпікаў і сувязная Зелянюк. Астатнія людзі — паліцаі былі адпраўлены ў партызаны разам з апошняй аперацыяй. Яго мучыла цяпер, як залучыць да сябе новых надзейных хлопцаў. Вуленка прыглядаецца да сваіх. Цялюпікаў шукае надзейных сярод перакладчыкаў. Дзенісевіч звярнуў увагу на двух маскоўскіх артыстаў, Акаронава і Рузеніна, якія па недарэчнасці апынуліся на акупіраванай тэрыторыі і цяпер зараблялі сабе на хлеб у царкоўным хоры. Рэкамендаваў іх туды Дзенісевіч, бо даведаўся, што бацька Акаронава некалі быў папом.

Нарэшце Дзенісевіч рашыў зайсці да артыстаў і пагаварыць з імі. Трэба арганізаваць цэнтр, а там кожны будзе ствараць вакол сябе падрыўныя групы.

Рузеніна Іван сустрэў ля цырульні. Ён заходзіў, відаць, пагаліцца, а цяпер ішоў дамоў. Роўным, прыгожым голасам, на манер старога інтэлігента, Рузенін спытаў:

— Чым магу служыць, пан Дзенісевіч?

— Хачу з вамі пагаварыць. Ёсць хто-небудзь дома?.. Тады пойдзем да вас...

Пакуль Рузенін клапаціўся наконт пачастунку (госць жа такі!), Дзенісевіч разглядаў кніжную паліцу. Зайшоў Рузенін з бутэлькай і збялеў.

— Што з вамі, Рузенін? — спытаўся Дзенісевіч.

— Ды так... Нешта нездаровіцца... Галава часта баліць, сэрца коле. Быццам мор які...

— Ваш кумір? — паказаў Дзенісевіч на партрэт Чайкоўскага.

— Чайкоўскі? Геніяльны чалавек, якіх, апрача яго, няма.

На другім баку рамкі Дзенісевіч убачыў партрэт Леніна.

— Не баіцёся? — не адразу запытаў Дзенісевіч.

Рузенін маўчаў, усё трымаючы пачастунак у руках. Увесь збялелы, занепакоены.

— Стаўце на стол! — параіў Дзенісевіч.— А партрэт Ільіча схавайце ў надзейнае месца. Так рызыкаваць нельга...

— Дык вы нікому не скажаце? — нібы апрытомнеў Рузенін.

— Дакуль вы будзеце богу маліцца? — пільна паглядзеў на яго Дзенісевіч.

— Я не разумею вас...

— Я таксама не разумею...— Дзенісевіч быў строгі.— Айчына ў агні, а вы богу моліцеся...

— Мы зарабляем на хлеб... Як і вы...



— Не пра мяне гаворка,— перабіў Дзенісевіч.— Вы паглядзіце на людзей не са сцэны і не з амвона, а вачыма савецкага чалавека.

— Я ніколі б не падумаў, што вы...

— Многа вы думаеце, Рузенін,— нібы папракнуў яго Дзенісевіч.— Больш за год пад акупацыяй, а ўсё думаеце. Ці не час узяцца за справу...

— Якую? — здзівіўся Рузенін.

— А якую б вы сабе выбралі на вашым месцы?

Рузенін запнуўся, паглядзеў падазрона на Дзенісевіча.

— Скажыце шчыра, Дзенісевіч, вы прыйшлі мяне шантажыраваць?

— Калі шчыра гаварыць, нас асталося мала. Я хачу прапанаваць вам абодвум працаваць з намі,— выклаў карты Дзенісевіч.— Што за чалавек Акаронаў? Пойдзе?

— Пойдзе, — паспакайнеў Рузенін.— Што нам трэба рабіць?

— Спачатку прайсці выпрабавальны тэрмін.

— Як гэта?

— Вам скажуць... Перадайце маю просьбу Акаронаву, але асабліва не распаўсюджвайцеся. Здалёк пачніце. А цяпер давайце вып'ем за нашу перамогу.

І абодва засмяяліся, і гэта неяк адразу зблізіла іх.

А назаўтра Тоня Зелянюк разам з малаком прынесла Рузеніну ўзрыўчатку для выканання выпрабавальнага задання — узарваць хлебапякарню, дзе пяклі хлеб толькі для немцаў.

## XII

Ноч скаланулася. Задрыжэлі шыбы, паўсхопліваліся людзі. Над пякарняй засвяцілася зарыва. Вецер з дажджом кудлачыў полымя, віхурыў чорны смалісты дым. Потым пачуліся кароткія, як палкай па штыкетніку, аўтаматныя чэргі... І зноў ціха. Па вуліцы пранеслася некалькі матацыклаў з салдатамі. Услед беглі паліцэйскія.

Падхапіўся з пасцелі Дзенісевіч.

— Я пабег,— сказаў ён жонцы.— Пякарню хлопцы ўзарвалі... Пісталет падай!..

— Твая работа? — яна са страхам паглядзела на мужа.

— Акрамя мяне, ёсць і яшчэ людзі... А ты лажыся, лажыся. Глядзі дзяцей.

За ім бразнулі дзверы. Пайшоў.

Горад не спаў... Гарэла нямецкая пякарня.

Раніцой Дзенісевіч зайшоў да Рузеніна і Акаронава. Ведаў, што гаспадыня на рабоце, а Люся, гаспадынiна дачка, выконвае тэрміновае заданне Вуленкі. Хлопцы яшчэ спалі. Ля ложка стаялі брудныя боты і валялася вопратка. На стале — пустая бутэлька ад самагонкі. Не інакш, хлопцы «замачылі» сваю першую баявую аперацыю.

— Устаць! — на ўвесь пакой крыкнуў Дзенісевіч.

Абодва ўскочылі, як уджаленыя. Залыпалі вачыма, спалохаліся.

— Вось гэта,— Дзенісевіч паказаў на боты і брудную вопратку,— зараз жа схаваць! І каб больш не рабілі так... Цяпер віншую ад імя райкома партыі! — Ён моцна пацiснуў хлопцам рукі.— Будзьце асцярожны.

Хлопцы былі задаволены, але Дзенісевіч строга папярэдзіў:

— Не надта захапляйцеся рамантыкай,— і спакайней загаварыў: —Нам патрэбны новыя людзі. Падумайце, каго яшчэ...

— Ёсць у мяне тры палякі,— сказаў Акаронаў.— Харошыя, здаецца, хлопцы. Можа, і камуністы нават. У цагляным бараку жывуць... Інжынер Куля... Смелы, адважны чалавек...

— А канкрэтна?

— Расказваў мне па сакрэце, як ён гэтай зімой раскалашмаціў нямецкі эшалон. Знайшоў недзе гранату, падвязаў яе да буфера. На спуску машыніст рэзка затармазіў, і граната ўзарвалася. Палова вагонаў асталася стаяць на чыгунцы, а цягнік пайшоў далей — машыніст не пачуў выбуху...

— Дрэнна, што ён пра гэта расказвае,— заўважыў Дзенісевіч.

— Ды ён толькі мне. Астатнія палякі і цяпер не ведаюць. З ім яшчэ двое: Ян Сухадольскі і Казімір Кшыжэўскі. Таксама хлопцы што называецца...

— Паручаешся за іх?

— Галавой!..

— Іван Піліпавіч, а што за чалавек гэтая Люся? — раптам спытаў Рузенін.— Дома на чым свет стаіць лае фашыстаў, а сама працуе на іх...

— Люся чалавек супярэчлівы,— адказаў Дзенісевіч і тут жа бліжэй падсеў да Рузеніна.— А цяпер параіцца трэба. Няма куды складваць зброю. Дома я не трымаю. У астатніх таксама нельга. Трэба такое месца, пра якое б немцы і падумаць не маглі...

— У царкву, Іван Піліпавіч, — адразу прапанаваў Акаронаў. — Айцец мне давярае.

— Ну, добра, хлопцы. Да вас я больш заходзіць не буду. Хіба толькі калі на вуліцы сустрэнемся. Сувязь праз «Ластаўку»... Так трэба для канспірацыі... Пра палякаў дамовіліся?.. Ну, бывайце! Усяго добрага вам.

## XIII

Арганізаваная Аўсбергам карная аперацыя вынікаў не дала. Наадварот, у апошні дзень нямецкія роты наткнуліся на шквальны агонь моцна ўзброенага атрада. Тады гестапа і тайная паліцыя спешна арганізавалі большыя сілы і замкнулі кола блакады, але тыя, каго шукалі, як скрозь зямлю праваліліся.

Пасля паходу Дзенісевіч захварэў: паясніцу сціснуў раматус. Прыйшлося ляжаць дома. Аўсберг прысылаў некалькі разоў свайго ўрача. Той рабіў уколы і даваў мікстуру, але хвароба не адступалася. Дзяжурыла на пошце адна толькі Аўсма. А расследаванне па ўзрыве пякарні і трох эшалонаў вялі Кісцянкоў, Вуленка і некалькі супрацоўнікаў СД. Вінаватых не знайшлі. Дзенісевіча палохала адно. На вакзале дзяжураць тайныя паліцаі. З імі работнікі СД і Кісцянкоў. А Акаронаў не папярэджаны.

Цяпер, калі Дзенісевіч астаўся адзін, ён усё ўзважыў, абдумаў. А ці не зрабіў якой памылкі за час работы ў паліцыі? Цяпер ён адказвае і за таварышаў, якім дае заданні.

Па начах Дзенісевіч слухаў Маскву, прыкідваў, колькі яшчэ яму асталося тут. Можа год, можа меней. Нашы ж наступаюць! Яшчэ раз падумаў пра кожнага, хто сёння падпісаў клятву. Гэтым людзям ён верыў, але не мог з імі падзяліцца наконт аперацыі «Гарызонт». Апроч райкома і разведкі, пра яе ніхто не павінен ведаць. А цяпер ціха стала ў лясах і адначасова сумна і пуста на душы. Супакойваўся, калі чуў, як узлятаюць эшалоны, склады боепрыпасаў. А ў склепе айца Нікадзіма магнітныя міны. Гэта «тавар» для палякаў... Трэба яшчэ выдаць кожнаму па пісталеце. Думалася яшчэ і пра тое, што трэба ўзарваць мост і нямецкую палавіну пошты. Няхай у тую ноч ён сядзіць на дзяжурстве з Аўсмай...



Прыйшоў доктар і немец Адэм Крыгер, добры знаёмы Дзенісевіча. Крыгер любіў вершы і сам трошкі пісаў. Ён з немцаў-паволжцаў. Пісаў на рускай і нямецкай мовах. Вось і сёння ён прыйшоў з вершамі, а заадно з пачастункам — бутэлькай шнапсу. Вершы Адэма былі далёкія ад палітыкі. Пісаў ён пра каханне, пра Волгу, на якой вырас. Дзенісевіч не вельмі крытыкаваў Адэма, бо часам і не было за што. Вершы як вершы. Крыгер выходзіў ад Дзенісевіча акрылёны, а назаўтра прыходзіў пахваліцца новымі. «Сяброўства» іх мацнела. Праз нейкі час Дзенісевіч падумаў: а што, калі б і яго да сябе далучыць? Але тут жа адмовіўся, усё такі немец, вораг. Тым больш, Адэм чалавек не вельмі надзейны. Пра вайну ён разважае так: калі ёсць вайна, мусіць, так трэба, бо воля фюрара для немцаў — бясспрэчны закон. Адэм і чалавек балбатлівы. Ён мог выдаць службовую тайну, бесперастанку гаварыць пра сваіх камандзіраў. І Дзенісевіч рашыў «сябраваць» з Адэмам Крыгерам, як і раней.

Праз два дні Адэм разам з вершамі прынёс навіну: немцы адступілі ледзь не па ўсім фронце!

Потым прыйшла Аўсма. І выбрала ж момант: якраз Алена пайшла на другую змену.

— Нам прыбавілася работы, Ганс,— заклапочана пачала яна.— Праз лінію фронту пераляцела некалькі рускіх самалётаў і ў раёне нашай акругі высадзілі вялікі дэсант. Чалавек дзвесце. Трэба быць напагатове. Гэта паміж намі. Пакуль абсалютны сакрэт. І яшчэ: «Зяблік» паведаміў, што ў іх усё па-старому. Атрад з дваццаці чалавек сядзіць у глыбіні лесу і носу не паказвае... От бы ўсе партызаны так! Вось яшчэ што. Хутка мы пусцім па лясах паліцыю і карнікаў. Будзем прачэсваць. Вуленку далі заданне падбіраць людзей для выканання задання. А пра дэсант Вуленку ні слова.

— Трэба нашых разведчыкаў далучыць да іх, — прапанаваў Дзенісевіч.— Тады мы не будзем сляпыя.

— Не трэба... Яны самі падбяруць пакінутых партызан. Дзвесце чалавек для іх мала, калі ўжо Масква іх сюды паслала. Будуць вербаваць.

Фройлен пабыла нядоўга. Спытала, як здароўе, настрой, паабяцала заходзіць кожны дзень і пайшла.

У Дзенісевіча абудзіўся цэлы рой думак...

## XIV

Пасля хваробы Дзенісевіч наведаў Бёлле і Аўсберга, атрымаў ад іх інструкцыі і настаўленні. Потым мімаходзь завітаў да фройлен Аўсмы. Яна пасадзіла яго ў мяккае крэсла, пачаставала чорнай кавай. Прысела поплеч і сама. Але гаворка не клеілася. Сказала толькі, што разведчыкі перадаюць адно і тое ж: сядзім у лесе, зарабляем аўтарытэт. Дзенісевічу стала сумна, і ён, спаслаўшыся на неадкладную работу, пайшоў на службу.

Якраз перад абедам, калі выйшла Люся, асцярожна адчыніліся дзверы. Усунуўся мужчына гадоў пад сорак. Пакланіўся, дастаў з кішэні паперку, у якой было надрукавана, што нямецкія ўлады будуць шчодра ўзнагароджваць мясцовых жыхароў, калі тыя выдадуць лясных бандытаў.

— Пан начальнік, — нясмела пачаў мужчына.— Я да вас па важнай справе. Быў гэта ранічкай сёння ў лесе. Ля Камянцоў, мо ведаеце... За дровамі ездзіў. Насек гэта, як павезці, і раптам чую— на палянцы хтосьці з некім гаворыць. Дай, думаю, падыду, паслухаю... Усякія цяпер людзі ходзяць. Гляну гэта я з-за дрэва, ажно на паляне сядзяць трое. Аднаго я добра ведаю. Якаў Ларчук. Жыве ў Малых Камянцах. Ну, значыць, гавораць, што заўтра, якраз у поўдзень, партызанскі камандзір прыйдзе да гэтага самага Якава, каб сустрэцца з нейкім фершалам. Я, гэта самае, ціхенька да воза свайго. Перачакаў трохі ды пасцябаў сваю кабылку хутчэй дадому. І во цяпер да вас. Кажуць, што вы якраз гэтымі бандытамі і займаецеся...

— Хто яшчэ пра гэта ведае? — строга запытаў Дзенісевіч.— Каму больш расказвалі?

— Божа барані,— перахрысціўся мужчына.—Пра такое і гаварыць каму страшна.

— Вельмі добра, што вы аб гэтым паведамілі ўладам. Нямецкае камандаванне не забудзе вашага ўчынку. Выдадзім вам добрую ўзнагароду... А вы самі адкуль?

— Я з Вялікіх Камянцоў. Мая хата якраз ля старастовай. Другая, калі ехаць з горада... А партызаны тыя, мусіць, з-за Сажа. Не па-нашаму і гавораць...

— Добра,— абарваў яго Дзенісевіч.— Пра гэта нікому ні слова. Нават жонцы. Заўтра апоўдні мы сустрэнемся з вамі ў канцы лесу, што ля Бярозаўкі. Вы мне пакажаце, як ісці ў Малыя Камянцы. Я ў тым краі яшчэ не быў... Дамовіліся?

— Ага, паночку, дамовіліся,— пагадзіўся той.— Толькі ж і вы, паночку, каб пра мяне нікому. А то ўсякае бывае... Вы што, адзін да іх пойдзеце?..

— Будзе відаць... Я буду ў цывільным. І яшчэ. Як ваша прозвішча?

— Лукаш я, а па прозвішчу Сырчанка,— спяшаўся адказаць мужчына.— Толькі ж дужа прашу, паночак, каб усё было шыта-крыта. Я ж дабра вам хачу... Ну, то дзякуй.

Пра гэты выпадак Дзенісевіч расказаў толькі Вуленку. Рашылі ехаць. Стаяў канец жніўня 1942 года.

...Нарэшце лес парадзеў. Крок-два, і рассунецца прасцяг былога калгаснага поля, жаўцізна спелага жыта, рудаватыя палеткі бульбы. А вось і тое месца, дзе павінен сустрэцца Дзенісевіч з тым мужчынам, які ўчора расказваў пра партызан. Лукаша пакуль не відаць. Але праз колькі хвілін на ўзлеску паказаўся чалавек. Ён...

Дзенісевіч падышоў бліжэй.

— Не схлусіў? — строга і гнеўна паглядзеў на Лукаша Дзенісевіч.

— Божа барані, паночак... Якраз апоўдні. У абед, значыцца...

— Ты служыш у нас, ці прыходзіў першы раз? — пацікавіўся Дзенісевіч.

— Першы раз, паночак. Не даводзілася дагэтуль...

— І апошні раз, сволач! — Дзенісевіч выняў з кабуры пісталет.— Імем Савецкай улады за данясенне на партызан я прыгаворваю цябе да расстрэлу. Без суду і следства...

Суха ляснуў стрэл...

Хата Якава Ларчука стаяла на краі вёскі. Дзенісевіч спярша пастаяў на двары, агледзеўся, потым нясмела зайшоў у хату, падзеньдобрыўся з гаспадыняй.

— Дзе ж ваш гаспадар? — пацікавіўся.



— Навошта ён табе, чалавеча?

— Вот ты цётка якая. Усё табе трэба ведаць. Калі гаспадара пытаюся, то, мусіць, важную справу да яго маю,— сказаў Дзенісевіч не то жартаўліва, не то сур'ёзна.— Дык дзе ж хадзяін?

— Ён у мяне чалавек такі, што давярае, каб і са мной гаварылі пра яго дзялы.— Цётка хацела, пэўна, загаварыць Дзенісевіча, каб гаспадар паспеў схаваць госця. Нарэшце яна клікнула: —Якаў! Аглух ты, ці што? Чалавек во да цябе... Гэта ж ты ці не Піліпаў будзеш? Піліпаў?! А-а... А то я гляджу на цябе, ды бацьку твайго ўспомніла. На вечарынках разам з ім, царства яму нябеснае, кадрылю да поту круцілі... Во, бач ты, і сын у людзі выбіўся. Чула ж я, што ты да высокага начальства даслужыўся... Ну, няхай памагае бог...

Выйшаў Якаў. Павітаўся:

— Чым магу служыць новым уладам?..

Дзенісевіч падаў руку і прапанаваў:

— Пойдзем у тую хату. Гаворка ёсць...

— А і тут можна.— Якаў быццам і не зважаў на важны чын паліцэйскага.— Месца багата. Садзіся во тут... Хрысця, вытры для чалавека табурэт!

— Не бойся, дзядзька Якаў. Я ўсё ведаю. Пойдзем лепш туды. Дужа сур'ёзная размова.

— Ну, калі ўжо такая сур'ёзная,— Якаў нехаця ўсміхнуўся і адчыніў дзверы ў другую палавіну хаты.

— О, як накурана тут у вас,— здзівіўся Дзенісевіч.— Няўжо гэта вы адзін так, дзядзька Якаў?

Якаў разгубіўся, памуляўся трохі. А потым:

— А часу хапае. Сяджу дома ды смалю патроху...

— Дзе ж гэта вы гасцей сваіх схавалі? Ці можа не прыйшлі яшчэ?

— Пра каго ж гэта вы, пан Дзенісевіч?.. Так, здаецца, вас велічаюць?.. Цяпер у госці рэдка хто ходзіць. Няма чым частаваць.— Якаў не падаваў выгляду. Пасадзіў Дзенісевіча на табурэтку, прапанаваў кісет з махоркай.

— Рэдка ходзяць,— падтрымліваў гаворку Дзенісевіч,— а людзі ведаюць, хто да каго прыходзіць, і нават па якіх справах...

— Што праўда то праўда. Цяпер людзі пра суседа ведаюць больш, чым той сам пра сябе...

— Ну, добра,— рашыўся Дзенісевіч.— Часу ў мяне не шмат. Хачу пагаварыць з вашым госцем... Таго, хто данёс мне пра вашу ўчарашнюю размову ў лесе на паляне, ужо няма. Ляжыць мёртвы ў бярозаўскім лесе. А вам і тым двум трэба быць асцеражнейшымі. У лесе ёсць не толькі партызаны...

Занавеска закалыхалася. Выйшаў незнаёмы чалавек сярэдняга росту ў зрэбнай кашулі, хударлявы, не шырокі ў плячах, але, па ўсім відаць, чалавек вайсковы, падцягнуты. І адразу строга і зняна цку:

— Ваша прозвішча Дзенісевіч?.. Значыць, вось вы які! Будзем знаёмы. Запечкін, камандзір асобага партызанскага атрада... Мне гаварылі пра вас у цэнтры. Антонаў рэкамендаваў...

Якаў здзівіўся.

— Рад сустрэчы,— коратка адказаў Дзенісевіч.— А ўсё ж вы рызыкуеце, калі думаеце, што лес — таямніца...

— Поўнасцю згодны з вамі... Дзякуй вам.— Запечкін другі раз паціснуў руку Дзенісевічу.— Мы тут нядаўна...

— Я ведаю...

— Ага... Я зусім забыўся. Вы ж цяпер...— Якаў заўважыў погляд

Запечкіна і выйшаў,— ...наш контрразведчык. Але хачу заўважыць, што пра вас ходзяць чуткі, як пра сапраўднага нямецкага пасобніка.

— Дзякуй. Таго і дамагаўся. Без гэтага нельга...

— Разумею... У вас часу не многа?.. Добра, што мы сустрэліся. Цяпер будзем працаваць разам. Да вас я прымацаваў сувязнога. Пароль: «Куля — Палтава — Пяць».

Яны селі за шырмай на ложку. Запечкін загаварыў адразу:

— Наш атрад з ваенных. У нас асобыя заданні. І першае з іх — паралізаваць нямецкі тыл. Пакуль што мяркуем абяззброіць паліцэйскія гарнізоны... І вось да вас просьба. Каб менш было крыві, падкажыце, якія ўправы могуць здацца ў палон без бою?.. Наконт немцаў я не гавару. З імі іншая справа. А з гэтымі мы будзем начыстую... Разумееце?..

Дзенісевіч кіўнуў галавою і дадаў:

— У Кухаках можна хоць сёння здаваць гарнізон. Там наш чалавек. Васіль Ткачук. Былы афіцэр Чырвонай Арміі. З астатнімі падумаем.

— Разведчыкі вашы працуюць у мяне. Добрыя хлопцы. Можаце падбіраць людзей... Дзякуй.— Запечкін, было прыкметна, спяшаўся.— Пакуль няхай працуюць. Будуць перадаваць некаторыя «сакрэты», каб дарэмна не елі нямецкі хлеб. Пасля, праз месяцы два-тры, на вас будзе працаваць два-тры чалавекі. Вы не супраць?..

— Не,— адказаў Дзенісевіч.— Толькі рабіце так, каб не было падазронасці...

— За гэта не хвалюйцеся. Я не першы год на службе...

— І яшчэ адно. Мы думалі разгарнуць у раёне агітацыю. Ды толькі сіл у нас няма. Разумееце, цяпер народ валіць валам у царкву. Рэдка калі туды заглядваюць паліцаі, а немцы зусім не заходзяць. І вось каб хто з вашых палітінфармацыю зрабіў... Так, так, у царкве... У нас там ёсць свае хлопцы, у хоры пяюць. Артысты маскоўскай эстрады. Думаю, памогуць...

— Думка добрая,— зацікавіўся і разам з тым задумаўся Запечкін.— Але як зрабіць практычна?

— На якое-небудзь свята,— загарэўся Дзенісевіч,— калі дамовімся, мы пойдзем ці на заняткі, ці прачэсваць лес, а вы і нашы хлопцы з Бярозаўскай камсамольскай арганізацыі праведзяце аперацыю. Толькі майце на ўвазе, айцец Нікадзім чалавек не дужа згаворлівы. Яго, мусіць, пад пісталетам трэба... Там жа можна і лістоўкі раздаць, і добрае слова людзям сказаць...

Яны сядзелі доўга і гаварылі не змаўкаючы. Ячэня, што прыгатавала Хрысціна, астыла, але Якаў не заходзіў — разумеў, што яму там няма чаго рабіць. Не бачыў ён, як Дзенісевіч перадаў Запечкіну карту раёна, на якой былі памечаны паліцэйскія і нямецкія гарнізоны, управы, участкі...

Толькі прыцемкам Дзенісевіч сеў на свой веласіпед, каб ехаць назад, у горад.

## XV

На свята людзі высыпалі на вуліцу — ішлі да царквы. Там ужо звінелі званы. Людзі спяшаліся на ранішні малебен, каб упрасіць усявышняга злітавацца над пакутнікамі, каб хутчэй уляглася вайна, каб асталіся жывымі, хто цяпер у акопах.

Прыбраўшыся, пайшла ў царкву і старая Піліпіха. Цяпер яна жыла ў Івана. Дома работы ніякай, усё ўпарадкавала і прыехала ў горад,



каб сёе-тое памагчы нявестцы ды пабачыць унукаў. Сёння ж, на свята, яна мусіла схадзіць у гарадскую царкву.

На яе дыхнула рэзкім пахам ладану і затхлай цвіллю. Саступіла ўбок, каб не штурхалі ў праходзе. Сцішылася. Тут яна ўбачыла дачок Васіля Меранюка і сваю Марусю. «Чаго ж гэта яны тут?— падумала старая.— Яшчэ якой бяды натвораць у божым храме!» Хацела падацца бліжэй, ды дзе там. Столькі людзей — дыхнуць няма як. У дзвярах яна прыкмеціла хлопцаў, што некалі аж да трэціх пеўняў заседжваліся ў яе хаце.

Калі айцец Нікадзім распачаў ранішнюю малітву, хор заспяваў святыя песні. Маруся, заўважыла Піліпіха, праціснулася ў сярэдзіну. І тут жа ўбачыла, што яна пачала раздаваць лістоўкі. От жа знайшла месца! А людзі ўжо не слухалі айца Нікадзіма, а шапталі адзін аднаму: «Святыя пісьмы ангелы разносяць. Трэба, кажуць, перапісаць і добрым людзям перадаваць...»

А праз нейкі час у бакоўцы айца Нікадзіма ішла дзелавая размова. Невысокі мажны чалавек у хромавай куртцы сядзеў насупраць айца і гаварыў з ім, нібы па-набожнаму:

— Як вы думаеце, айцец Нікадзім, надоўга вайна зацягнецца?

— На ўсё гасподня воля...

— А не маглі б вы, айцец, як чалавек божы, памагчы паскорыць канец гэтаму нашэсцю?

Айцец Нікадзім падазрона паглядзеў на незнаёмага: «Правярае ці насміхаецца?» — і сказаў ціха:

— Малітвы мае дзеля супакаення душы чалавека, дзеля ўсмірэння перад госпадам богам.

— Баязлівасць людзей перад богам павялічвае нашу бяду ў дзесяткі разоў. Вы разумееце, айцец?

— Я не ўмешваюся ў палітыку. Двух праціўнікаў рассудзіць сам бог...— айцец перахрысціўся і ўздыхнуў.

— Не, бацюшка,— усміхнуўся чалавек.— Чакаць гэтага суду мы не будзем. Я паважаю ваш сан, але згадзіцца з вамі не магу. Ды і не час нам займацца дыскусіяй. Ад вас, айцец Нікадзім, нашаму партызанскаму атраду патрэбна дапамога.

З-пад чорных смалістых броваў, якія зліваліся з разгалістай барадой, на нетутэйшага чалавека зыркалі спалоханыя вочы.

— Чым жа, сын мой, я магу служыць вам?

— Вось што, айцец Нікадзім,— памаўчаўшы крыху, загаварыў чалавек у скуранай куртцы.— Савецкая ўлада, прадстаўніком якой вось я тут, ніколі вас не крыўдзіла. Думаю, што і на яе вы не ў крыўдзе. Вось вам ад імя Савецкай улады першае заданне, і надзвычай важнае... Можаце сказаць, царква адлучана ад дзяржавы і нічога з палітыкай не мае? Усё правільна. Ды цяпер такі час. Вы мяне разумееце, святы айцец?

Айцец адразу збялеў.

— А цяпер прыступім да самага галоўнага,— гаварыў далей партызан.— Па-першае, вы павінны на кожным малебне даць зразумець набожным, што Савецкая ўлада як стаяла, так і будзе стаяць. Чырвоная Армія хутка вернецца. Людзі павінны верыць у нашу перамогу. Асабліва майце на ўвазе запаведзі, дзе гаворыцца аб здрадзе і дапамозе ворагу... Вы добра ведаеце, пра што я гавару... Як вам рабіць, падумайце самі. Старайцеся рабіць, каб гэта не выклікала падазронасці... А каб вы на баяліся, на кожным малебне будуць нашы людзі. Яны вас будуць і правяраць, і берагчы.

Айца Нікадзіма мучыла адно, што цяпер святое месца ператворыцца ў бальшавіцкі клуб, і людзі перастануць хадзіць у царкву.

— Я спадзяюся, што пра нашу размову, акрамя нас, ніхто ведаць не будзе,— папярэдзіў партызан.— Да вас гэтымі днямі загляне адзін наш чалавек. Пароль дадзім пасля.

Айцец Нікадзім маўчаў. Яму не падабалася тая ўпэўненасць, з якой гаварыў партызан.

— Яшчэ раз паўтараю, айцец Нікадзім, аб гэтым ніхто не павінен ведаць. Калі што... самі ведаеце... Бог тут ужо не суддзя...

— А цяпер, святы айцец, прыступім да першай аперацыі. Мы з прыхаджанамі, з вашага дазволу, некалькі хвілін пагаворым. А каб вы тут былі ні пры чым, звяжам вас, завяжам рот... Самі разумееце, што гэта адвядзе ад вас бяду.

— Ну што ж,— пасля доўгага маўчання пагадзіўся айцец.— На ўсё воля гасподня...

Піліпіха слухала малітву і ўсё старалася зразумець, што да чаго. Дзяк, які чытаў за царкоўнай кафедрай, нібы глытаў словы. І раптам за кафедру ступіў чалавек у скуранай куртцы. Спачатку ласкава ўсміхнуўся і пакланіўся людзям, потым сказаў:

— Браты і сёстры! Я прашу не лічыць мяне анціхрыстам і бязбожнікам, што я без вашага дазволу часова заняў месца айца Нікадзіма. Мяне паслала да вас Савецкая ўлада. Так, так... Не здзіўляйцеся. А гаварыць я буду толькі пра святыя справы нашай Айчыны. Фашысты трубяць, што ўзялі Маскву. Хлусня гэта!.. Прабачце мне за такое слова ў святым месцы. Савецкая ўлада існуе ўсюды. Фронт цяпер павярнуў назад, на Берлін... Цяжка нам, вы гэта добра разумееце. Але гарыць зямля пад нагамі ворага. І ў вас у горадзе ледзь не кожную ноч узрываюцца фашысцкія эшалоны, склады, масты. Гэта справа савецкіх людзей...

Піліпіха заўважыла, як чалавек пaглядзеў на дзверы, а потым ціха і строга сказаў:

— Сюды ідуць немцы. Прашу захоўваць належны парадак. Працягвайце служэнне!..

Ён сышоў уніз і стаў ля сцяны. Дзяк некалькі разоў перахрысціўся і ўжо не мог вымавіць і слова.

— Працягвайце. Я вам загадваю! — моцна, каб чулі ўсе ў зале, сказаў партызан. Зразумеўшы, што дзяк вось-вось страціць прытомнасць, узяў у яго малітвеннік і стаў за кафедру. Пачаў:

— Отче наш, иже еси на небеси...

Веруючыя падхапілі малітву.

Немцы хацелі прабіцца ў царкву, але хлопцы стоўпіліся ў дзвярах. Немцы пастаялі ля ўваходу і пайшлі назад.

А прамоўца працягваў:

— Людзі добрыя! У раёне існуе Савецкая ўлада. У раёне дзейнічае некалькі партызанскіх атрадаў. Дапамагайце ім чым можаце: хлебам, зброяй, добрым словам, спагадай. Не паддавайцеся на фашысцкую правакацыю. Як толькі можаце помсціце ворагу. Пад яго нагамі павінна гарэць зямля. За вамі Савецкая ўлада і Чырвоная Армія... Мы некаторым тут перадалі «святыя пісьмы». Гэта апошняя зводка Саўінфармбюро. Перапісвайце яе і размнажайце. Няхай савецкія людзі ў тыле ворага ведаюць пра нашу перамогу. Мы будзем яшчэ сустракацца з вамі, людзі добрыя. Пра нашы справы вам скажуць хаўтуры ў фашыстаў і здраднікаў Радзімы. Жадаю вам стойкасці, поспехаў у барацьбе з лютым ворагам.



Няхай жыве наша перамога, таварышы!..

І пачуліся ў божым храме воплескі. Спачатку асцярожныя, а потым усё дружнейшыя і смялейшыя.

Піліпіха ішла дадому і думала: ніколі яшчэ яна не выходзіла з царквы такая ўсхваляваная, як сёння. Такога служэння яна не бачыла за сваё доўгае, пакутлівае жыццё.

І з трывогай падумала пра сына свайго, Іванку...

## XVI

Бёлле і Аўсберг пілі каву. Аўсберг у доўгім атласным халаце, Бёлле ў піжаме.

— Слухай, Хрыстаф, — седзячы ў глыбокім крэсле, гаварыў Аўсберг.— Ты не думаў, што наш «Гарызонт» не дае ніякай карысці? Пасля таго, як мы даручылі яго Дзенісевічу, усё зрываецца.

— Ну, ты перабольшваеш, Фрыдрых,—незалюбіў Бёлле.

— А прыкінь. Сто дваццаць чалавек здаліся партызанам, маўчыць разведка. Нашы людзі, якія працавалі ў партызан, праваліліся... Тут ужо нешта ёсць.

— З гэтым я згодзен: нехта працуе супраць нас. Толькі не магу пагадзіцца, што гэта работа Дзенісевіча. Падумай: пра тайную паліцыю, акрамя нас з табой, ніхто не ведаў. Пра разведчыкаў, пасланых да Дзенісевіча, ведалі таксама ты і я, а што атрад здаўся ў палон, то гэта не яго віна, а віна падполля, якім кіраваў хтосьці з тых паліцэйскіх, якія арыштавалі атрад. І яшчэ. Як мы можам прышыць Дзенісевічу гэтую царкоўную справу? Гэта было б смешна. Дзенісевіч прайшоў усю нашу праверку, і я не сумняваюся ў ім...

— Супраць тваіх довадаў я нічога не маю,— пагадзіўся Аўсберг.— Толькі выходзіць парадокс. Партызан у горадзе няма, а выбухі ўсюды... Чаго добрага, падкладуць і табе міну пад крэсла.— Аўсберг крыва ўсміхнуўся.— Адзіны разведчык — «Зяблік». І той са спазненнем перадае інфармацыю. Калі Запечкін ішоў на Кухакі, толькі ў той дзень паступіла данясенне. А што мы маглі зрабіць? Аддалі ў палон цэлы гарнізон паліцыі! Відаць, сярод гэтых рускіх у паліцэйскай форме ёсць здраднікі.

Бёлле моўчкі піў каву.

Змоўк Аўсберг. Чутно было, як роўна цікаў на сцяне гадзіннік.

— Фрыдрых,— нарэшце загаварыў Бёлле.— Відаць, ёсць у паліцыі не нашы людзі. І, хутчэй за ўсё, у камандным саставе. Трэба, мусіць, замяніць увесь камандны састаў. За гэты ж тыдзень... Думаю паручыць Вуленку.

— А новых камандзіраў выклікаць сюды і даць заданне сачыць за кожным са старых... Псіхалагічны манеўр. Калі хто і ёсць сярод паліцэйскіх не наш, падумае, што зволеныя прыйшліся не да спадобы нямецкім уладам і будзе вербаваць іх на свой бок.

— Выдатная ідэя, Фрыдрых,— павесялеў Бёлле.— І абвясціць перад строем: вам нямецкія ўлады больш не давяраюць узначальваць атрад паліцэйскіх. Гэта будзе пастка. З іх арганізуем сваю новую агентуру. Пра гэта ніхто, акрамя нас, не будзе ведаць. Нават Дзенісевіч... Ага, што дакладваюць твае людзі пра Дзенісевіча?

— Роўны, як струна...

Бёлле засмяяўся.

— Роўны, кажаш... Гэта добра. А як ты прымеш маю прапанову? Ажаніць Дзенісевіча на Аўсме і адправіць на курсы разведчыкаў?

Фройлен ведае рускую мову. Іх можна паслаць у савецкі тыл, і яны, муж і жонка, маглі б добра працаваць. Тым больш, што фройлен ужо вопытная ў такіх справах?

— Але на гэта патрэбен спецыяльны запрос. Ды і сумняваюся я, што яго возьмуць. Савецкая разведка праверыць, і наша карта біта. Яго, як агню, баяцца самі паліцэйскія.

— Ну, гэта можна было б сфабрыкаваць. Галоўнае, хутчэй трэба абнавіць камандны састаў. А цяпер давай праверым картатэку.

Яны сядзелі доўга. Рабілі выпіскі, складалі карткі запытанняў. А як толькі пагасла святло ў рабочым кабінеце начальніка гестапа, выбух скалануў горад. Гарэла пошта.

## XVII

На досвітку ў пакой да Дзенісевіча пастукаў ад'ютант Бёлле і на ламанай рускай мове растлумачыў, што пана сакратара выклікае начальнік. Дзенісевіч хутка апрануўся і пабег у гестапа. Калі ён зайшоў у кабінет, Бёлле збіраў на стале паперы. Заўважыў Дзенісевіча, моўчкі кіўнуў галавою, але сесці не запрасіў. Дзенісевіч, стоячы недалёка ад стала, прачытаў на адной паперцы: «Зусім сакрэтна. 16 снежня 1942 года... Калі на Усходзе, як і на Балканах, не будуць прыменены самыя жорсткія меры, то ў недалёкім будучым нам не хопіць сіл, якія ёсць у наяўнасці, каб справіцца з гэтай партызанскай чумой...»

— Пан Дзенісевіч,— неяк разгублена пачаў Бёлле.— Мне помніцца, мы дамаўляліся, што вы будзеце працаваць для гестапа. Спадзяюся, што тое, пра што просім мы, не забываюць.— І Бёлле востра зірнуў на Дзенісевіча.

Дзенісевіч ведаў: рана ці позна Бёлле спытае, што зроблена менавіта для яго.

— Партызанскі атрад «Перамога», якім камандуе капітан Запечкін,— пачаў Дзенісевіч,— налічвае не дзвесце чалавек, а шэсцьсот. З атрадам «Перамога» зліўся атрад Аўтухова; з ім асталося нашых восем разведчыкаў. Праз месяц-два павінны падысці астатнія атрады, якія пайшлі на ўсход.

— І яшчэ,— спакойна загадваў Бёлле.

— У Запечкіна замест васьмі разведчыкаў працуе толькі пяць. Трое загінулі. Двое ў час нашай блакады.

— Якая яшчэ агентура працуе на вас, пан Дзенісевіч? — Бёлле быў афіцыйна строгі.— Яшчэ раз паўтараю, я не выдам вас. У мяне вельмі цяжкае становішча... Скажу большае. У мяне ёсць план вашай выдатнай кар'еры ў недалёкім будучым. Так што паслуга за паслугу...

— Добра, пан начальнік. Я раскажу вам пра ўсё... Але мая просьба — каб не ведаў пан камендант. Шэсць чалавек працуюць на чыгуначным вузле, пяць — у царкоўным хоры. За айцом Нікадзімам наглядае былая настаўніца Тоня Зелянюк. У кабінеце Вуленкі, на кватэры ўрача Васкоўцава і ненадзейных для вялікай Германіі ўстаноўлены партатыўныя магнітафоны... За вартавымі паліцэйскімі пан Аўсберг загадаў выстаўляць кантроль з войск ахоўнай паліцыі...— Дзенісевіч успамінаў апошнія звесткі ад разведчыкаў.— У атрадзе Запечкіна звыш шасцідзесяці камуністаў. Атрад спецыялізаваны, набраны з армейскіх дэсантнікаў. Акрамя таго, дзве роты прарваліся ў тыл у час баёў пад Тулай... Пра гэта таксама не ведае камендант...





Бёлле не паспеў пахваліць Дзенісевіча, як дзверы кабінета расчыніліся і густы бас выгукнуў:

— Зіг!

— Хайль! — коратка адказаў Бёлле і выцягнуўся ў струну.

Увайшоў генерал гестапа. Хударлявы, са зморшчаным ад старасці тварам. Ён правяраў службу ў горадзе і цяпер хацеў пагаварыць з начальнікам. Генерал кінуў вокам на Дзенісевіча, які стаяў па статуце, выставіўшы ўперад грудзі.

— Хто гэта такі? — спытаў генерал па-нямецку.

— Начальнік рускай разведкі пры акруговым гестапа, былы савецкі журналіст, сакратар акруговай паліцыі Дзенісевіч,— адрапартаваў Бёлле.

— О, цікава, цікава... Па-нямецку гаворыць?

— Не, гер генерал... Ва ўніверсітэце вучыў французскую мову. Падае надзеі як здольны разведчык.

— Наш, ці савецкі?

Бёлле крыва ўсміхнуўся:

— Наш, гер генерал.

— О, гэта цікава... Запрасіце яго сесці. Я хачу з ім пагаварыць...

Дзенісевіч сеў ля стала.

— Каго вы, Дзенісевіч, ведалі з чэкістаў, якія працавалі тут да вайны? — спытаў генерал.

— Тут іх не было, пан генерал. У суседнім раёне быў цэнтр. Пад кантролем трымалі і наш раён. Катакоў, Шумілін і Сцепанцоў... Больш не ведаю.

Генерал пахваліў Дзенісевіча. Потым загадаў, каб ён прынёс картатэку разведкі. Пакуль Дзенісевіч бегаў ва ўправу і камендатуру, генерал і Бёлле гаварылі пра сваё.

Прынесеныя дакументы генерал разглядаў уважліва, потым запытаўся ў Бёлле, якую карысць дае руская разведка. Начальнік гестапа выклаў звесткі Дзенісевіча. Генерал заўважыў:

— Аўсберг мне дакладвае адно, вы — другое. Каму верыць?

— Вось каму, гер генерал,— Бёлле паказаў на Дзенісевіча.— Ён ведае ўсё.

— Вы сапраўды заслугоўваеце падзякі, Бёлле,— гаварыў генерал.— Буду дакладваць у штабе фронту пра вашу дзейнасць і прапаную, каб павысілі вас у званні... А чым наогул тут займаецца гэты няўдалы разведчык абвера?

— Як вам сказаць,— збянтэжыўся начальнік гестапа.— Але мне здаецца, тут для яго і рабіць няма чаго. Вось і сумуе, бавіць час.

— Так, так... Ён нават не ведае, што робіцца ў партызанскіх атрадах, хто іх камандзіры, колькі там людзей і якія аперацыі намячаюцца, каб знішчыць гэтую чуму... Дарэчы, узрывы — гэта справа партызан.

— Учора затрымалі партызан з атрада Запечкіна,— сказаў Бёлле.— Прызналіся ва ўсім. Караць будзем на плошчы, каб бачылі і баяліся астатнія.— І Бёлле расказаў генералу пра свае планы.

— Бёлле, дзейнічайце,— падтрымаў генерал.— А пану начальніку рускай разведкі, відаць, трэба аб'явіць падзяку і выдаць добрую грашовую прэмію. Думаю — заслужыў.

— Яволь, гер генерал! Выдадзім...

— Жадаю вам поспехаў, пан Дзенісевіч,— падаў руку генерал.— Нямецкае камандаванне не забудзе пра вашу адданую службу. Няхай літасці чырвоным бальшавікам!



— Яволь, гер генерал! — Дзенісевіч стукнуў абцасамі.

— Адпусціце яго, Бёлле. Я хачу з вамі яшчэ пагаварыць сам-насам.

Дзенісевіч развітаўся, выйшаў. На вуліцы шпацыравала фройлен Аўсма. Яна чакала Дзенісевіча, бо ведала, што Бёлле зацікаўлены ў той інфармацыі, якую мае Дзенісевіч, каб перадаць генералу, што прыехаў правяраць службу бяспекі і тайную паліцыю. І ледзь Дзенісевіч падышоў бліжэй, яна спытала:

— Як?

— Хто яго ведае,— паціснуў плячыма Дзенісевіч.

— Ты быў у Бёлле? — не зразумела фройлен.

— Быў...

— Ну і добра,— з палёгкай уздыхнула Аўсма, ідучы разам з Дзенісевічам у паліцэйскую ўправу, куды цяпер перавезлі радыёстанцыю.

«Давядзецца пусціць у паветра і ўправу»,— думаў Дзенісевіч.

## XVIII

Трывожыцца маці, думае ўсё пра сына. Чуе яе сэрца нейкую бяду. А як жа ўратаваць сына? Збіралася пагаварыць з ім, ды не адважылася. Заданне ў яго такое. І ўпарты дужа, не кіне таго, што пачаў. А як жа ўберажэш яго? Следам не пойдзеш, не падкажаш, дзе ліхая доля стрэне. Адгаварыць Марусю таксама не магла: тая заданне Чырвонай Арміі выконвае. Адна Алена з дзецьмі. Ды і яна не ўцалее, калі што. Жонка ўсё ж. Пра сябе Піліпіха не думала. Лічы, свой век пражыла. За дзяцей, гэтых птушанятак, сэрца баліць.

Усё часцей да Івана прыходзілі госці. Спачатку выпівалі для прыліку, а потым гаварылі пра сваё. І фройлен гэта штодня сядзіць у яго. «Як толькі трывае Алена?» — непакоілася старая.

Клопату яму шмат. Бухаюць і бухаюць штоночы. Вось і сёння, мусіць, дапытваюцца ў яго, хто ўзарваў пошту. А адкуль ён ведае. Быў жа з гэтай фройлен. Самога ледзь не забіла. Рухнула хата. Толькі і ацалеў той вугал, дзе сядзелі Іван і Аўсма. Немцаў перадушыла.

На Піліпіху суседзі глядзелі з нейкай затоенай непрыязню. І ўсё праз сына. А ён зрабіўся нейкі пануры, негаваркі.

Нехта бразнуў клямкай, і Піліпіха насцярожылася. Увайшоў Іван.

— Мама,— задыхаўшыся, сказаў ён.— Трэба схадзіць да Марыі. У горадзе генерал гестапа... Заўтра збіраецца ехаць. Скажы, няхай Марыя перадасць Запечкіну, каб перакрылі дарогу. Птушка важная і можа многа чаго сказаць... Акрамя цябе, няма каго паслаць. Вось табе аўсвайс. Туды і назад. Калі будуць пытацца, скажы, што солі дома няма, а сын во даў троху...

У Піліпіхі затрымцела ўсё ў сярэдзіне, закалацілася.

— Божа мой,— насыпаючы дрыготкімі рукамі соль, войкала Піліпіха.— Божа ж мой... А што ж яшчэ сказаць?

— Што генерал едзе не адзін. Некалькі машын з салдатамі. Няхай добра падрыхтуюцца... На такое можна ўсім атрадам пайсці... Няхай яшчэ перадасць Маруся, што пошту мы ўзарвалі і два эшалоны для Крычава...

— Дзіцятка ж ты маё... Дык гэта ты ўзарваў пошту? — спалохалася Піліпіха.

— Я, мама, я...

— Ото ж ты сам сябе ледзьве не загубіў.

— Так трэба было, мама. Ніхто і не падумае пра такое,— ён пры-

туліў да сябе маці, пацалаваў яе.— Ну, мама, будзь асцярожная... Ідзі...

Піліпіха падвязала клуначак і таропка падалася на бальшак.

## XIX

Аўтухова больш за ўсё непакоіла тое, што ў яго атрадзе ўсяго пятнаццаць партызан. А якая гэта сіла, што з імі зробіш. Людзі чамусьці не хацелі ісці да яго, а больш прасіліся да Запечкіна, хоць там і дысцыпліна была строгая, і з харчамі не густа.

Дыслакаваўся атрад Аўтухова ў пералесках Міжрэчча, якраз па суседстве з Запечкіным. Да горада недалёка — кіламетраў васемнаццаць — дваццаць, і вакол — вёскі, дзе людзі ахвотна дзяліліся з партызанамі апошнім кавалкам хлеба. У тую пару, калі Антонаў пайшоў у Бранскія лясы, Аўтухоў распусціў атрад і сам жыў у цёшчы ў прылеснай вёсцы. Запечкін папярэдзіў яго, каб пастаянна інфармаваў аб сваёй дзейнасці.

Аўтухоў вырашыў звязацца з рускімі, якія працавалі ў немцаў, і прымусіць іх перайсці да яго ў атрад. Ён пісаў запіскі Вуленку і Дзенісевічу, начальнікам паліцэйскіх упраў, але карысці гэта не прынесла. Запечкін, дазнаўшыся пра гэта, папярэдзіў Дзенісевіча. Тады Аўтухоў вырашыў дзейнічаць па-свойму: у Запечкіна сіла, а ў мяне спрытнасць. Яму ўсё ж пашанцавала звязацца з Кісцянковым, начальнікам следчага аддзела гестапа. Сувязная смела зайшла ў кабінет да Кісцянкова і перадала запіску:

— Ад вашых знаёмых...

Той аж змяніўся тварам. Прачытаў запіску, схаваў яе ў кішэню і коратка сказаў:

— Я падумаю...

Але доўга думаць яму не давялося. Сувязная праз колькі дзён прыйшла зноў.

— Перадайце, што я згодны...— сказаў следчы.

— Тады сёння ўвечары ля Сажа, дзе валуны. Вас будзе чакаць лодка. Камандзір хоча пагаварыць з вамі асабіста.

Кісцянкоў прыхапіў з сабой шнапсу і закусі. Сустрэліся яны з Аўтуховым ветліва. Кісцянкоў згадзіўся працаваць на атрад, даваць неабходную інфармацыю, але папрасіў грошай, каб «падлізацца» да каго трэба і выпытаць усё неабходнае. Пра тайную паліцыю, якая цікавіла Аўтухова, ён толькі развёў рукамі, але ўсё ж назваў колькі чалавек, якія сябруюць з немцамі і тое-сёе даносяць.

— З кім бы яшчэ нам звязацца? — пытаў п'яны Аўтухоў.— Ты разумееш, хачу такое завярнуць, каб аж млосна фрыцу стала... Падкажы, браток. Можа, з Дзенісевічам? Ён жа тутэйшы чалавек. Карэспандэнт усё-такі.

— З Дзенісевічам не раю звязвацца. Ненадзейны чалавек,— гаварыў Кісцянкоў.— І з Вуленкам не трэба. Гэта людзі, якія на пальчыках ходзяць перад камендантам і гестапа. Я вам пра ўсё буду дакладваць. Толькі не спіце ў шапку.

Разгаварыліся, як старыя знаёмыя. Аўтухова распіраў гонар, што нарэшце сам галоўны следчы будзе працаваць на яго партызанскі атрад.

Пра гэтую сустрэчу ніхто не ведаў. У другі раз «сябры» зноў добра выпілі, хоць Кісцянкоў і не прынёс ніякіх вестак, акрамя кароткага апраўдання: «Яшчэ не гатова...»



А ў гэты час Дзенісевіч з усіх сіл імчаў у Бярозаўку, каб папярэдзіць, што па віне Аўтухова арыштавана сем падпольшчыкаў і расстраляны ноччу дваццаць шэсць ні ў чым не вінаватых людзей. Яны былі названы Кісцянковым як «тайныя паліцаі».

Трэцяй сустрэчы Аўтухова з Кісцянковым не было...

## XX

Цімох Скрыпеня быў разгубіўся: ого, толькі падумаць — падкласці міну пад камендатуру!

Цімох яшчэ не бачыў той міны, а ўжо ўяўляў, як яна будзе ляжаць у кішэні, як будуць трэсціся ў яго рукі, як перасохне ў роце і як за ім будуць сачыць паліцаі і немцы з аўтаматамі. Нікуды ад іх не схаваешся, яны ўбачаць, што ў Цімоха адтапырана кішэнь, а ў кішэні не што іншае — магнітная міна. І тады...

Цімох адразу зразумеў, што начальнік управы даўно чакае госця. Ён увайшоў у хату, абтрос з валёнак снег, павітаўся:

— Дзень добры... Ці тутацька жыве пан начальнік, што над паліцэйскімі галоўны?

— Галоўны над паліцэйскімі ў горадзе жыве.

— Там дужа высокія чыны. А мне тут па дробязі трэба.

— Тады заходзь у хату. Распранайся, можа...

— Я не надоўга, пан начальнік.

У другім пакоі, куды запрасіў гаспадар Цімоха, было холадна. Мусіць, тут зімой не жылі, а ўсе масціліся бліжэй да печы. Хведар недзе з сутарэння дастаў міну і спакойна, быццам ужо не раз іх перадаваў, заўважыў:

— Я паставіў роўна на дванаццаць... Зойдзеш туды, павітаешся з нямецкім вартавым, што стаіць акурат ля дзвярэй каменданта. Прыкінься, што здалёк... Сёння камендант не прымае... Цябе не пусцяць да яго. Ты прысядзь, вытры пот і падыдзі да вядра, каб напіцца вады. У гэты час зайду я і пачну гаварыць з вартавым, што мне трэба па справах да каменданта. Ты ж пакладзі міну. Толькі глядзі, не праваронь... А на ўсякі выпадак, калі і пусцяць да каменданта, прыдумай якую-небудзь дробязную справу. Ясна? Ідзі, бо пасля сямі вечара туды нікога не пускаюць...

«Так проста? — здзівіўся Цімох.— Што яны, самі не маглі зрабіць гэта?» Але паразважаў, падумаў: калі хто з іх і зробіць, то ўсе яны наперапік. Адразу знойдуць. А чужы... Адкуль ён, чаго прыходзіў і дзе яго шукаць!

...Цімох бразнуў клямкай у пярэдні пакой і ўбачыў вартавога, які з аўтаматам наперавес ішоў да яго. Зняў шапку, пакланіўся і гучна сказаў:

— Вечар добры, паночку... Ох, як я стаміўся, ліха яго матары.— І расшпіліў каўнер кашулі. Рукавом выцер пот, аддыхаўся.— Паночак, да каменданта мне дужа трэба. Здалёк іду, паночак, пашкадуй.

Немец моўчкі глядзеў на Цімоха, а потым пачаў рагатаць:

— О, рус... рус...

Цімох падышоў да лаўкі. Вартавы крыкнуў на яго:

— Хальт!..

І паказаў на дзверы.

— Паночак, не праганяй, дай хоць пагрэцца троху,—і пачаў хукаць на рукі.

Тут жа ўвайшоў начальнік паліцыі. Вартавы ляснуў абцасамі і загарадзіў дзверы да каменданта. Цімох намацаў у кішэні міну. Потым

выняў яе. Рукі дрыжэлі, таххала сэрца... А вартавы нешта тлумачыў па-нямецку Хведару, і той махнуў рукой, завярнуўся і пайшоў. Цімох жа сядзеў ціха, быццам і не зважаў ні на што. Абагрэўся трохі, дастаў з кішэні тытунь, скруціў цыгарку і працягнуў кісет вартавому. Вартавы адразу ўскінуў аўтамат.

— Цурюк, русіш швайн...

І яшчэ нешта гаварыў, мусіць, лаяў Цімоха за тое, што закурыў без дазволу. Цімох моўчкі выйшаў з камендатуры.

— От, халера,— хваліўся ён потым знаёмым.— Выганяў у каршэнь за дзверы, але я папрасіўся пагрэцца. А тады закурылі разам, пагаварылі трохі. А да каменданта, гад, не пусціў. Позна, кажа, прыходзь заўтра. Развіталіся мы, паціснулі адзін аднаму рукі, і я пайшоў.

— Міну хоць падклаў? — пыталіся ў яго.

— А як жа... Я хацеў было да тазіка прымацаваць, а немец кажа мне: навошта да тазіка, ты лепш да дна вядра прыляпі яе. Гут будзе. Во як...

— А чаго заходзіў пасля цябе паліцэйскі?.. Мы ўжо думалі, што ты ў пастку трапіў.

— Ды не,— махаў Цімох.— Памагаць прыходзіў. І так мы з немцам ладзілі, і сяк—ніяк рады не дамо... Тады паклікалі каменданта... От усе ўтрох і парашылі, што лепш за ўсё сунуць міну пад вядро...

Смяяліся падпольшчыкі, бо ведалі ўжо, што Цімоху пашанцавала. А як, не пыталі.

Уначы над камендатурай узняўся слуп агню...

## XXI

Ніхто не чакаў, што на маладую зялёную траву раптам паваліць снег. Густыя елкі адразу пасівелі і стаялі, апусціўшы долу белыя лапы.

Дзенісевіч стаяў над кашлатай ялінай, што схавала яго ад людскога вока. Сляды засыпаў снег. Якраз на паляне паказаліся трое. Праз густую сетку замеці Дзенісевіч пазнаў Якава Нікіфарука, Георгія Антонава і Міхаіла Запечкіна. Запечкін падняў руку ўгору і стрэліў. Двойчы стрэліў і Дзенісевіч, выйшаў са свайго схovішча.

Прывіталіся і падаліся ў старую зямлянку, якую жартам называлі «явачнай кватэрай». У ёй ніхто не жыў.

— Ну, Іван Піліпавіч, нядоўга табе асталося. Хутка, браток, кананада і ў нашым краі загамоніць,— пачаў Якаў Нікіфарук.— Вось пратрымацца б толькі... Як у цябе там?

— Акаронава і Рузеніна арыштавалі. Дапытваць самому прыйшлося. Пад наглядам каменданта і гестапа... Вытрымалі хлопцы,— панура, апусціўшы галаву, расказваў Дзенісевіч.— Схапілі іх ля кацельні электрастанцыі...

— Так, браток,— уздыхнуў Нікіфарук.— Справы горшыя... А як твой «Гарызонт»?

— Як і дамовіліся. Разведка «перабіта» ў баях, і для немцаў ужо не існуе «Гарызонта». Для нас бой толькі што пачынаецца...

— Колькі ў цябе зараз людзей?

— Дваццаць...

— Многа. Глядзі, каб не праваліцца. Калі ёсць хто слабейшы, перапраў у партызанскія атрады... Пакінь самых надзейных.

— Самыя надзейныя, мне здаецца, і асталіся...



— Сабяры цэнтр і парайся з хлопцамі... А не дык пераходзь да нас... Шкада будзе пасля ўсяго, што зрабіў, недарэчна загінуць... Як ты мяркуеш закончыць «Гарызонт»?

У Дзенісевіча, прызнацца, цвёрдага плана не было. Ён мусіў падзяліцца думкамі.

— Немцы дужа непакояцца пра свае тылы. Учора я падгледзеў радыёграму на імя Аўсберга: патрабуюць, каб ліквідаваў у сваёй акрузе партызан і забяспечыў спакойнае адступленне нямецкіх войск... Немцы галоўную стаўку робяць на паліцэйскіх. Адкрыта ім кажуць, калі яны пяройдуць да партызан, іх усё роўна чакае суровае пакаранне. І шмат хто верыць гэтай агітацыі... Дык вось, калі дадуць нам каманду арганізаваць аперацыю супраць вас, я перадам праз «Ластаўку» ўвесь план. Відаць, вам будзе варта акружыць атрад, а мы захопім у палон каго-небудзь з камандавання. Пастараемся, каб пайшлі ў паход Аўсберг і Бёлле. Пакіну некалькі чалавек узарваць камендатуру і гестапа, мост ля Сажа. Каб не было як адступаць...

— Гэта было б цудоўна,— сказаў Антонаў.— Падарунак ты, Піліпавіч, добры паднёс бы нам.

— Што праўда то праўда,— зазначыў Запечкін.— Толькі папярэдзь за два—тры дні, каб мы маглі звязацца з астатнімі атрадамі... Ты ж, пэўна, армію ладную прывядзеш?

— Чалавек пяцьсот... А вось каб папярэдзіць раней, не ведаю, як гэта ўдасца. Могуць і па трывозе падняць...

— Ну, глядзі... Табе віднейі...— параіў Нікіфарук.— Цяпер во што... Цэнтр просіць у нас план дыслакацыі войск у гарадах акругі. Ты гэта перадай.

— Гэта прасцей,— адказаў Дзенісевіч.— Толькі вось як быць з палякамі? У іх вельмі баявая група. Пусцілі пад адхон ужо дзесяць цягнікоў, узарвалі пятнаццаць бронетранспарцёраў і некалькі танкаў на начных стаянках. Можа, і іх возьмем у партызаны? Добрыя воіны.

— Перад аперацыяй усіх надзейных людзей накіруй у лес. Давай прыдумаем пароль... Ну, напрыклад, такі: «Аўсвайс. Ат, паперка, ды і толькі». Запомніў? Адразу накіроўвай іх да нас. Колькі іх? — запытаў Запечкін.

— Чалавек пятнаццаць — дваццаць...

— Прымем...

Разыходзіліся непрыкметна.

## XXII

Аперацыя пад назвай «Фолькслтурм» была назначана Аўсбергам на канец мая. Дзенісевіч даведаўся пра гэта зусім выпадкова. Зайшоў аднойчы да фройлен Аўсмы спытаць пра здароўе ды пагаварыць пра вясну, пачытаць новыя вершы, а яна сядзіць за перадатчыкам і перадае радыёграму. Дзенісевіч не разабраў шыфроўку. Не ведала і Аўсма. Нарэшце яна дастала з сейфа тоўстую кніжку і пачала расшыфроўваць. Дзенісевіч краем вока прачытаў словы, напісаныя Аўсмай на чыстым бланку: «Паход... на партызан... канец мая... Старшым... прызначаю... штурмбанфюрара... Аўсберга... Крэмснер».

Хто такі Крэмснер, Дзенісевіч не ведаў. Але здагадаўся, што нехта з нямецкага штаба.

Падпольшчыкаў Дзенісевіч сабраў у сябе дома. Была якраз нядзеля. Як і заўсёды, на стол паставілі некалькі бутэлек гарэлкі. Нады-

шоў час, калі трэба было загадзя распрацаваць план апошняга, заключнага этапа «Гарызонт». Налілі па чарцы. Прыгубілі.
— Справа, таварышы, надзвычай сур'ёзная і строга сакрэтная. Пра тое, што мы будзем вырашаць, ніхто з групы, акрамя нас, не павінен ведаць... На канец мая намечана вялікая аперацыя немцаў і паліцаяў супраць партызан. Мяркую, што і нам давядзецца ў ёй удзельнічаць... Наша задача: здаць партызанам не менш як пяцьсот салдат і паліцаяў. Аперацыяй будзе кіраваць камендант, а ротамі паліцэйскіх — Вуленка... Мы павінны ўзяць у палон нямецкіх афіцэраў разам з Аўсбергам...
— Калі ж выступаем, Іван Піліпавіч?
— Пакуль невядома... Але план павінен быць ужо зараз. Выйдзем, мабыць, раніцой. У гэты дзень павінны ўзарвацца камендатура і гестапа. Гэта зробяць Рамусеў і Леміраў. Іх людзі астануцца ў горадзе.
У раёне Манастыра нас акружаць партызанскія атрады. У бой не ўступаць. Здацца без адзінага стрэлу. Настрой у паліцэйскіх такі, што хоць сёння здавай іх партызанам. Фронт зусім блізка. Галоўнае для нас — нямецкія афіцэры. Іх, мусіць, будзе ісці чалавек дзесяць — пятнаццаць... Калі нас акружаць, адразу сабрацца каля мяне з надзейнымі людзьмі. Мы будзем раззбройваць афіцэраў і нямецкіх салдат.
У паходзе захоўваць строгую дысцыпліну і парадак, каб не выклікаць падазрэнняў.
— Якія атрады будзем браць? — запытаў Вуленка.
— Усе, якія толькі ёсць у горадзе...
— Трэба было б напаследак яшчэ што ўзарваць,— прапанаваў інжынер Куля.
— Вашай групе, Куля, асобнае заданне,— заўважыў Дзенісевіч.— Якія яшчэ ёсць пытанні?
Твары ў кожнага сур'ёзныя, задумлівыя. У пакоі ціха.
— Разыходзьцеся па адным. Як заўсёды...
Вуленка астаўся. Сядзеў моўчкі, думаў.
— Што з табой, Валодзя? — запытаў Дзенісевіч і палажыў руку яму на плячо.— Пра што задумаўся?
— Перабіраю ў памяці кожнага,— ледзь чутна адказаў Вуленка.— А раптам хто спалохаецца...
— А хто?
— Не ведаю... Але лішні раз падумаць не пашкодзіць...—неяк сумна дадаў: —Ну што, Ваня, гэта і ёсць наш астатні, рашаючы бой?..
— Не, Валодзя. Пакуль фашыста не прагонім з нашай зямлі, спакою нам не будзе. Там, у Берліне, будзе наш апошні бой...
— Пасля вайны я ў турму адразу пайду...— цяжка ўздыхнуўшы, сказаў Вуленка.— Ну, што ж... Сам вінаваты.
— Ды кінь ты пра гэта. Думаць трэба пра харошае. Пра нашу перамогу...
— За перамогу!..
— За нашых нашчадкаў,— падняў чарку Дзенісевіч.—За майго сына, што нарадзіўся ўчора, і за тваю дачку.

## XXIII

Абсмаленыя кроквы, як крыжы, наводзілі жальбу і сум. Дзе-нідзе курыліся папялішчы. Пахла гарам. Ад вёскі не асталося ніводнай хаты. Пазаўчора тут прайшоў карны атрад.



Сонца хавалася за рэдкія кудзеркі хмар. Блізіўся вечар. Да лесу асталося прайсці не больш як пяць кіламетраў.
Дзенісевіч моўчкі зрэдку пазіраў на Вуленку, нібыта казаў: «Пакуль што ўсё ідзе добра». Атрады неахвотна цягнуліся праз шырокі луг услед за калонай немцаў. Ззаду ляскалі гусеніцамі чатыры танкі, за танкамі пяць бронетранспарцёраў. Яны спыняцца ў Кухаках і будуць чакаць каманды, каб даць падмацаванне. Рэзерв невялікі. Асноўныя сілы наперадзе. Пяць рот паліцаяў і добрая сотня нямецкіх салдат. Аўсберг з афіцэрамі. Цяпер ён вылез з машыны, брыў па сухім зарослым сіўцом лузе. Адзін раз спытаў у Вуленкі, які настрой у паліцэйскіх, і зноў пайшоў да калоны.
Хлопцы ўсе на месцах. Лемераў са сваімі ротамі, Рамусеў ідзе наперадзе свайго ўзвода, Цялюпікаў — ззаду нямецкіх салдат. Гавараць людзям пра план аперацыі рана. От хай ля Манастыра. Там партызаны замкнуць кола і па рэпрадуктары з лесу прапануюць здацца ў палон.
Лес падступаў бліжэй. Усе ведалі, што партызанская стаянка яшчэ далёка.
На гары паказаліся Кухакі, побач з другога боку — лес. Маўклівы, цёмны і густы.
— Вось тут бы, праўда? Добрае месца,— шапнуў Дзенісевіч Вуленку.
Той кіўнуў галавой і строгім позіркам правёў па шэрагах.
Раптам з лесу, зусім блізка застукаў кулямёт. Угары засвісталі кулі. Усе заляглі.
— Што такое? — угінаючы галаву, спытаў Вуленка.
— Хто яго ведае... Не тут павінна...
І з Кухакоў градам секанулі кулі.
«Няўжо Кухакоўская паліцыя?.. Як уціхамірыць гэтую бойку?» — думаў Дзенісевіч і не знаходзіў выйсця. Пачуў, як нехта недалёка ў траве вылаяўся і крыкнуў:
— Здрада!..
— Маўчаць! — вырвалася ў Дзенісевіча.— Без панікі!...
«Няўжо Запечкін не папярэдзіў атрады? Але ж не... Яны не сляпыя, бачаць, што тут сіла вялікая... А што ў Кухаках? Няўжо прынялі за партызан... Праўду кажуць, што ў страха вочы вялікія».
Дзенісевіч прыгледзеўся да сваіх людзей. Яны, як па камандзе, раздзяліліся на дзве лініі абароны і адстрэльваліся. Убачыў, як Рамусеў і Лемераў папаўзлі да нямецкай засады. «Пераблыталі ўсё!» — Дзенісевіча ахапіў адчай.
— Назад, Рамусеў і Лемераў! Назад, загадваю! — крычаў Вуленка.
Яны паўзлі, як быццам не чулі.
— Назад! — не стрываў Дзенісевіч.
— Можа, прыстрэліць? — спытаў Вуленка.
— Позна...
Нарэшце перастрэлка сціхла. Мусіць, немцы звязаліся па рацыі з Кухакоўскай паліцыяй і папярэдзілі, што тая страляе па сваіх. Нарэшце пранеслася каманда пастроіцца ў калоны.
Вуленка даваў распараджэнні, паходным парадкам строіў свае роты. Дзенісевіч сачыў за паводзінамі немцаў. Сярод афіцэраў стаялі Лемераў і Рамусеў. Яны штосьці тлумачылі каменданту, паказвалі на Вуленку і Дзенісевіча. Вось адлучылася пяцёра афіцэраў і накіраваліся да Дзенісевіча.
«Усё... Накрылі»,— падумаў ён і зірнуў на Вуленку. Той стаяў наперадзе роты і спакойна глядзеў, як сюды ішлі афіцэры.

— Здаць зброю! — строга скамандаваў Дзенісевічу эсэсавец.— Здраднік!..

Дзенісевіч зняў аўтамат. Бачыў, як кінуў на зямлю сваю зброю Уладзімір Вуленка. Праз нейкі час абяззброеныя стаялі перад строем Мікола і Сцяпан Фаміны, Саша Падгорны, Цялюпікаў. «Усіх, як аднаго... сволачы!» — плюнуў Дзенісевіч.

Вуленка стаяў збялелы.

— Перадай хлопцам, — шапнуў яму Дзенісевіч,— каб гаварылі толькі тое, што ведаюць Рамусеў з Лемеравым. Пра астатняе — ні слова...

Потым іх білі перад строем. Білі прыкладамі. Але ніхто не сказаў ні слова. І строй маўчаў, як знямелы.

Назад ішлі моўчкі. Аперацыю адмянілі. Дзенісевіч узяў за руку Вуленку і моцна сціснуў яе. Гаварылі толькі вачыма. Усё было сказана. Нажаль, не ўсё зроблена. Цяпер яны ішлі насустрач новым катаванням.

Нейк асабліва прывабнымі сталі і гэты луг з жоўтымі і чырвонымі краскамі, і лес, што сцяной узвышаўся зводдаль і зліваўся з цёмным небам. І птушкі. Ім няма ніякай бяды. Яны аднолькава спяваюць усім. Такая іх птушыная доля... Толькі гэтыя шасцёра са звязанымі рукамі ішлі і ведалі цану жыцця і цану смерці. Ведалі і востра адчувалі сэрцам. Асабліва цяпер, па дарозе ў бессмяротнасць...

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

У халодным са скразнякамі склепе ён на хвіліну прысланіўся да цвілой вільготнай сцяны, ступіў крок, другі і, як падкошаны, асунуўся на пацёртую салому. Лёг ніцма. Сілы канчаліся. У галаве гуло. Апрытомнеў, калі нехта лінуў на яго вядро сцюдзёнай вады. Прыўзняў галаву. І зноў той няўмольны Шульц. Ён дамагаўся аднаго: «Гавары!..» Дзенісевіч маўчаў. А на цела, распісанае пісягамі, бязлітасна клалася нешта цяжкое, пякучае, але ён ужо не адчуваў болю. Часам, калі сілы вярталіся, боль калоў ажно ў галаву. І тады зноў непрытомнеў...

Трое сутак для Дзенісевіча здаліся вечным пеклам. Толькі звядзе павекі, як перад вачыма азызлыя твары нямецкага каменданта, Шульца, Кісцянкова, а ў вушах — дзікі рогат здаравеннага эсэсаўца, які круціў рукі, зашчэмліваў пальцы ў дзверы, калоў пад пазногці іголкамі...

Дзенісевіч прачнуўся пад раніцу. Хацеў павярнуцца на спіну, але рэзкі боль скалануў цела. Падняў галаву, агледзеўся. Так, ён у тым самым склепе, і ноччу на допыт яго не вадзілі. Твар апухлы, быццам пакусалі пчолы. Прытуліўся спіной да сцяны. Холад студзіў раны. Нахлынула нейкае здранцвенне, і ён доўга глядзеў пустымі вачыма ў цемрадзь. Потым пачалі набягаць невыразныя, блытаныя думкі. Пра што — і сам не мог уцяміць. Усё вірылася, як у палонцы. На цэментавай падлозе рука намацала маленькі, як спісаная крэйда, вугольчык. Навошта ён тут. Пад лёгкай шызай цвіллю заўважыў чорныя рыскі. Здагадаўся — гэта каляндар смяротнікаў. Прыгледзеўся — рысак не дужа шмат. Тры, пяць, сем... Ён падняў вугольчык і акуратна правёў па сухім месцы адну рыску, другую, трэцюю. Наважыўся правесці чацвёртую, але перадумаў, чацвёрты дзень толькі што пачынаецца. Можа гэты дзень будзе апошнім... Цяпер да смерці дужа блізка, і як ніколі думаецца пра жыццё. Шкада, што няма паперы. Напісаў бы апошнюю споведзь перад людзьмі, перад самім сабой. Што гэты вугольчык...

Які сёння дзень? Аперацыя была прызначана на другога чэрвеня. Потым трэцяга, чацвёртага. Сёння пятага чэрвеня... Пятага... Колькі ж яшчэ? Ці, можа, зноў усё спачатку... Шкада, што паперы няма. Вось бы цяпер аркуш на калені, і пісаў бы, як некалі. Трэба што-небудзь пра жыццё. Пакуль жывеш, пра жыццё і думай. Толькі пра жыццё... А што маё жыццё? Яно, як сон. Вось зараз загрукае завала на дзвярах — кароткі прыгавор, і апошні раз глянеш на белы свет. Станеш на зэдлік, як на пастамент. Добра, калі на сваіх людзях, будзе каму ў вочы паглядзець... Ну што ж... Я гатовы... Было б неразумна супакойваць сябе, спадзявацца на лепшае. Трэба гэтак жа высакародна пражыць апошнія гадзіны, як і ўсё жыццё. Нязломна, з высока ўзнятай галавой. Да самага апошняга дыхання. Тут законы, як у дзікуноў, і філасофія натуральнага адбору: моцны, крыважэрны выжывае, слабы становіцца на калені. І дзіўна выходзіць: тыя, хто прапаведуе гэта, самі даўно стаяць на каленях. Адбылася поўная залежнасць. Фройлен Аўсма стаіць на каленях перад Бёлле і Аўсбергам, яны перад генералам гестапа, а ўсе разам са сваімі ваякамі стаяць на каленях перад фюрарам...

Нешта сёння не турбуюць мяне. Можа далі выхадны дзень, каб ачуняў, а заўтра зноў запусцяць бездакорную машыну Шульца. Ці можа сёння рукі Шульца ў крыві Вуленкі, Цялюпікава?.. Як яны там? Мне трохі лягчэй. Я раней пазнаёміўся са школай Шульца, з яго вопытам. І вось сёння ціха. Няўжо ўсё?.. Як хочацца паглядзець на маці, Алену, Марусю! А малое? Яно ж, немаўлятка, і не ведае, што ў яго ёсць бацька. Ды і большыя, мусіць, думаюць, што тата хутка вернецца... Родныя, мілыя, дарагія мае! Не дачакаецеся вы больш свайго татку. А калі скончыцца вайна, маці раскажа вам пра мяне...

Рыпнулі чыгунныя дзверы, і ў светлым да болю ў вачах праёме паказаўся эсэсавец. Моўчкі паставіў на табурэтку кацялок і паклаў акраец хлеба. У другім покуце, прытуліўшыся спіной да сцяны, сядзеў вязень. Эсэсавец пільна глянуў на яго і выйшаў, заваліўшы на дзвярах завалу. Па-ранейшаму стала няўтульна і журботна. Толькі цяпер Дзенісевіч адчуў голад. Ён выпіў баланду і з'еў акраец хлеба.

Што ж, дзякуй і за гэта Аўсбергу. А можа і Бёлле надумаецца? Можа, напомніць пану шэфу гестапа пра нашу дамоўленасць супраць Аўсберга? Можа, ён забыўся ўжо, што нябожчык генерал абяцаў яму павышэнне, а каменданту — перадавую?.. Смерць генерала выратавала Аўсберга ад фронту. Затое шкадаваў, мусіць, Бёлле, што не ўдалося памяняць стары кіцель на новы, з эпалетамі.

А як жа цяпер шалее ад злосці Аўсберг! Дзіва што! — пад сваім крылом прыгрэў савецкага разведчыка. Ох і дастанецца ж табе, пан камендант, на арэхі! Прыйдзецца ісці на фронт. Мусіць, Бёлле аж рукі пацірае ад радасці. Хто-хто, а ён абавязкова зробіць данос па інстанцыі. Гэта яго амплуа. Цяпер яго ўласная фігура будзе больш прыкметная для фюрара. Праўда, яму някепска і тут, у далёкім ад фронту горадку.

Як хутка бяжыць час... Ужо і птушкі сціхлі. Мусіць, ноч на дварэ. Зноў успомніліся Алена, дзеці...

II

Гулка і цяжка грукнула завала. О, гэтая завала! Яна, як вястун безнадзейнасці. Фашыст гэтак сама марудна, як бы з неахвотай, паставіў на табурэтку кацялок, паклаў кавалак хлеба, і зноў бразнула завала.

«Вось і пачнем разам з хлопцамі снедаць. Ім, мусіць, таксама прынеслі... Не бядуйце, хлопцы! Калі кормяць, то пажывем яшчэ».

Баланда мутная, аддае бензінам. Ён адставіў пусты кацялок і зноў прылёг. Раней, здаецца, і не было часу думаць. Усё спяшаўся, усё хацеў зрабіць больш, паспець усюды, нішто не прамінуць. А цяпер няма куды спяшацца.

Зноў зарыпелі цяжкія чыгунныя дзверы. Зайшла Аўсма. У эсэсаўскім мундзіры, падцягнутая, строгая. Боты бліскучыя, шчыгульныя. Яна прывіталася. Дзенісевіч кіўнуў галавой і запытаў:

— Сёння ваша чарга, фройлен, мяне катаваць?

Яна крыва ўсміхнулася. Дзенісевіч заўважыў у яе нейкае расчараванне, боль. Але яна і цяпер была прыгожая. Кволыя, хісткія водбліскі агню ад парафінавай свечкі рабілі яе твар яшчэ больш засмучаным і гаротным.

— Што ж вы маўчыцё, фройлен?

Яна ўважліва і неяк востра паглядзела на Дзенісевіча, потым ціха сказала:

— Я кахала цябе, Ганс...

— Гаварыце мне проста Іван. Я цяпер ужо не на службе.

— Адкуль толькі сілы ў цябе? — Яна па-ранейшаму сумна глядзела на Дзенісевіча.— Нават перад смерцю з табой немагчыма пагаварыць сур'ёзна.— Яна схіліла галаву, уздыхнула: — Я ўсе гэтыя дні выпрошвала ў Бёлле спатканне з табой...

«Што гэта? Сапраўднае каханне ці новая павуціна гестапа?...» — насцярожыўся Дзенісевіч.

— І вы не баяліся? Гэта не пашкодзіць вашай кар'еры? З Бёлле жарты дрэнныя...

У склепе натужная цішыня. Чутно, як аб цэментавую падлогу стукае абцасамі вартавы. Зрэдку спыняецца каля дзвярэй. Мусіць, падслухоўвае. Фройлен цярэбіць у руках пілотку. Пра нешта думае. Нарэшце млявым, грудным голасам гаворыць:

— Моцныя ў вас людзі, Ганс. Ніхто на допытах ні слова не сказаў... Пасля цябе прывялі Вуленку. Ён убачыў на лаўцы тваю кроў і сказаў толькі: «Вось гэтай крывёю мы падпісваліся пад клятвай. Гэта апошняе маё паказанне...» І ўсё. Стаў, як каменны.— Яна ўздыхнула зноў.— Вы не баіцёся смерці, Дзенісевіч?

— Не, фройлен. Смерць, як каварная жанчына. Ад яе ўсяго можна чакаць. Ведаў я гэта. Спачатку баяўся, а потым прывык. Заданне Радзімы выканаў, а цяпер не страшна і памерці...

— Вы з красавіка сорак другога разведчык? — здзівілася Аўсма.

— У каменданта я лічыўся разведчыкам з канца сорак другога,— лёгкая ўсмешка асвяціла твар Дзенісевіча.

— Вы працавалі на дзве разведкі?

— На адну, фройлен. На нашу, савецкую разведку... А вы што, допыт прыйшлі знімаць?

— Кінь жартаваць. Мне самой трэба ведаць усё... Можа і добра, што я кахала сапраўднага разведчыка, патрыёта, а не шкурніка. Так, я кахала цябе, Іван... І кахаю...

Яна каторы ўжо раз уздыхнула. Нарэшце зірнула яму ў вочы.

— Можна, я пасяджу каля цябе?..





— Не, фройлен. Не трэба... Ды і канапа ў мяне не тая.
Фройлен яшчэ ніжэй схіліла галаву.
— Дзякуй вам, Аўсма. Вы, мусіць, шчыры чалавек. Толькі...
Фройлен з нейкай тужлівай надзеяй глянула на Дзенісевіча, а той гаварыў далей:
— ...толькі шкадую я вас, што вы паверылі ў вялікасць, пра якую гэтак мянташаць Гімлер, Розенберг і Герынг. Вас ашукалі. Мне здаецца, гэта не ваша віна. Хутчэй бяда. Няўжо вы не разумееце, Аўсма, што Гітлер прайграў вайну і фашызму надыходзіць канец. Так, так... Вам, можа, цяжка паверыць. Я ведаю, вы прадстаўнік заможнага класа Германіі і будзеце адстойваць інтарэсы свайго класа, але, зразумейце, што гэта безнадзейна. Германія застанецца, хоць, магчыма, нашы войскі і прыйдуць на вашу зямлю. Але Германіяй будуць кіраваць рабочыя немцы, нямецкія камуністы, антыфашысты. І за імі будучыня Германіі... Няўжо гэта вы не зразумелі дагэтуль?
— Што ж рабіць цяпер?
— Падумайце самі, фройлен.
— Я думала. Маленькая група людзей штурхнула ўсю краіну ў небяспеку... Вайна для нас не патрэбна. Як не патрэбна і вам... Ты сказаў, што я прадстаўніца заможнага класа. Не, гэта выдумаў Аўсберг. Муж мой быў журналіст, я — простая настаўніца. Выкладала ў прыгарадзе Берліна рускую мову... І як бы не вырашыўся лёс Германіі, я ўсё роўна буду вучыць дзяцей...
— Чаму, фройлен, будзеце вучыць?
— Толькі не нацызму...
— Я не разумею вас, фройлен. Вы ненавідзіце нацызм, а супрацоўнічаеце ў гестапа, служыце ў войсках СС. Вас хацелі зрабіць агентам абвера. Як гэта можа сумяшчацца ў адным чалавеку, у адным сэрцы?..
Нарэшце Дзенісевіч вырашыў пайсці на апошняе, зняважыць пачуццё гэтай жанчыны, якая, як матылёк, лётае ад адной бездані да другой.
— Я шмат чаго ведаю, Аўсма. Ведаю і тое, што сёння вы няшчырая, што ўсё гэта — і каханне, і слёзы, і пакрыўджаны тон, і гаротны выгляд — маскіроўка, неадрэпеціраваная гульня, бо ў гестапа няма часу доўга важдацца з намі. Майце на ўвазе, што вывудзіць у мяне нічога не ўдасца. Я ўжо даўно ўжыўся ў сваю ролю... Ну, скажыце, навошта гэтая гульня, гэтая недарэчная бутафорыя?..
— Вы, акрамя ўсяго, яшчэ і жорсткі чалавек,— ледзь не крыкнула Аўсма.— Няўжо вы не паверылі ў мае шчырыя адносіны да вас, Ганс?
У камеру зазірнуў вартавы. Убачыўшы, што вязень паводзіць сябе спакойна, выйшаў.
— Мы з вамі ворагі, фройлен.— Дзенісевіч адхінуўся да халоднае сцяны.— І давяраць вам не маю права. Чым вы можаце даказаць сваю павагу да мяне як чалавека і савецкага разведчыка, акрамя слоў?..
— Я проста не думала пра гэта,— збянтэжылася Аўсма.— Ты скажы толькі, што табе трэба, і я пастараюся для цябе зрабіць усё. Але толькі не крыўдзі мяне жорсткасцю... Я ведаю, што ты мяне ніколі не кахаў. Ты прытвараўся. Заляцанні трэба былі для тваёй работы... Я разумею, хоць і крыўдна мне, што самае дарагое маё пачуццё ашукана і ўсё абарвалася адразу, у адно імгненне...
— Перадайце мне паперы і аловак. Я буду пісаць...
— І ўсё? — здзівілася фройлен.
— Гэта адзіная мая зброя, якой я магу цяпер змагацца. А пра тое, што я сказаў вам наконт сутнасці фашызму і нацызму, разам узятых, задумайцеся, фройлен...



Яна ўзнялася з табурэткі, зірнула ў вочы Дзенісевічу, быццам старалася запомніць яго назаўсёды. Паспешліва выцерла слёзы, папраўіла форму і накіравалася моўчкі да дзвярэй.
— Фройлен, — аклікнуў Дзенісевіч.— Мне казалі, што ваш бацька тутэйшы... А дзе ён жыў?
Яна сумна ўсміхнулася, памаўчала крыху і ціха сказала:
— Гэта таксама выдумаў Аўсберг. Я чыстакроўная немка... Я пастараюся прыйсці яшчэ. Да пабачэння, Ганс.

### III

Аўсма... Фройлен Аўсма. Што ж яна за чалавек? Яна і ў Аўсберга свая, і ў Бёлле свая. І са мною як свая. Хто я, а хто яны?.. Можа і закахалася... Не, тут штосьці не тое... У яе муж журналіст: яна прывыкла да сенсацый. Цікава, прынясе паперу ці не?.. Трэба напісаць, напісаць... Здаецца, раней не цягнула так да вершаў, як цяпер. Папера трэба. Папера!.. Сказаць апошняе слова людзям...
Але чаму ўсё сціхла? Ні допытаў, ні катаванняў. А хлопцы — малайцы, нічога не сказалі. І Валодзя слаўны хлопец. Ну, збіўся з тропу чалавек, а потым зразумеў, што так нельга. І пакутаваў, шукаў выйсця. Ён шмат зрабіў для перамогі...
Нехта ідзе. Можа, гэта па маё жыццё? А, можа, перадача ад «начальства»...
Зайшоў Кісцянкоў. Прынёс парафінавую свечку, асцярожна паставіў на падаконнік.
— Ці хутка цябе назначаць начальнікам акруговага гестапа? — уедліва спытаў Дзенісевіч.
— Ты ўсё жартуеш?.. — незалюбіў Кісцянкоў.
— Па-мойму, ты любіш жартаваць з жыццём, а таму пад крысо Аўсберга і хаваешся.
Кісцянкоў прыжмурыўся. Нарэшце не стрываў:
— Я служу вялікай Германіі і прашу гаварыць са мной, як з прадстаўніком новага парадку... Мне даручана весці следства...
— Вялікай Германіі, кажаш, служыш? Хутка гэтую вялікую і ў жменьку не збярэш. Ды і ці дажывеш ты да нашай перамогі. Ты паглядзі, у цябе рукі ў крыві...
— Будзеш адказваць на пытанні ці сам усё раскажаш? — Кісцянкоў быў, як заўсёды, самаўпэўнены і быццам не звяртаў увагі на тое, што гаварыў Дзенісевіч.
— Ні тое ні другое,— як адсек Дзенісевіч.— Слухай, Кісцянкоў, а ці не мог ты мне па старой «дружбе» пазычыць некалькі ліосткоў паперы і аловак? На тым свеце разлічымся. Вугольчыкамі...— цяжка было зразумець, жартуе Дзенісевіч ці гаворыць сур'ёзна.— Ну, па руках?!
— Ты што, не таго? — Кісцянкоў здзіўлена паглядзеў на Дзенісевіча.
— Я сур'ёзна...
— Адкажаш на ўсе пытанні, атрымаеш паперы хоць на цэлую кнігу.
— Вельмі танна купляеш, пан Кісцянкоў.
— У цябе засталіся лічаныя дні на гэтым свеце...
— Праўда,— пагадзіўся Дзенісевіч.— Трохі меней, чым табе...
— Не будзеш па-добраму, сілай выціснем.
— Колькі ў цябе пытанняў? — пацікавіўся Дзенісевіч.
— Вось так бы даўно,— павесялеў Кісцянкоў.— На сёння два.

Першае — каго ведаеш з партызанскіх сувязных? Другое — яшчэ хто з разведчыкаў працуе ў нас?

— А ўсіх пытанняў колькі?

— Дзесяць...

— Многа... Дужа цяжкія пытанні. Ні на адно не здолею адказаць.

— Калі так, то што ж,— і ён загадаў вартавому: — На допыт яго!

— Дзякуй за пратэкцыю...

Эсэсавец падштурхнуў Дзенісевіча.

## IV

І зноў, скрываўлены, ляжаў ён ніцма, стагнаў.

— Ні слова, ніводнага слова,— нямогла шапталі вусны.

Ведаў, што такое — другая стадыя допыту Шульца. Пасля яе амаль кожны ці паміраў, ці гаварыў усю праўду... Той жа, хто вытрымліваў яе, мог разлічваць на трэцюю, апошнюю. Пасля яе вязні даходзілі да вар'яцтва, і медыцынская камісія падпісвала прыгавор: безнадзейны. І адпраўлялі ў расход... Ад Шульца ніхто яшчэ не вяртаўся на волю...

Апрытомнеў Дзенісевіч, калі ўрач-эсэсавец мацаў пульс. Хацелася піць. І раптам Дзенісевіч убачыў ложак. Ён быў накрыты коўдрай, на ім ляжала падушка. У дзвярах стаяў Бёлле.

— Дзякуй, пан Бёлле. Мне і на саломе нядрэнна. І не прывык я да камфорту... Вы добры чалавек, гаворыце ветліва. Анёл вам імя. Вось толькі крылы нешта не растуць. Мундзір, мусіць, цеснаваты...

— Зайздрошчу вашай цярплівасці, Дзенісевіч. Няўжо вы рашылі пайсці на смерць?

— Вы прыйшлі, каб прапанаваць мне жыццё?

— Гэта залежыць ад вас.

— Не на таго трапілі, пан Бёлле. Мусіць, у вас вопыту не хапае...

— Няўжо вы не разумееце, што жыццё лепш, чым смерць!

— Вам гэтага не зразумець. Хоць і расказаў бы я вам, чаму так раблю, усё роўна не зразумееце. Я грэбую тым жыццём, якое вы мне хочаце дараваць.

Дзенісевіч адчуў, як боль зноў перуном ударыў у галаву і працяў усё цела. Зноў непрытомнасць. Доўгая і балючая.

Недзе ўночы ў Дзенісевіча хапіла сілы дапаўзці да табурэткі і падняць руку, каб дастаць кацялок, але ён скінуўся. Здаецца, нічога так не шкадаваў у жыцці, як некалькі лыжак гэтай рудай поліўкі.

Раніцой зноў увайшоў Бёлле.

— Я ўсё больш здзіўляюся вашай стойкасці,— пачаў ён.— Я бачыў многіх вязняў. Некаторыя поўзалі ля маіх ног, прасілі, каб даравў жыццё, іншыя паводзілі сябе, як вар'яты. Вы не з такіх. Відаць, што вы ідзяце на смерць свядома. Я хачу пахваліць вас. Цяжэй перанесці катаванні, чым сустрэць смерць. Але вам на смерць ісці толькі праз катаванні...

— Шчыра дзякую за камплімент, пан Бёлле,— прашаптаў Дзенісевіч.

— Я не дзеля гэтага прыйшоў. Кпіны, на якія вы былі не здольны на рабоце ў нас...

— Не ў вас...

— Ну, няхай сабе... Мне трэба сур'ёзна пагаварыць з вамі.

«Пачалося...»

— Размова наша неафіцыйная.

«Нешта новае...»

— Мы шмат чаго рабілі разам. Нават тое, пра што не ведае Аўсберг... Над вашым падполлем прызначаны спецыяльны суд. Кісцянкоў мае шмат фактаў, каб усіх вас расстраляць... У адпаведнасці з законамі ваеннага часу. На судзе будуць прысутнічаць паліцэйскія, салдаты СС, СД і палявая паліцыя... Раю вам узяць усю віну на сябе і Вуленку. Астатнім тады будзе лягчэй. Мы іх адправім у канцлагер... Я вам гавару адкрыта, як разведчык разведчыку. За такую паслугу прашу адно: не ўспамінаць на судзе пра наша супрацоўніцтва.

— А гэта ідэя, — ажывіўся Дзенісевіч.— Вы мне падказалі выдатную ідэю. Мы — на той свет, вы — на перадавую.

— Да гэтага вы працавалі чэсна, Дзенісевіч. Нават зайздросна чэсна. Без правакацый, якія часам бываюць у нявопытных разведчыкаў. Але не разумею вас цяпер. Няўжо вы не можаце дайграць сваю ролю да канца, як робяць у такіх выпадках. Я прапаную паслугу за паслугу...

— Вы лічыце, што тое, пра што я прамаўчу, будзе мне ў якасці ганарару?

— У мяне няма іншага выйсця...

Дзенісевіч маўчаў. «Паслуга за паслугу? Абодвум расстрэл, астатнім канцлагер. Гэта лічы — крэматорый. Нічога сабе паслуга!»

— Лепшага выйсця для вас няма, Дзенісевіч — пасля паўзы сказаў Бёлле.— Тады пастараюся, каб вас не катавалі больш. Суду вы можаце даць паказанні, якія вам захочацца... Гавару вам чэсна. Зразумейце, у мяне няма іншага выйсця... Суд будзе ў пачатку ліпеня... Мы дамовіліся? Гэта, майце на ўвазе, адзіная мая просьба.

— Добра... Але і ў мяне ёсць да вас просьба, пан Бёлле. Ці можна мне ўбачыцца з роднымі?

Бёлле задумаўся.

— Над вамі два начальнікі,— сказаў ён.— Аўсберг і я. Я магу дазволіць — не дазволіць Аўсберг. З-за прынцыпу... Але я што-небудзь прыдумаю...

Ён цяжка пайшоў да дзвярэй.

— Пан Бёлле,— спыніў яго Дзенісевіч.— Адкажыце на адно пытанне... Толькі чэсна. Вы згодны са мной, што Гітлер прайграў вайну?.. Не бойцеся, мы тут адны.

Бёлле стаяў моўчкі, пільна глядзеў на Дзенісевіча. Думаў. Нарэшце ўздыхнуў:

— Вам ужо няма часу займацца палітыкай, Дзенісевіч. А наконт вайны... Няхай і прайграе яе Гітлер, але будзе новы фюрар, і ён паправіць памылкі Гітлера.— Бёлле выйшаў са склепа, як пабіты.

Праз колькі часу вартавы адчыніў дзверы, і паліцэйскі прынёс ахапак свежай саломы. Салома была яшчэ зеленаватая, духмяная. Дзенісевіч уссунуўся на яе і раптам локцем наткнуўся на нешта цвёрдае. Разгарнуў шапаткую салому. Там ляжаў пачак паперы! Пачаў шукаць аловак. Перамацаў да апошняй саломінкі, але не знайшоў. «Мусіць, паліцай згубіў... Аўсма, дзякуй табе, Аўсма...»

Цяпер ён чакаў Аўсму. Яна павінна прынесці яму аловак. Адзіную цяпер яго зброю...

## V

«Я раней і не заўважаў, якія доўгія дні. Аб чым толькі не перадумаеш. Хутчэй бы канец. Надзеі на жыццё няма. Засталося некалькі гадзін, можа дзён. Вось бы цяпер аловак. Ці хутка перадасць Аўсма аловак? Якое цяпер надвор'е? Неба хмурае ці блакітнае?.. Спецыяльны

суд будзе судзіць. Усіх катавалі без суду і следства, а тут на́ табе — доўгае следства і суд. Трымайцеся!»

I яшчэ адзін дзень мінуў.

Раніцой пачулася каманда:

— Штэйт аўф!..

«Якое там устаць... О, гэта Аўсма прыйшла...»

— Заходзьце, Алена, заходзьце,— гаварыла Аўсма.— Хутчэй!..

Увайшла Алена. Заплаканая, гаротная. Яна кінулася да мужа, прытулілася да яго.

— Я вам прынесла аловак, Ганс,— прашаптала Аўсма і падала яго Дзенісевічу.— Паперу атрымалі?

— Дзякуй вам, фройлен.

— Аўсберг забараніў мне заходзіць сюды. Я тайком сёння... Алену прывяла.

— Бёлле абяцаў, што маім родным дазволіць наведаць мяне...

— Яны з Аўсбергам сашчапіліся, як ваўкі... Я хачу яшчэ раз пагаварыць з вамі, Ганс... Усё пра тое ж...

— Прыходзьце... калі паспееце.

Аўсма выйшла.

Алена ўзняла чырвоныя ад слёз вочы і моўчкі глядзела на мужа.

— Хто вас выдаў? — ледзь чутна спытала яна.

— Рамусеў з Лемеравым... Іх не арыштавалі?..

— А мне маці Цялюпікава сказала, што ты ўсіх выдаў...

— Вось як! — здзівіўся Дзенісевіч.— Гэта работа Лемерава з Рамусевым. Хочуць адвесці ад сябе кару.

Алена ведала — яна бачыць мужа апошні раз. Раптам вусны ў яе задрыжэлі, і яна наўзрыд заплакала...

Вартавы паўстаў на парозе і паказаў — пара расставацца. Алена стаяла як здранцвелая. Вартавы штурхануў яе.

— Эй ты, вылюдак! — крыкнуў Дзенісевіч.— Стаяць!

Вартавы адступіўся.

— Перадай нашым прывітанне і скажы, што я, як і раней, выконваю заданне райкома...

Дзенісевіч на развітанне ўсміхнуўся, прыўзняў галаву — даў зразумець, што ніякія сілы не зломяць яго.

Пасля сустрэчы ён спахапіўся: чаму Алена нічога не сказала пра самага маленькага, Валодзьку? «Як ён там?» Калі пытаўся пра сям'ю, нейкі чорны цень прабег у яе па твары. Усё адказвала: «Нічога... нічога...» А потым схамянулася і пачала яшчэ больш плакаць.

«Няўжо ўсю сям'ю будуць катаваць! Дарэмна будуць катаваць. Ён нічога не расказваў ім. Алена верыць, што яшчэ сустрэнемся. Эх, Алена, Алена! Не паспеў сказаць я табе ласкавых слоў. Можа, калі і не так што было, даруй. Ведай толькі, што кахаў я цябе. Стойка прымі маю смерць. Я не засох цвыркуном у запеччы. Я загінуў на пасту. Помні гэта і дзецям раскажы. Бывай, мой дарагі друг. Але што ж гэта я пачаў так хутка развітвацца? Наперадзе ж яшчэ шмат работы.»

●

«Ніколі так не было. За тыдзень — дванаццаць вершаў. Здаецца, на волі так не пісаў бы. А тут спяшаешся жыць, пісаць, думаць. І амаль не праўлю напісанае. Усё з глыбіні душы... Гэта маё апошняе, што я здолею напісаць... Добра, што вершы перадаў маці. Няхай яны будуць маімі пісьмамі тым, хто застаецца жыць... Маці... Як шкада яе!



Прыйшла забітая горам, са слязьмі. Усё баіцца, што людзі не павераць мне. Матуля ты мая родная! Не бойся. Людзі ўсё зразумеюць... Не паспеў і табе сказаць цёплых слоў за ласку тваю і клопаты, за трывогі твае і любоў. Дзякуй, мама, за ўсё. Не крыўдуй, што рана пакінуў цябе... Колькі нас у сям'і было, а за кожнага ты непакоілася, перажывала... Мне засталося нядоўга. Я зрабіў усё, што мог. А дадаткам да ўсяго няхай яшчэ будуць мае вершы... Толькі б не захварэць. Не хочацца хвораму паміраць. Палічаць слабым. Трэба берагчы сябе і ў апошнія хвіліны. Няхай ведаюць фашысты, што мы паміраць умеем гэтак сама, як змагацца...»

## VI

Аўсма не магла заснуць. Не памаглі нават таблеткі, якія яна цяпер прымае нанач. Перад вачыма стаяў Дзенісевіч. Усплылі ў памяці яго словы, і Аўсма ўжо каторы раз пачынала ўдумвацца ў іх сэнс, але паранейшаму не магла разгадаць, на чыім баку праўда. Часам яна пачынала згаджацца з Дзенісевічам, але, спалохаўшыся, што гатова пайсці на здраду, гнала такія думкі прэч і пачынала думаць зусім пра іншае. Аўсма ніколі не ўяўляла сябе разведчыцай, хоць Бёлле і Аўсберг часам давалі ёй адказныя заданні. Яна выконвала іх, як салдат. Цяпер жа пачынала задумвацца, што ёй сказаў Дзенісевіч. Нарэшце, з кім яна? Вайну, якая вядзе Германію да страшэннай катастрофы, яна асуджала. Успаміналася і тое, што сказаў бацька, праводзячы яе на фронт: «Не твая гэта справа, Аўсма, хадзіць на вайну. Немцы прайгралі яшчэ тады, калі рыхтаваліся да яе». Аўсма смяялася, як яна лічыла тады, з яго наіўнасці. А цяпер усё больш і больш думала над бацькавымі словамі. Ён не вельмі любіў палітыку. Але аднойчы Аўсма жахнулася, бо бацька сказаў, быццам бы Саветы сваім ладам хутка заваююць увесь свет.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Каб хто пачуў гэта, турмы б табе не мінуць,— ад спалоху яна аж азірнулася. Але ў пакоі, акрамя іх, нікога не было.

— Ты маладая яшчэ, дачка. Праз кніжкі на свет глядзіш. А я ведаю рускіх яшчэ з тае вайны. Гэты народ крывёю заплаціў за Саветы, таму і цяпер будзе гэтак жа плаціць, але не аддасць сваёй улады. Успомніш потым мае словы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

I вось яна ўспомніла. Ды што тыя словы. Ёй трэба большае. Што рабіць цяпер? Каб быў тут бацька... Ён прадбачыў паражэнне фюрара, але ці думаў, што яго дачка можа стаць на бок рускіх? Ці апраўдае такі ўчынак бацька? А раптам фюрар выйграе вайну? Як яна будзе тады адчуваць сябе? Думкі блыталіся, балела галава, рабілася сумна, адзінока. Радыёпрыёмнік з шыпеннем даносіў ціхую музыку, патрэскваў ад далёкіх разрадаў.

Аўсма бралася за кнігу, але зноў набягалі думкі пра Дзенісевіча. Чамусьці ўспомніліся салдаты, што пад Масквой самі здаліся ў палон, яе каханы Фрыц, які расстраляў аддзяленне эсэсаўцаў і перабег да бальшавікоў. Тады яна вар'яцела ад злосці, цяпер жа думала пра гэтых людзей з нейкім спачуваннем. Уяўляла сябе на іх месцы, але зноў адганяла прэч гэтую думку. Ноччу яна некалькі разоў прачына-

лася. Сніўся бацька. Запомніліся толькі яго словы: «А што я табе гаварыў, дачка?!»

## VII

Каторы ўжо дзень Дзенісевіч не бачыў людзей. Хіба толькі вартавых, якія прыносілі ў камеру пахлёбку. Ды ці гэта людзі? Маўклівыя, як егіпецкія муміі. Нават вобыск і то робяць моўчкі. Добра, што агледзеў у сцяне дзірку. Там не знойдуць вершаў. Але чаму не прыходзіць Марыя? Мусіць, не прапускаюць. Бёлле баіцца Аўсберга. А, можа, арыштавалі і яе? І Аўсма не прыходзіць. Ці не раіцца з Бёлле, як быць?

Вось і сёння ён паставіў на сцяне рыску пражытага ў гэтым смуродлівым склепе дваццаць пятага дня. На прагулку выводзяць адзін раз у суткі. На дзесяць мінут. Аднойчы Дзенісевіч убачыў на другім канцы двара Вуленку. «Трымайся, дружа!» — Дзенісевіч падняў кулак, але ў гэты момант наглядчык з размаху ўдарыў яго па руцэ.

А ўначы ён пісаў.

Вось і цяпер ён падбіў зляжалую салому, каб крыху прылегчы. Якраз закончыў верш пра вясну, апошнюю сваю вясну. Паклаў у тайнік.

Рыпнулі дзверы. Зайшла Аўсма.

«Не, гэта не сон»,— падумаў Дзенісевіч і ўсміхнуўся ёй.

— Добрай раніцы, Ганс...

— Рад бачыць вас, фройлен. Што новага на волі?

«Ён і тут хоча ведаць пра ўсё...»

— Суд назначылі на 4 ліпеня... Цябе і Вуленку расстраляюць. Астатнім — канцлагер...— На яе вочы набеглі слёзы.

— О, у мяне яшчэ амаль цэлы тыдзень жыцця! — усклікнуў Дзенісевіч.— Можна шмат зрабіць... Скажыце, фройлен, ці можаце вы памагчы, каб я ўбачыўся з сястрой Марыяй? Я ж так і не бачыў яе.

— Не ведаю, ці памагу, Ганс. За мной пачалі сачыць. Я толькі перадам тваю просьбу Бёлле...

— Ён па-ранейшаму пасылае вас выпытваць у мяне сакрэты?

— Сёння мяне паслаў Аўсберг.

— А сам не жадае паглядзець на свайго вернага слугу?

Аўсма зноў з нейкім затоеным захапленнем глянула на Дзенісевіча.

— Як Бёлле ўспрыняў прапанову, каб вы замянілі мяне як разведчыка?

Па твары фройлен прабег ледзь прыкметны цень.

— Ты ўсё не давяраеш мне? — запытала нарэшце.

— Пакуль не маю права.

— Давай пагаворым сур'ёзна...

— Няма часу, фройлен, — сказаў Дзенісевіч.— Я і так страціў у гэтым склепе цэлы месяц. Нельга траціць ні мінуты. Кожная мінута прыносіць безліч ахвяр, слёз, пакут. На дзень хутчэй закончым вайну — выратуем тысячы людзей ад смерці.

Фройлен утаўпіла позірк у падлогу і маўчала. Нарэшце падняла галаву.

— Я шмат думала над тваёй прапановай. І ўсё ніяк не магла рашыцца.. А пра Бёлле ты дарэмна... Цяпер я гатова замяніць цябе. Гавары, што трэба зрабіць, з кім сустрэцца?

Такі адказ крыху насцярожыў Дзенісевіча і ў той жа час узрадаваў. Усё ж згадзілася! Але адразу пытае пра яўкі? Што гэта, святая жаночая наіўнасць ці пытанне з гестапаўскай інструкцыі?



— Сустракацца ні з кім не варта,— нарэшце адказаў Дзенісевіч.— Пра гэта пасля. Цяпер першае ваша баявое заданне. Для вас яно будзе не цяжкае. Нашаму камандаванню важна ведаць, якія войскі знаходзяцца ў горадзе і колькасць салдат. Якая тэхніка і колькі яе, нумары вайсковых часцей. У вас ёсць такія звесткі?

— Дастану...

— Майце на ўвазе, дакладнасць павінна быць абсалютная... Ваша клічка з гэтага часу будзе «Караліна». Нашы ведаюць. Гэтую клічку я прыдумаў для вас даўно,—схлусіў Дзенісевіч.

— Ты разлічваў на маю дапамогу? — здзівілася фройлен.

— У сваіх данясеннях я рабіў прыпіскі, ад каго атрымаў звесткі.— Дзенісевіч гаварыў па раней прадуманым плане.— І нашы ведаюць вас як «Караліну». Яны здагадаюцца, што я падключыў вас да нашай работы...

— І мне прыйдзецца сустракацца з партызанамі? — спалохалася Аўсма.

— Гэта пасля. А пакуль што адкрыю вам адзін сакрэт. Ці памятаеце яшчэ нашу лаўку? Гэта мая паштовая скрынка. Ля вышчарбленага канца лаўка адкрываецца, як пенал. Адсуньце дошчачку і пакладзіце туды запіску, чакайце адказу... Толькі папярэджваю, фройлен, не ўздумайце жартаваць. За такія жарты не даруюць...

— Ведаю,— коратка адказала Аўсма.— Калі перадаць данясенне?

— Хоць сёння...

Яны развіталіся, і Аўсма выйшла. Дзенісевіч чакаў цяпер сястру. Яна павінна папярэдзіць райком.

Марыя прыйшла за дзень да суда. Бёлле загадаў ёй прынесці брату чыстую бялізну.

Гутарка была кароткая. Марыі дазволілі быць з братам толькі пяць мінут. У камеры ля дзвярэй стаяў эсэсавец.

— У нас вяселле было. Сцяпан Крэмень ажаніўся на нейкай Караліне,— расказвала Марыя.

— Прыгожая? — запытаў Іван Дзенісевіч.

— Харошая. Бацькі давольныя... Толькі мы не ведаем, адкуль яна родам.

Вартавога нехта паклікаў, і ён выглянуў у калідор.

— Аўсма...— ледзь чутна сказаў Дзенісевіч.

— Навучы шыфру,— гэтак жа ціха сказала Марыя.— Толькі невядома, ці доўга пажывуць яны разам. Час такі.

— Калі ўжо выйшла замуж, то будзе жыць,— усміхнуўся Дзенісевіч.— Ты перадай прывітанне яе новым бацькам. Харошыя яны людзі... Заўтра суд. Вам лепш не прыходзіць... Ну, бывай, сястра!..

Ён пацалаваў Марыю і неўпрыкметку перадаў ёй вершы. Яна залілася слязьмі.

— Толькі без гэтага, — папракнуў Дзенісевіч.— Вышэй галаву! Жадаю вам шчасця...

— Аллес! — гледзячы на гадзіннік, скамандаваў вартавы і паказаў Марыі на дзверы.

Яны развіталіся.

## VIII

Зала былога раённага клуба перапоўнена. На пярэдніх радах сядзелі салдаты вермахта, ззаду (нават на адным крэсле па двое) — паліцэйскія. Тут былі і тыя, хто ішоў апошні раз з Дзенісевічам на «аб-

лаву». Залу акружаў ланцуг узброеных эсэсаўцаў. Так распарадзіўся Аўсберг. І цяпер здавалася, што ўсе гэтыя людзі ў чорных кіцелях з белымі павязкамі на рукавах таксама сядзелі на лаве падсудных.

У зале духата.

Тым часам ля ганка рэзка, можа нават і знарок, тармазнуў аўтафургон. Дзверы расчыніліся, і з яго выскачыла некалькі эсэсаўцаў. Потым вывелі Івана Дзенісевіча. Рукі ў яго былі заламаны назад. На іх пазвоньвалі наручнікі. Гэты звон быў чуваць і тады, калі Дзенісевіч з узнятай галавой, праз жывы салдацкі калідор падняўся за бар'ер, сеў на шырокі, патрэсканы ад часу, услон. Акінуў позіркам залу. Так і ёсць, паказальны суд для тых, хто месяц назад ішоў да сваіх.

— Вы хоць павіталіся б, пан разведчык, — пачуў Дзенісевіч з'едлівы голас Аўсберга.

— Не бачу з кім, — адказаў Дзенісевіч.

Аўсберг хмыкнуў і нешта шапнуў генералу, што сядзеў побач. Дзенісевіч не бачыў яго раней. Наогул у іхнім гарадку рэдка калі былі нямецкія генералы.

Неўзабаве за акном зноў загула машына. Прывезлі Вуленку. Ён азірнуўся наўкола і таксама не сказаў ні слова. Сеў пасярод вартавых, якія стаялі побач, і глянуў на Дзенісевіча. Павіталіся. У позірку Вуленкі не было ранейшага спалоху і тугі. Дзенісевіч кіўнуў галавой — пахваліў яго. І яны спакойна пазіралі ў залу, шукаючы знаёмых. Паліцэйскія вінавата адводзілі вочы.

Нарэшце прывялі астатніх вязняў і пасадзілі на другую лаўку, ля сцяны, дзе месціўся «вялікі суд». Дзенісевіч заўважыў, як увайшлі пад канвоем Алена, маці, сястра Марыя, жонка Вуленкі, цёшча і цесць. Твары іх гаротныя, заплаканыя. Дзенісевіч усміхаўся, падбадзёрваў,ківаў ім галавою. Нарэшце зайшла група цывільных — родныя і знаёмыя астатніх падсудных. Іх пасадзілі на пярэдні рад.

«Значыць, Бёлле не маніў,— прыгадаў Дзенісевіч.— Нас з Валодзем расстраляюць, астатнім — канцлагер».

Аўсберг абвясціў, што суд пачынаецца.

У зале ўсе на хвіліну ўсталі.

Першы выступаў Аўсберг. Ён гаварыў тое, што ведалі Лемераў і Рамусеў. Праўда, успомніў пра пішучую машынку і бранявік. Але Дзенісевіч адчуваў, што доказаў у каменданта няма. Пачаў крывіцца і генерал.

Дзенісевіч пазіраў на маці, на жонку, на сястру, міргаў ім, суцяшаючы. Бачыў Аўсму, але твар у яе быў нейкі абыякавы.

Пасля выступлення каменданта выклікалі сведак. Яны адказвалі кожны па-свойму. Нагаворвалі на вязняў і апраўдвалі Лемерава і Рамусева.

Нарэшце суддзя звярнуўся да Дзенісевіча:

— Падсудны Дзенісевіч! Вы што, нічога не маеце сказаць у сваё апраўданне?

Дзенісевіч устаў.

— Колькі суд дае мне часу, каб пагаварыць з вамі? — безапеляцыйна запытаў ён.

Суддзі пераглянуліся. Аўсберг нахіліўся да генерала. Нешта перагаварылі паміж сабой, і камендант абвясціў:

— Пяць мінут...

— Дзякуй за ласку.Скажу адно, што хлусіць не буду. Для сваёй Радзімы я зрабіў значна больш, чым тут гаварылася. Так, так. Значна больш. Калі хто хоча поўнасцю даведацца пра маю дзейнасць, як савецкага разведчыка, раю прыгадаць вашы жалобныя мітынгі



пасля карных аперацый... Паліцаям, якія сядзяць тут, скажу адно: перад савецкім народам будзеце адказваць за ўсё. Памятайце гэта, прыслужнікі фашызму!

— Без пагроз! — крыкнуў суддзя.

Генерал заліўся чырванню і падскочыў:

— Я магу прывесці прыгавор у выкананне зараз жа!

— Ці ўпершыню вам, генерал!..

— Вывесці яго! — загадаў раз'юшаны генерал.

Бутафорыя паказальнага суда была сапсавана, чаго так баяліся яе арганізатары.

## IX

Апошнія крокі па гулкім калідоры, апошні хуткі світанак...

Машына чакала яго, як раней чакала іншых. Яна амаль кожную раніцу забірала кагосьці і больш не прывозіла назад. Замест іх прывозіла новых вязняў у той жа сыры і змрочны склеп.

Кароткая дарога па горадзе, як рытуал раставання назаўжды.

Ад Сажа дыхнула астуджанай свежасцю. Росная лугавая трава чаплялася за босыя ногі, быццам хацела падоўжыць апошнюю дарогу чалавека на гэты старажытны курган, дзе спыняліся многія яго папярэднікі...

Наперадзе стройныя рады эсэсаўцаў, паліцэйскіх, гестапаўцаў. Ззаду, аж кружыцца галава, глыбокі роў.

«Паказальны суд працягваецца»,— міжволі падумаў Дзенісевіч. Поплеч з ім ішоў Вуленка.

Недзе на тым баку Сажа, на ўзлессі, галасна кукавала зязюля. Дзенісевіч ужо не слухаў гестапаўцаў, іх адрывістых каманд. У вушах стаяла: ку-ку... ку-ку...

«Колькі ж гадоў налічыць?.. Дзесяць... Пятнаццаць... Дурненькая! Мой час настаў. Не гады засталося жыць — імгненне.— Ускінулі эсэсаўцы аўтаматы.— Секунды...»

Высокі гестапавец павярнуўся ў той бок, адкуль чуўся голас зязюлі.

— Не бойцеся птушак,— па-нямецку сказаў Дзенісевіч.— Зязюля вяшчае і пачатак, і канец жыцця...

— Маўчаць! — крыкнуў гестапавец.

І зноў кукавала зязюля. І раптам песня яе абарвалася.

— Ку!.. — усяго адзін раз...

Двойчы адгукнулася недзе рэха. Сож зліваўся з блакітам неба. Нахілілася зямля, і рука кранула росны папаратнік. На ім распускаліся, зацвіталі кветкі...

Рука яшчэ злавіла сцяблінку папараці і расшчамілася...

**У вераснёўскім нумары**
**будзе апублікавана**
**драматычная аповесць для сцэны**
**Аркадзя МАЎЗОНА**
**«Людзі, агонь і смерць»**



Алесь ШПЫРКОЎ



● *Вышыннікі* ●● ——— ●●● *Раніца*



●

Кожнай раніцай крочым
проста ў неба з зямлі.
Мы не толькі рабочыя,
Мы — вышынь каралі.
На дванаццатым небе
сустракаем зару...
І металу патрэбен
Пал мазолістых рук.
З нашых дужых далоняў
у таежнай глушы
ўвысь стартуюць калоны,
да блакітных вышынь.
У галактыках — ноччу,
днём — у цэнтры зямлі...
Мы не проста рабочыя.
Мы — вышынь каралі.

●●

Блакітны снег. У лесе чысціня.
Ялінка галавою мне ківае,
і стомленае сонца за сасняк
на ноч кладзецца рыжым караваем.
Не бойцеся! Не буду паляваць
я на звяроў і не ссяку сасонкі.
Не змог бы тут і дрэўца спілаваць:
ты для мяне свяшчэнны, лес расонскі.
Прастрэленымі сцежкамі не раз
у лесе я блукаў калісь з матуляй...
Ты быў маўклівым рыцарам для нас,
маё дзяцінства, казка і прытулак...
 На сінім снезе ёлкі-церамкі,



мая лыжня — адзіная дарога...
У Гараўцы я еду напрамкі,
каб пастаяць хвіліну ля парога,
дзе папялішча снег запарушыў...
Ды толькі сэрца і сягоння ные...
А лес маўчыць. Здаецца — ні душы.
І толькі цені, доўгія, лясныя.

●●●

Толькі-толькі скінула спяцоўку,
выбегла вясёлая, шчаслівая.
І адразу салаўі зашчоўкалі,
луг гарыць вясёлкай зіхатліваю.
Над зямлёю сонца на паўметра.
Вось дабегчы б ды схапіць рукою...
І насустрач ранішняму ветру
да Дзвіны імчыш ты цераз поле.
У вачах іскрыначкі-смяшынкі,
птушкай б'ецца сэрца маладое.
Падняла гарэзліва расінку
і нясеш да сонца на далоні.



Васіль ЖУКОВІЧ



● *Смага* ●● ——— ●●● *Работа*



●

I. НІВА

— Дзе ты, дожджык мой спелы, дзе?
Наступае мой голад страшны.
Адчуваю, што сённяшні дзень
Гэткі ж будзе, як учарашні.

Так баюся, што колас пусты
Са спякотным скоціцца летам.
Дзе ж ты, дождджык мой залаты,
Дзе ты?

2. ДОЖДЖ

— Я хачу, я хачу, я хачу,
Я з табою імкнуся зліцца,
Каб як след чалавек адчуў,
Караваем як пахне пшаніца.

Я тужу па тваёй красе.
Але ветру ўсё ж падуладны,
І куды ён мяне панясе,
Я ніколі не знаю дакладна.

3. ВЕЦЕР

— Так, я хмару пранёс не адну,
Не адну на зямлі пасеяў.
Захачу — і сягоння шпурну
На лугі, дзе падсохла сена...

У мяне ёсць прага свая —
Самым вольным застацца на свеце.
Нездарма мне далі імя —
Вецер.

●●

Вясна спявае маладая.
Святочны вечар, ды адна
Жанчына роспачна рыдае
Ў сваім пакоі ля акна.
Ў яе жыццё
штосьці не тое,
Штосьці нясветлае ўвайшло:
Мо кінуў камень хто ў святое,
І шчасце хруснула, як шкло.

Перад усім устала светам,
Як на экране, у акне.
Сягоння — веснавое свята,
І ёй балюча удвайне.
Святкуе вуліца бяссонная,
Спяшае жыць вялікі свет.
А на крыштальным шкле
аконным
Дрыжыць жаночы сілуэт.

●●●

Як хлеб і паветра,
Як сонца і неба,
Патрэбна ты мне, работа.
Я быў бы не я
без гэтай патрэбы,
Без гэтай зямной турботы.
Таму,
як на хлеб з голаду,

На цябе накідаюся,
Таму,
як да полымя з холаду,
Да цябе дарываюся,—
Маё нараджэнне,
уваскрасенне,
шчаслівае заўтра —
работа.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Міхась ВЫШЫНСКІ
- Алесь КРЫГА
- Сцяпан КАЗЛОЎСКІ
- Яўген МАЗО
- Панцеляймон СЕЛІВАНАЎ
- Андрэй ДОЛЬНІКАЎ
- Леанід ЗЕМЛЯКОЎ
- Эдуард ВАРФАЛАМЕЕЎ
- Мікола ПРАШКОВІЧ
- Янка ШПАКОЎСКІ
- Іван ЧЫГРЫН
- Ізот ЛІЦІНЕЦКІ
- Мікола АМЕЛЬЧАНКА
- Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ
- Віктар МАРТЫНАЎ
- Арнольд МІХНЕВІЧ
- Уладзімір ІСАЕНКА
- Аляксей СУЭЦІН
- Мікалай ГРУШЭЎСКІ
- Уладзімір КОРБАН



# НА БАЦЬКОЎСКАЙ ЗЯМЛІ

## З БЛАКНОТА ПІСЬМЕННІКА

Мы з таварышам у дарозе. Дрогка падскоквае матацыкл, твар абвявае сухі чырвенькі вецер. Во-во будуць Харосіцы, дзе цэнтральная сядзіба калгаса «Рассвет». Гравійка ідзе з узлобка на ўзлобак, нібыта бясконца падымаецца ўгору... І з кожнага такога ўзлобка адкрываюцца новыя палявыя далі — прастора! Лавы жытоў, зялёныя разлогі ярыны, лёну, бульбы... Мы едзем у калгас у такую пару, калі сяўба даўно скончана, да жніва яшчэ далёка, а сенакос яшчэ не пачынаўся. Гон работы на час цяпер аціх. Мо гэта і лепш: можна будзе пільней прыглядзецца да людзей.

Харосіцы — вёска вялікая, у тры вуліцы. Хаты ладныя, моцныя, з верандамі, і ўсе патанаюць у зеляніне садоў, прысад. Відаць адразу, што дрэва тут шануюць і любяць. Шырокі выган і рачулка ў асяродку вёскі цешаць вока.

Васіля Сяргеевіча Кунацкага, старшыню калгаса, мы не засталі: ён, сказалі, у Гродна на сесіі — здае экзамены ў сельскагаспадарчым інстытуце.

У канторы гутарым з эканамістам, маладым вясёлым чалавекам.

— Калгас наш,— кажа Іван Фіневіч,— гаспадарка салідная. У ім пяць брыгад, сем вёсак: Лозкі, Падкасоўе, Гур'е, Роскаш, Харосіцы вот...— ківае, аглядаецца на акно Іван. За акном — дробны шэры дожджык.— Маем 3055 гектараў ворыва. Арцель трымаецца мяса-малочнага кірунку... Ураджаі — добрыя... Летась, напрыклад, узялі ў сярэднім з га 38 цэнтнераў збожжавых. Штогадовы прыбытак у гаспадаркі — адзін мільён 765 тысяч рублёў. Пра ўсё гэта Іван расказвае як гаспадар: з гонарам, з годнасцю.

— Ты пра моладзь нашу раскажы,— перабівае яго Міхась Севасцяновіч, галоўны аграном.

— Моладзь? А мы што, пенсіянеры з табою? — смяецца Іван,— у трыццаць гадоў не ідуць, братка, на пенсію... Так, моладзь ёсць. Народ гэты слаўны, робіць усюды: на фермах, на льне, на будоўлі... Калі ж казаць пра механізатараў, то яны ледзь не ўсе маладняк!..

— А вот дзяўчат у нас малавата,— зазначае Міхась,— хлопцаў хоць адбаўляй, а дзяўчат...

Я недаўменна гляджу на яго: у вёсках, як дагэтуль ведаў, усё ж бывае наадварот.

— У горад ідуць,— тлумачыць Міхась,— усё болей на вучобу...

Неўзаметку выглядвае ранішняе сонца. Дождж аціхае. Механізатары, як сказалі тут,— народ малады. Пойдзем спачатку да іх — хлопцы яшчэ не раз'ехаліся на работу.

Дарогай сустракаем Любу Шагун. Люба — станістая, русавалосая дзяўчына з пільным позіркам васільковых вачэй. Вітаемся. Мы яшчэ ўчора пазнаёміліся з ёй. Непадалёк — жывёлагадоўчы гарадок. Люба ідзе туды, яна цялятніца. Усе яе 87 цялятак ужо накормлены, напоены — Люба цяпер была адвінулася на часінку дамоў. Цялятніцай яна працуе нядаўна — работа новая і, вядома, нялёгкая. Упартага характару дзяўчына, казалі нам. Праўда, вопыту ў яе як у цялятніцы яшчэ мала, ды справа гэта нажыўная. Побач з ёй жывуць, працуюць старэйшыя таварышы. Скажам, от як Васіль







Міхась Севасцяновіч—галоўны аграном.

Іванавіч Цярэшка. У яго 150 цялят-адкормачнікаў. 57 яго бычкоў калгас ужо здаў дзяржаве. Кожны бычок важыў па 350—360 кілаграмаў. Васілю Іванавічу—пяцьдзесят два гады, у цялятніках ён не першы год. Ёсць у каго павучыцца Любе.

Люба — камсамолка. У роднай вёсцы яна закончыла школу, сустрэла каханне. Чэсь, муж яе, таксама камсамолец, працуе ў клубе. Чэсь з Гродна, закончыў культурна-асветнае вучылішча і па накіраванні прыехаў сюды. Калгас, людзі, мясціны спадабаліся, і хлопец парашыў назаўжды астацца тут.

Лёс такіх людзей, як Люба і Чэсь, вызначыўся — яны трывала звязалі сваё жыццё з вёскай.

— Скажы, а ў горад не цягне? — пытаюся я ў дзяўчыны,— цяпер жа ўсе туды...



Калгасны ранак. Перад выездам у поле.



На касьбе. Іван Каленька і Леанід Моніч — хлопцы з вопытам.

— Няма калі пра гэта думаць. І чаго мне туды.. Зарабляю я добра, болей за сто рублёў штомесяца, тут мая маці, дзед... Вот скора новую кватэру палучым — бачылі ля праўлення двухпавярховы дамок? — во там... Чаго мне ў горад...

На дворышчы ля рамонтнай майстэрні стаіць грымлівы рокат матораў: трактарысты рыхтуюцца ў поле. У брыгадзіра трактарнай брыгады Уладзіміра Аксентавіча Сіўко спраў, як кажуць, па самыя вушы. Але ён знаходзіць хвіліну-другую, каб пагутарыць. Даведваюся, што ў брыгадзе ў яго 31 трактарыст, што час цяпер не надта гарачы, але работы хапае. Трэба праводзіць шароўку буракоў, хімічную праполку лёну, абганяць бульбу, вазіць торф пад азімыя, касіць на корм жывёле травы...— усяго і не ўспомніць адразу. Народ у брыгадзе здатны да ўсякай работы ў полі. Хлопцы з вопытам.

Пад'язджае Іван Каленька, за ім яго таварыш Лёня Моніч. Сёння ім трэба касіць шматгадовыя травы. Едзем разам з імі ў поле. Кудзелістыя хмаркі сплылі за небакрай. Зіхаціць сонца, па-ранішняму чысцюткай сінню адсвечвае неба. Варушыцца, гуллівa шапоча ў травах вецер. На маладых бязвусых тварах хлопцаў — ціхія, як гэты прыдарожны вецярок, усмешкі. Зямля, людзі і птушкі радуюцца новаму дню. Хораша весці размову ў такія часіны. Іван і Лёня вельмі падобныя адзін на аднаго: абодва прысадзістыя, круглатварыя, хлопцы разважлівыя, нехапатлівыя ў руках, у слове... Размаўляюць — глядзяць табе ў вочы. І біяграфіі ў іх аднолькавыя: абодва камсамольцы, мясцовыя жыхары, абодва вучыліся ў Навагрудку ў школе механізатараў. Усяе і розніцы, што адзін жанаты, а другі пакуль халасцяк.

Прыязджаем на месца. Хлопцы заводзяць машыны, ставяць на патрэбны ўзровень нажы касілак. Іван ужо сталы касец. Лёня ж — першы год. Без дапамогі таварыша яму не абысціся. І Іван тлумачыць Лёню, як трэба кіраваць касілкай, як заводзіць яе на паваротах.

І вось пайшлі машыны. Захваляваліся, ляглі ў пракосы першыя травы... Машыны час ад часу спыняюцца, і Іван зноў штосьці цярпліва тлумачыць свайму сябру.

— Дружныя, аднак, у вас хлопцы,— гавару да Дзмітрыя Бірыча, загадчыка калгаснай майстэрні, які пазней пад'ехаў сюды.

— А як жа,— адказвае ён,— тут адна работа, адзін клопат. Едзем да нас: пакажу і я вам сваіх людзей, майстэрню...

У майстэрні працуюць токары, зваршчыкі, слесары, кавалі — практычна людзі ўсіх асноўных рабочых прафесій. Дзмітры называе прозвішча Валодзі Каранеўскага, камсамольца, лепшага токара. З цікавасцю гляджу на ціха-



Восьмы год ужо, як Раіса Карыцька на ферме.

га чарнявага хлопца. Не, усё ж нязвыкла гэта чуць: калгасны токар. Навокала — гул кампрэсара, стук молата, шум матораў... Як у заводскім цэху. Ідзе рамонт тэхнікі.

Валодзя ўвіхаецца ля свайго станка. Ён сарамлівы, што дзяўчына. Гаворыць ціха. У яго аж тры спецыяльнасці. Ён яшчэ шафёр і слесар. Правы шафёра набыў у арміі, а на токара-слесара вывучыўся ўжо ў Казлоўшчыне...

...Пагодлівым днём выправіліся з ільнаводамі, з аграномам Міхасём Севасцяновічам і брыгадзірам трэцяй брыгады Пятром Нагорным на поле. Калгас «Рассвет», як сказаў Міхась, славіцца сваім лёнам. Пад гэтую культуру адведзена 162 гектары лепшай зямлі. Даходная культура. У мінулым годзе яна дала 677 тысяч рублёў чыстага прыбытку. У гаспадарцы 13 звенняў. Міхась гаворыць пра звяно Фані Сіўко. Сіўко — маладая звеннявая, на льне працуе трэці год. Вынікі працы ў яе — адны з самых высокіх сярод ільнаводаў. Маладосць — не заўсёды нявопытнасць. У мінулым годзе яе звяно атрымала па 11,8 цэнтнера льновалакна, 6,4 цэнтнера семя — усяго даход з гектара склаў 4.444 рублі.

Ад ільнаводаў мы пачулі пра даярку Раю Карыцька. Маладая, вопытная працаўніца, ардэнаноска. Раю мы засталі дома: быў акурат час абеду. Невысокая, загарэлая, выйшла яна з агароду, загаварыла проста і ахвотна.

— Прыехала во з дойкі з-за Нёмана... Каровы цяпер на выпасе, чатыры табары — увесь дзень там ля іх. Зранку, з пяці гадзін на нагах — хапае клопату. Дваццаць кароў — пакуль падоіш.

— Даенне механічнае?

— Але. Толькі не ўсе каровы прымаюць апарат — некаторыя з характарам, прыходзіцца даіць рукамі. Ды прывыкла ўжо...

У канцы вуліцы, на якой жыве Рая,— тыпавыя будынкі кароўнікаў. Знаёмімся з загадчыкам фермы Леанідам Шыманскім, рухавым маладым чалавекам. Нас абступаюць даяркі. Прыемна, калі цябе разумеюць з паўслова.

— Бачыце вунь статак? — паказвае на травяны абсяг Леанід Шыманскі.— Гэта нашы племянныя красуні.

Далей Леанід Шыманскі расказвае, што сёлета надоі добрыя штомесяц. От знаёмцеся з нашымі дзяўчатамі: Валянціна Чура, Вольга Бажко, Марыя Гаршнякова...

Што ж прывязала тутэйшую моладзь да вёскі? Якая сіла яе трымае?







Загадчык фермы Леанід Шыманскі і яго дружнае «войска».

Такія пытанні мы задавалі ўсім: і механізатарам, і токару, і льнаводам, і даярцы, і брыгадзіру будаўнічай брыгады... Адказы, як і людзі, былі розныя. Але ў асноўным, у самым істотным яны сыходзіліся: высокія заработкі (калгас ужо гады чатыры, як перайшоў на грашовую аплату), работа, з якой ты зжыўся душой, якую палюбіў, і яшчэ — родныя мясціны, дзе жывуць твае бацькі, сябры, дзе ўсё сваё і нібы частка цябе: палі, дарогі, лугі... А калі, скажам, засумуеш, калі захочацца радасці, весялосці, ідзеш у Палац культуры. Ён — як наш сталічны «Партызан». Прасторнае фае, танцавальная зала, аздобленая па-сучаснаму — сюжэтным роспісам.

Мы засталі загадчыка палаца Міхася Анацкага за раскладваннем афіш, якія абвяшчалі, што ў нядзелю да калгаснікаў прыедуць артысты з Украіны.

— Плануем у гэтым месяцы правесці баль бярозкі,— гаворыць Анацкі.— Будуць зялёныя дрэўцы пры ўваходзе, будзе конкурс на лепшы касцюм, на лепшага мастацкага чытальніка, будуць спартыў-

«Калі засумуеш, калі захочацца весялосці — ідзеш у Палац культуры»,— шчыра прызнаецца Ніна Пятровіч.





На сцэне калгаснага палаца ідзе рэпетыцыя п'есы Івана Шамякіна «Не верце цішыні».

ныя спаборніцтвы паміж брыгадамі, танцы. Дарэчы, танцы ў нас кожны выхадны: пад радыёлу ці баян. Кінафільмы дэманструюцца па тры разы на тыдзень. Свае дзве стацыянарныя ўстаноўкі.

У вёсках амаль над кожным дахам — тэлевізійныя антэны. Тут і там на падворках бачыш матацыклы, мапеды, часам легкавушкі. Аўтобусы звязалі вёскі з шырокім светам. У кожным сяле — магазін. Гаспадыні — усё роўна старыя ці маладыя — даўно не пякуць свайго хлеба. Кабета, у якой мы жылі, сказала, што цяпер ні ў кога не засталося нават хлебнай дзяжы. І апранаюцца на сяле цяпер не горш, чым у горадзе.

Калгас шмат будуе. І не толькі гаспадарчыя пабудовы. Заканчваецца будаўніцтва шасці жылых дамоў. Каля дому хлявок, восем сотак агароду... Ахвотней сюды ўсяляецца моладзь. Ёсць генеральны план забудовы калгаснага пасёлка. Па ім ля клуба стане шэраг дамоў, будынак гасцініцы, сталовай, магазіна, камбіната быту, школы, дзіцячага сада...

Добра. Чаму ўсё ж некаторая частка моладзі пакідае вёску?

Думаецца, што тут ёсць і псіхалагічны бок справы. Моладзь, якой уласціва рамантыка, імкнецца да новага свету, нязнанага жыцця. Яна прагне, як свята, зносін усё з новымі людзьмі...

— Едзеце ўжо? — пытае Дзіма, хлапчына-дзевяцікласнік. У голасе яго шкадаванне. Мы, здаецца, падружыліся з ім. Харошы ён чалавек. Неяк прызнаўся, што любіць машыны і што абавязкова будзе шафёрам.

...Шумяць пад ветрам зялёныя палеткі. Слаўная моладзь жыве, працуе тут на бацькоўскай зямлі — надзейная змена сваім бацькам.

**Міхась ВЫШЫНСКІ.**
**Фота В. Ждановіча.**

Калгас «Рассвет»,
Навагрудскі раён.





● **Алесь КРЫГА**

# ПАДЛЕТАК НА ЗАВОДЗЕ

**1.**

У Воўкі дзіцячы выраз твару. Воўка хударлявы, невысокі. Ён ніколі не займаўся спортам.

Пальцы ў яго доўгія і тонкія, як у піяніста. Нават дзіўна, што Воўка, нахіліўшыся над сталом, сашкрабае вялізным напільнікам завусеніцы на дэталі.

— Цікавы «экземпляр», — ківае галавой начальнік змены.

— А чым ён цікавы?

Начальнік загадкава ўсміхаецца. Між тым, Воўка заўважыў, што мы на яго глядзім.

— Пакліч Каховіча, — гаворыць начальнік змены маладому рабочаму, што ідзе да свайго станка.

— Пане Каховіч, — чуецца праз шум тонкі голас, — да вас прыйшлі...

Воўка нешта буркнуў у адказ, паклаў на стол напільнік, дзелавіта выцер анучай рукі. Марудна тупае насустрач.

— Вось таварыш хоча з табой пазнаёміцца, — сказаў начальнік змены.

Воўка згодна ківае галавой, але, відаць, не вельмі разумее, навошта ён спатрэбіўся, і ягоны твар робіцца хмуры і засяроджаны. Мы ідзем у пакой майстроў. Тут нікога няма, ціха і ўтульна.

— З міліцыі? — пытае Воўка і падазрона глядзіць мне ў вочы.

— А што, часта наведваюць?

— Пакуль што бог беражэ, — разводзіць рукамі Воўка.

Аднак адчуваецца, што ён нечага баіцца. Вочы насцярожаныя.

— Вось майстар гаварыў, што ты добра працуеш...

Воўка не вытрымлівае, смяецца.

— Адкуль майстар ведае? Я ж толькі месяц працую самастойна. Здзекуецца...

— Навошта яму гэта?

Моўчкі паціскае плячыма. Потым сваімі доўгімі пальцамі цярэбіць падбародак.

— У мяне цяжкі характар. Нават настаўнікі мяне не любяць. Кожны год я вымушаны мяняць школу...

— А ў якім класе вучышся?

— У дзевятым, — ён глядзіць на мяне запытальна.

Я ведаю, што Воўка хлусіць. Таму пытаюся:

— А што зараз па літаратуры праходзіце?

Ён на хвіліну задумваецца, быццам яму вельмі цяжка ўспомніць.

— Пушкіна, — нарэшце няўпэўнена адказвае. Потым глядзіць на мяне. Відаць, усё зразумеў: — Я на другі год у восьмым класе застаўся...

— Добра, — думаючы пра сваё, гавару я.

Воўка нечага ўзрадаваўся, быццам нечакана знайшоў падтрымку.

— Вось і я так вырашыў, — гаворыць ён. — Што мне гэта школа? Там грошай не заробіш.

— А на заводзе ты многа зарабляеш?

— Дзе там. Я фрэзероўшчык другога разраду, а работы няма. Дык сам сабе знайшоў работу: завусеніцы сашкрабаю. Што на іх заробіш?..

Дарэчы, калі я знаёміўся з маладымі рабочымі аўтамабільнага завода, многія скардзіліся на не-

арганізаванасць. Паўмесяца станкі прастойваюць, а потым пачынаецца штурмаўшчына. Але мяне цікавіць Воўка, яго погляды на жыццё, на сваё месца ў рабочым калектыве.

— Ну а спецыяльнасць фрэзероўшчыка табе падабаецца?

— Перабіваемся, — адказвае Воўка, — іншай пакуль што не знайшоў. Мае знаёмыя ўладкаваліся лепш і грошай больш зарабляюць. Праўда, калі ўлічваць, што і бацька і маці працуюць, дык і мне хапае...

Воўка разважае, быццам увесь сэнс ягонага жыцця ў тым, каб больш зарабіць грошай. Калі я яго пра гэта спытаў, ён замахаў рукамі.

— Не, не толькі гэта. Я яшчэ з хлопцамі на танцы хаджу. Бывае вельмі цікава. Дзяўчаты вабныя прыходзяць, выбірай, якую хочаш. А наконт грамадскай работы, — Воўка чухае патыліцу, — мяне ж у камсамол не прынялі ў школе. Ну не за адставанне ці за дрэнныя паводзіны, а проста калі нас збіраліся прымаць, я ў другую школу па прычыне гэтага свайго цяжкага характару перайшоў. Так і застаўся ўбаку. — Воўка ўсміхаецца, але адчуваецца, што яму няёмка. — Ды і навошта я камсамольцам? У іх актывістаў хапае...

— Ну а калі б табе далі нейкае камсамольскае даручэнне?

— Паспрабаваў бы выканаць. Гэта ж цікава. Мне яшчэ ніколі нічога асаблівага не даручалі, каб можна было потым сказаць: вось які я!..

— А хочацца мець права так сказаць?

— А каму ж не хочацца, — Воўка на хвіліну задумваецца, выцягвае з кішэні пачак цыгарэт. — Я на ўчастку на ўсіх станках магу працаваць. Во! Сам навучыўся, — у ягоных вачах свеціцца радасць. Зараз ён зноў зусім хлапчук. — Магу нават прадэманстраваць...

Мяне пачынае цікавіць Воўка. Нешта ёсць у ім незразумелае, але, відаць, ён неблагі хлопец. І наогул Воўка толькі пачынае пазнаваць жыццё, не ўсё ў яго добра, але ўжо адно тое, што ён «можа працаваць на ўсіх станках участка», неяк прымушае ставіцца да яго, як да роўнага.

І ўсё ж такі...

— А якую кнігу ты чытаў нядаўна?

— Даўно гэта было, — ціха адказвае Воўка. — Здаецца, «Соль зямлі».

— Аўтара не помніш?

Воўка зноў задумваецца. Відаць, вырашае, адказваць ці не? Напэўна, падумаў, што я яго ўпікаю. А мне вельмі цікава. Воўка нагадвае мне аднаго хлопца, з якім я сустракаўся гадоў дзесяць назад. Даўно гэта было. За гэты час мы нават да палётаў касмічных караблёў паспелі прывыкнуць, шмат чаго зразумелі. А вось Воўку зразумець нялёгка, бо ў яго нейкае сваё меркаванне наконт жыцця.

— Ведаеш, — кажу я Воўку, — мы з табой ужо сустракаліся.

Ён не паверыў. Наогул, ён, здаецца, да ўсяго падыходзіць асцярожна.

— Я жыву ў Чыжоўцы, — адказвае ён. — А вы дзе?

Таго хлопца, які так мне нагадвае Воўку, звалі Лёнькам, і тады яшчэ не было Чыжоўкі. Лёнька жыў у старым бараку на Сляпянцы. У яго не было бацькі. І яшчэ — Лёнька працаваў на заводзе аўтаматычных ліній. Вось і ўсё разыходжанне ў іх біяграфіях. Астатняе амаль аднолькавае — абодвум, калі яны прыйшлі на завод, было па семнаццаць, абодва — фрэзероўшчыкі, і ў абодвух — «цяжкі характар». Лёнька называў станок «мая хлебарэзка», а Воўка — «стары конь». Затое захапленне танцамі ў іх аднолькавае. Праўда, Лёньку ўжо, відаць, дзесьці дваццаць сем стукнула, ён, мабыць, стаў самастойным чалавекам, можа ўжо даўно ажаніўся і мае дзяцей, а Воўку яшчэ да гэтага далёка. Але ж і ён калі-небудзь усвядоміць гэта.

А цяпер ён гаворыць:

— Што мне калектыў, я сам сабе калектыў: куды захацелася, туды і пайду... Я — чалавек рабочы...

Вось так некалі даказваў і Лёнька сваё права на самастойнасць. Лічыў, што «школа — для акадэмікаў», і, што грэх таіць, у гэтых памылковых поглядах была віна і вопытных кваліфікаваных рабочых. Яны добра зараблялі, работу сваю любілі, але многія не вучыліся — час быў такі. Зараз на заводах большая частка моладзі вучыцца. Хто ў школе, хто ў тэхнікуме, а хто і ў інстытуце. Вось і Воўка, хоць і застаўся на другі год, не вельмі ладзіць з настаўнікамі, але ж займаецца.

— Дарэчы, як твае справы ў школе?

— Так сабе, — адказвае Воўка, — але двоек няма. Я, калі захачу, адразу раблюся кемлівы-кемлівы... Далібог, была б толькі ахвота — выдатнікам мог бы стаць, — дадае ён з гонарам.

Гэтаму можна паверыць, бо хлопец як-ніяк можа працаваць на некалькіх станках.

— Я спачатку хацеў пайсці на завод вылічальных машын, — гаворыць Воўка, — але не прынялі. А там працаваць цікава.

Вось як бывае. Дзесяць гадоў назад фрэзероўшчык і токар маглі ганарыцца сваёй спецыяльнасцю, а зараз моладзь ужо не лічыць яе навінкай. А можа гэта ад няўпэўненасці, ад разгубленасці перад тымі перспектывамі, якія адкрываюцца на парозе самастойнасці перад кожным хлопцам і дзяўчынай? Вядома, нялёгка выбраць сваю дарогу. Разгадаць свой густ і схільнасці.

— А які прадмет лягчэй за іншыя даецца табе ў школе? — пытаюся я.

Воўка доўга не думае.

— Усё лёгка, — адказвае ён.

Надышоў час здзівіцца мне. І не тое, каб здзівіцца — не разумею, жартуе Воўка ці гаворыць праўду.

— Дык чаму ж ты на другі год застаўся?

— ...

— Але ўсё ж? — мне хочацца, каб Воўка адказаў.

Воўка думае. Я толькі зараз заўважыў на ягоным твары маршчынкі.

— Сумна мне ў чатырох сценах, — нарэшце адказвае ён, — так і цягне на волю. На заводзе іншая справа: да нечага здатным сябе адчуваеш. Не тое, каб я думаў, што вялікую карысць прыношу, не: за работай час бяжыць хутчэй...

Мне вельмі карціць спытаць, што думае Воўка рабіць далей. Ці хоча ён скончыць школу, паступаць у тэхнікум. Адчуваю: падказаць, памагчы ў гэтым няма каму. Працоўная дзейнасць бацькоў для яго не ўзор: «Бацька працуе слесарам, маці таксама на *нейкім* станку». Воўку не цікавіць, чым яны займаюцца, але калі глядзець з таго боку, што «бацька і маці працуюць», дык Воўку *хапае* сродкаў.

Гэтыя словы «нейкім» і «хапае» ў Воўкавым уяўленні амаль сінонімы. Калі нейкім чынам працаваць, дык хопіць, а калі трэба, каб хапіла, дык павінен нейкім чынам працаваць.

Адкуль жа дзьме вецер? Адзін вопытны рабочы расказваў, як ён займаўся са сваім вучнем. У абедзенны перапынак адключае станок, а потым, калі вернецца вучань, і гаворыць: «Вось якая справа, браток, нешта ў станку сапсавалася. Пакуль рамонтнікаў выклічаш, змена скончыцца. Можа самі паспрабуем. Га?» Хлопцу, вядома, прыемна, што да яго, як да роўнага, звяртаецца настаўнік. Пачынаюць корпацца ў станку. Амаль за месяц хлопец так вывучыў станок, так захапіўся рамонтнай працай, што... збег да рамонтнікаў. Зараз ён адзін з лепшых рамонтнікаў завода.

Я пытаюся ў Воўкі:

— А табе памагалі?

— Не. Падыду, пагляджу, як працуе станок, а потым у абедзенны перапынак сам паспрабую, пакуль гаспадара няма.

Значыцца, ёсць у Воўкі цікаўнасць да новага. І дзіўна, што на гэта ніхто не звярнуў увагі.

— Бывай, пане фрэзероўшчык, — падаю я руку Воўку.

— У мяне рукі перапэцканыя, — адказвае Воўка з намерам мяне ўпікнуць.

— Нічога, — смяюся я. — З самастойным чалавекам і развітацца як след прыемна.

— Тады я сапраўды «пане», — жартуе ён.

Што-што, а пачуццё гумару ў Воўкі ёсць...



**Марк ДАНЦЫГ**. Партызанскае Вяселле.



**Валянцін ЖДАНОВІЧ.** Люба Шагун. Цялятніцай яна працуе **нядаўна** — работа новая і, вядома, нялёгкая.



**Валянцін ЖДАНОВІЧ.** Харосіцкія дзяўчаты.



**Віталь ЦВІРКА.** Ганча — зямля партызанская.

## 2.

Механічны цэх завода аўтаматычных ліній. Роўна гудуць станкі, з-пад фрэз вылятае феерверк металічных пырскаў, таропка снуюць на праходах тэхнолагі і майстры.

Вось і Лёнькаў фрэзеравальны станок. Ля яго завіхаецца немалады рабочы ў спяцоўцы і сініх вялікіх акулярах. Раней ніхто з рабочых акуляры не насіў.

Падыходжу да рабочага, ціхенька кратаю яго за плячо. Павярнуўся, зняў акуляры, потым ужо выключыў станок.

— Лёню... не ведаеце?

Паглядзеў на мяне, як на дзівака, паціснуў плячыма.

— А дзе ён працуе?

Паказваю вачыма на станок. Як некалі жартаваў Лёнька — «вертыкальны фрэзеравальны». За гэты час станок толькі падфарбавалі, а так на станіне нават выбоіны старыя.

— Тут калісьці працаваў, — гавару я. Мне здаецца, што гэты незнаёмы рабочы абавязкова павінен ведаць Лёньку. Але рабочы зноў уключае станок.

— Такіх «калісьці» шмат перабыло ўжо...

Усё ж такі знаёмыя ў цэху засталіся. Па праходзе, смешна размахваючы рукамі, шыбуе некуды тэхнолаг. Лёнька называў яго «дзядуля Яша», хоць тэхнолагу тады было гадоў дваццаць восем. Відаць, Лёнька выдумаў яму такую мянушку таму, што тэхнолаг, калі глядзеў у чарцяжы, занадта жмурыў вочы, быццам нічога не бачыў.

— Лёнька... фрэзероўшчык? — заклапочана чухае патыліцу «дзядуля Яша». — Чаму цябе цікавіць? Ага! Некалі працавалі разам. Кажуць, браце, што ён сядзеў ужо ў турме. Аднак толькі кажуць... А можа і праўда. Хто ж яго ведае? Характар у хлопца быў цяжкі. Ды і сябры, старая Сляпянка...

Мне не хочацца верыць. Мы стаім у пралёце між станкоў, і мне здаецца, што вось-вось на электракары прыедзе Лёнька. Саскочыць каля нас і скажа: «Электракаршчык — гэта спецыяльнасць. Сорак кіламетраў у гадзіну. Зусім як на аўтамабільных гонках...»

Вядома, ён жартуе. І з яго ўсе смяяліся, што ён так любіць катацца на электракары. Аднак Лёньку гэта не турбавала. Ён проста не мог уседзець на адным месцы.

— Ну ладна, я пабег, — сказаў тэхнолаг. — Канец месяца...

Даўся ён у знакі, канец месяца. А Лёнька гэтыя дні любіў. Работы было многа. І кожны чалавек быў на ўліку. Толькі тады адчувалася, якая гэта важная пасада — фрэзероўшчык.

Лёнька жыў неяк сам па сабе. Вось ён і гаварыў: «Навошта мне калектыў: я сам сабе калектыў. Я — чалавек рабочы...» Сказаць шчыра, дык Лёнька раптам адчуў сябе вольнай птушкай. Пачаў гультаяваць, некалькі дзён не выходзіў на работу. Выклікалі яго на цэхком, папярэдзілі. Лёнька пацішэў, але заслуга ў гэтым была не цэхкома, а слесара са зборачнага цэха Генкі Ігнатава, вядомага ўсяму заводу аматара пагультаяваць і выпіць. Гэта ён першы «прыйшоў на дапамогу» Лёньку: «Ты, хлопец, на заводзе на вочы не лезь, тут арганізацыя. У момант на карку дадуць. Гуляй сабе пасля змены, колькі душа прыме...»

Ігнатава ўжо на заводзе няма. Казалі, пагнаўся за доўгім рублём. Лёнькі таксама няма. Можа і памыліўся тэхнолаг, не ведаю. Але Лёнькі няма, і гэта факт. Гэта быццам працяг той размовы: «Сумна тут, — сказаў Лёнька, — аднойчы збіраліся ўсім участкам у кіно, дык і тое не атрымалася».

Помню, аднойчы да нас прыехаў паэт Уладзімір Паўлаў. Чытаў вершы, расказваў пра свой жыццёвы шлях, службу ў арміі. Потым падпісваў кнігі на памяць рабочым. Лёнька тады падбег да мяне: «Пазыч грошай!» Ён купіў кніжачку вершаў, а на наступны дзень у абедзенны перапынак ужо дэкламаваў некалькі вершаў напамяць. І ўсё гаварыў: «Здорава! Праўда, здорава?»

Гледзячы на Лёньку, нельга было не раздзяліць ягоную радасць ад сустрэчы з новым.

Зараз Лёнька на заводзе ўжо не працуе. Ніхто дакладна не ведае, дзе ён, як склаўся ягоны лёс. За гэтым праглядвае абыякавасць.

І неяк дзіўна, што ў цэху ўсё, як раней, толькі за Лёнькавым станком працуе немалады рабочы, а побач з ім, пераступаючы з нагі на нагу, стаіць ягоны вучань: высокі хлопец гадоў васемнаццаці. Спадзяюся, што ягоны лёс будзе лепшы.

## 3.

Ніхто не гаворыць, што трэба сустракаць навічка з аркестрам або транспарантамі, але ж нейкая ўрачыстая форма сустрэчы маладога папаўнення павінна быць. Напрыклад, ва Уладзівастоку на суднарамонтным заводзе існуе добры звычай: нехта з вопытных паважаных рабочых завода ўручае навічку сімвалічны ключ ад рабочага месца. На іншых заводах таксама ёсць цікавыя рытуалы. Аднак, нажаль, гэта пакуль што не правіла, хутчэй прыемнае выключэнне. Нават музеі заводскай славы, якія існуюць амаль на ўсіх заводах і куды прыводзяць маладых рабочых, у нейкай ступені страцілі сваё выхаваўчае ўздзеянне. Экспанаты не абнаўляюцца, за экскурсаводаў часта ідуць такія ж маладыя хлопцы, як і тыя, што прыходзяць у музей, і таму цікавай размовы не атрымліваецца. Першы рабочы дзень навічкі не запамінаюць, яны амаль не адчуваюць значнай перамены ў сваім жыцці. Добра, калі хлопцы прыходзяць на завод з характарам, а калі не? Вось як той жа Воўка Каховіч...

Шлях да самастойнасці — даволі складаны шлях. І таму не дзіўна, што хлопцы часта памыляюцца, бачаць у самастойнасці бескантрольнасць з боку бацькоў і старэйшых. З'яўляецца жаданне быць не падобным на другіх. Вось так паявіліся некалі на вуліцах вялікіх і маленькіх гарадоў хлопцы ў зашмальцаваных джынсах і з доўгімі да плячэй валасамі. І хоць многія з іх і самі добра разумелі, што гэта не толькі негігіенічна, але і непрыгожа, аднак у гэтым не прызнаваліся. Чаму? Відаць, зноў з-за гэтай сваёй надуманай самастойнасці.

Аднойчы мне прыйшлося чуць такую споведзь:

— Гаворацъ, што на захадзе бітлы на гітарах добра граюць. Я дык не ўмею і не хачу вучыцца. Навошта? У мяне павінен быць свой «айчынны» твар. Я нават ванну прымаю два разы на тыдзень. — Малады бітл, мабыць, спалохаўся сваёй шчырасці. — Мне не хочацца пераймаць. Гэта — як малпы. А валасы ў мяне доўгія таму, што зімой холадна, вельмі дзьме ў шыю...

Гэтак гаварыў ён мне ў спакотны дзень, калі нават асфальт быў мяккі, як шакаладка. Мне было шкада гэтага «бітла», бо я ведаў яго яшчэ па школе, калі ён быў паслухмяны і вельмі акуратны хлопец.

На першы погляд здаецца, што ўсё гэта праявы дзяцінства. Аднак, калі прыглядзецца ўважлівей, многае насцярожвае.

Прыйшоў на работу ў штампавы цэх аўтамабільнага завода Ігар Самовіч. Спачатку рабочыя і не зразумелі: «ён» гэта ці «яна»? Валасы такія доўгія, што нават сама Марына Владзі магла б пазайздросціць. Пытаюць рабочыя ў навічка:

— Ты хто?

Вядома, жартам пытаюць, бо, відаць, падумалі, што хлопцу сорамна стане.

— Мужык, — з гонарам адказвае той.

— Дык які ж ты мужык, — гавораць рабочыя, — калі больш на жанчыну падобны. Вунь якія валасы, толькі губы пафарбаваць засталося...

Ігар нечакана засмяяўся.

— А я сваёй маці сказаў, што пакуль пыжыкавую шапку не купіць, валасы не абстрыгу...

Вось гэта ўжо вельмі сур'ёзна. Тут ужо не скажаш: чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала. Так можна дагаварыцца да таго, што «калі дзвесце рублёў не будуць плаціць, і працаваць не буду».

Я ўжо расказваў сумную Лёнькаву гісторыю. Такіх гісторый можна расказаць яшчэ. І яны будуць да таго часу, пакуль мы не навучымся даражыць кожным чалавекам. Нельга забываць, што і вопытныя рабочыя, да якіх пры-

ходзяць вучні, бываюць таксама розныя. І не кожнаму з іх можна даручыць выхоўваць падлетка. Чаму, напрыклад, разам са спаборніцтвам на лепшага рабочага завода не аб'явіць конкурс на лепшага рабочага-выхавальніка? Вось тады лепшаму з лепшых можна было б урачыста ўручыць і прэмію. Я ведаю шмат прыкладаў, калі рабочыя нават не дапускаюць думкі пра нейкую грашовую зацікаўленасць. Для іх выхаванне падлеткаў — справа рабочага гонару.

**4.**

Механічны і інструментальны цэхі завода аўтаматычных ліній знаходзяцца пад адным дахам. Аднак розніца паміж імі ёсць, і вялікая: інструментальны цэх выпускае не толькі высакаякасную прадукцыю, але і «добрых людзей».

І галоўнае — тут праблема выхавання падлеткаў вырашаецца інакш. Рабочыя мне расказвалі, што ў іх такая сістэма: навічок прыходзіць да станка, потым ідзе ў армію і зноў вяртаецца на сваё законнае рабочае месца. Добра сказаць, такая сістэма! Паглядзеў бы я, як той жа Воўка Каховіч пасля арміі вернецца ў свой цэх.

Трэба было разабрацца ў гэтай «сістэме», і я пайшоў да начальніка цэха. У пакоі было многа людзей, але калі Генадзь Рыгоравіч Шпак даведаўся, чаго я прыйшоў, нават узрадаваўся:

— Вось добра! — сказаў ён. — У нашым цэху моладзі многа.

Мне няёмка было выцягваць блакнот, бо Генадзь Рыгоравіч кожнае прозвішча ведаў напамяць, пра кожнага рабочага мог расказаць шмат цікавага. Толькі зрэдку, калі размова заходзіла пра таго ці іншага маладога рабочага, ён нечакана звяртаўся да каго-небудзь з прысутных:

— Генадзь Германовіч, чуеш, добра працаваў? А які хлопец! Такіх бы больш...

Потым я ўжо даведаўся, што і з тым жа Генадзем Германовічам прыйшлося пагараваць, але якое гэта зараз мела значэнне, калі хлопец з арміі амаль кожны месяц піша ў цэх, пытае пра справы, чакае таго дня, калі зноў стане да свайго станка.

Я слухаў начальніка, і мне чамусьці здавалася, што не можа быць у вялікім калектыве ўсё так добра.

— Яно, вядома, адразу ўсё не прыходзіць, — сказаў Генадзь Рыгоравіч. — З падлеткамі цяжка. Бывае, думаеш: вось бы мне аднаго высокакваліфікаванага рабочага за дзесяць навічкоў. А потым сам сябе ў душы аблаеш: каму, як не нам, у вытворчай абстаноўцы выхоўваць юнакоў. Выхоўваць, каб потым яны маглі стаць дарадчыкамі для іншых.

Гэта цікавая думка. У механічным цэху глядзяць на маладых рабочых, як на пералётных птушак, а ў інструментальным ставяцца, як да роўных. І размова з маладым рабочым зусім іншая:

— Вось ты прыйшоў да нас і таму павінен усё ведаць. Якія мы, што мы робім, навошта гэта. Справа ў нас вялікая, агульная, таму і мы пра цябе павінны ўсё ведаць. А як жа інакшай працаваць?

Такая зацікаўленасць рабочых не можа пакінуць навічка абыякавым. Атрымліваецца, што ў маладога рабочага не адзін настаўнік, а ўвесь калектыў.

Я чуў, як загадчыца інструментальнага склада рабіла заўвагу маладому рабочаму, які зламаў разец.

— Тры ўжо, — неяк строга і разам з тым добразычліва гаварыла яна. — Гэта ж трэба толькі, за адну змену! Што ж будзе, калі кожны так пачне адносіцца да інструменту. Мы які цэх?

— Інструментальны, — апусціўшы галаву, адказаў хлопец.

— Вось бачыш, інструментальны, — падхапіла кладаўшчыца.

— Далібог, больш такога не будзе, — з палёгкай уздыхнуў малады рабочы. Было відаць, што ён і сам перажывае, хоць гэта і не самы страшны выпадак.

Загадчыцу склада Людмілу Рыгораўну Камарову рабочыя завуць паміж сабой «Крыкуха», але не абразліва, а неяк ласкава. Яны вельмі паважаюць Людмілу Рыгораўну за тое, што для яе агульная справа — змест яе жыцця. Толькі дзіву даешся, дзе яна знаходзіць час, каб займацца грамадскай работай. Цэхавы куток «Сям'я і школа», дзе вывешваюцца адзнакі дзяцей-школьнікаў, выступленні хлопчыкаў і дзяўчынак у абедзенны перапынак — гэта ўсё яе ініцыятыва. А ўжо колькі «выхаваўчых гутарак» яна праводзіць з маладымі рабочымі.

І хіба адна такая «зацікаўленая асоба» ў цэху? Вось, напрыклад, Уладзімір Іванавіч Багзберг — настаўнік моладзі, адзін з лепшых слесараў завода. Шмат маладых рабочых абавязаны яму сваімі працоўнымі поспехамі.

У інструментальным цэху кожны рабочы адчувае калектыў. Тут «тваё гора — і маё гора», «твая радасць — і мая радасць». Таму ўсё ідзе як трэба: добра працуюць спартыўныя секцыі, арганізоўваюцца культпаходы ў тэатры і кіно, адзначаюцца дні нараджэння.

Не забываюць у калектыве і тых, хто служыць у арміі. На дзень Перамогі ім выслалі віншаванні таварышаў па рабоце, запісаныя на магнітафонную плёнку...

Калі мы развіталіся з Генадзем Рыгоравічам, я не вытрымаў, спытаў:

— А «бітлы» ў вас ёсць?

Ён засмяяўся.

— Трохі спазніліся. Два дні назад з апошнім развіталіся. Я так і запісаў у дзённіку: Алесь Козіч — апошні з магікан. Вернецца з арміі, павіншую яго ў гэты дзень...

Генадзь Рыгоравіч нават не сумняваецца, што пасля арміі Алесь вернецца. Для гэтага ёсць усе падставы.

...Я ішоў дадому, успамінаў усё ўбачанае і думаў пра тое, што, відаць, вось такі калектыў патрэбны ўсім маладым рабочым, якія выходзяць на самастойную дарогу. І яшчэ думаў, што гэта вельмі прыемна: маладым ісці разам са сталымі і ведаць, што, калі прыстанеш у дарозе, табе памогуць сябры.

г. Мінск.



# ГАСЦЯВАННЕ Ў КАМСАМОЛЬСКУ-НА-АМУРЫ

## З БЛАКНОТА МАСТАКА-АМАТАРА

**З Камсамольскам-на-Амуры я звязваў вялікія надзеі. Мяне чакала або радасная сустрэча, або... развітанне.**

**Адбылася сустрэча. Мая знаёмая аказалася цудоўнай дзяўчынай, выдатным знаўцам свайго краю. Яна памагла мне ўладкавацца, пазнаёміцца з горадам і яго ваколіцамі. Я зрабіў шмат замалёвак.**

**Мяне асабліва ўразіла клуб-кнігарня «Агеньчык», дзе можна не толькі набыць кніжку, але і прачытаць свежы часопіс, газету; ёсць там беларускія выданні, польскія, чэшскія кнігі.**

**У Камсамольску-на-Амуры працуюць вядомыя на ўсю краіну за-**



Гістарычны камень на ўзбярэжнай.

НАНАЙСКІЯ РЭЧЫ З МУЗЕЯ.



Жаночая зімовая шапка.



Нанайка — карэнная жыхарка горада.



Халат з рыбінай скуры.



Сярэбраныя кольцы.



Унты.



Лыжныя рукавіцы.

воды — «Амурсталь», суднабудаўнічы, швейная фабрыка.

Да паслуг гараджан некалькі палацаў культуры, з іх вылучаюцца Палац моладзі на беразе Амура, побач з тым месцам, дзе высадзіліся першыя будаўнікі горада юнацтва, а таксама Палац культуры суднабудаўнікоў. Горад зялёны. Тут два паркі, усцяж вуліц растуць лістоўніцы, кітайскія яблыні.

У горадзе даволі часта можна сустрэць карэнных жыхароў. Яны пераважна маладыя, апранутыя па сучаснай модзе. Я хутка навучыўся адрозніваць карэйцаў ад нанайцаў, ульцаў жа ад першых і другіх. У карэйцаў звычайна больш тонкія рысы твару, рост невысокі, але пастава зграбная. Нанайцы, мусіць, самыя шыракатварыя з усіх прыамурскіх народнасцей.

Нанайцы і карэйцы жывуць у вёсках побач з горадам. Звычайна пажылыя вяскоўцы прадаюць гародніну, ягады, яблыкі. Тут, на базары, я і ўбачыў упершыню нацыянальную вопратку ва ўсёй красе, халат і ўнты, багата аздобленыя вышыўкамі, бляшкамі.

Амур — велічны і магутны. У Беларусі няма такой ракі, якая была б па шырыні хоць з палавіну Амура. Няхай прабачыць мне слаўная працаўніца Волга-матухна, але Амур мне больш спадабаўся.

Ён чысты, рыбны. Чыгуначны паром, які перавозіць цягнікі з Камсамольска ў Півань, ідзе амаль гадзіну цераз Амур. Півань — гэта вёска і станцыя. Сюды гараджане ездзяць на адпачынак.

Якраз у ліпені пачынаецца самы ход касаткі (такой амурскай рыбы з доўгім плаўнікам), і бераг ракі пакрываецца палаткамі, тэнтамі аматараў рыбалкі. Сам я не ўмею лавіць ніякай рыбы, апрача карасёў на перасыхаючых ставах ля сваіх родных Талюшан, але глядзець, як робяць гэта іншыя, вельмі люблю. Ды адна начоўка ля вогнішча пад скаламі на беразе велічнай цёплай ракі што значыць! Касатка ідзе адразу за начнымі матылькамі, якія, нібы снег, хмарамі наплываюць з тайгі на горад і раку. Калі б не цёплая ноч, то можна было б падумаць, што гэта снежная завіруха.

З Камсамольскам і новымі сябрамі развітаўся, каб падацца ў Хабараўск, а адтуль — на Чукотку. Вылятаў на Хабараўск з аэрапорта Хурба. Навокал — бясконцая тайга. Сам жа аэрапорт — некалькі драўляных домікаў. Упершыню ўбачыў і адчуў, як «пад крылом самалёта аб нечым спявае зялёнае мора тайгі».

Сцяпан КАЗЛОЎСКІ.



Стары і новы Камсамольск-на-Амуры.



Палац моладзі.



# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗДЫМКА




Больш за два дзесяцігоддзі гэты здымак хвалюе людскія сэрцы. Абкружаныя ворагамі, ідуць у апошні шлях трое. Угледзься, чытач, у іх мужныя твары. Ні следу разгубленасці і страху. Побач, плячом да пляча, ідуць камуніст, камсамолка, піянер. Гэты здымак стаў сімвалам. Ён быў размножаны мільённым тыражом, змешчаны ў падручніку па гісторыі для школьнікаў. Але хто яны—гэтыя героі? Як гэты здымак трапіў на старонкі друку?

...Ішоў першы пасляваенны год. У Каўнасе па рашэнні ўрада Літоўскай ССР пачалі ствараць музей Кастрычніцкай рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайны. Радыё паведаміла, што музей збірае экспанаты, фота здымкі. Неўзабаве прыйшоў у музей чалавек сярэдніх гадоў. Мясцовы жыхар. Ён не паведаміў ні свайго імя, ні адрасу. Расказаў толькі, што ў гады вайны працаваў фатографам у Каўнасе, хоць сам меў прафесію інжынера. Фатаграфаванне давала яму пэўны заробак .

— Аднойчы,—расказваў ён,—да мяне прыйшоў фашысцкі афіцэр і загадаў праявіць фотаплёнку. І папярэдзіў, калі захаваю копію, то буду расстраляны.

Заказ быў выкананы дакладна і ў тэрмін. А копію ўсё ж фатограф пакінуў сабе. І вось ён прынёс яе сюды, у музей, магчыма, фотаздымак спатрэбіцца.

У архіве Каўнаскага музея сабралася вельмі шмат фотакопій, забраных у нямецкіх ваеннапалонных. Дзесяткі тысяч фотаздымкаў, звязаных у вялізныя цюкі, ляжалі на падлозе цокальнага паверха.

А з часам пачалі ствараць музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і ў Мінску. У першую чаргу рашылі наладзіць экспазіцыю пра нямецка-фашысцкія злачынствы на беларускай зямлі. З Мінска ў Каўнас паехала супрацоўніца музея Вера Раманоўская і там выпадкова натрапіла на фотаздымак, які звярнуў яе ўвагу адной нязначнай дэталлю—трамвайнымі



рэйкамі. Вядома, што ў Літве трамвай не хадзіў. У Беларусі ж да вайны трамвай быў толькі ў Мінску і Віцебску. «Магчыма,—падумала Вера Сяргееўна,—што гэты фотаздымак фашысты зрабілі ў нас на Беларусі. Магчыма, што гэтыя героі—нашы землякі». Яна забрала здымак з сабой.

А праз пэўны час у Мінск прыйшло пісьмо з Петрапаўлаўска. Жыхар гэтага горада пісаў, што ў 1945 годзе яго артылерыйская часць з баямі ішла да Берліна. На світанні яны ўвайшлі ў невялікі нямецкі гарадок Вутзэц. Там з падвала выкурылі двух эсэсаўцаў. У кішэні аднаго знайшлі страшэнны здымак: фашысты вешаюць хлопца гадоў чатырнаццаці. «Хоць палонных мы не расстрэльвалі,—пісаў ён,—але нашых байцоў цяжка было стрымаць ад расправы над фашыстамі. Кожны баец з нашай батарэі бачыў у гэтым хлопцу свайго сына, малодшага брата. Пасля вайны мяне дэмабілізавалі, а фота засталося ў мяне. Неяк мая дачка-дзесяцікласніца трымала ў руках падручнік па гісторыі, і я прыгледзеўся да аднаго здымка—траіх нашых патрыётаў вядуць на пакаранне. Мне здалося, што на фотаздымку, які ў мяне, і на здымку ў падручніку—адны і тыя ж людзі».



**Кірыла Трус працаваў механікам на Мінскім аўтарамонтным заводзе.**

Здымкі, атрыманыя з Каўнаса і Петрапаўлаўска, былі выстаўлены на самым людным месцы ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Прыйшла ў музей мінчанка Ганна Кірылаўна Трус, зірнула на здымкі і... страціла прытомнасць. Яна пазнала свайго бацьку. Гэта ён быў у клятчастай сарочцы і целагрэйцы, Кірыла Іванавіч Трус.

### ГАННА ТРУС РАСКАЗВАЕ:

Калі пачалася вайна, мне пайшоў чатырнаццаты год. Сям'я наша была дружная: я, тры браты — Эрнст, Валодзя і Георгі. Маці ўсё жыццё працавала і нас вучыла любіць працу. Бацька наш быў механікам. У семнаццаць гадоў ён уступіў у шэрагі Камуністычнай партыі, ваяваў на франтах грамадзянскай вайны. Біў банды Булак-Балаховіча і Махно. Помню, што ў нас на сцяне вісеў здымак актывістаў «Саюзтрансу». Запомніла я і значок, які насіў бацька на грудзях — «Ударнік першай пяцігодкі». Ён вельмі ганарыўся ім. Бацька працаваў на Мінскім аўтарамонтным заводзе.

Як грымнула вайна, ён тры дні не прыходзіў дадому — эвакуіраваў абсталяванне завода. Углыб краіны вывезлі ўсё да апошняга вінціка. А вось сам выехаць не паспеў. Калі Мінск акупіравалі фашысты, бацька для канспірацыі перайшоў працаваць на завод імя Мяснікова.

Да глыбіні душы ўсіх нас скаланула вестка пра расстрэл ваеннапалонных на Савецкай вуліцы. Бацька расказваў, што ён бачыў, як фашысты кідалі пад ногі галодным ваеннапалонным сухары, але калі хто з іх нагінаўся падняць, таго прашывалі аўтаматнай чаргой. «Не, нельга нам сядзець склаўшы рукі,— гаварыў бацька ў той вечар, ходзячы па хаце з вугла ў вугал,— трэба дзейнічаць, трэба біць іх».

Пасля ён пачаў прыходзіць дадому з нейкімі незнаёмымі людзьмі. Некалькі разоў бачыла я ў нас хлапчука, якога тата зваў Міколам, прыходзіла нейкая дзяўчына. Яе ён зваў Марыяй. Мы тады і не здагадваліся, што гэта не сапраўдныя іх імёны, а падпольныя клічкі.

У тую ноч, калі арыштавалі бацьку, павінен быў прыйсці да нас начаваць хлапчук. Але ён чамусьці не прыйшоў. Помню, як бацька шэптам расказваў маці, што ў іхняй групе правал. «Уцякай»,— казала яму маці. «Не, адказваў ён.— А ты, а дзеці? Калі я

ўцяку, то ўсе вы станеце заложнікамі, вас расстраляюць. Схавацца ў вёсцы вы не паспееце...»

На другі дзень пасля арышту бацькі суседзі папярэдзілі, што гестапаўцы ідуць да нас. Маці адразу кінулася на гарышча. Там быў схаваны ў анучах радыёпрыёмнік. Маці пабіла яго і кінула ў калодзеж, што быў у двары. Праз некалькі мінут уварваліся фашысты, усё абшукалі, нават са сцен сарвалі шпалеры, але нічога не знайшлі. Забралі толькі здымак са сцяны. Пасля загадалі маці апранацца. У гэты момант наш малодшы брат Эрнст (такое імя яму далі ў гонар 50-годдзя з дня нараджэння правадыра нямецкіх камуністаў Эрнста Тэльмана) кінуўся гітлераўцу пад ногі.

— Гер афіцэр, не забівайце маму!... Не забівайце,— заплакаў ён.

Немец падняў яго за каўнер, паляпаў па плячы і адказаў:

— Нікс. Мутэр нікс убівайт...

Маму забралі. Тры дні мы жылі без бацькоў, нічога не елі, хадзілі з кута ў кут.

На трэці дзень вярнулася мама. Пад вачамі сінякі, рукі падрапаны: яна не паказала спіну, якая была спаласавана гумавай палкай. Крыху паляжала, а потым узялася за хатнія справы: накарміла нас. Маці ёсць маці. Ледзь на нагах трымалася, а даглядала. Толькі цяпер я зразумела, чаму яе вызвалілі — за нашым домам быў наладжаны нагляд. Добра, што ніхто з падпольшчыкаў не прыходзіў у тыя дні. Напэўна, іх папярэдзілі пра тое, што здарылася.

Наш сваяк працаваў на хлебазаводзе. Сяды-тады ён прыносіў нам хлеба. Маці паслала мяне да яго, і ён даў мне аж бохан. У той дзень дзьмуў халодны, пранізлівы вецер. Я прытуліла цёплы бохан да грудзей і несла яго як штосьці вельмі дарагое. Я не ішла, а бегла. Баялася, што ў мяне паліцыянты адбяруць хлеб. Але ўсё абышлося добра.

На наступны дзень мама падрыхтавала тату перадачу, паклала яму паўбохана хлеба — астатні раздала нам. Відаць, яму хлеб не дастаўся. Неяк у тыя дні прыйшоў да нас паліцай і прынёс запіску. Тата прасіў перадаць паліто, толькі не новае, а старое, бо ён знаходзіўся ў каменным мяшку, дзе не было ні акон, ні лаўкі, пад нагамі хлюпала вада. Гэта — камера № 10. Мама ўсё ж перадала яму новае паліто. Але і яно, відаць, не дайшло да таты. Хто быў той паліцай — не ведаю, запомніла я толькі, што ён быў невысокі. Сказаў, што завуць яго Філя.

Мінула дзён дзесяць ці дванаццаць з таго часу, як арыштавалі тату. Да турэмных варот мы хадзілі кожны дзень. Там звычайна збіралася многа людзей — бабулі, жанчыны, дзеці арыштаваных. А вясной у турме людзей было многа. Людзі чакалі цэлы дзень, спадзеючыся хоць яшчэ раз пабачыцца з родным чалавекам. Тату мы не ўбачылі тады.

На нашым двары жыла мая равесніца — Валя. Яна мне сказала, што ўчора ў горадзе павесілі людзей. Сэрца маё закалацілася. А раптам і... тату. Я нічога не сказала маме і братам, а пабегла на Савецкую вуліцу.

Перш я зазірнула ў сквер, што ля тэатра імя Янкі Купалы. На дрэве віселі жанчына з дошчачкай на грудзях: «Мы стралялі па германскіх салдатах», высокі мужчына з бародкай і чамусьці ў вельмі кароткім пінжаку, і, здаецца, той паліцай Філя. Але ён быў босы. Дакладна не скажу, гэта быў ён ці не, бо мне было вельмі страшна. Непадалёк стаялі людзі, глядзелі. Нехта сказаў мне, што на рагу вуліцы Карла Маркса таксама павесілі траіх. Я пайшла туды. Там віселі жанчына на дрэве, а побач два мужчыны. Мужчыны былі ў ботах, а жанчына без аднаго чаравіка. Глыбока ў душы ў мяне цеплілася надзея, што тата жывы. Сярод павешаных яго не было.

Назаўтра раніцой да нас на веласіпедзе прыехаў нямецкі салдат і перадаў маме нейкі пакет. Калі разгарнулі, то спалохаліся. Там ляжаў той здымак, які вісеў на сцяне, а таксама татаў прафсаюзны білет і значок. Усё гэта ў нас забралі пры вобыску. На пакеце чырвоным алоўкам былі напісаны два словы: «Зорын» і «Істомін». Што гэта за прозвішчы, мы не ведалі. Веласіпедыст перадаў моўчкі пакет і паехаў. Усе мы зразумелі, што здарылася бяда. Я зноў пайшла да турэмных варот. Там я пачула, што яшчэ траіх павесілі на браме драждЖавога завода. Памчалася туды і яшчэ здалёку па клятчастай сарочцы пазнала тату. Падышла бліжэй. Каля шыбеніцы стаялі вартавыя, нікога не падпускалі. На зямлі, пад нагамі таты — фуражка таго хлапчука, які вісеў побач. Я пазнала яго. Гэта быў Мікалай, як яго зваў тата. І яшчэ дзяўчына. Неяк раз прыходзіла да нас. Яна называла сябе Аняй ці Марыяй.

Я прастаяла на супрацьлеглым баку тратуара да вечара. Марозіла. Вецер пагойдваў павешаных. Вяроўкі на марозе рыпелі. Было жудасна.

Калі пачало змяркацца, да мяне падышоў нейкі стары і загадаў ісці адсюль. Не помню, як вярнулася дадому. Маме я нічога не сказала. Баялася, што яна пойдзе туды і яе зноў арыштуюць. Пра ўсё расказала толькі брату Валодзю.

Назаўтра я зноў пайшла да дражджавога завода. Зноў прастаяла да самага вечара. Я ўспаміпала тату, глядзела на яго чамусьці вельмі доўгія рукі. А яны ж былі такія ласкавыя. Тата вельмі любіў гладзіць мяне па галаве. Ён заўсёды нам штосьці майстраваў. Так я стаяла доўга-доўга. Апамяталася, калі пад'ехаў да варот грузавік. Немцы абрэзалі вяроўкі, мёрзлыя целы з грукатам падалі ў кузаў. Да гэтага часу я помню гэты стук...





Калі аўтамашына кранулася, я пабегла за ёю ўслед. А потым упала на зямлю і плакала, плакала... Я назаўжды развіталася з татам. Дома я пра ўсё расказала маме. Пасля гэтага яна два тыдні хварэла. У маіх вачах усё гайдаўся і гайдаўся тата. З таго часу мінула каля трыццаці гадоў, а я ўсё яшчэ бачу гэтыя вяроўкі, чую начамі іх жудаснае рыпенне на марозе.

...Цяжка, вельмі цяжка было змагацца першым падпольшчыкам. Але яны не скарыліся. Пра барацьбу з акупантамі ў тыле ворага напісаны сотні кніжак, пастаўлены п'есы і кінафільмы. Але гэта трэба было бачыць сваімі вачыма. Вось адзін дакумент.

*«Дакладная запіска*
*Берлін, 10.07.1941*
*Рэйхсляйтару Розенбергу*

*Даводжу да Вашага ведама, што ў лагеры для ваеннапалонных у Мінску на Шырокай вуліцы, які размешчаны на тэрыторыі памерам з плошчу Вільгельмштрасэ, знаходзіцца прыкладна 100 тысяч ваеннапалонных і 40 тысяч грамадзянскіх палонных. Усе яны, зaгнаныя ў гэту цесную прастору, ледзь могуць паварушыцца... Ваеннапалонныя, праблема харчавання, якая, бадай, ці вырашальная, жывуць па 6—8 дзён без яды... Найрад ці ўдасца папярэдзіць страшную ўспышку эпідэміі. У адносінах да палонных адзіна магчымая мова — гэта агнястрэльная зброя, якую ахова няшчадна скарыстоўвае...*
*Дорш, міністэрыяльны саветнік».*

Але савецкія людзі ні на секунду не забываліся, што яны грамадзяне першай у свеце краіны Саветаў, краіны рабочых і сялян. І, вядома ж, у першую чаргу іх хваляваў лёс Радзімы.

Як звязацца з камуністамі-падпольшчыкамі, якія ў горадзе, несумненна, ёсць? Хадзілі чуткі, што ў чэрвеньскіх лясах дзейнічаюць партызаны. Іншыя лічылі, што ваенным неабходна перайсці лінію фронту і ўліцца ў дзеючую армію. Толькі як гэта зрабіць? Патрэбны тапаграфічныя карты, праваднікі, якія ведалі б тутэйшыя лясы, кожную сцяжынку. Гэтыя думкі не давалі спакою нашым ваеннапалонным.

**РАСКАЗ ІВАНА МІКІТАВІЧА БЛАЖНОВА:**

— Вайсковая часць, у якой я служыў старшым палітруком, вайну сустрэла ў горадзе Бельску на Беласточчыне. Фашысцкія войскі ўварваліся ў горад у першыя дні вайны. Нягледзячы на цяжкія баі на подступах да горада, нам прыйшлося адступіць. Вельмі ж няроўныя былі сілы. На наш невялікі ўчастак гітлераўскае камандаванне сцягнула некалькі дывізій, танкі і авіяцыю.

29 чэрвеня мяне, цяжка параненага ў нагу, прывезлі ў Мінск, у трохпавярховы будынак. Пазней я даведаўся, што гэта былы політэхнічны інстытут. Немцы зрабілі ў ім штосьці накшталт лазарэта. Але нас не лячылі, не кармілі. Пэўную дапамогу аказвалі толькі ўрачы, якія таксама апынуліся ў фашысцкім палоне.

Доступ у шпіталь спачатку быў свабодны — гітлераўцы яшчэ не паспелі як след разгарнуцца. Да нас прыходзілі тутэйшыя жыхары шукаць родных. Здаралася, што выводзілі незнаёмых пад выглядам сваякоў. Каб ім лягчэй было знайсці родзічаў, мы павесілі на дзвярах спісы параненых. Аднойчы прыйшлі і да мяне, хоць у Мінску я не меў не толькі родных, але і знаёмых.

Мяне знайшла жонка нашага начальніка штаба корпуса Алена Шампурава. Я вельмі быў рады гэтай сустрэчы. Ад яе даведаўся, што мая жонка і дзеці жывыя. Іх паспелі эвакуіраваць. Алена Шампурава яшчэ некалькі разоў прыходзіла. Мне і сябрам па палаце яна



Іван Блажноў, які знаходзіўся ў акупіраваным Мінску.

прыносіла хлеб. А неяк перадала нават і касцюм. Я пераапрануўся і перабраўся на другі паверх.

На першым паверсе былі цяжка параненыя, на другім — тыя, хто крыху акрыяў, з трэцяга паверха фашысты кожны дзень адбіралі людзей і накіроўвалі іх у канцлагеры. Усе мы стараліся даўжэй затрымацца на другім паверсе. Але рэдка каму шанцавала.

Узняўся я на другі паверх і вачам сваім не веру — Барыс Рудзянка! Служылі мы з ім у адной часці. Старшы лейтэнант Рудзянка добра ведаў шыфравальную справу. Ён быў паранены ў нагу. Барыс мне расказаў, што начальнікам другога аддзялення шпіталя (гэта значыць другога паверха) тут прызначаны ўрач з нашага корпуса Пісарэнка. Акрамя таго, тут знаходзяцца Левіт, Зорын (успомніце надпіс на пакеце гітлераўца-веласіпедыста, які завітаў у дом Труса пасля яго пакарання) і Грабеннікаў. Я іх добра ведаў, і гэта, вядома, мяне ўзрадавала. Левіт, як і я, масквіч. Грабеннікаў і Зорын таксама прыйшлі ў армію, як і я з Левітам, у 1939 годзе.

Я паслухаўся Рудзянку і перайшоў да іх у палату. Там жа разам з маімі аднапалчанамі быў і лётчык Істомін. (Яго прозвішча таксама было на пакеце гітлераўца-веласіпедыста). Усе яны ўжо крыху ачунялі і лічыліся санітарамі. Разам з доктарам Пісарэнкам яны часта выводзілі параненых у іншыя гарадскія бальніцы. Гітлераўцы як агню баяліся інфекцыйных хвароб.

Верасneўскім днём «санітары» завязалі мне вочы бінтом, нібыта ў мяне трахома, і павялі ў першую Савецкую бальніцу. Але да яе я так і не дайшоў, апынуўся... на кватэры ў доме № 7 па Камуністычнай вуліцы. Тут жа засталіся разам са мною Зорын, Грабеннікаў і Істомін. Назаўтра прыйшлі Рудзянка і Левіт. У шпіталь мы ўжо не вярнуліся.

Наша гаспадыня Вольга Фёдараўна Шчарбацэвіч, невысокая, вельмі рухавая жанчына, прыветна сустрэла нас. Мы былі як жаданыя госці. У яе быў 14-гадовы сын Уладлен. Бачыў я яго толькі некалькі разоў. Хлопец начаваў часцей дзесьці ў горадзе, а не дома. Ды і маці самой па некалькі дзён часам не было ў хаце. Часта заходзіла да нас і яе малодшая сястра — Дзіна...

Перапынім расказ Блажнова, каб бліжэй пазнаёміцца з Вольгай Фёдараўнай, яе сынам Уладленам і сястрой Дзінай. Мікалай Кузняцоў быў сувязным паміж групай Труса і Шчарбацэвічамі. 26 кастрычніка ўсю сям'ю Шчарбацэвічаў спасцігла вялікая трагедыя — у адзін дзень былі пакараны ўсе: Вольга Фёдараўна, яе сын Уладлен, сястра Дзіна, яе муж Мікалай, старэйшы брат Пятро. Жывой засталася адна сястра — Яўгенія Фёдараўна Міхневіч. Яна жыве па вуліцы Казлова, 23.

Уладлен Шчарбацэвіч і яго маці Вольга Фёдараўна. Здымак 1933 года.



**РАСКАЗВАЕ ЯЎГЕНІЯ ФЁДАРАЎНА:**

— Мы — карэнныя мінчане. Раслі ў вельмі беднай сям'і. Маці мыла людзям бялізну, бацька працаваў дворнікам. Але яны не цярпелі несправядлівасці. Маці, помню, была завадатаркай стачак сярод работніц мінскіх пральняў. Бацька ў 1917 годзе ўступіў у члены прафсаюза. Гэты бунтарскі дух бацькоў быў перададзены і дзецям. У сям'і нас было пяцёра. Оля — самая старэйшая, Дзіна — малодшая. Былі ў нас яшчэ і браты — Іван і Пятро.

Некалькі слоў скажу пра Уладлена. І бацька яго і маці былі камуністамі. Уладлен, ці Воўка, як мы яго звалі дома, быў вельмі разумны хлопчык. Вось здымак. Ён зроблены ў 1933 годзе. Высокі лоб, сур'ёзны позірк. Яму ішоў толькі пятнаццаты год, калі яго павесілі фашысты. Здымак Уладлена я берагу ўжо 37 гадоў...

**УСПАМІНАЕ ЗОЯ ПАЎЛАЎНА МАРКЕВІЧ:**

З Вольгай Фёдараўнай Шчарбацэвіч мы жылі ў адным доме па Камуністычнай вуліцы — я на першым, яна на трэцім паверсе. Жыццё іх было, як кажуць, на маіх вачах. Уладлен хутка, не па гадах, вырас, узмужнеў. Я вельмі пасябравала з Вольгай Фёдараўнай. А зусім нас зблізіла адна бяда — вайна і адна мэта — барацьба. Разам дзялілі радасці і гора. Калі пачалася вайна, малодшая сястра Вольгі Фёдараўны Дзіна нарадзіла дзяўчынку. Гэта было 22 чэрвеня. Па гэтай прычыне яны не выехалі з Мінска. Дзяўчынка нарадзілася здаровая, але век ёй выпаў кароткі.



Зоя Паўлаўна Маркевіч жыла ў тым жа доме, што і сям'я Шчарбацэвічаў.

На трэці ці на чацверты дзень вайны Оля раптам параіла мне пабудаваць у двары хляўчук. Я была здзіўлена. Але яна сказала: «Трэба!» І мы з Уладленам пачалі яго будаваць. Муж мой быў на фронце. Уладлен — адзіны мужчына. Калі хляўчук быў гатовы, Оля параіла нам выкапаць склеп. Толькі трэба так капаць, казала яна, каб пра гэта ніхто не ведаў. Капалі мы з Уладаленам ноччу, зямлю адносілі з двара да рэчкі. Потым усё стала ясна — гэта быў тайнік. Вольга Фёдараўна хавала там чыстыя бланкі, пашпарты, «аўсвайсы» (пропускі), зброю. А зброі было шмат. Я здзіўлялася — адкуль яе столькі? Пасля дазналася, што гэта работніцы завода імя Мяснікова па заданні Вольгі Фёдараўны збіралі патроны, кулямёты, аўтаматы і перадавалі Трусу. А ён — Вользе. Усе заданні я атрымлівала ад яе.

Набліжалася зіма. Я і Дзіна — не працуем. Што рабіць? У горадзе голад. А ў нас дзеці. Пра ўсё я неяк сказала Вользе. І я была здзіўлена, калі праз некалькі дзён яна накіравала мяне на работу на швейную фабрыку імя Крупскай. Майстар, якога я зусім не ведала, сустрэў мяне як добра знаёмую.

14 кастрычніка мяне на рабоце арыштавалі. У машыне паміж гестапаўцамі сядзелі ўжо Вольга, Дзіна са сваёй двухмесячнай дзяўчынкай на руках. Нас прывезлі ў СД, якое размяшчалася ў чырвоным трохпавярховым будынку па вуліцы Астроўскага. Павялі па доўгім калідоры, паставілі тварам да сцяны. Побач стаялі яшчэ нейкія людзі, мне не знаёмыя. Адзін быў мужчына сярэдніх год у клятчастай рубашцы і целагрэйцы. Мы стаялі доўга, ногі млелі ад стомленасці. Але вось пачулася за спіною размова. Нехта пытае на рускай мове:

— Яна?

— Яна,— адказвае другі голас. Мяне чамусьці абмінулі. А праз гадзіну нас павезлі ў турму, што на вуліцы Валадарскага.

**БЛАЖНОЎ ПРАЦЯГВАЕ РАСКАЗ:**

Вольга Фёдараўна дзейнічала скрыта. Яна хадзіла на сувязь з партызанамі, двойчы пасылала ў чэрвеньскія лясы Уладлена, і кожны раз ён вяртаўся нейкі ўсхваляваны,

акрылёны. Звычайна маўклівы і задуменны, у такія хвіліны ён пачынаў з намі размову, прасіў навучыць разбіраць пісталет.

Нас раздзялілі. Я і Зорын засталіся жыць у Вольгі Фёдараўны, Левіт перайшоў да Дзіны, Грабеннікаў і Істомін да Макейчык, а Рудзянка спачатку жыў у Маркевічаў, а потым перайшоў да Алены Астроўскай, якая чамусьці не выклікала вялікага даверу. Але Рудзянка даказваў, што яна сумленны савецкі чалавек і ў крыўду не дасць.

Доктар Пісарэнка застаўся ў шпіталі політэхнічнага інстытута, але сувязь з намі трымаў. Часам ён перадаваў нам перавязачны матэрыял, хлеб.

Перайсці лінію фронту — гэтай думкай жыў кожны з нас. 12 кастрычніка мы ўсе сабраліся, каб канчаткова вырашыць пытанне. Вольга Фёдараўна прапанавала пайсці на кампраміс — пакуль перабрацца ў лес, бліжэй да партызан. А там відаць будзе. На гэтым і пагадзіліся.

Было вырашана, што правядуць нас да вёскі Драчкава Вольга Фёдараўна і Уладлен. Там нас сустрэне чалавек. Вольга Фёдараўна вернецца ў Мінск, а Уладлен пойдзе з намі. У яго аднаго была зброя. Мы былі ўпэўнены, што хлопца не зачэпяць, не будуць абшукваць. Мелі мы компас, карту. У Зорына ў кішэні ляжаў маршрут пераходу.

На світанні рушылі ў дарогу. Ішлі па двое. Кіраваліся да Магілёўскай шашы, арыенцір — вёска Новы Двор. З горада выйшлі ўдала. Мінулі кінастудыю «Беларусьфільм». Гэта, прыкладна, там, дзе зараз знаходзіцца Мінскі мотавелазавод. Тут пачынаўся лес. Вольга ішла ўперадзе. Апранута яна была па-сялянску, з кошыкам у руках. За ёй ішлі Уладлен і Рудзянка, услед — Істомін і Левіт, я з Зорыным — апошнія.

Вось і вёска Новы Двор. Нас стрэла раздарожжа. Як ісці далей? Мы спыніліся, каб зірнуць на карту. Нечакана паказалася падвода з сенам, на якой сядзелі тры нямецкія салдаты. Мы разгубіліся. Але Вольга пайшла ўперад, Уладлен і Рудзянка за ёю, услед, як і раней,— Істомін і Левіт. Зорын і я былі крыху ззаду. Мы пайшлі налева. Дабраліся да вёскі Ельніца. Прыселі на ўзбочыне, задумаліся. Што рабіць далей? Мы — адны. Вярнуцца назад у вёску Новы Двор? Ці будуць яны там? Не стаяць жа яны на месцы. Праўда, калі мы адышлі метраў пяцьсот, то пачулі стрэлы. Хто страляў, мы не ведалі.

Зорын прапанаваў вярнуцца назад у Мінск і там чакаць Вольгу. Мы так і зрабілі. На другі дзень прыйшла і Вольга Фёдараўна. Усхваляваная, змарнелая, яна расказала, што паблізу вёскі Драчкава яны наткнуліся на заслон. Яна пабегла ўперад у лясок. Схавалася. Добра бачыла, як тут жа, на дарозе, расстралялі Істоміна і Левіта. Рудзянку і Уладлена арыштавалі і павезлі.

Пачаліся цяжкія дні для падпольшчыкаў. Мне больш за месяц прыйшлося прабыць у Мінску. Фашысты лютавалі. Я змяніў не адну канспіратыўную кватэру.

Не ведаю, як бы склаўся мой лёс, каб я не адшукаў Алену Шампураву — адзіную ў Мінску даваенную знаёмую. Цэлага паўдня я праблукаў па горадзе, пакуль знайшоў вуліцу Фабрыцыуса, дом № 9.

Алена сустрэла мяне збянтэжаная, адвяла ўбок і шапнула:

— Трэба ісці. Гаспадыні нельга давяраць. Цябе шукаюць, на парканах расклеены аб'явы. Учора бачыла на вуліцы Барыса Рудзянку.

— Рудзянку?! — усклікнуў я.— Як? Яго вызвалілі? Ці ён сам вырваўся? Напэўна, уцёк. А можа той паліцай Філя памог яму вызваліцца? Малайчына, Барыс! Але як мне яго ўбачыць? Усё ж удваіх... Адна галава добра, а дзве лепш.

Алена ў той жа дзень павяла мяне на Ракаўскую шашу. Мы выйшлі за горад. Яна наладзіла мне сустрэчу з камсамольцам Генадзем Пеставым. Гэта быў смелы юнак. Хутка я даведаўся, што ён партызанскі сувязны.

5 снежня я прыняў партызанскую прысягу і стаў байцом атрада «Мсцівец»...

## СЛОВА ДАКУМЕНТАМ

**Выпіска з пратакола следства над лейтэнантам 2-га батальёна паліцэйскай дапаможнай службы «ГДА» Юозасам Усялісам.**

**Следчы:** — Падсудны Усяліс, паглядзіце на гэты здымак. Пазнаяце?

**Усяліс:** — Так, гэтых людзей мы канваіравалі ў Мінску да месца пакарання. Гэта было вось як. У суботу вечарам мяне выклікаў да сябе камандзір батальёна Імпулявічус. (Гэты кат уцёк ад правасуддзя. Яго адрас: ЗША, Філадэльфія, 47 ПА 304, Кросстрыт, Антанас Імпулявічус). Ён папярэдзіў мяне, што заўтра, гэта значыць у нядзелю, трэба павесіць групу ўдзельнікаў Мінскага падполля. Вешаць будзем у розных месцах горада. Нашаму батальёну, сказаў тады Імпулявічус, давядзецца не толькі канваіраваць, але і зганяць людзей да месца пакарання, каб бачылі, як гэта робіцца.

**Следчы:** — Працягвайце.

**Усяліс:** — Дык вось, раніцой увесь батальён і рота, якой я камандаваў, накіравалася да варот Мінскай турмы. Салдаты ішлі вуліцай, а мы, афіцэры, асобнай групай, па тратуары. Мы абкружылі турму. Адчыніліся вароты, і па адным пачалі



выходзіць партызаны. У некаторых на грудзях віселі дошчачкі з надпісам: «Мы, партызаны, стралялі па германскім войску». Накіраваліся да цэнтра горада. Вешалі людзей у розных месцах. Маёй роце было адведзена лобнае месца ў гарадскім скверы, каля драмтэатра. Эшафот ужо быў збудаваны, але перакладзіны шыбеніц былі прыбіты занадта высока. Людзей прымусілі ўзнімацца на машыну, падвозілі іх пад эшафот, накідалі на шыю пятлю, і машына ад'язджала... Здарылася так, што адзін чалавек сарваўся з вяроўкі. Тады ўсё паўтарылі спачатку. А мы стаялі вакол. Бліжэй за іншых афіцэраў батальёна стаялі каля эшафота маёр Імпулявічус і нямецкі маёр Лехтхалер.

**З пратакола працэсу над фашысцкімі карнікамі.**
**Паказанні Зянонаса Кямзуру.**

**Кямзуру:** — Рота, якой камандаваў я, 26 кастрычніка вешала мінскіх партызан на варотах дражджавога завода «Чырвоная зара». Доўга я шукаў табурэтку пад эшафот, потым бачыў перадсмяротныя твары пажылога камуніста і яго двух маладых паплечнікаў — дзяўчыну і хлапчука. Пятлю на шыю дзяўчыне накінуў Кнірымас.

**Следчы:** — І чым вас за гэты подзвіг узнагародзілі?

**Кямзура:** — Добра памятаю, як лейтэнант Гяўявічус уручыў Кнірымасу біклагу спірту.

**Следчы:** — Далей.

**Кямзура:** — Потым мы пайшлі да гарадской управы на вуліцы Карла Маркса. Былі там два мужчыны і жанчына з дзіцем. Маёр Лехтхалер схапіў дзіця за ногі і ўдарыў аб рог дома, потым адкінуў убок. Гэта было страшнае відовішча. Жанчына кінулася да маёра, але яе схапілі, звязалі рукі і сілком усцягнулі на табурэтку... У гэты час заблыталася вяроўка, і Кнірымас нагнуўся, каб яе разблытаць. Тады жанчына нагой ударыла ў твар Кнірымаса... у яе з нагі зваліўся туфель. Потым яна крыкнула: «Гады, звяры! Усіх не перавешаеце!.. Радзіма за нас адпомсціць...»



Пятлю на шыю дзяўчыне накінуў Кнірымас.

## ТРЭЦЯГА ЛІПЕНЯ

Трэцяга ліпеня 1944 года савецкія войскі сумесна з партызанскімі злучэннямі штурмам авалодалі сталіцай Беларускай ССР — Мінскам.

Цяжка было глядзець на руіны беларускай сталіцы. Рэдка дзе стаяў непашкоджаны будынак. Твары мінчан — змардаваныя, худыя. Але ў дні вызвалення, здавалася, быццам людзі другі раз нарадзіліся на свет. Кожны дзень прыносіў новую радасць.

Былы партызан Іван Мікітавіч Блажноў вярнуўся ў Мінск. Партыя даручыла яму новае заданне — ён стаў працаваць сакратаром Кастрычніцкага райкома партыі. Клопатаў было многа. Даводзілася працаваць да глыбокай ночы. Аднойчы ў кабінет сакратара забегла Алена Шампурава.

— Рудзянка ў Мінску! — крыкнула яна. — Толькі што бачыла яго на вуліцы.

Праз некалькі дзён Барыс Рудзянка быў арыштаваны...

Няўжо ён вінаваты ў гібелі Вольгі Фёдараўны, Зорына, Істоміна і іншых падпольшчыкаў?

## ПРАЦЯГ ДОПЫТУ

У кабінет следчага Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР увялі арыштаванага. Канваір застаўся ля дзвярэй: арыштаваны вельмі небяспечны, яго нельга пакідаць аднаго са следчым.

**Следчы:** — Сядайце, грамадзянін Рудзянка.

Арыштаваны сеў. Не раз былі ў кабінеце маёра небяспечныя дзяржаўныя злачынцы: шпіёны, дыверсанты. Барыс Рудзянка — агент нямецкай ваеннай контрразведкі, злосны правакатар і забойца. Цяжка ўявіць, колькі жыццяў на яго сумленні. Але ці ёсць у яго сумленне? Зараз ён хітруе, пра многае маўчыць.

**Следчы:** — Апошні раз мы спыніліся на вашай правакатарскай дзейнасці супраць патрыётаў мінскага падполля. У 1942 годзе ў мінскай турме быў павешаны Іван Дзёмін. Некалькі іншых падпольшчыкаў трапіла ў гестапа, — нагадвае следчы. — Працягвайце...

**Рудзянка:** — Калі ласка, грамадзянін маёр. Вось сутнасць справы. Мой начальнік Гонзен загадаў мне заняцца мінскім партызанскім падполлем. Праз некаторы час на адной з явак ён пазнаёміў мяне з чалавекам у вайсковай форме. Той служыў у нейкім карным батальёне, які стаяў адзін час у Мінску на Камароўцы. Пазней я даведаўся, што ён быў агентам «ОКВ фербіндунгштэле». Гонзен сказаў, каб мы працавалі сумесна. Мы распрацавалі такі план.

Барыс Рудзянка стаў здраднікам і забойцам. Суд прыгаварыў яго да вышэйшай меры пакарання.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ




Гэта працэс над бандай фашысцкіх прыхвасняў, лютых забойцаў з карнага батальёна, якім камандаваў палкоўнік Антанас Імпулявічус. Пазнаяце іх? Вось гэты, першы злева — кат Кямзура. Гэта ён накідваў пятлю на шыю Уладлену Шчарбацэвічу. Побач з ім сядзіць Іёнас Станкайціс, былы камандзір карнага ўзвода. А вось гэты, першы ў другім радзе, Кнірымас. Гэта ён вёў па вуліцы Валадарскага на пакаранне трох падпольшчыкаў — Труса, Шчарбацэвіча і не вядомую яшчэ дасюль дзяўчыну. Паглядзіце, як ён спакойна накідвае пятлю на шыю дзяўчыне. Пасля вайны ён хаваўся пад прозвішчам Іосіфа Кнірымуза, быў загадчыкам малакапрыёмнага пункта. Гэта яму за асаблівае старанне пры пакаранні ў якасці падарунка ўручылі біклагу спірту.

Суд усіх іх прыгаварыў да расстрэлу.

**Яўген МАЗО.**



# ОРДЭНЫ ВАСІЛЯ ГУЛІДЫ



Васіль Гуліда ў камсамольскім узросце камандаваў зводнай брыгадай, удзельнічаў у баях на многіх франтах, выконваў адказныя заданні камандавання. За свае баявыя справы, асабістую храбрасць і гераізм, праяўленыя ў гады грамадзянскай вайны, Васіль Лаўрэнавіч Гуліда ўзнагароджаны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга.

Нарадзіўся Васіль Гуліда ў вёсцы Белякоўшычна на Скідэльшчыне, у беднай сялянскай сям'і. Васілю было ўсяго чатыры гады, як памёр бацька. Ужо сямігадовым хлапчуком ён ведаў, як зарабляецца хлеб на палетках князя Чацвярцінскага.

За год да таго, як пачалася імперыялістычная вайна, Васіля Гуліду прызвалі на вайсковую службу. Праз некалькі месяцаў муштры яго накіроўваюць на фронт, дзе даюць камандаваць спачатку аддзяленнем, а праз некаторы час узводам. Давялося пабываць у шмат якіх пераплётах: салдаты начамі рабілі вылазкі ў стан ворага, удзельнічалі ў атаках, «бралі на штык» праціўніка.

Увосень 1914 года Васіль Гуліда ўжо падпаручнік ўдзельнічае ў баях у прадгор'ях Карпат. На яго грудзях — два Георгіеўскія крыжы і яшчэ тры афіцэрскія ўзнагароды.

У адным з начных баёў падпаручнік Гуліда, кантужаны і паранены, трапляе ў палон да немцаў. Зблізіўшыся з салдатамі-бальшавікамі, ён удзельнічае ў наладжванні ўцёкаў вялікай групы салдат з палону, вядзе рэвалюцыйную работу.

Вярнуўшыся ў лістападзе 1917 года на радзіму, Васіль Гуліда ў студзені наступнага года добраахвотна ўступае ў Чырвоную Армію. Яму даручаюць камандаваць адной з часцей Заходняга ўчастка.

У красавіку 1918 года Васіль Гуліда ўступае ў партыю бальшавікоў. Калі на Паволжы ўспыхнуў антысавецкі мяцеж, разам з лепшай ударнай сілай на галоўны фронт краіны накіроўваецца і камуніст Гуліда. Ён камандуе аб'яднанымі чырвонаармейскімі і партызанскімі атрадамі на чыгунцы Арзамас — Свіяжск.

Белагвардзейцы настойліва рваліся ў Казань. Чырвоныя войскі вялі ўпорныя баі за кожны квартал, за кожны дом... Атрымаўшы падмацаванне з Сімбірска, белагвардзейскія банды пачалі цясніць нашыя войскі да Свіяжска. Савецкае камандаванне прымае меры, каб умацаваць свае сілы. Быў створаны Усходні фронт. Сярод тых, хто ўдзельнічаў у фарміраванні рэгулярных часцей Чырвонай Арміі, быў і Васіль Гуліда. Яго атрады і дружыны, што ахоўвалі чыгунку і камунікацыі новага фронту, зводзяцца ў два асобныя стралковыя палкі, з якіх потым утварылася зводная брыгада. Васіль Гуліда камандуе гэтай зводнай брыгадай.

Пачалося наступленне на Казанскім і Самарскім напрамках. Жорсткія баі разгарэліся за Сызрань — важны чыгуначны вузел. Каля станцыі Пільна праціўнік некалькі разоў контратакаваў баявыя парадкі. Байцы брыгады трымаліся стойка, выконваючы загад свайго камандзіра — памерці, але не адыходзіць. Паранены, ён заставаўся ў страі да канца і кіраваў боем.

У гэты час у Вяцкай губерні, на Іжэўскім і Воткінскім заводах успыхвае белагвардзейска-эсэраўскі мяцеж. У. І. Ленін, надаючы гэтаму ўчастку фронту вялікае значэнне, патрабуе прыняць самыя энергічныя меры да вызвалення ад белагвардзейцаў Іжэўска і Воткінска. Сюды накіроўваецца брыгада Васіля Гуліды, у якой было шмат моладзі. 7—8 лістапада 1918 года войскі Чырвонай Арміі ў жорсткіх баях выгналі белагвардзейцаў з Іжэўска і Воткінска. 7 лістапада Ленін накіраваў камандуючаму 2-й арміяй тэлеграму, у якой вітаў доблесныя чырвонаармейскія войскі і віншаваў іх з гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У баях за Іжэўск і Воткінск Гуліда быў цяжка кантужаны і доўгі час знаходзіўся на лячэнні ў Казані. Але яго неспакойнае сэрца рвалася на фронт, дзе змагаліся баявыя таварышы. Не дачакаўшыся, пакуль настане поўнае выздараўленне, камандзір спяшаецца ў сваю брыгаду.

Сакавік 1919 года. Супраць рэспублікі Саветаў выступіў Калчак. Брыгада Васіля Гуліды атрымала новую задачу—ахоўваць чыгуначныя камунікацыі ад белагвардзейцаў і кулацкіх банд, якія дзейнічалі ў тыле нашых войск.

Адзін час байцы брыгады вялі баявыя дзеянні за чыгунку на ўчастку Сызрань—Батракі і Самара—Арэнбург—Бузулук. У адным з баёў быў адбіты ў ворага чыгуначны мост цераз Волгу. Гэты мост, разбураны ў час баёў, аднаўлялі нашы сапёры. Белагвардзейцы перашкаджалі весці аднаўленчыя работы, яны прарываліся са стэпу і прыціскалі гулідаўцаў да самага берага, але тыя падымаліся ў атаку, і маставікі зноў працавалі...

Наступленне Калчака ўзварушыла контррэвалюцыйныя сілы. Успыхнула кулацкае паўстанне на Сызраншчыне. Мяцежнікі спрабавалі захапіць горад Сызрань—вялікі чыгуначны вузел, а таксама мост цераз Волгу.

Стварылася цяжкая абстаноўка. Гулідаўцы наважылі акружыць і заціснуць у кола мяцежнікаў. Байцы па тры-чатыры разы на дні кідаліся ўрукапашную. Толькі дзякуючы настойлівасці і бясстрашшу гулідаўцаў вораг быў змяты, і чыгунка засталася ў руках савецкіх войск.

Праціўнік стаяў зусім блізка ля Сызрані. Паўстала задача абараняць горад, і адначасова трэба было трымаць абарону на чыгунцы. У гэтых умовах камбрыг праявіў жалезную волю і цвёрдасць, каб выканаць заданні камандарма і рэўкома.

І ўсё ж кулацка-эсэраўскім бандам удалося перарэзаць чыгунку на ўчастку Кузаеў—Ключ—Старая Рачэйка—Барыш. Камбрыг звярнуўся да партыйнага камітэта Сызрані, да рабочых-чыгуначнікаў з просьбай памагчы ліквідаваць банды. Чыгуначнікі блізка да сэрца прынялі заклік брыгады. Сіламі рабочых быў абсталяваны імправізаваны браняпоезд. Звычайныя чыгуначныя платформы ператварыліся ў бронепляцоўкі, абкладзеныя па бартах мяшкамі з пяском і абшытыя лістамі жалеза. Экіпаж браняпоезда складаўся з чыгуначнікаў. З камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных добраахвотнікаў быў сфарміраваны атрад, які склаў чацвёрты полк брыгады. Гэтыя войскі пад камандаваннем Васіля Гуліды ўступілі ў бой з белагвардзейцамі і ва ўпорнай стычцы авалодалі станцыяй Старая Рачэйка, ачысцілі вялікі ўчастак чыгункі.

За баявыя подзвігі ў шматлікіх баях 1918—1919 гадоў па барацьбе з інтэрвентамі і белагвардзейцамі камандзір зводнай брыгады В. Л. Гуліда атрымаў высокую ўрадавую ўзнагароду—ордэн Чырвонага Сцяга.

Пасля расфарміравання паўднёвай групы Усходняга фронту па хадайніцтве камандарма Васіль Гуліда прызначаецца начальнікам войск абароны чыгунак 2-й арміі. Зноў адказныя баявыя заданні. Баі за Кацярынбург. Асабліва вызначыўся В. Гуліда пры дабіцці бандыцкіх налётаў на стокіламетровым участку чыгункі Перм—Кацярынбург.


Россійская Соціалистическая Федеративная Совѣтская Республика.
Революціонный Военный Совѣт Республики.

Грамата пра ўзнагароджанне.

Неўзабаве новае прызначэнне. В. Гуліда—начальнік і ваенны камісар войск абароны чыгуначных дарог і войск ВЧК раёна Паўднёва-Усходняга фронту. Пад яго кіраўніцтвам былі 21-я і 22-я асобныя стралковыя брыгады і войскі асобага прызначэння фронту. І тут талент маладога военачальніка праявіўся з выключнай яркасцю. Была арганізавана своечасовая перакідка эшалонаў з боепрыпасамі, артылерыяй, прадуктамі, фуражом, наладжана эвакуацыя раненых. У тыле армій разгарнулася рашучая барацьба з бандамі і групамі праціўніка. Палепшылася работа чыгуначнага транспарту, разгарнуліся аднаўленчыя работы на чыгунках і станцыях.

8 снежня 1919 года 10-я і 11-я арміі здолелі перайсці ў рашучае наступленне на ўмацаваны царыцынскі раён, каб авалодаць стратэгічным цэнтрам—Царыцынам.

Пра работу, якую ў той час правёў В. Гуліда, камандуючы фронтам В. Шорын пісаў: «Гэтая арганізаванасць тылу, спакой цалкам забяспечвалі магчымасць разгортвання часцей для наступлення. Дывізіі былі папоўнены падвезенымі рэзервамі—людзьмі, боепрыпасамі, рознымі відамі забеспячэння. Была таксама паспяхова праведзена перагрупіроўка часцей для наступлення. Усё праробленае т. Гулідам В. Л. сведчыла пра бліскучае выкананне дадзеных яму франтавым камандаваннем заданняў».

У ноч з 2-га на 3-е студзеня 1920 года войскі Чырвонай Арміі авалодалі Царыцынам. Васіль Гуліда ўвесь час знаходзіўся на баявых участках, накіроўваў баявыя дзеянні сваіх брыгад і часцей асобага прызначэння. Не праходзіла міма яго ўвагі і перавозка войск да найбольш важных пунктаў, у раён рашучых баёў.

Нашы войскі Паўднёва-Усходняга фронту пасля баёў на Доне і Манычы зноў перайшлі ў наступленне і пачалі хутка прасоўвацца наперад.

А ў тыле—разбураныя чыгункі, масты, станцыі. Навокал дзейнічалі банды, нападалі на нашы рухомыя шпіталі, санітарныя паязды, лятучкі. Камандаванне фронту зноў ускладае на В. Гуліду задачу навядзення рэвалюцыйнага парадку ў тылавым раёне, з якою ён справіўся бліскуча.

«Баявыя заслугі т. Гуліды за перыяд снежань 1919—студзень-люты 1920 года,—пісаў той жа В. Шорын у сваіх успамінах,—адношу да разраду выключных. Бліскуча выкананыя ў выключна цяжкай абстаноўцы баявыя заданні фронту велізарнай важнасці безумоўна садзейнічалі нашым поспехам у снежні 1919 года пры авалоданні царыцынскім умацаваным раёнам і горадам Царыцынам і поспехам 1-й Коннай і 10-й арміі ў другой палове лютага, якія прывялі да разгрому армій белых, іх бегства да Чорнага і Азоўскага мораў. Тав. Гуліда заўсёды быў сціплым, імкнуўся быць незаўважным. Гэты здольны ваенны спецыяліст цалкам аддаваў сябе на карысць пралетарскай рэвалюцыі».

На грудзях камуніста Васіля Гуліды заззяў другі ордэн Чырвонага Сцяга.

**Панцеляймон СЕЛІВАНАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# ТАРАСАВЫ СЫНЫ

У селяніна-бедняка Тараса Салабуціна з вёскі Відуйцы, што на Касцюкоўшчыне, была вялікая сям'я: сем сыноў і дзве дачкі. На сваім мізэрным надзеле зямлі Тарас з дзецьмі пеклаваўся дзень пры дні, з ранку да ночы, але голад і галеча ўвесь час стаялі за плячыма. Каб пракарміць такую сям'ю, гаспадару даводзілася прадаваць сваю сілу пану Галынскаму, але ўсё роўна Салабуціны ніяк не маглі выбавіцца з галечы.

А дзеці падрасталі. Старэйшыя сыны Мацей і Васіль пачалі думаць пра тое, каб падацца куды-небудзь на заработкі, і бацька благаславіў хлопцаў на чыгунку. Там яны, яшчэ падлеткі, надрываліся, цягаючы тачкі з зямлёй.

Для Тараса не настала палёгка і пасля таго, як за старэйшымі на свой хлеб пайшлі і два наступныя яго сыны — Змітрок і Нічыпар. У хаце меней стала едакоў, але беднасць не адступала.

Можна сабе ўявіць, як узрадаваўся Тарас Салабуцін і такія, як ён, галетнікі з Відуйцоў, калі ў кастрычніку 1917 года з Петраграда громам пракацілася вестка: «Уся ўлада — народу, рабочаму класу і працоўнаму селяніну, свабода — усім працоўным!»

Тарас разам з іншымі беднякамі-аднавяскоўцамі шчыра ўзяўся за ўсталяванне Савецкай улады, за наладжванне жыцця ў роднай вёсцы на новых, ленінскіх асновах. У бацькоўскі кут вярнуліся Та-







Мацей.
Васіль.
Нічыпар.

расавы сыны — ладкаваць новае жыццё, але ненадоўга. Калі пачалася грамадзянская вайна, Тарас Салабуцін праводзіў у Чырвоную Армію спачатку чатырох сыноў, а потым і пятага — Яўхіма. Усе яны няшчадна білі ворагаў, грудзьмі адстойвалі родную рэспубліку Саветаў, каб хутчэй вярнуцца да мірнай працы.

Васіля Салабуціна, які дэмабілізаваўся з Чырвонай Арміі ў 1918 годзе, землякі выбіраюць загадчыкам Самацееўцкага зямельнага аддзела, а потым і старшынёй валаснога рэўкома. З уласцівай камуністу энергіяй Васіль Салабуцін змагаецца за правядзенне ў жыццё ленінскага дэкрэта аб зямлі. Пры яго актыўным удзеле ў роднай вёсцы арганізоўваецца сялянскі кааператыў.

Першыя вясковыя камсамольцы, а сярод іх і Тарасавы сыны Зміцрок і Нічыпар, змагаюцца з недабітымі бандамі, якія хаваліся ў лясах. Арганізатарамі новага жыцця ў вёсцы становяцца сыны Тараса Салабуціна. Васіль Салабуцін быў першым дырэктарам саўгаса «Браткавічы», потым дырэктарам Забычанскай МТС. У 1938 годзе землякі выбіраюць яго дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, членам Магілёўскага абкома КПБ. Ён быў дэлегатам пяці з'ездаў Кампартыі Беларусі.

На перадавой лініі барацьбы за новае жыццё былі і ўсе астатнія сыны колішняга бедняка Тараса. Старэйшы, Мацей, узначаліў калгас «Новы араты», малодшы, Яўхім, стаў загадчыкам жывёлагадоўчай фермы. Зміцрок і Нічыпар падаліся на вучобу. У перадваенныя гады першы працаваў у Кадзіеўцы сакратаром парткома шахты, потым у гаркоме партыі. Нічыпар стаў інжынерам, займаўся праектаваннем новых шахтаў.

Па шляху старэйшых братоў пайшлі і малодшыя дзеці Тараса — камсамольцы Мікіта і Павел. Мікіта Салабуцін пасля заканчэння Мінскага музычнага тэхнікума ўзначаліў калектыў Беларускага дзяржаўнага аркестра народных інструментаў. Павел скончыў фінансавы тэхнікум і працаваў загадчыкам раённага фінансавага аддзела на Брэстчыне, служыў у Чырвонай Арміі.

Ганарыўся сваімі сынамі стары Тарас. І стараўся сам не адставаць ад маладых. Нягледзячы на стары ўзрост, Тарас Сідаравіч узяўся даглядаць калгасны сад. Выведзеныя ім гатункі яблыкаў, памідораў, агуркоў і цяпер называюць Тарасаўскімі.

Патрыятызм сям'і Тараса — сям'і простых савецкіх людзей, якім Савецкая ўлада дала свабоду і шчасце раднаснага жыцця,— выявіўся з новай сілай у гады Вялікай Айчыннай вайны. Калі фашысцкія полчышчы вераломна напалі на нашу краіну, усе сем братоў Салабуціных пайшлі абараняць Радзіму.

Яўхім.
Мікіта.
Павел.

Старшы сержант Павел Салабуцін у першы дзень вайны разам са сваімі баявымі сябрамі-танкістамі ўступіў у бой з фашыстамі на граніцы каля Брэста. Шэсць варожых танкаў было знішчана. Камуніст Павел Салабуцін у гэтым няроўным баі загінуў.

Цяжкімі дарогамі вайны прайшлі астатнія шэсць братоў Салабуціных. Васіль, які перад вайной працаваў у Любчы старшынёй райвыканкома, добраахвотна ўступіў у Першы камуністычны Магілёўскі батальён, быў кулямётчыкам, а потым удзельнічаў у абароне Масквы. За подзвігі ў Вялікай Айчыннай вайне камуніст Васіль Салабуцін узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені і медалямі.

Мікіта Салабуцін на пачатку вайны быў камандзірам артылерыйскага ўзвода, удзельнічаў у баях за Мінск і Маскву. У сваім пісьме на імя Вярхоўнага Галоўнакамандуючага камуніст Мікіта Салабуцін пісаў: «Для таго каб наблізіць перамогу і перамагчы, мы павінны мабілізаваць усе свае сілы і сродкі. Прашу ад чыстага сэрца прыняць ад мяне ўсе мае зберажэнні ў суме сямі тысяч рублёў на пабудову самалёта. Запэўняю, што не пашкадую сіл і здароўя, а калі спатрэбіцца і жыцця, дзеля вызвалення Савецкай Радзімы».

Мацей і Яўхім Салабуціны былі ў партызанах. За ўдзел у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі Мацей узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, а Яўхім — партызанскім медалем. Зміцрок і Нічыпар — таксама актыўныя ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Гвардыі лейтэнант Зміцрок Салабуцін ваяваў пад Растовам, на Каўказе і вызначыўся ў баях пры штурме Берліна.

У пасляваенныя гады браты Салабуціны — на пярэднім краі аднаўлення народнай гаспадаркі. Зміцрок і Нічыпар вярнуліся ў Данбас, Мацей і Яўхім — працавалі ў родным калгасе. Васіль Салабуцін доўгі час працаваў старшынёй выканкома Любчанскага раённага Савета дэпутатаў працоўных. Да баявых узнагарод камуніста дабавіліся ўзнагароды за самаадданую працу — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, залатыя медалі ўдзельніка ВДНГ у Маскве.

Мікіта Тарасавіч Салабуцін доўгі час працаваў дырэктарам Беларускай дзяржаўнай філармоніі, потым узначаліў Дзяржаўны тэатр лялек БССР, а цяпер — на пенсіі. Калі скласці разам працоўны стаж братоў Салабуціных, то атрымаецца ўнушальная лічба — каля трохсот гадоў...

**Андрэй ДОЛЬНІКАЎ.**









**Вільгельм Кнорын** (сядзіць другі злева) **сярод членаў рэдакцыйнай калегіі газеты «Звезда» (Смаленск, 1920 г.)**

# ШЧЫРЫ СЯБАР МАЛАДЫХ

Ля калыскі камсамола Беларусі стаялі такія выдатныя байцы ленінскай гвардыі, як Вільгельм Георгіевіч Кнорын. Ён пражыў нядоўгае, але яркае жыццё. Яго рэвалюцыйная дзейнасць пачалася ў роднай Латвіі, яшчэ да таго, як у 1910 годзе Відзіенскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй ён быў прыняты ў яе шэрагі.

Вільгельм Георгіевіч Кнорын нарадзіўся 29(17) жніўня 1890 года ў Скуенскай воласці Цэсіскага павета ў беднай сям'і. Скончыў настаўніцкую семінарыю, працаваў настаўнікам у Страўпе і Рызе.

Пятнаццацігадовым юнаком, калі працаваў рабочым на ватнай фабрыцы, Вільгельм стаў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Фарміраванне яго светапогляду праходзіла пад уплывам рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гадоў у Латвіі і сувязей з рабочымі сацыял-дэмакратамі. Вялікі ўплыў на юнака рабілі творы Яна Райніса і Андрэя Упіта.

У Валміерскай семінарыі, дзе вучыўся Кнорын, быў нелегальны гурток, які прымыкаў да сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. ГуртКоўцы, а сярод іх і Вільгельм, чыталі сацыял-дэмакратычную літаратуру, знаёміліся з творамі Маркса, Энгельса, Леніна, Пляханава. Веды, набытыя ў гуртку, спатрэбіліся, калі Кнорын стаў працаваць настаўнікам. У гэты час ён наладжвае сувязь з рабочымі пасёлка Лігатнэ і 4-га раёна Рыгі, вядзе вялікую арганізатарскую і прапагандысцкую работу сярод батракоў, сялян і інтэлігенцыі Ліепаі, Раўну, Валміеры. Для маладога рэвалюцыянера гэта была вялікая палітычная школа, дзе закладваліся асновы яго далейшага фарміравання як дзеяча Камуністычнай партыі і міжнароднага рабочага руху.

Яшчэ будучы вучнем настаўніцкай семінарыі, Вільгельм Кнорын пачаў журналісцкую і літаратурна-крытычную дзейнасць. У артыкулах «Мастацтва і дыялектыка», «Літаратура і выхаванне» і многіх іншых выступленнях малады публіцыст, крытыкуючы ідыёлагаў буржуазіі, заклікае працоўных, і перш за ўсё моладзь, актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, у рэвалюцыйнай барацьбе. Натуральна, што такімі артыкуламі захаплялася сацыял-дэмакратычная моладзь Латвіі.

Пачалася першая сусветная вайна. Вільгельм Кнорын — салдат царскай арміі — пабываў у Польшчы, Літве, Беларусі. Будучы пісарам 32 эвакуацыйнага пункта, які знаходзіўся ў Мінску, ён прымаў самы актыўны ўдзел у стварэнні бальшавіцкіх арганізацый Заходняга фронту. У гэты перыяд Кнорын разам з М. Фрунзе, І. Любімавым, К. Ландэрам вёў прапаганду сярод салдат, выступаў на рабочых мітынгах і сходах, выкрываючы імперыялістычны характар вайны, растлумачваючы салдацкім масам задачы партыі бальшавікоў.

Кнорын быў актыўным удзельнікам Лютаўскай рэвалюцыі, адным з арганізатараў Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У маі 1917 года яго прызначылі сакратаром, а потым намеснікам старшыні Мінскага Савета, пазней — рэдактарам газеты «Звезда», якая стала органам ЦК КП(б) Беларусі. У кастрычніцкія дні Кнорын — член Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Заходняй вобласці і фронту.

У гады грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі Вільгельм Кнорын—камісар Смаленскай ваеннай акругі, член Рэўваенсавета Беларусі, член ЦБ КПБ, сакратар ЦК КП(б) Літвы і Беларусі. Ён вядзе вялікую работу па кіраўніцтве падпольнай дзейнасцю бальшавікоў у тыле ворага, асабіста рыхтуе для падпольнай работы ў Рудабелцы такіх камуністаў, як П. Серабракоў, П. Рывінскі, М. Ляўкоў і многіх іншых. Акрамя таго, у гэты перыяд ім напісана многа артыкулаў, якія выкрывалі палітыку эсэраў, меншавікоў і буржуазных нацыяналістаў.

Кнорын разам з А. Чарвяковым, А. Крыніцкім і іншымі прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый Беларусі падпісаў 31 ліпеня 1920 года гістарычны дакумент — Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі.

Працуючы сакратаром Цэнтральнага Бюро, а пазней сакратаром ЦК КП(б)Б і на іншых адказных пасадах у партыйных органах Беларусі, Вільгельм Кнорын аддае шмат сіл і энергіі партыйна-выхаваўчай дзейнасці сярод моладзі. Ён з'яўляецца адным з арганізатараў і выкладчыкаў Камуністычнага ўніверсітэта і першай кузні навуковых кадраў — Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У маі 1922 года партыя адклікала Вільгельма Кнорына на кіруючую работу ў Маскву, на пасаду намесніка загадчыка ўлікова-размеркавальнага аддзела ЦК РКП(б). Потым ён быў загадчыкам інфармацыйнага аддзела. У студзені 1925 года В. Кнорын выбіраецца членам Маскоўскага камітэта партыі і працуе загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды МК, а з 1926 года загадвае аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б).

У гэты перыяд В. Кнорын вельмі актыўна выступае ў партыйным і камсамольскім друку. Ён член рэдкалегіі часопіса «Спутник агитатора», адказны рэдактар часопіса агітпропа ЦК ВКП(б)



«Коммунистическая революция», член рэдкалегіі літаратурна-мастацкага часопіса «Комсомолия» і член рэдкалегіі штомесячніка «Молодой большевик».

Вільгельм Кнорын быў вядомы і як адзін з лепшых дакладчыкаў па пытаннях партыйнага жыцця і палітыкі партыі, асабліва ў перыяд барацьбы з трацкізмам і «новай» апазіцыяй. У пачатку 1926 года паводле рашэння ЦК ВКП(б) Кнорын у складзе групы дэлегатаў XIV з'езда партыі накіроўваецца ў Ленінград для дапамогі ленінградскім камуністам у ажыццяўленні рашэнняў з'езда па барацьбе з зіноўеўска-каменеўскай апазіцыяй. У гэтую групу ўваходзілі такія відныя дзеячы партыі і камсамола як М. Калінін, К. Варашылаў, С. Кіраў, С. Арджанікідзе, А. Косараў, А. Мільчакоў, Г. Лебедзеў, Д. Мацвееў і іншыя таварышы.

З 1927 года В. Кнорын зноў узначальвае партыйную арганізацыю Беларусі. У гэты перыяд КП(б)Б вядзе вострую барацьбу супраць трацкісцка-зіноўеўскага блока, за ленінскую генеральную лінію. Таварыш Кнорын адыграў важную ролю ў мабілізацыі камуністаў на гэтую барацьбу, ва ўмацаванні адзінства Кампартыі Беларусі як аднаго з атрадаў ВКП(б). У гэты час камсамол Беларусі робіць нямала слаўных спраў: прымае ўдзел у аднаўленні прамысловасці і транспарту, павышэнні прадукцыйнасці працы, арганізацыі вучобы і выхавання моладзі, індустрыялізацыі краіны, у паходах за сацыялістычную рацыяналізацыю і рэжым эканоміі, за калектывізацыю і г. д.

Вучыцца ў партыі па-ленінску працаваць, змагацца і перамагаць — да гэтага нязменна заклікаў таварыш Кнорын моладзь. «...**нам неабходна яшчэ і яшчэ раз сур'ёзная марксісцкая вучоба, нам неабходна паглыбляць свае палітычныя веды,**— гаварыў ён на IX з'ездзе ЛКСМБ.— **Толькі пры наяўнасці іх мы правільна вырашым гэтыя задачы** (будаўніцтва сацыялізма — **Л. З.**).»

Указваючы на неабходнасць узмацнення работы сярод жанчын, асабліва сярод жаночай моладзі, Вільгельм Кнорын пісаў: «**Трэба памагчы жаночай моладзі знайсці шлях да грамадскай работы. ...ні адна з задач сацыялістычнага будаўніцтва не можа быць вырашана без актыўнага ўдзелу жанчын, цэлай палавіны працоўных**».

Пяру В. Кнорына належаць каля 40 кніг, брашур, артыкулаў, прысвечаных гісторыі КП(б)Б, літаратуры і мастацтву, тэорыі і практыцы будаўніцтва сацыялізма ў БССР. Ён рэдагаваў першае выданне твораў У. І. Леніна на беларускай мове.

Сем гадоў В. Кнорын працуе ў Камінтэрне, дзе яго выбіраюць членам выканкома Камінтэрна, кандыдатам у члены Прэзідыума Камінтэрна і кіраўніком Сярэднееўрапейскага сакратарыята Камінтэрна. У гэты час у партыйным друку ён выступае з артыкуламі па пытаннях міжнароднага камуністычнага руху ў краінах Еўропы, Азіі і Амерыкі. В. Кнорын заклікае да адзінства антыімперыялістычных сіл у барацьбе супраць фашызму і другой сусветнай вайны. У прамове на пленуме Выканкома КІМа 22 снежня 1932 года, падкрэсліваючы самае галоўнае ў рабоце Міжнароднай арганізацыі моладзі, ён гаварыў: «...**самае важнае для секцый КІМа — гэта масавая работа, гэта барацьба за заваёву найшырэйшых мас рабочай моладзі для камунізма**».

На працягу некалькіх гадоў В. Кнорын быў дырэктарам гісторыка-партыйнага інстытута Чырвонай прафесуры, чытаў курс лекцый па гісторыі партыі і прымаў удзел у стварэнні вучэбных дапаможнікаў. Так, у 1934 годзе брыгадай гісторыкаў-марксістаў пад кіраўніцтвам В. Кнорына была напісана «Кароткая гісторыя ВКП(б)», якая некалькі разоў перавыдавалася і была надрукавана на дваццаці мовах, у тым ліку на пятнаццаці мовах народаў СССР. В. Кнорыну за яго працы па гісторыі партыі і літаратурна-публіцыстычную дзейнасць была прысвоена вучоная ступень доктара гістарычных навук. У 1935 годзе В. Кнорын прыступіў да напісання больш поўнага курсу гісторыі партыі. Нажаль, гэтая работа не выйшла ў свет. Заўчасная смерць у 1939 годзе перашкодзіла здзяйсненню гэтай і многіх іншых добрых задум.

Кнорын пакінуў нам вялікую навуковую і літаратурную спадчыну. Яго навуковыя працы былі прысвечаны галоўным чынам пытанням падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай рэвалюцыі, гісторыі КПСС, тэорыі і практыкі міжнароднага камуністычнага і рабочага руху, міжнароднага камуністычнага руху моладзі.

В. Кнорын быў дэлегатам дзесяці з'ездаў партыі, пачынаючы з VIII па XVII уключна, а пачынаючы з XV і аж да XVII з'езда партыі — членам ЦК ВКП(б). У 1927 годзе В. Кнорын быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Характарызуючы В. Кнорына як палымянага бальшавіка-ленінца, прынцыповага і праўдзівага чалавека, верная паплечніца Леніна, член КПСС з 1898 года А. Стасава пісала: «**Вельмі важна, каб жыццё і рэвалюцыйная дзейнасць такіх выдатных змагароў за рабочую справу, якім быў Вільгельм Кнорын, захавалася ў высакароднай памяці народа, а іх прыклад беззапаветнага служэння і адданасці ідэям камунізма заўсёды быў перад вачыма новых і новых пакаленняў савецкіх людзей**».

**Леанід ЗЕМЛЯКОЎ.**

## У вераснёўскім нумары чытайце артыкул першага сакратара ЦК ЛКСМБ Уладзіміра ПАДРЭЗА да 50-годдзя камсамола Беларусі




## 1970

### ВЕРАСЕНЬ

**1**

40 гадоў з часу адкрыцця (1930) Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

70 гадоў з дня нараджэння (1900) Сымона Баранавых, беларускага пісьменніка. Памёр у 1942 г.



Будынак Мінскага медыцынскага інстытута.

**7**

50 гадоў з часу арганізацыі (1920) першага сельскагаспадарчага калектыву ў м. Хіславічы Мсціслаўскага павета.

**9**

50 гадоў назад (1920) у Мінску выйшаў першы нумар газеты «Известия Военно-революционного комитета ССРБ».



Сымон Баранавых.

**10**

85 гадоў з дня нараджэння (1885) А. У. Паладзіна, вучонага-біяхіміка, акадэміка Акадэміі навук УССР, ганаровага акадэміка Акадэміі навук БССР.



А. У. Паладзін.

**14**

50 гадоў з дня адкрыцця (1920) у Мінску Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра (цяпер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы).




*Першая афіша тэатра імя Янкі Купалы.*



А. Х. Шкляр.

**14**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) А. Х. Шкляра, доктара геаграфічных навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**20**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) А. В. Лыкава, вучонага-фізіка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**22**

25 гадоў назад (1945) Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў Указ аб узнагароджанні ЛКСМ Беларусі ордэнам Чырвонага Сцяга за мужнасць, самаахвярнасць і геройства, якія праявіла моладзь Беларусі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.



А. В. Лыкаў.

**25—27**

**50 гадоў назад (1920) праходзіў Першы з'езд камсамола Беларусі.**

**26**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) У. І. Агіевіча, беларускага крытыка. Памёр у 1952 г.

**30**

40 гадоў з часу заснавання (1930) Беларускай опернай студыі ў Мінску.

**Верасень**

40 гадоў з дня адкрыцця (1930) у Магілёве педагагічнага інстытута.

10 гадоў назад (1960) уступіў у строй Брэсцкі дывановы камбінат.



У. І. Агіевіч.



Брэсцкія дываны.



# А ПЕСНЯ—АД СЭРЦА

## ГЕНАДЗЮ ЦІТОВІЧУ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ

Ціха дагарае за Дняпром залаціста-ружовая зара. Шырокія паплавы паволі зацягвае светлая заслона туману. З лесу ледзь чутна даносіцца голас зязюлі. Першыя зоркі замігцелі ў небе... Летні вечар ціха і спакойна апускаецца на зямлю. Але што гэта адбываецца ў адным з двароў вялікага сяла на высокім беразе Дняпра — ці то вяселле, ці то вечарынка?.. Людзі, што сабраліся тут пасля работы, раптам загаманілі, заспрачаліся, а жанчына, якая толькі што праспявала песню, загарэўшыся чырванню, сказала:

— Больш не буду...

— Што ж так?— пытаецца высокі, хударлявы чалавек з вострымі скуламі і сівеючымі валасамі.

— Ды сорамна мне,— адказвае тая.

— Сорамна? З вашым голасам, галубка, у сталіцы не сорамна выступаць. Спявайце, спявайце. Гэтую песню я ніколі не чуў. Вось запішу яе, і ў Мінску будзем спяваць.

Маладзіца зноў заспявала. Над прыціхлым сялом паплыў яе моцны прыгожы голас... А пасля... Пасля пачалі спяваць усе, хто сабраўся тут. Гэта былі песні, што гучаць у полі, на вечарыне, у вясковай бяседзе. І якую б песню ні пачыналі, высокі чалавек у сінім берэце ведаў і словы і мелодыю, нават памагаў весці падгалосак.

— Ну што ты скажаш,— казалі спевакі,— гарадскі чалавек, а ўсе нашы песні ведае.

Пасля, калі ўжо зусім сцямнела, сядзеў той мужчына ў кампаніі тутэйшых жыхароў і ціха гутарыў:

— Колькі ў народзе талентаў, колькі яшчэ багаццяў неадкрытых. Быў я сёння за Дняпром. Даведаўся ад аднаго чалавека, што ў вас тут добра спяваюць, вось і прыйшоў да вас. Кіламетраў дваццаць адмахаў — дзе на спадарожных машынах, дзе пеша. І праўду казалі пра вашы песні, не шкадую, што пабыў у вас. Эх, здаецца, калі б меў час, хадзіў бы і хадзіў па ўсёй зямлі нашай і збіраў, збіраў песні...

Вось так у любым раёне нашай рэспублікі можна сустрэць Генадзя Іванавіча Цітовіча, стваральніка і кіраўніка Дзяржаўнага народнага хору БССР. Бадай, няма такога кутка ў Беларусі, дзе б не пабываў Генадзь Іванавіч, нястомны збіральнік і прапагандыст беларускай народнай песні. І абавязкова пасля кожнага свайго вяртання з чарговай паездкі ён гаворыць:

— А людзі там галасістыя! І песні звонкія!

З галасістых дзяўчат і хлопцаў стварыў у 1952 годзе Генадзь Іванавіч



Так нараджаецца песня.



Цітовіч свой славуты хор. І заззялі ўсімі сваімі гранямі каштоўныя самацветы — беларускія народныя песні. Хто не ведае тых песень, якія адкрыў для нас Генадзь Іванавіч?! «Рэчанька»— простая, шчырая. Тонка і праніклёна вядзе яе цудоўную мелодыю хор. Нікога не пакідае абыякавым вясёлая песня-жарт «Як пагнала бабуленька куранятак пасці». Яе матыў так і цягне ў скокі. Як успамін аб роднай старонцы,— чыстая, цнатлівая «Купалінка»...

Сіла сапраўднага мастацтва ў тым, што яно служыць высокім прыкладам для пераймання. Так здарылася і з хорам Цітовіча, які стаў свайго роду першаадкрывальнікам беларускай народнай песні.

Аднойчы брыгада гуказапісу Беларускага радыё запісвала ў адным сельскім клубе ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Салістка — маладзенькая калгасная птушніца — так чыста выводзіла кожную нотку, так добрасумленна паўтарала знаёмыя інтанацыі, што пасля канцэрта мы не ўтрымаліся, спыталі:

— Адкуль у цябе гэтая песня?

Дзяўчына здзівілася:

— Як адкуль? Па радыё чула... Хор Цітовіча спяваў. Мы многа іх песень ведаем.

І пасля, ужо ўвечары, праходзячы па вёсцы, мы пачулі сплеценыя са звонкіх дзявочых галасоў «Рабіначку», «Закаці, яснае сонейка» і ледзь не палову рэпертуару Цітовічавага хору. Слухаючы дзяўчат, мы думалі пра цуд сапраўднага мастацтва, пра майстра, які з любоўю выбірае песенныя жамчужыны, шліфуе іх, і яны зноў вяртаюцца ў народ, паказваючы крынічна чыстую аснову песенна-паэтычнай душы народа.

Любоў да людзей, да іх творчасці — галоўная рыса характару Генадзя Іванавіча Цітовіча. Сустрэўшыся і хоць раз пагутарыўшы з ім, нельга не прасякнуцца глыбокай павагай, нельга не палюбіць гэтага чалавека. То хітравата і гарэзліва, то ўважліва і добразычліва глядзяць на субяседніка яго ласкавыя вочы. Гаворка лёгкая і шпаркая, чалавек гэты поўны ўражанняў, і яму хочацца падзяліцца з субяседнікам усім, што хвалюе яго. А расказаць Генадзю Іванавічу ёсць пра што — за плячыма вялікае жыццё: ад самадзейнага хору сяла Вялікае Падлессе — да вядомага ў нашай краіне выдатнага прафесійнага калектыву, якім з'яўляецца Дзяржаўны народны хор БССР.

Фалькларыст, этнограф, музыказнавец, Генадзь Іванавіч і сам піша песні. Мы любім яго «Калгасны вальс», жывы музычны абразок «На калгасным вяселлі». Многія, напэўна, памятаюць светлазадуменную мелодыю



пукставых «Верасоў», словы да якіх напісаў Генадзь Іванавіч. Дарэчы, ён часта піша словы і для сваіх уласных песень.

Шмат запамінальных з'яў у музычным жыцці нашай рэспублікі звязана з імем Генадзя Іванавіча Цітовіча. Варта прыгадаць, як захапляліся мы дуэтам Марыі Адамейка і Ганны Аўдзеенка і жаночым вакальным актэтам, які ў 1957 годзе заваяваў на Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве залаты медаль. І вось нядаўна — квартэт «Купалінка». У 1968 годзе ў Сафіі гэтаму ансамблю таксама была прысуджана вышэйшая ўзнагарода IX Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў.

Улюбёны ў мастацтва свайго народа, Генадзь Іванавіч быў першым, хто адкрыў дзверы на канцэртную эстраду даўнім і новым народным песням, даў пуцёўку ў жыццё многім самадзейным кампазітарам рэспублікі. У яго хоры ўпершыню прагучэлі песні А. Шыдлоўскага, П. Шэўкі, Р. Галавасцікава, П. Касача.

Уменне працаваць з людзьмі, абудзіць у іх творчую жылку, захапіць новымі песнямі — яшчэ адна з уласцівых Цітовічу рыс.

І, нарэшце, пра глыбокую, прыроджаную сціпласць Генадзя Іванавіча. Адказваючы на віншаванні ў сувязі з прысваеннем яму пачэснага звання народнага артыста СССР, Цітовіч сказаў: **«Вы ведаеце што, я неяк часамі забываюся, што гэта маё званне. Я лічу, што гэта званне — прызнанне вялікай каштоўнасці мастацкай таго, што стварае народ. Гэта званне народнай песні беларускай, народнай творчасці. Усё, што зрабілі мы — і я, і мае папярэднікі, і сучаснікі — мы, магчыма, не сабралі і сотай долі таго, што стварыў народ. Таму мы ў даўгу перад ім. Наш доўг — як можна лепш вывучыць тое, што стварылі нашы продкі, каб яшчэ больш расквітнела наша цудоўная музычная культура».**

І словы гэтыя не былі звычайным у такім выпадку рытуалам. Яны — ад сэрца. Як і песня. Гэта творчае крэда мастака, яго жыццёвы прынцып.

Парывісты, неспакойны, ён заўсёды ў пошуках, заўсёды ў дарозе. І тыя бясцэнныя песенныя скарбы, якія сустракаюцца на яго шляху, ён шчодра раздае людзям. І людзі становяцца багацейшыя, прыгажэйшыя. Людзі дакранаюцца сэрцам да песні, і песня напаўняе іх любоўю да свайго народа, да Радзімы.

Эдуард ВАРФАЛАМЕЕЎ.
Фота В. ЖДАНОВІЧА.




**ТАМ, ДЗЕ ШПРЭВЯ ШУМІЦЬ.**
**Паэзія лужыцкіх сербаў.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ЦІКАВАЕ ЗНАЁМСТВА

З часоў Карла Вялікага, калі свабодныя лужычане ўпершыню былі пакораны германскімі плямёнамі, уся іхняя гісторыя—гэта барацьба за сваё існаванне. У гісторыі лужычан былі такія часы, калі яны спадзяваліся на лепшую будучыню насуперак самому спадзяванню. Асабліва цяжкія былі гады фашызму, калі ўсе лужычане былі аб'яўлены немцамі і наогул было забаронена гаварыць на сваёй мове.

Маленькі лужыцкі народ гаворыць на дзвюх мовах—верхнелужыцкай і ніжнелужыцкай, якія між сабою знаходзяцца прыкладна ў такой блізкасці, як беларуская з украінскай. Шматвяковая прымусовая германізацыя, рассяленне нямецкіх каланістаў на лужыцкіх землях прычыніліся да таго, што тэрыторыя, якая належала лужычанам, няўхільна змяншалася і ўжо ў XX стагоддзі Верхняя Лужыца аказалася адрэзанай ад Ніжняй Лужыцы цэлай паласою нямецкіх пасяленняў.

Ды, нягледзячы на нешчаслівы лёс у мінулым, лужыцкі народ унёс свой уклад не толькі ў славянскую, але і ў сусветную культуру. Варта прыгадаць вядомага Лесінга—лужычаніна Лесніка, які ўзбагаціў сваімі творамі скарбніцу агульначалавечай культуры.

Тое, што лужычане ў неспрыяльных гістарычных умовах захавалі і данеслі да нашых дзён, сведчыць пра іх жыццёвую сілу і любоў да сваёй бацькаўшчыны. Нажаль, беларускі чытач ведаў пра гэты народ і яго культуру нямнога. Таму выдавецтва «Беларусь» зрабіла карысную справу, выдаўшы анталогію лужыцкай паэзіі «Там, дзе Шпрэвя шуміць» (укладальнікі Аляксей Зарыцкі і Алесь Траяноўскі).

У анталогіі, якая ахоплівае досыць вялікі прамежак часу, адлюстравана жыццё народу, яго гісторыя. Смутак і боль, часам парывы роспачы, калі апускаюцца рукі і ўперадзе не відаць ні пробліску надзеі, і ў той жа час вера ў народ, які, нягледзячы на ўсе цяжкасці, не здрадзіць самому сабе, зямлі і мове сваіх продкаў—усё гэта чытач перажывае разам з аўтарамі, перачытваючы іх вершы.

У пачатку зборніка змешчана некалькі народных песень. Яны як бы вызначаюць сабою пафас зборніка. Большасць з іх—пра змаганне народа з захопнікамі, пра часы вольнага жыцця і пра пакуты няволі. Асабліва ў гэтых адносінах паказальная народная песня «Перамогі сербаў»—пра мужнасць народа ў барацьбе з ворагам. Відаць, у цяжкія часы гэтая песня не ў адной душы падтрымлівала спадзяванне на лепшую будчыню. Лірычныя песні, што змешчаны ў зборніку («На санках», «Дабранач», «Дарадчыца» і інш.), раскрываюць дасціпны гумар лужычан, іх уменне бачыць і адчуваць радасці жыцця. Шкада толькі, што ў тых надзвычай сціплых каментарыях, якія ёсць у кнізе, пра народныя песні не сказана нічога. Варта было б указаць, калі яны былі запісаны.

XVIII стагоддзе і першая палова XIX прадстаўлена імёнамі — Юрыя Меня, Гандрыя Зэйлера і Яна Радысерба-Вэля.

Вось верш Юрыя Меня «Сербскае мовы багацце і слава»:

Будзьце смялейшыя, устаньце, браты, не давайце
Нашай мове цудоўнай рассыпацца ў пыл.

Гэтая ж думка вызначае пафас верша «Ян Гус» Яна Радысерба-Вэля. Тут не лішне будзе прыгадаць, што лужычане ў сваім змаганні з прыгнятальнікамі арыентаваліся на дапамогу чэхаў.

Крыху багацей пададзены ў зборніку Гандрый Зэйлер. Змешчана пяць ягоных вершаў. Зэйлер—класік лужыцкай літаратуры, адзін з найбольш актыўных змагароў за нацыянальную культуру. Але ўкладальнікі пастараліся паказаць Зэйлера ўсебакова, наколькі гэта можна зрабіць пры пяці вершах. Тут і патрыятычны гімн «Трывайма, сербы!», і лірычны верш «Сербская нявеста», і апісанне радасці сялянскай працы («Жніво», «Песня касцоў»). Гэтыя творы сведчаць пра тонкі лірызм аўтара, характарызуюць яго як змагара за нацыянальную свабоду.

У паэта другой паловы XIX стагоддзя Мато Косыка пераважаюць трагічныя матывы. У маладым узросце Косык выехаў у Злучаныя Штаты, дзе і жыў да глыбокай старасці, цяжка пераносячы разлуку з радзімай. Вершы Косыка вельмі нагадваюць лужыцкія народныя песні з іх прастатой, напеўнасцю, лірызмам і шчырасцю.

Цэнтральнай фігурай усёй лужыцкай літаратуры з'яўляецца Якуб Барт-Цішынскі, і таму заканамерна, што яму ў анталогіі адводзіцца больш месца. На яго вершы звярнулі ўвагу ажно трое перакладчыкаў, якія здолелі паказаць творчы воблік аднаго з найбольш значных паэтаў славянства. Для чытачоў будзе цікава пазнаёміцца з гістарычнай баладай «Карл прапаведуе лужыцкім сербам», у якой апавядаецца пра крывавую расправу Карла Вялікага над лужыцкімі сербамі.

Вельмі цікавыя вершы Цішынскага «Гельгаланд-Лужыца», «Асамотненая ліра», «Маё жыццё» і іншыя. Адчуваецца, што гэты вялікі славянскі паэт варты таго, каб выцаць яго выбраныя творы на беларускай мове. Не ўвайшлі ў анталогію санеты Цішынскага. Разумеючы, што ўкладальнікі былі абмежаваны памерамі кнігі, усё ж хацелася б зрабіць ім папрок, што абыдзены санет "Я знаю толькі Сербію маю", гэты гімн свайму народу і сваёй зямлі.

Багацейшы на імёны пачатак нашага стагоддзя. Ян Скаля, Йозаф Новак, Міна Віткайц, Міхал Наука, Ян Лайнерт, Юры Вуеш... Шкада, што гэтыя паэты прадстаўлены ў анталогіі адным-двума вершамі, і таму цяжка ўявіць працэс развіцця лужыцкай паэзіі першай паловы XX стагоддзя і творчы воблік кожнага з паэтаў. Тэматычна тут вершы больш аднастайныя. Гэта—«Ці ж не грэх?» Скалі, «Паўстаньце, сербы!» Новака, «Водгалас з блотаў» і «Запытанне» Віткайц, «Мой родны край» Лайнерта, «Боль маёй душы» і «Мая айчына» Вуеша. Любоў да роднай зямлі, непрыхаваная трывога і боль за яе лёс гучаць у кожным радку вершаў.

Нельга думаць, што ў той час у лужычан існавала толькі падкрэслена-публіцыстычная паэзія. Былі і вясёлыя песні пра каханне, і жартоўныя вершы, і вершы для дзяцей. Укладальнікі ўключылі ў анталогію некалькі такіх вершаў, і мы маем магчымасць меркаваць пра жанрава-тэматычныя асаблівасці лужыцкай паэзіі другой паловы XIX і пачатку XX стагоддзяў.

Паэты малодшага пакалення Юры Хешка, Юры Брэзан і Юры Млынк, чыя творчасць разгарнулася напярэдадні Айчыннай вайны, працягваюць традыцыі сваіх старэйшых сучаснікаў. У іх творчасці шырока выкарыстоўваюцца народныя матывы, пераважае патрыятычная лірыка.

З маладых паэтаў у анталогіі прадстаўлены два найбольш здольныя—Юры Кох і Кіта Лоранц. Гэта паэты са сваім творчым абліччам. Іх вершы перакладаліся ўжо на многія мовы. Асабліва цікавыя вершы Лоранца пра падарожжа ў Беларусь.

Нягледзячы на вельмі абмежаваныя памеры кнігі «Там, дзе Шпрэвя шуміць», яна прынясе сваю карысць. Трэба спадзявацца, што ў далейшым беларускі чытач больш поўна пазнаёміцца з творчасцю лужыцкіх сербаў.

**Мікола ПРАШКОВІЧ.**




**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. МАЯ ІЛІЯДА.**
**Вершы.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ЛІРЫКА ШЫРОКАГА ДЫХАННЯ

Гэта лірыка шырокага, вольнага дыхання, эпічнага спакою і ўнутранай напружанасці.

Дзе мой край? Там, дзе вечную
песню пяе Белавежа,

Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.

Тут натуральна нават тое, што можа здацца залішнім, скажам, гэтыя размашыстыя перыяды, бясконцыя дэталі, тропы. Бо гэта — ад паўнаты пачуццяў, калі досыць найменшага імпульсу, пабуджэння, — і ўжо не стрымаць іх:

...Дзе мой край?..
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба-разлівы ільноў.

Так мог напісаць чалавек, якому кожная мясціна ў ім, у гэтым сваім краі, да болю любая і знаёмая, для якога Радзіма, народ, мова — асноўны клопат, пафас жыцця і творчасці.

Што б ні закранаў У. Караткевіч, ён мысліць гістарычна-канкрэтна, даследуючы вытокі і разглядаючы самую далёкую перспектыву. Любоў да Радзімы ў яго таксама канкрэтная. Толькі той, хто так любіць свой народ, можа па-сапраўднаму ацаніць і палюбіць іншыя народы. Шчыры інтэрнацыяналізм, пранікнёная чалавечнасць, глыбокі гістарызм — найлепшыя якасці паэзіі У. Караткевіча.

Думаецца, крытыка не заўсёды справядлівая, калі папракае пісьменніка за схільнасць да гісторыі. Такая ўжо асаблівасць ягонага таленту (і тут, мабыць, нічога не перайначыш) — успрымаць сучаснасць і пазнаваць яе праз мінулае, праз фальклор і міфалогію.

Мінулае. Паэт бачыць яго ў жывых дзеях і карцінах, у яго выключная здольнасць пераўвасабляцца ў гістарычных асоб, міфалагічных герояў, уменне нявымушана і натуральна гаварыць ад іх імя («Самсон», Песня Мехмета», «Чуфут-Кале», «Наракання Насрэдзіна Ахмет-Аха эфендзі», «Скарына пакідае радзіму» і г. д.)

Паэтавага героя вядзе па жыццёвай дарозе няўтольная прага ведаў, імкненне да рамантычнага. Непаседа і кніжнік, да таго ж іранічны і ўражлівы, як дзіця, ён аб'ездзіў і выхадзіў амаль усю Беларусь, паэтычна даследаваў дзіўную і старажытную краіну тавраў, якую так і заве, па сваёй заўсёднай звычцы называць рэчы сваімі, спрадвечнымі імёнамі — Таўрыдай.

А вось ён, прыпаўшы да каменя вухам, чуйна слухае сэрца гары. І ягонае сэрца напаўняецца галасамі ўсіх народаў і часоў. Яно ахоплена вялікай любоўю да ўсяго жывога і прыгожага.

«Жыць!» Гэтая думка вельмі важная і прынцыповая для У. Караткевіча. Яна пераходзіць з верша ў верш і асабліва ярка і пераканаўча праяўляецца ў «Баладзе пра дзіка і чалавека».

Мы дзялілі і шчасце і гора,
І лясы і спевы травы.
Што ж цяпер ты мне, дзік, падорыш?
Мне, забітаму, ты, жывы?

Паэт настойліва дапытваецца — што ёсць чалавек? Як гэта ў ім, у чалавеку, жывуць побач дабро і зло, вернасць і здрада, любоў і нянавісць, высокі ідэал і несправядлівасць («Балада плахі», «Балада аб трыццаць першым сярэбраніку», «Балада аб асуджаных і чалавечым «даруй», «Балада аб нашэсцях» і г. д.) Ён шукае чалавека ў чалавеку. І знаходзіць.

Няма такой сілы, якая ўстаяла б перад нястрымнай сілай жыцця: «загіне, хто ў мінулым дрэмле: буяна травы ймкнуць да зор, навыперадкі, напярэймы, узахапы і насупор».

У. Караткевіч умее ўбачыць, апаэтызаваць жыццё, як ніхто: яно ў яго напорыстае, узнёслае, квітучае. «Душа чакае крыл. І на адхонах восьвось, здаецца, расквітнее бэз». Або: «Бацькі з магіл цяплом дыхнулі, з узгоркаў снег схаваўся ў роў, і кожны горб шуміць, як вулей, ад спрэчкі кветак і чмялёў». У такім свеце і жывецца і мроіцца ясней і прыгажэй: «Ляжу каля лясных узбочын, ляжаць і ждуць мяне гады, і п'юць ускінутыя вочы ўсю повень неба і вады».

Можна вылучыць дзве часткі ў караткевічавых вершах пра прыроду і каханне: карціну, эпізод, як імпульс для лірычнага ўзлёту, і іх унутраны сэнс.

О вясна! Таполі! Свеце мілы!
Сонца німб! Аблокі! Сад! Рака!
Залатая падаплёка крылаў
Маладога звонкага шпака!

Чалавек, апанаваны адзіным, няўтольным пачуццём, пералічвае тое, што першым трапіла на вока, як найбольш уражлівае, яркае. Паспешліва, усхвалявана, без разбору. І з гэтага яго пералічэння вырастае, пашыраецца паэтычны арэол, ахапляючы і ўпрыгожваючы ўсё: «Над сусветам залатыя крылы маладога звонкага шпака».

Найбольшы ўплыў на Караткевіча, праўда, часцей за ўсё апасродкаваны, праз другіх, — уітмэнаўскага кірунку ў паэзіі і паэтаў-рамантыкаў. Як і ў апошніх, назіральнасць у яго спалучаецца з непасрэдным захапленнем і зацікаўленасцю натурай, летуценнасць — са смелым і вольным палётам фантазіі. Адчуваецца сучаснае імкненне да бясконцага, але рух да яго, калі прыгледзецца — рух на месцы, бо звычайна імітуецца якім-небудзь рамантычным жэстам, што надае гэтаму руху толькі вымыслены, а не рэальны характар: «Быццам толькі што вось адбылася Галгофа. Свет трывожна заціх у барвянай імгле, і зрываюцца ў бездань, у катастрофу нашы сэрцы: маё і Чуфут-Кале», «І ідзе, усё ідзе па плато Магдаліна. Невядома куды. У нікуды. У нікуды».

Светаадчуванне чалавека, тым больш паэта, фарміруецца не толькі ў працэсе сузірання навакольнага, але і пад уздзеяннем навукі і мастацтва. Прачытанае, даследаванае можа быць таксама перажытым, а значыць — і прадметам для мастацкага адлюстравання. Відаць, бяда не ў начытанасці У. Караткевіча, а бяда, калі, беручыся за вельмі складаныя і адвечныя праблемы, ён вырашае іх занадта прасталінейна і нецікава, калі, надрываючыся ад залішняй пафаснасці, клічнікаў і выклічнікаў, імкнецца хаця б штучна абудзіць лірычнае перажыванне, а перажывання няма. Але такіх выпадкаў небагата, і не яны вызначаюць сутнасць яго новай кніжкі.

Поспех і перспектывы развіцця паэта ў тым, што ён традыцыйнае спалучае з экспрэсіўнымі абновамі сучаснай паэзіі. Самыя кідкія з гэтых абноў — свабодны верш, казачна-міфалагічная ўмоўнасць і сінкрэтызм успрымання. З'явы прыпадабняюцца не па нейкіх там знешніх прыкметах, а па тых адчуваннях, якія яны выклікаюць: «Жанчыны, як радасны сон у стагах на зары, а дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі, як жніўе з павуціннем і добрае сонца ўгары» («Беларуская песня»). Або яшчэ: кірмаш «цвіў і пахнуў, як бэз і язмін», і «ў гарачым святле плылі сінія песенькі жаўрука над карычневай песняй раллі». Яўна неспалучальныя з'явы, але ж тут эмацыянальнае прыпадабненне іх апраўдана ўжо тым, што менавіта так успрымае свет вязень, які некалькі гадоў сядзіць у турме «без іскры святла» («Чорная балада Гаркушы»).

Але і цяпер, як і заўсёды, каштоўнасць верша Караткевіча ў ідэі, думцы, якую ён нясе, а потым ужо — у знешнім яе афармленні. Таму такая ў паэта павольная вершаваная плынь.

Паэтыку распрацоўвае У. Караткевіч без знарочыстай сенсацыйнасці, надакучлівасці, хораша, натуральна, як мастацкую неабходнасць.

**Янка ШПАКОЎСКІ.**




**Мікола АРОЧКА. ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.**

# ПЕРШАЯ КНІГА ПРА ПАЭТА

Пра Валянціна Таўлая як паэта пры яго жыцці было вядома няшмат. Яго ведалі больш як рэвалюцыянера-падпольшчыка былой Заходняй Беларусі. Заняцца творчасцю належным чынам у падполлі не было ніякай магчымасці. Ды і з друкаваннем было нялёгка. У выніку да верасня 1939 г. Таўлай мог быць вядомы чытачу нейкім дзесяткам, а то і меней твораў, прычым, раскіданых па розных перыядычных выданнях. Многае альбо гублялася, альбо заставалася на шматках паперы, альбо наогул захоўвалася да часу ў памяці.

А тут — Айчынная вайна, зноў строгая канспірацыя, зноў турма. Неставала (калі не лічыць астрожнай камеры) часу на звычайную засяроджанасць. І, вядома ж, былі ў Таўлая падставы (і не малыя!) напісаць у «Лістах з турмы» (1943 г.), што творам яго, «каб перажыць паэта, ні фарбы, ні паперы нестае». Таўлай так і не пабачыў свайго першага зборніка. Праўда, і пражыў ён усяго 33 гады.

Сёння лепшыя творы паэта трывала ўвайшлі ў залаты фонд беларускай паэзіі, яны даўно пераступілі межы краіны.

Таўлая часта перавыдаюць. Пра Таўлая ўсё болей і болей пішуць.

У кнізе Міколы Арочкі многа новага, цікавага. У нашай крытыцы даўно ўжо склалася няправільная думка, нібыта паэма «Кобрыншчына» — няўдача паэта, што тут быццам бы паэтызуецца стыхійнасць, вольніца. Сапраўды, чытаючы паэму, чамусьці адразу ўспамінаецца пісьмо запарожскіх казакоў турэцкаму султану. І не дарма. Паэме ўласціва шырыня, разухабістасць, грубавата-раскацістыя, здаровы, з перцам ды соллю смех. Але хіба пісьмо запарожцаў — гэта акт стыхійнасці? То хутчэй быў глыбока ўсвядомлены акт украінскага воінства, якое некалі стыхійна ўзнялося на барацьбу, адчула ў барацьбе сваю моц над злым ворагам і рада перад усім светам заявіць пра гэта.

Сілам жа, якія паэтызуюцца ў «Кобрыншчыне», няма ніякіх падстаў прыпісваць стыхійнасць. Як паказана ў кнізе, выступленне чатырнаццаці вёсак Кобрыншчыны супраць сваіх прыгнятальнікаў падрыхтавалі «вядомыя кіраўнікі падполля М. Дворнікаў і Р. Каплан, якія прыбылі з Брэстчыны са спецыяльным заданнем у якасці ўпаўнаважаных ад ЦК КПЗБ і ЦК КСМЗБ». Тое, што выступленне паўстанцаў было актам не стыхійным, а добра ўсвядомленым, падрыхтаваным, падкрэсліваецца і ў паэме:

*Ноч была такая летняя ды парная,*
*Што здалося кожнаму: ну, прыйшла пара!..*

*Паэма апявае гераізм народа і, значыць, памагае змагацца.*

«Змешчаная ў лукішскіх «Кратах»,— адзначае даследчык,— паэма стала як бы непасрэдным працягам той гераічнай барацьбы, на якую ўзняліся кобрынцы. Яна перахоўвалася ад «Зіркатых чарцей», перавозілася «конкай» з камеры ў камеру, падбадзёрвала, смяшыла, усяляла гнеў і веру ў заўтрашні дзень, была ў тых умовах зброяй». М. Арочка вяртае «Кобрыншчыне» належныя правы грамадзянства.

Даволі глыбока і правільна ставіць аўтар праблему мастацкіх вытокаў паэзіі В. Таўлая. Творчасць Таўлая зараджалася ў агульным рэчышчы маладой заходнебеларускай паэзіі 20-х гадоў. «Ёсць думка,— адзначаецца ў кнізе,— што «калыскай талентаў» у гэты час была масавая паэзія. У гэтым ёсць доля праўды, але не ўся праўда,— піша даследчык і тут жа ўдакладняе.— Пры такім падыходзе па-за ўвагай застаецца тая надзейная «гатовая» аснова, на якой вырастала як паэзія паэтаў-самавукаў, так і будучых прафесіяналаў,— гэтай паэзіяй, як слушна пісаў сам Таўлай, была ўжо існуючая вялікая беларуская літаратура Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча».

Шырока, ледзь не ад звычайнага пераймання — і ў ранні перыяд, і пазней — прасочан у кнізе ўплыў на станаўленне В. Таўлая як паэта творчасці Янкі Купалы. З паэтаў іншых літаратур прыкметнае месца ў развіцці паэтычнага таленту Таўлая адведзена Бранеўскаму ды Маякоўскаму. Паэзія Купалы прывабіла Таўлая магутнай народнай асновай, уменнем размаўляць з народам на зразумелай для яго мове і пра самае галоўнае. У паэзіі Маякоўскага і Бранеўскага беларускі паэт вучыўся па-мастацку асэнсоўваць рэвалюцыйную страсць часу, яго мэтанакіраванасць.

Правільна сказана ў Арочкі і пра лірычныя асновы светаўспрымання паэта, здольнасць ператвараць факты сваёй біяграфіі ў прадмет мастацтва, пра «рытарычна-публіцыстычную» і «мінорна-тужлівую» плыні, якія на пачатку творчага шляху выступалі як самастойныя і толькі паступова набылі разумную прапарцыянальнасць, неразрыўна зліўшыся адна з другою.

Цікавай і значнай здаецца думка пра сатырычны пачатак як спецыфічнае праяўленне таленту Таўлая ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Наогул, раздзел «Выбухалі і песні і сэрцы» насычан малавядомымі біяграфічнымі звесткамі, што дазваляе па-новаму глянуць на творчасць паэта-патрыёта.

Асабліва шмат месца ў кнізе М. Арочкі адведзена разгляду працы паэта над радком, над словам. Ужо і раней у нашым літаратуразнаўстве (А. Клышка, напрыклад) гаварылася пра настойлівую працу Таўлая над увасабленнем паэтычнай задумы. Паэт і сам, як вядома, прызнаецца ў гэтым: «Шліфаваў радок, як сталь звяна...» Тым не менш многія даследчыкі ацэньвалі Таўлая як паэта на падставе апошніх апублікаваных варыянтаў. Вершы Таўлая маюць часта дзве, тры, а то і болей грунтоўных рэдакцый.

Пра гэта сведчаць шматлікія чарнавікі, якія Арочка старанна прачытаў. «Ніякага «цуду мастацкай сталасці», як пішуць некаторыя даследчыкі пра раннія вершы паэта, няма»,— вельмі катэгарычна і вельмі правільна сцвярджае аўтар манаграфіі. Былі гады барацьбы, гады турмаў, катаванняў, гады пакутных пошукаў слова. Былі перайманні, рыторыка, сентыментальнасць. Перш чым удалося, скажам, паэту ў вершы «Жаданне» сказаць:

Хай задрыжаць прасторы неба:
Скрануць зямлю з падвалін трэба!

прайшло, ні многа ні мала, 15 гадоў і «ад першага варыянта твора астаўся адзін толькі радок, ды і то перапрацаваны».

«Стыль, да болю знаёмы» — так назван раздзел, у якім М. Арочка разглядае працу паэта над словам. Зрэшты, яго так захапіла гэтае пытанне, што ставіць ён яго пры кожным зручным выпадку, па сутнасці, разглядаючы творчасць паэта толькі з гэтага пункту гледжання. Актыўна жыў і пісаў вершы. Жыў і зноў пісаў вершы ды перапрацоўваў старыя. Зноў актыўна жыў, зрэдку пісаў новыя ды зноў і зноў перапрацоўваў старыя. Вядома, што яно так і было. Але заканамерна ўзнікае пытанне — пра што ён, Таўлай, пісаў тыя вершы, і яшчэ ў большай ступені заканамерна запытаць, чаму ён іх так упарта зноў і зноў перапрацоўваў, нават тады, калі рэвалюцыйна-вызваленчая барацьба заходнебеларускага народа супраць польскай акупацыі стала фактам гісторыі. Якія паэт ставіў перад сабою творчыя задачы агульнаграмадскага плана?

«Сталы паэт...— разважае даследчык,— не мог прыняць, вядома, такога вучнёўскага прымітыву, як «рагоча зноў пані-зіма» ці «муж зімы — лёгкакрылы мароз». Даючы другое жыццё свайму «Жаўруку», Таўлай не толькі адкінуў «багіні — вясны», але і ўсякую дэкларатыўнасць, накшталт: «Не трывожцеся, верце ў пабеду», перавёўшы гэтую думку на мову шырокага мастацкага вобраза, невыпадкова вынесенага ў канцоўку:

Думай думу аб ніве шырокай,—
Хай нарогі куюць кавалі.»

Можа ўсё гэта і так, але верыць не хочацца, бо аб паэтычнай задуме верша толькі тое і сказана, што яна варта была «шматгадовай працы і натхнення». Кніга пра паэта такога грамадзянскага гарту, якім заўсёды быў Таўлай, і так мала, так прыглушана, так неканкрэтна пра грамадзянскую сутнасць яго паэзіі.

Па сутнасці, праблема варыянтаў паэзіі Таўлая ў Арочкі зводзіцца к захапленню тым, наколькі гэты паэт быў настойлівы і ўпарты ў сваёй працы над словам. Аўтара кнігі лёгка зразумець: ён сам — паэт, і яму, бадай, творчая практыка Таўлая імпануе як узор для сябе і сваіх таварышаў па пяру. Аднак само па сабе захапленне нічога не можа даць нават Арочку як паэту, бо не высвятляе прычын таўлаеўскай настойлівасці, не звязвае яе з эстэтычнымі патрабаваннямі часу, у які паэт жыў і працаваў, не звязвае з тым месцам у беларускай паэзіі, якое Таўлай займае. А гэта збядняе вобраз паэта.

Я не закрэсліваю свайго сцвярджэння, што ў працы М. Арочкі шмат новага, цікавага. Хочацца толькі падкрэсліць, што выступае гэтае новае неяк ужо надта разрознена: як захапленне, як меркаванне, як здагадка, як асобны факт. Цікавая пастаноўка таго ці іншага пытання часцей за ўсё так і застаецца пастаноўкай. Сцвярджаючы, напрыклад, што паэма «Непераможныя» з'яўляецца «самай прыкметнай з'явай у таўлаеўскай творчасці датурэмнага часу», М. Арочка, аднак, не здолеў гэтага даказаць. Разгляду паэмы ў кнізе адведзена толькі крыху больш за дзве старонкі, а ўздымаецца ледзь не цэлы дзесятак пытанняў: і пра вытокі («Паэма была наклікана лёсам Грамады»...), і пра час напісання («Валянцін Таўлай пісаў свой твор у самыя напружаныя, трывожныя дні грамадоўскага працэсу...»), і пра тое, што твору «пашчасціла адразу ж стаць зброяй у падполлі», і што паэма мае сваю філасофію («Яна ўсё ж—не наіўнае вучнёўскае прыктыкаванне»), і што яе пятая частка «свядома напісана, як бы гледзячы на выдатны ўзор коласаўскага верша «Маці».

Кніга «Валянцін Таўлай» шмат у чым эмпірычная. Ёй нестае «цэнтра», «фокуса», не хапае звычайнай праблемнасці, хаця яна, гэтая праблемнасць, ва ўступе абяцаецца: праца мысліцца як манаграфічная, а гэта што-небудзь ды значыць. Кніга не мае пад сабой цвёрдай асновы. Адсюль і пэўная ілюстрацыйнасць. Факты з біяграфіі паэта не падпарадкаваны пакуль што растлумачэнню літаратурнага працэсу ў той ступені, як гэта ўласціва манаграфічным даследаванням. Размова пра творчасць паэта вядзецца ад выпадку да выпадку, калі таго патрабуе храналогія. Па сутнасці, у кнізе нічога няма пра спецыфіку таўлаеўскага мастакоўскага бачання жыцця. Адсюль недастатковая ўвага да літаратурнага «фону». А цікава было б паставіць і растлумачыць дыялектыку грамадскага і паэтычнага пачатку асобы гэтага паэта, асабліва пры вывучэнні творчасці давераснёўскага перыяду.

Сустракаюцца ў кнізе і асобныя супярэчнасці альбо проста няўвязкі. Як, скажам, растлумачыць той факт, што ва ўступе Арочка называе Таўлая другім па значнасці пасля М. Танка заходнебеларускім паэтам, а на працягу ўсёй кнігі даводзіць, што Таўлай у заходнебеларускі перыяд нічога такога значнага і не стварыў: маўляў, там былі толькі чарнавікі і, калі не лічыць асобных радкоў ды строф, лепшыя творы сапраўды па-таўлаеўску загучалі толькі ў апошніх варыянтах. Калі стаць на пункт гледжання М. Арочкі, то наогул Таўлай хутчэй не заходнебеларускі паэт, а паэт заходнебеларускай тэмы. Пасля смерці В. Таўлая цікавасць да яго творчасці намнога ўзрасла і з кожным годам прадаўжае павялічвацца. Але пакуль што творчасць Таўлая вывучана недастаткова, вывучэнне гэтае пакуль што абмяжоўваецца артыкуламі. М. Арочка першы ў беларускім літаратуразнаўстве ўзяўся за манаграфічнае даследаванне. Абагульніўшы вопыт папярэднікаў, М. Арочка дапаўняе вобраз Таўлая як паэта і чалавека цікавымі штрыхамі, выказвае арыгінальныя здагадкі, ставіць значныя праблемы. Кніга гэтая — толькі звяно, толькі кавалак дарогі па нялёгкім шляху вывучэння паэзіі гэтага самабытнага мастака слова. Звяно невялікае, але абавязковае. У тым вартасць кнігі, у тым яе значэнне.

**Іван ЧЫГРЫН.**

Ізот ЛІЦІНЕЦКІ,
кандыдат тэхнічных навук.



# ТАЯМНІЦЫ ПАМЯЦІ

Наш мозг, як вядома, выконвае непамерна больш складаныя задачы рэгулявання і кіравання, чым любая кібернетычная машына. Больш таго, ён у дасканаласці і з большай лёгкасцю ажыццяўляе шэраг функцый, якія пакуль не пад сілу электронным аўтаматам.

**Чалавек заўсёды помніць болей, чым яму здаецца.** Яго ўражанні могуць знікаць з-пад увагі, але не сціраюцца з памяці канчаткова. Так, напрыклад, французскаму мастаку Густаву Дарэ (аўтару шырока вядомых ілюстрацый у кнігах «Гарганцюа і Пантагруэль» Ф. Рабле, «Дон Кіхот» М. Сервантэса і інш.) выдавец аднойчы даручыў зрабіць малюнак са здымка альпійскага пейзажа. Дарэ згадзіўся, але забыў узяць той здымак. На другі дзень ён прынёс дакладную копію гэтага пейзажа.

Вядома таксама, што самы ўдалы партрэт Лінкольна быў напісаны правінцыяльным мастаком, які бачыў прэзідэнта адзін раз. Па словах сучаснікаў, Юлі Цэзар і Аляксандр Македонскі ведалі ў твар і па імені ўсіх сваіх салдат, а іх жа было трыццаць тысяч. Расказваюць, што Моцарт дакладна запісваў вялікую і складаную сімфонію, пачутую адзін раз. Кампазітар Аляксандр Глазуноў лёгка ўзнаўляў страчаныя партытуры буйных музычных твораў. Сяргею Рахманінаву дастаткова было адзін раз пачуць фартэпіянны канцэрт, каб дакладна ўзнавіць яго. Рускі шахматыст Алёхін помніў усе згуляныя партыі і, не гледзячы на дошкі, мог адначасова гуляць з 30—40 партнёрамі.

Міма нашых вачэй і вушэй нішто не праходзіць бясследна, толькі мы не паспяваем асэнсаваць усё, што ўспрымаем. Так, нядаўна ў адным англійскім кінатэатры па заказе гандлюючых фірм быў праведзены такі дослед. У плёнку фільма ўманціравалі кадры, якія рэкламавалі марожанае і прахладжальныя напіткі. Устаўкі мільгалі, затрымліваючыся ў полі зроку на 1,25 секунды — гэтага мала, каб свядомасць паспела зафіксіраваць іх, але вочы не міналі нічога. Пасля прагляду фільма продаж марожанага і вады павялічыўся амаль удвая.

Здольнасць захоўваць пачутае, убачанае, зведанае — каштоўная якасць мозгу. І дастаткова якога-небудзь хвалявання, як памяць пачынае раптам раскручваць бясконцую стужку ўспамінаў. Так, за кароткія імгненні ў думках тапельца з надзвычайнай дакладнасцю праходзіць усё яго жыццё.

Альбо яшчэ адзін прыклад. Непісьменная жанчына пражыла ўвесь свой век у маленькім нямецкім гарадку. Аднойчы яна цяжка захварэла і, трызнячы, на здзіўленне ўсім, вымаўляла даўжэзныя маналогі на незразумелых для іншых мовах. Свяшчэннік палічыў, што яна вядзьмарка. І невядома чым бы гэта скончылася, калі б не ўмяшаўся ўрач, які запрасіў да хворай вучоных. Яны пачулі з вуснаў хворай тры мовы: лацінскую, стражытнагрэчаскую і старажытнаяўрэйскую. Аказваецца, у дзесяцігадовым узросце хворая была служанкай у доме пастара, які калекцыяніраваў старажытныя святыя кнігі. Ён чытаў іх часта ўголас, пахаджваючы каля яе каморкі, і яе памяць зафіксіравала пачутае і захавала на ўсё жыццё.

І яшчэ адзін прыклад. Вальтар Скотт працаваў над раманам «Айвенга» ў хваравітым стане. Пасля ўвесь час, на працягу якога ён пісаў кнігу, выпаў з яго памяці, і пісьменнік не прызнаў яе сваёй, сказаў, што нічога пра яе не ведае і не помніць. Вось якія «konікі» выкідвае часам чалавечая памяць.

Што ж такое памяць? Дзе яна размешчана, які механізм яе работы? Ці ёсць рэчыва — носьбіт памяці? Што адбываецца ў нас у мозгу, калі мы запамінаем, прыгадваем ці забываем? Запамінае ўвесь мозг ці памяццю кіруюць асобныя групы нервовых клетак? Які ключ прымушае кладоўкі нашай памяці то паслухмяна расчыняцца насцеж, то прыадчыняць толькі шчылінку?

Выдатны амерыканскі матэматык Джон фон Нэйман сказаў з гэтага выпадку наступнае: «Пра месцазнаходжанне і прыроду памяці мы ведаем не болей, чым старажытныя грэкі, якія лічылі месцазнаходжаннем розуму дыяфрагму». Праблема вывучэння памяці, яе механізмаў з'яўляецца адной з самых актуальных у фізіялогіі, кібернетыцы і біёніцы. Механізм памяці тоіць у сабе своеасаблівае чараўніцтва, таму што ён ляжыць у аснове ўсіх здольнасцей чалавека пазнаваць і ўяўляць. «Мне здаецца,— пісаў Анатоль Франс,— што памяць — незвычайная сіла, што дар узнаўляць мінулае настолькі дзівосны і дарагі, як дар прадбачыць будучыню». У пазнанні гэтай «чараўнічай сілы» сёння больш за ўсё зацікаўлены творцы электронных сістэм, якія мараць пра стварэнне штучнага мозгу — машыны фантастычных магчымасцей.

Існуе мноства розных вызначэнняў памяці. Адно з іх прапанавана Сакаловым: «Сістэма валодае памяццю, калі яна змяшчае ў сабе пэўную інфармацыю сігналу пасля таго, як ён перастаў дзейнічаць». У 31-м томе Вялікай савецкай энцыклапедыі чытаем: «Памяць — адлюстраванне, захаванне і ўзнаўленне таго, што раней чалавек успрыняў, перажыў, рабіў, думаў». І, нарэшце, у энцыклапедычным слоўніку напісана: «Памяць — адлюстраванне мінулага вопыту, для якога характэрны запамінанне, захаванне і наступнае ўзнаўленне ці разуменне таго, што раней успрымалася, перажывалася ці рабілася».

Такім чынам, адна з асноўных праяў памяці — гэта пазнаванне і ўзнаўленне. Пазнаванне вобразаў — гэта ўласцівасць памяці,звязаная з успрыманнем. Узнаўленне ж не абавязкова адбываецца адначасова з працэсам успрымання. Напрыклад, піяніст можа сыграць напамяць знаёмую яму п'есу; заплюшчыўшы вочы вы можаце ўявіць твар знаёмага вам чалавека, выгляд вашага пакоя ці аднойчы ўбачаны прыгожы ландшафт. Успрыманне інфармацыі і яе фіксацыя — гэта ўмова яе захавання ў памяці, а ўспрыманне і ўзнаўленне — гэта выяўленне таго, што пэўная інфармацыя захавалася ў памяці.

У вызначэнні ёмістасці нашай памяці існуюць значныя разыходжанні. Вучоныя ацэньваюць яе велічыню паразнаму: ад мільёна з паловай ($1{,}5 \cdot 10^6$) да мільёна мільярдаў ($10^{15}$) і нават да $10^{23}$ біт.* Гэта, безумоўна, вельмі завышанае вызначэнне. На самай справе няма неабходнасці ісці так далёка. Трэба меркаваць, што ёмістасць чалавечай памяці складае ўсё ж $10^{10}$—$10^{15}$ біт, тады як запамінальныя прыстасаванні (ЗП) сучасных электронных машын (ЭВМ) здольныя назапасіць да $10^6$—$10^7$ двайных адзінак інфармацыі. І калі б мы захацелі пабудаваць ЭВМ з запамінальным прыстасаваннем, роўным ёмістасці чалавечай памяці, то пры ўсім нашым жаданні мы не здолелі б зрабіць гэта ні сёння, ні заўтра, ні нават у бліжэйшыя дзесяцігоддзі, таму што агульная колькасць усіх электронных лямп і транзістараў, якія ёсць цяпер на зямным шары, толькі суразмерны з колькасцю нейронаў у мозгу аднаго чалавека.

**Практычна сховы нашай памяці бяздонныя.** Цяжка ўявіць сабе становішча, у якім памяць была б настолькі запоўнена інфармацыяй, што чалавек болей не мог бы ўспрымаць і запамінаць. Гэта адрознівае памяць чалавека ад машыннай памяці. Але існуюць своеасаблівыя псіхафізіялагічныя механізмы, якія ахоўваюць мозг ад «перанапаўнення» інфармацыяй.

Вераемна, што ўсе людзі маглі б валодаць фенаменальнай памяццю, калі б ім не «перашкаджалі» асобныя загараджальныя прыстасаванні мозгу. Варта ад іх пазбавіцца, як наш мозг змог бы змясціць гэтакі ж аб'ём ведаў, які можна параўнаць з агульнай колькасцю інфармацыі, што ёсць у фондзе Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна — прыкладна $10^{13}$ біт!

Але, нажаль, кожны з нас мала выкарыстоўвае магчымасці сваёй памяці. Мы нагадваем уладара велічнага архіва, у якім пакуль што не знойдзен ключ да скарбаў. Гэты таямнічы ключ і шукаюць цяпер вучоныя ўсяго свету — біёнікі і інжынеры, фізікі і ўрачы, матэматыкі і хімікі.

У трыццатых і саракавых гадах нашага стагоддзя вядомы нейрапсіхолаг Карл Лешлі правёў шэраг доследаў, якія ставілі сваёй мэтай выявіць «цэнтры памяці». Адзін з асноўных эксперыментальных прыёмаў Лешлі зводзіўся да наступнага. Пацука прывучалі да складанай сістэмы звычак. Пасля гэтага з яго мозгу знімалі коркавую тканку ў розных мясцінах. Было пацверджана, што пагоршанне памяці залежыць ад велічыні тканкі, а не ад таго, з якога месца яна знята.

Такім чынам, пошукі гіпатэтычнага «адбітку памяці», так званай «энграмы», не мелі поспеху, дакладней, яны

* Біт — адзінка інфармацыі ў двайной сістэме.

далі адмоўны вынік. Памяць не сканцэнтравана ў якім-небудзь пэўным месцы мозгу. Не, яна з'яўляецца калектыўнай справай усіх нейронаў, якія агулам шліфуюць звесткі, што ідуць ад органаў пачуцця і размяркоўваюць копіі па ўсіх «зацікаўленых» аддзелах мозгу: іншымі словамі, інфармацыя, якая паступае ў мозг, нібы праходзіць праз аб'ёмы шэрага рэчыва. Гэтым, відаць, можна растлумачыць шматлікія выпадкі, калі спыненне дзейнасці некаторых груп нейронаў у розных месцах кары галаўнога мозгу не адбіваецца надта на функцыі памяці.

Што датычыць механізма захавання ведаў, то на гэты конт вучоныя ў асноўным прытрымліваюцца наступнай гіпотэзы. Існуюць два віды захавання: памяць кароткатэрміновая, апаратыўная, тая, што заўсёды «пад рукой», і памяць доўгачасовая, «пастаянная», стабільная або, як яшчэ гавораць, асноўная, фондавая, захаваная даволі глыбока. Ёсць яшчэ нямала грунтоўных вывадаў на карысць так званай «трохступеннай» тэорыі памяці. Паводле яе на першай ступені, ці на першым ўзроўні, знаходзіцца кароткая, «мімалётная» памяць, прыкладна каля некалькіх секунд ці і таго меней. Яна ўспрымае сотні пачуццёвых уражанняў, якія няспынна паступаюць у мозг і часцей за ўсё адразу ж забываюцца. На другім узроўні размяркоўваецца памяць сярэдняй працягласці, ад некалькіх хвілін да некалькіх гадзін. Тут у якасці прыкладу варта прывесці зубрэнне падручніка перад экзаменам. На самым глыбокім узроўні знаходзіцца доўгачасовая памяць. З усіх уражанняў і інфармацыі адсейваюцца і выбіраюцца тыя факты, якія па сваёй яскравасці, цікавасці і карыснасці захоўваюцца.

**Але калі ўсё гэта так, дык якая ўсё ж матэрыяльная аснова памяці? У якіх фізічных формах яна месціцца?**

Першая найбольш сучасная тэорыя памяці, якая карысталася даволі шырокім прызнаннем да самага апошняга часу, грунтавалася на тым, што памяць абумоўлена толькі электрычнымі з'явамі. Кожная адзінка інфармацыі, якая паступіла ў цэнтральную нервовую сістэму, утварае ў мозгу электрычны ланцужок з нейронаў. Па гэтых ланцужках, а іх можа быць для ўспрымання інфармацыі, што паступае на працягу жыцця, бясконцая колькасць, «гуляе» ток пэўнай частаты, і кожны з іх — гэта зашыфраваны вобраз.

Але электрычная тэорыя не магла растлумачыць многія факты. Чаму, напрыклад, існуе памяць, калі мозг пашкоджаны, і электрычная актыўнасць яго кары амаль поўнасцю страчана? Чаму так мала выдзяляецца энергіі ў мозгу, хоць па электрычнай тэорыі памяці ўсё павінна было б быць якраз наадварот? Адным словам, памяць упарта не хацела ўкладвацца ў электрычную тэорыю, і вучоным, нарэшце, прыйшлося адмовіцца ад яе. Відаць, вырашылі вучоныя, запамінанне адбываецца за кошт нейкіх змен унутры нейрона, змен на малекулярным узроўні. І заняліся пошукамі хімічных асноў памяці.

**Першы пранік у малекулярныя глыбіні галаўнога мозгу** шведскі нейрафізіёлаг, прафесар гісталогіі Гётэборгскага ўніверсітэта Хольгер Хідэн. Для правядзення доследаў на малекулярным узроўні яму трэба было перш за ўсё ўдасканаліць методыку вылучэння ізаляваных жывых клетак мозгу. Пачаўшы свае доследы прыкладна ў 1957 годзе, Хідэн падрыхтаваў спецыяльны набор інструментаў з нержавеючай сталі, якія складаліся з мікранажоў і найтанчэйшых кручкоў. Пасля года настойлівай практыкі, карыстаючыся гэтым наборам і стэрэамікраскопам, ён навучыўся ізаляваць нейроны памерам меншыя за пылінку. Ён навучыўся «счышчаць» з нейрона больш дробныя гліяльныя клеткі, а потым і вылучаць ядро з цела нейрона, што дазволіла аналізаваць кожны яго кампанент паасобку. Хідэн заўважыў, што ў нервовых клетках рыбануклеінавай кіслаты (РНК) у дзесяць разоў болей, чым у гліяльных клетках. Акрамя таго, ён устанавіў, што працэсы сінтэзу і разбурэння РНК у нервовых клетках ідуць з вялікай хуткасцю. Больш таго, высветлілася, што РНК нервовых клетак адрозніваецца сваім складам ад РНК гліяльных. Усе віды РНК складаюцца з чатырох асноў — адэніну, гуаніну, цытазіну і ўрацілу,— скамбінаваных у розных прапорцыях. Сувязь паміж асновамі і іх чаргаванне ў малекуле вызначае код, які нясе РНК. Хідэн даказаў, што канцэнтрацыя адэніну і ўрацілу ў клетках абодвух відаў прыкладна аднолькавая. Але нервовая клетка мае прапарцыянальна больш гуаніну і менш цытазіну.

Хідэн і яго калегі сабралі вялізны эксперыментальны матэрыял. Доследы рабілі на трусах, пацуках і іншых жывёхах. На некаторых уздзейнічалі звычайнай пачуццёвай стымуляцыяй, у прыватнасці, круцілі на цэнтрыфузе, іншых навучалі выконваць пэўныя заданні. Так, напрыклад, у драўлянай клетцы змяшчалі пацукоў, якія павінны былі здабываць сабе корм крыху незвычайным спосабам. На вышыні каля метра ў клетцы прыладжвалі маленькую платформу з кармушкай, да якой вёў сталёвы дрот. Пацукі павінны былі навучыцца ўзбірацца па дроце, каб здабыць сабе харч. Пасля





чатырохдзённай трэніроўкі вестыбулярны апарат, які кіруе раўнавагай цела жывёл, стаў спраўляцца з цяжкай задачай — пацукі навучыліся трымацца на дроце. Пасля гэтага даследавалі тую частку мозгу жывёл, якая «адказвала» за раўнавагу. Вывучэнне нервовых клетак вестыбулярнага апарата пацукоў-«канатаходцаў» прывяло да цікавых вывадаў. Выявілася, што ўзбуджэнне, выкліканае новымі ўмовамі, значна павялічыла выпрацоўку РНК у нейронах галаўнога мозгу, якія і без таго маюць больш РНК, чым іншыя клеткі цела.

Сваім адкрыццём Хідэн па сутнасці падвёў першы фізічны фундамент пад малекулярную хімічную тэорыю памяці. Паводле гэтай тэорыі імпульсы, што прыходзяць у мозг, змяняюць электрычныя ланцугі, якія заўсёды існуюць паміж нервовымі клеткамі-нейронамі. Пры гэтым парушаецца іённая раўнавага ўнутры клеткі, што і дзейнічае на РНК, ці больш правільна, на яе аснову. Часам яны змяняюць сваё месцазнаходжанне. Гэта адпавядае фазе пераходнай памяці. Змяняецца РНК — праграма, па якой у клетцы сінтэзуецца адпаведны бялок, змяняецца і сам бялок. Так РНК і бялок сумесна ствараюць трывалыя сляды памяці ўнутры клетак кары галаўнага мозгу. У часе ўспамінаў сігналы паступаюць у тыя мазгавыя клеткі, дзе ўжо захоўваецца інфармацыя. Адбываюцца складаныя рэакцыі, у нервовых клетках наступае разрад, у выніку чаго з кладовак «выдаецца» назапашаная інфармацыя. Памяць пакідае сляды ў многіх клетках мозгу. Таму і нельга вызначыць якое-небудзь адно месца, дзе захоўваецца памяць.

Значыць, паводле Хідэна, запамінанне адбываецца на малекулярным узроўні. А нейронавыя ланцужкі — гэта толькі дапаможны матэрыял, які збірае блокі памяці. Як бачым, розніца паміж электрычнай і хімічнай тэорыямі памяці даволі прыкметная.

Гіпотэза Хідэна пра тое, што памяць утрымліваецца ў малекуле, выклікала цэлы шэраг эксперыментаў. Некаторыя даследчыкі меркавалі, што трэба пачынаць з таго, каб перанесці малекулы РНК з мозгу навучаных жывёл у мозг ненавучаных і назіраць вынікі. Амерыканскі псіхолаг Маконэл выбраў для сваіх доследаў планарый — малюсенькіх вадзяных чарвякоў. Іх прывучалі да таго, што адначасова з успышкай святла надыдзе ўзбуджэнне — электрычны ўкол. Пасля некалькіх спалучэнняў уколу і ўспышак у чарвякоў выпрацоўваўся абараняльны рэфлекс — дастаткова было толькі ўспышкі святла, і цела планарыі імгненна скарачалася. Дасягнуўшы такога запамінання, навучаных чарвякоў растаўклі ў ступцы (прычым так старанна, што пра захаванне якіх-небудзь клетачных структур і размовы не магло быць) і атрыманай масай кармілі планарыю, якая нічога не «ведала» ні пра ўспышку святла, ні пра электрычныя ўколы. У 1962 годзе Маконэл апублікаваў сэнсацыйнае паведамленне, у якім пісаў, што яго «адукаваныя» чарвякі, якімі накармілі ненавучаных чарвякоў, перадалі ім сваю набытую здольнасць. Апошнія ўдвая хутчэй, чым іх папярэднікі, навучыліся рэагаваць на светлавы сігнал. Лепш сказаць, «неадукаваных» чарвякоў накармілі «памяццю»

У пошуках пацвярджэння гіпотэзы пра хімічную аснову памяці і магчымасць «перадачы» памяці штучным шляхам наступны важны крок уперад зрабіла ў 1964 годзе група амерыканскіх вучоных пад кіраўніцтвам псіхолага Алана Л. Джэкабсана. Усю сваю эксперыментальную працу ў гэтым напрамку даследчыкі Каліфарнійскага ўніверсітэта перанеслі з такога ніжэйшага звяна, як чарвякі, на пацукоў. Джэкабсан і яго калегі спачатку навучылі пацукоў бегчы да кармушак пасля таго, як раздаваўся рэзкі пошчак. З кожным стукам у кармушку падавалася маленькая порцыя харчу, як узнагарода пацуку за яго прабег. Калі дрэсіроўка скончылася, жывёл забілі і РНК, выдзеленую з іх мозгу, уводзілі іншым, недрэсіраваным пацукам. Што ж атрымалася? «Ненавучаныя» пацукі пасля пошчаку пачыналі пошук кармушкі з харчам. Як паведамлялася ў навуковым часопісе Каліфарнійскага ўніверсітэта, вучоныя 25 разоў паўтарылі доследы з кожным з сямі пацукоў, якім была ўведзена РНК «навучаных» жывёл, і ўстанавілі, што пры падачы сігналу пацукі, не прайшоўшыя дрэсіроўку, ад аднаго да дзесяці разоў набліжаліся да кармушкі ўшчыльную. Каб пацвердзіць свае назіранні, даследчыкі ўводзілі РНК ад групы «ненавучаных» кантрольных пацукоў васьмі іншым, таксама «ненавучаным», і паўтаралі доследы. Пацукі зусім не рэагавалі на гукі рэзкага пошчаку.

**Потым вучоныя ўскладнілі практыкаванні.** Яны правялі падобныя ж эксперыменты, у часе якіх РНК бралі для ін'екцыі ад пацукоў, навучаных адшукваць харч пры пошчаку ці пад уздзеяннем міргаючага святла, а таксама ад жывёл іншых відаў, напрыклад, хамякоў, якія блізкія да пацукоў, але і маюць многа адрозненняў. Гэтыя эксперыменты таксама пацвердзілі, што РНК пераносіць інфармацыю сённяшняга дня і гэта з'ява праяўляецца нават тады, калі жывёлы адносяцца да розных відаў.

Так сваімі эксперыментамі Джэкаб-

сан падтрымаў гіпотэзу пра запіс доследу ў малекулах РНК (гіпотэза РНК-энграмы ці РНК-гіпотэза). Агульная ідэя гэтых гіпотэз заключаецца ў імкненні выкарыстоўваць вялізную інфармацыйную ёмістасць асноўных біялагічных макрамалекул — ДНК, РНК і бялкоў — для растлумачэння запісу рознабаковай інфармацыі, якая паступае ў мозг шляхам адпаведных змен у іх малекулярнай структуры. І сапраўды, РНК-гіпотэза, здавалася б, вырашае некаторыя складаныя праблемы і, у прыватнасці, можа растлумачыць, якім чынам у памяці захоўваецца надзвычай разнастайная інфармацыя.

У кожным разе, тое, што ў аснове ўтварэння запасу ведаў ляжыць менавіта перабудова малекулы бялку, дазволіла аднаму вядомаму біяфізіку даць незвычайна яркі вобраз: у аснове кожнай нікчэмнай думкі, сказаў ён, ляжыць знявечаная ў хімічным сэнсе малекула. Прыхільнікі ж навуковай фантастыкі з доследаў Хідэна, Маконэла і Джэкабсана не абмінулі зрабіць дакладна выражаны вывад: увесь працэс навучання чалавека будзе зведзены да невялікага ліку ін'екцый памяці.

Аднак нягледзячы на здабытыя эксперыментальным шляхам абгрунтаванні РНК-гіпотэзы, яна сутыкаецца з сур'ёзнымі пярэчаннямі. Так, каменціруючы артыкул Джэкабсана «Веды, здабытыя шпрыцам», старшы навуковы супрацоўнік Інстытута малекулярнай біялогіі АН СССР К. Кафіяні піша: «РНК-гіпотэза мае на ўвазе змену паслядоўнасці размяшчэння пэўных частак РНК пад уздзеяннем знешняга асяроддзя. Гэтае меркаванне не сумяшчальнае з цвёрда ўстаноўленымі малекулярнай біялогіяй дадзенымі пра механізм утварэння і пра фізічныя і хімічныя ўласцівасці РНК. Справа ў тым, што гіпотэза дапускае наяўнасць існавання прынцыпова іншага, чым ва ўсіх вядомых жывых сістэмах, спосабу назірання інфармацыі ў макрамалекулах. Хоць мозг і з'яўляецца найбольш высокай формай арганізацыі жывой матэрыі, але няма дастатковых падстаў меркаваць, што яго дзейнасць пабудавана на прынцыпах, якія не падпарадкоўваюцца агульным заканамернасцям жывых сістэм. Наадварот, усім вопытам біяхіміі і малекулярнай біялогіі даказана істотнае адзінства хімічных і малекулярных механізмаў на ўсіх узроўнях арганізацыі жывой матэрыі. Асаблівасці дзейнасці мозгу, трэба, мне здаецца, шукаць не столькі ў пэўных гіпатэтычных, можна нават сказаць, фантастычных прынцыпах малекулярных працэсаў, колькі ў асаблівым характары надклеткавай арганізацыі нервовай тканкі. Здзіўляючыя ж якасці кібернетычных прыстасаванняў вызначаюцца не складанасцю іх элементаў ці дзеяннем асобных фізічных механізмаў, а асаблівым спосабам спалучэння гэтых элементаў у пэўную складаную сістэму».

Пэўныя сумненні выклікаюць сярод вучоных і эксперыментальныя абгрунтаванні РНК-гіпотэзы. Па-першае, кажуць яны, вынікі падобных доследаў часта накіроўваюцца ў жаданы бок самімі ўмовамі эксперымента. Па-другое, здаецца вельмі малаверагодным тое, што даволі нетрывалая малекула РНК, уведзеная ў арганізм рэцэпіента, здолела дабрацца да мозгу цэлай і непашкоджанай цераз страўнікавы тракт і бар'ер, які адгароджвае мозг ад буйных чужародных малекул. «Кожны, хто меў справу з РНК,— піша К. Кафіяні,— знаёмы і з яе заклятым ворагам — ферментам рыбануклеадай, якая з вялікай хуткасцю пераўтварае стройныя малекулы РНК у сумесь нізкамалекулярных асколкаў. Гэты фермент прысутнічае ў любой клетцы арганізма (а, значыць, і мозгу), у крыві, з якой РНК быццам павінна трапляць у мозг. Вераемнасць таго, што РНК дасягне месца сваёй дзейнасці ў мозгу, захаваўшы закадзіраваную ў ёй інфармацыю, сапраўды недапушчальна.

І, нарэшце, самы моцны аргумент супраць РНК-гіпотэзы заключаецца ў тым, што некаторыя вучоныя паўтарылі доследы Маконэла і Джэкабсана, але не здолелі ўзнавіць іхніх вынікаў. Таму ўяўленне пра тое, што памяць можна перанесці ў малекуле з аднаго арганізма ў другі, сустракае сур'ёзныя пярэчанні. Існуе меркаванне, што вынікі праведзеных доследаў можна хутчэй растлумачыць перадачай «здольнасці да звычкі», чым інфармацыяй як такой. Напрыклад, у некаторых доследах чарвякоў кармілі іншымі чарвякамі, якія навучыліся хутка знаходзіць правільную дарогу ў простым лабірынце. Чарвякі-канібалы знаходзілі шлях праз лабірынт хутчэй, чым іншыя, але і яны не маглі прапаўзці праз яго адразу, без папярэдняй трэніроўкі. Вераемна, што перадаецца не сама памяць, а нейкае рэчыва, якое паскарае працэс запамінання.

Трэба зазначыць, што, як мяркуе сам Джэкабсан на падставе праведзеных ім эксперыментаў, пакуль яшчэ рана рабіць нейкія абагульненні і вывады адносна РНК-гіпотэзы. І ўсё ж нягледзячы на выказваемыя многімі вучонымі пярэчанні і сумненні з выпадку РНК-гіпотэзы, несумненна варта станоўча ацаніць агульную тэндэнцыю да пошукаў сувязі паміж фізіялогіяй вышэйшай нервовай дзейнасці і малекулярнай біялогіяй. Распрацоўка правільнай увогуле ідэі пра ўдзел РНК і бялковага сінтэзу ў з'явах доўгачасовай памяці, безумоўна, перспектыўная. Па ўсіх дадзеных, РНК належыць немалаважная роля ў механізме памяці. Гэта рэчыва вельмі блізкае да дэзаксірыбануклеінавай кіслаты (ДНК), якая з'яўляецца, як вядома, носьбітам інфармацыі спадчыннасці, зашыфраванай ў хімічным выглядзе фактычна ва ўсіх жывых арганізмах. Калі генетычная інфармацыя можа перадавацца рэчывам ДНК, дык зусім дарэчы лічыць, што рэчыва РНК можа быць носьбітам інфармацыі іншага тыпу...

Пакуль ніхто не можа даць вычарпальны адказ на ўсе пытанні, звязаныя з дзейнасцю мозгу; пра механізм памяці, пра здзіўляючую сістэму міжвольнага доступу да вялізных запасаў інфармацыі, што захоўваюцца ў мозгу, пра гібкасць і надзейнасць памяці чалавека. Але вялікі рускі фізіёлаг І. М. Сечанаў, які вельмі добра разумеў тытанічную цяжкасць праблемы, сцвярджаў, што перадумовы для разумення мозгу заключаюцца ў «строгім разборы яго машыннасці». Поспехі кібернетыкі і біёнікі — лепшы доказ слушнасці гэтага тэзісу. Новым навукам, што развіваюць сумеснымі намаганнямі фізіёлагі, матэматыкі і спецыялісты па электроніцы, пад сілу любая задача. Рана ці позна вучоныя змогуць разгадаць самыя глыбокія таямніцы мозгу.

# ПАДСЛУХАНЫЯ РАЗМОВЫ

Вы адчыняеце дзверы з надпісам «Лабараторыя біяфізікі» і трапляеце ў свет гукаў. Квітнеючыя лугі, зялёныя дубровы заліты сонцам. Між кветак кружаць пчолы, скачуць у траве конікі, а ў голлі дрэў мітусяцца птушкі. Прыслухайцеся больш уважліва, і вы апынецеся ў свеце гукаў. Іх падаюць птушкі і насякомыя. Сярод іх ёсць і сябры чалавека, і ворагі. Адны ахоўваюць ураджай, другія знішчаюць яго. Узяць хаця б шкоднікаў збожжа — даўганосікаў. Гэтых маленькіх чорных жучкоў можна ўбачыць у свірнах са збожжам. Дарослых даўганосікаў параўнаўча няцяжка выявіць. А вось іх шматлікія лічынкі недасягальныя воку чалавека: яны развіваюцца ўнутры зерня.

Спрабавалі вызначыць заражанасць зерня з дапамогай спецыяльнага рэнтгенаўскага апарата, якім яно добра прасвечваецца. Лічынкі, што знаходзяцца ў зерні, можна адразу ж выявіць. Але такі спосаб праверкі аказаўся вельмі марудным. Тады нарадзілася іншая думка. А ці нельга тут выкарыстаць гукі, на якія адзываюцца насякомыя?

Праўда, лічынкі даўганосіка падаюць вельмі слабыя гукі. Для іх падслухоўвання патрэбна спецыяльная апаратура. Біяфізікі вынайшлі спецыяльную гуканепранікальную камеру. Унутры яе змешчана дыяфрагма, на якую насыпаецца зерне. Лічынка, якая развіваецца ўнутры зерня, грызе яго і пры гэтым робіць слабыя ваганні, якія перадаюцца дыяфрагме. Механічная энергія ператвараецца ў электрычную, а потым і ў гукавую. Гукі ўзмацняюцца. Калі зерне не заражана, рэпрадуктар маўчыць. Але калі ў ім ёсць лічынкі, дык чутны гукі, падобныя на шастанне паперы. Па іх можна меркаваць пра ўзрост лічынкі і пра ступень паражэння зерня.

Гэты метад прымяняецца для падслухоўвання і іншых насякомых, напрыклад, коніка. У спакойным стане ён заўсёды «спявае» аднастайную песню. Але варта толькі паявіцца праціўніку, як ваганні рэзка змяняюцца. Ад ступені раздражнення залежыць і вышыня гуку. Вуху чалавека адрозніць гэтыя ваганні цяжка. Стварылі спецыяльны апарат. У ім складаныя гукі, якія падаюць насякомыя, раскладаюцца на простыя. Такім чынам з'явілася неабходнасць прааналізаваць любыя гукі, на якія адзываюцца насякомыя.

Тое ж самае адбываецца і з птушкамі. Возьмем, напрыклад, гракоў. Гэта карысныя птушкі. Але часам яны бываюць і шкодныя — знішчаюць на палетках насенне і маладыя ўсходы. Як адпудзіць птушак, не наносячы ім шкоду? Вырашылі выкарыстаць гукі, якія падаюць гракі. З дапамогай акустычнай апаратуры запісалі на плёнку іх крыкі пры кармленні, на адпачынку і ў час небяспекі. Узялі плёнку з запісам крыку гракоў пры небяспецы і прапусцілі яе праз магнітафон, устаноўлены на полі. Пачуўшы трывожны грай, чароды гракоў адляталі ад пасеваў. А можна зрабіць і наадварот. Прапускаць магнітафонную плёнку з запісам гукаў, якія падаюць гракі ў час яды. Тады птушкі будуць збірацца ў тым месцы, дзе гэта неабходна чалавеку.

Новы біяфізічны метад аховы раслін толькі яшчэ нараджаецца. Магчыма, пройдзе некалькі дзесяцігоддзяў, і чалавек створыць такую акустычную апаратуру, якая дазволіць яму кіраваць жывёльным светам.

**Васіль СВЯТЛОЎ.**





# ЦАРСТВА ЖЫВЁЛ

Гродзенскі заапарк. Пад адкрытым небам сабраліся тут жыхары Запаляр'я, афрыканскіх пустынь, усурыйскай тайгі... Іх пяцьсот — грозных, лютых і ціхіх, спакойных. Шпацыруе па клетцы львіца «Сільва» — як ёй, мусіць, хочацца папалявацъ! Паміж ёй і аленем адлеглацсь зусім нязначная — адзін раз скокнуць. Але ж — сталёвая клетка...

Танканогія прыгажуні-казулі выцягнулі шыі і глядзяць угару — у вышыні пралятае самалёт. А стары як нават вокам не міргнуў, стомлена ўтаропіўся вачыма ў адну кропку і думае сваю думу.

Стэпавы арол ніякавата адчувае сябе ў цеснай клетцы. Зрэдку заплюшчвае ён вочы, прыгадвае блакітнае бяздонне неба, і тады з такім шумам раскідвае крылы, што нават вечна спакойны слон уздрыгвае.

Каля гіганта-слана заўсёды тоўпяцца дзеці. У іх жа для слана прыхаваны пернік або цукерка. Слон прымае ўсё, чым пачастуюць, нават малюсенькую каляровую гарошыну.



У заапарку добра прыжыліся фазаны, паўліны, аўстралійскія папугаі. Нядрэнна жывецца тут і іншым звярам — за апошнія гады ў няволі нарадзілася некалькі тыгранят, бурых медзведзянят, вярблюдзікаў, алянят.

Усе, хто ўпершыню прыязджае ў Гродна, спяшаюцца ў заапарк.

Тэкст і фота
Міколы **АМЕЛЬЧАНКІ.**



# ЦІ ВАРТА БЫЦЬ НЕСМЯРОТНЫМ?

«Самае страшнае — смерць — нас не датычыць, бо пакуль мы ёсць, няма смерці, а калі ёсць смерць, намя нас»,— пісаў славуты філосаф Эпікур. Гэтаму погляду нельга адмовіць у арыгінальнасці. Сапраўды, чалавека прыгнятае не столькі сам нябыт, як непазбежнасць таго, што ён калісьці ўсё роўна надыдзе. Смерць — амаль адзіны выпадак у жыцці, які можна прадбачыць з абсалютнай пэўнасцю. Нават больш таго. Мы, нягледзячы на нашу пашану да жыцця, ведаем, што смерць— з'ява безумоўна карысная, нават неабходная, бо калі б жывыя арганізмы былі несмяротныя, спынілася б эвалюцыя, не было б і нас з вамі. Так што ў нейкім сэнсе чалавек — дзіця смерці.

Што і казаць, важкая прычына, каб засмуціцца простым смяротным. Але інакш глядзяць вучоныя. Дапускаецца думка (а да яе схіляецца ўсё больш біёлагаў), што старасці і смерці можна пазбегнуць. Бялковыя структуры лёгка паддаюцца знішчэнню, але не «ідуць» на самазнішчэнне. Здольнасць да аднаўлення, да замены адных састаўных элементаў іншымі — чым не гарантыя, што чалавек можа існаваць вельмі доўгі час? Арганізм гіне, таму што яго смерць з'яўляецца ўмовай эвалюцыі жыцця і наогул яго існавання на нашай планеце.

Давайце дапусцім, што можна кіраваць эвалюцыяй, калі біяхімічна перабудаваць гены, развіць іх карысныя якасці, а некарысныя знішчыць. Чалавек будзе ведаць і здолее, значыць, прадухіліць прычыны старэння. Самаабнаўленне арганізма стане неабмежаваным у часе. Кіраванне эвалюцыяй дапаможа перамагчы смерць.

Усё гладка, тым больш, што са снежня 1969 года гэта магчымасць стала яшчэ больш рэальнай. Трое амерыканцаў з Гарвардскага ўніверсітэта (Джанатан Бэквіт, Джэймс Шапіра і Лоўрэнс Эран) вылучылі і сфатаграфавалі асобны ген, гэтую таямнічую адзінку спадчыннасці. Гэты першы ген належаў да групы, якая кіравала зменамі мальтозаў у целе адной з бактэрый. «Вылучэнне гэтага гена адкрывае шлях да вылучэння іншых, у тым ліку, з клетак вышэйшых жывёл»,—паведаміў лаўрэат Нобелеўскай прэміі М. Перуц. «Гэты поспех набліжае чалавецтва да мэты, калі фарміраванне жыццёвых форм, ці, як кажуць, генетычная інжынерыя, стане звычайнай з'явай»,— дадаў другі нобелеўскі лаўрэат М. Вілкінс, адзін з даследчыкаў пабудовы генаў... Значыць, стане магчымым пераносіць гены з аднаго арганізма ў другі, фарміраваць іх у тую ці іншую схему.

Біяхімік з Лондана, доктар Рэкалдзін, прапаноўвае ўключэнне ў чалавечы арганізм хларафілу і такую «рэгуліроўку» біяхімічных працэсаў у клетках скуры, каб там мог адбывацца фатасінтэз. Гэта назаўсёды вызваліла б чалавецтва ад клопату харчавання. Замест таго, каб выстойваць чаргу ў рэстаранах ці скардзіцца на жонку, што яна абыякава ставіцца да кухонных спраў, дастаткова гадзіну-другую пагрэцца на сонцы — і ты пад'еўшы.

Але ж нават вучоныя з вялікай фантазіяй прадказваюць, што такое можа здарыцца не раней, чым праз некалькі стагоддзяў. Ды і тое яшчэ вілами па вадзе пісана — могуць дадаць сённяшнія скептыкі. Таму — якраз для скептыкаў — вучоныя маюць на ўвазе яшчэ адзін варыянт, як дамагчыся несмяротнасці, і гэта больш рэалістычна, чым можна ўявіць на першы погляд. Вядома, што ўсё больш тканак і частак цела чалавека магчыма замяніць штучнымі прыладамі ці пратэзамі. Усяго, вядома, не заменіш, напрыклад, мозг. Але слабае і падвержанае ўсялякім выпадковасцям цела можна замяніць надзейнай і больш удасканаленай канструкцыяй штучных прыстасаванняў. Так, прынамсі, сцвярджаюць вучоныя. Ужо сёння не праблема доўгі час вырошчваць мозг у спрыяльных умовах аўтаномна ад арганізма. Штучныя рэцэптары даюць яму больш уражанняў, чым штодзённыя, навакольныя ўмовы. Можна сканструяваць новыя органы пачуццяў, напрыклад, для прыёму радыёхваляў. Англійскі астрафізік, аўтар вядомых навукова-фантастычных твораў Артур Кларк мяркуе: «Аднойчы нам удасца ўвайсці ў надзейныя сувязі з кожнай машынай, нават самай складанай. Такім чынам мы будзем не толькі кіраваць касмічным караблем альбо падводнай лодкай, але і самі станем касмічным караблём, падводнай лодкай ці тэлевізійнай сеткай. Гэта дасць чалавеку нешта большае, чым толькі інтэлектуальнае задавальненне».

З Кларкам спрачацца не так і проста. Але ці захоча сам мозг, каб яго зрабілі прыдаткам нават да самай бездакорнай тэлевізійнай сеткі? Вядома, з часам і з мозгам можна справіцца. Узяць ды пераключыць яго не электронную схему замест нервовай, на якой ён развіваўся спрадвеку. Вось толькі ці маем мы права называць такую ўдасканаленую ва ўсіх кірунках схему чалавекам, няхай сабе і электронным?

Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.



● Віктар МАРТЫНАЎ
● Арнольд МІХНЕВІЧ

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ

## СТАРОНКІ СЛОЎНІКА

### СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

Беларуская агульнанацыянальная мова фарміравалася разам з фарміраваннем беларускай нацыі, яе культуры і літаратуры. Таму, зразумела, увесь шлях развіцця нашай мовы цесна звязаны з развіццём мастацкай літаратуры на гэтай мове. Пачынаючы ад В. Дуніна-Марцінкевіча, складваецца традыцыя сучаснай літаратурнай мовы, але сапраўдны зрух у станаўленні нацыянальнай мовы адбыўся ў пачатку XX стагоддзя, калі рэвалюцыя 1905 года абудзіла да жыцця ўсе нацыі Расіі.

У беларускую літаратуру прыходзяць такія яе майстры, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, а з імі і шэраг іх паплечнікаў і сяброў. Іх слова пранікае ў беларускую вёску, і ўпершыню гучыць «мужыцкая» мова як роўная сярод роўных — рускай і польскай. Паступова складваюцца розныя літаратурна-мастацкія і публіцыстычныя жанры, якія спрыяюць шырокаму выкарыстанню агульнанароднай мовы.

Сапраўдны росквіт беларускай літаратурнай мовы настаў пасля Кастрычніка, калі была створана беларуская дзяржаўнасць, калі беларуская мова пранікла ва ўсе галіны жыцця рэспублікі. Тады пачалася мэтанакіраваная праца па нармаванні літаратурнай мовы. Былі створаны адпаведныя ўстановы і камісіі, адкрыта шырокая сетка беларускіх школ. У сувязі з гэтым паглыбляецца працэс узаемадзеяння паміж маладой літаратурнай мовай і мясцовымі гаворкамі.

Беларуская літаратурная мова склалася на аснове групы гаворак цэнтральнай Беларусі (галоўным чынам, на поўдзень ад Мінска). Цэнтральная частка гаворак паўднёва-заходняга дыялекту зрабіла асноўны ўклад у літаратурную мову. Няцяжка зразумець прычыны гэтага. Мінск стаў дзяржаўным і культурным цэнтрам рэспублікі, пераважная большасць пісьменнікаў, дзеячаў культуры паходзіла з Міншчыны. Аднак уплыў на літаратурную мову з боку іншых беларускіх гаворак не знік. Барацьба з заходнім, перш за ўсё польскім, уплывам узмацняе арыентацыю на паўночна-ўсходнюю моўную тэрыторыю, тым больш, што заходняя Беларусь тады яшчэ заставалася за межамі Савецкай дзяржавы. Фанетыка і марфалогія, словаўтварэнне і лексіка набываюць шэраг асаблівасцей паўночна-ўсходніх (галоўным чынам магілёўскіх) гаворак. Гэтаму працэсу спрыяе той факт, што асноўныя лексікаграфічныя крыніцы былі створаны таксама на аснове магілёўскіх гаворак (сярод іх найбольш фундаментальны слоўнік І. І. Насовіча). Працэс дыялектнай кансалідацыі яшчэ больш узмацніўся пасля ўз'яднання заходніх і ўсходніх тэрыторый у адзінай сацыялістычнай дзяржаве.

Мэтанакіраваная праца беларускіх моваведаў прывяла, з аднаго боку, да стварэння шэрагу прац, прысвечаных выпрацоўцы норм літаратурнай мовы (сярод іх вялікія руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнікі), з другога боку, да стварэння Атласу беларускіх гаворак і поўнага іх апісання. З гэтай апошняй працай трэба было спяшацца, бо працэс дыялектнай інтэграцыі паскорыўся. Беларуская літаратурная мова, яе сучасны стан і традыцыі ў бліжэйшы час знойдуць сваё адлюстраванне ў двух найбуйнейшых лексікаграфічных выданнях: шматтомных Тлумачальным слоўніку і Слоўніку старабеларускай мовы.

Цяпер, калі поспехі беларускага мовазнаўства зрабілі нашы веды пра родную мову дастаткова поўнымі, прыйшоў час і для складання Этымалагічнага слоўніка. Этымалагічныя слоўнікі, як правіла, рыхтуюцца тады, калі распрацоўка асноўных галін мовазнаўства, і ў першую чаргу апісанне літаратурнай мовы, завершана.

Этымалагічны слоўнік беларускай мовы рыхтуецца ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Ён плануецца як калектыўная шматтомная праца, якая будзе выходзіць у свет на працягу шэрагу гадоў. У гэтай працы будзе выкарыстаны вопыт іншых, і ў першую чаргу славянскіх, этымалагічных слоўнікаў. Але мэта слоўніка — не паўтараць вынікі гэтых слоўнікаў. Таму на яго старонках чытач знойдзе шырокае тлумачэнне ўласна беларускіх слоў, у тым ліку рэдкіх і рэгіянальных, а таксама некаторыя новыя тлумачэнні агульнаславянскіх і агульнаіндаеўрапейскіх слоў.

*Мы завяршаем першую частку «Старонак этымалагічнага слоўніка», для публікацыі якіх рэдакцыя часопіса «Маладосць» прадаставіла нам свае старонкі (гл. №№ 2, 4, 5, 7, 9, 10, 12—1969 г.; №№ 3, 7, 8—1970 г.). Былі разгледжаны асноўныя пытанні параўнальнага мовазнаўства ў дачыненні да беларускай этымалогіі, прыведзены тлумачэнні звыш 300 слоў рознага паходжання і рознага «моўнага ўзросту». Абсалютная большасць тлумачэнняў, як гэта прынята для папулярных выданняў, з'яўлялася традыцыйнай і агульнавядомай. Пэўная невялікая колькасць этымалогій грунтавалася на новых версіях. Так, аўтарам належаць тлумачэнні слоў абармот, абух, бібікі, гай, галуза, здань, бусак, броснець, крыга, мажны, мудрагелісты, палохаць, рунь, тло, трызніць, чэзнуць, шалець, В. Іванаву і У. Тапарову — асілак, Р. Краўчуку — андарак, лыч, наўда, А. Супруну — апука. У далейшым аўтары мяркуюць расказаць пра «тэхніку» і прынцыпы этымалагічнай работы, а таксама знаёміць чытачоў час ад часу з новымі здабыткамі беларускай этымалогіі.*

●

АБУХ. Усходне- і заходнеславянскае слова. Паводле найбольш пашыранай версіі *абух* < **ob-uxъ* (вуха тапара). Паводле іншай — *абух* < **o-buxъ (бухаць)*. Да гэтых двух тлумачэнняў можна дадаць трэцяе: *абух* < **ob-u-xъ* < **ob-u-ti* — абуць. Тады *абух* — тое, што надзяваюць на тапарышча.

АПУКА. Самаробны мяч. Слова агульнаўсходнеславянскае. Генетычна суадносіцца з дзеясловам *пучыць*, які ўзыходзіць да праславянскага *pončiti* — пучыць, *ponkati* — лопацца, трэскацца (корань, магчыма, гукапераймальны).

БРОСНЕЦЬ. *Броснець* < **брострнець* — пускаць парасткі, прарастаць. Праславянскае **brъstь* — парастак, пупышка, почка (рускае дыялектнае *бросць* — почка, балгарскае *бръс(т)* — маладыя парасткі), індаеўрапейскія паралелі: старажытнаісландскае *бріота* — ламаць, сярэдневерхненямецкае *бросэм* — хлебная крошка.

БРЫЛЬ. Найбольш пераканаўчай лічыцца версія, па якой першакрыніцай слова з'яўляецца італьянскае *омбрэлло* — тое, што ахоўвае: парасон, казырок і т. д.

БУСАК. Відавочна, запазычанне з цюркскіх моў. Параўнайце старажытнацюркскае *башаг* — наканечнік, вастрыё стралы ці кап'я.

ГАЛУЗА. Гарэза, дураслівец (параўнайце распаўсюджанае прозвішча *Галуза*). Слова гэта ўтворана па тыпу *гарэза* ад дзеяслова літоўскага паходжання: *галуотіс* — дурэць, сваволіць, гарэзаваць.

ГОМАН. Слова ўсходнеславянскае, польскае і чэшскае. Магчыма, германскага паходжання. Параўнайце старажытнаісландскае *гаман* — радасць, весялосць, англійскае *гэйм* — гульня. Калі гэта так, імаверная крыніца запазычання — гоцкая мова. Мы ведаем шэраг гоцкіх па паходжанні слоў прыблізна такога ж пашырэння.

ЖМУРЫЦЬ. Слова амаль агульнаславянскае, але формы, якія яму адпавядаюць у чэшскай і польскай мовах, сведчаць на карысць яго другаснага характару. Чэшскае *мжоўраті* гаворыць аб тым, што *жмурыць* узнікла ў выніку перастаноўкі зычных *(м-ж)* з першаснага **тьžuriti*. Ад гэтага кораня таксама *мігаць*. У польскім *мружыць* адбылася перастаноўка іншай пары зычных *(ж — р)*.

ЗАГАВІНЫ. Вытворнае ад *гавець*, якое ведаюць усе славяне. Корань *гов-* ~ лацінскаму *фавэрэ* — спрыяць, заступацца, апекавацца.

ЗРЭНКІ, ЗРЭНКА. Ад праславянскага **zьreti* — бачыць (параўнайце рускае *зреть* і іншыя славянскія паралелі). Няясна фанетыка слова. Магчыма, *зрэнка* ад дыялектнага *зрэнне* «зрэнка». Тады *зрэнне* і *зрэнка* суадносяцца як назоўнікі зборны і адзінкавы.

КАПЛІЦА. Усходнеславянскае запазычанне праз польскае пасрэдніцтва з старажытначэшскай мовы. Старажытначэшскае *капля (-іц* у беларускім слове — памяншальны суфікс) праз сярэдневерхненямецкае *капелла* з сярэднелацінскага *каппелла*<*каппа* — плашч. Развіццё значэння слова ішло так: спачатку — плашч святога Марціна, потым — месца, дзе хавалася гэтая «святая» рэч і далей — пакой, дзе спраўлялася набажэнства, капліца. Таго ж паходжання і слова *ка́па* — пакрыўка на ложак.

КРАСКІ. Аб тым, што гэта перш за ўсё палявыя кветкі, сведчыць тое, што жыта не *квітнее*, а *красуе*. Як назва розных кветак, слова *краска* сустракаецца ў чэхаў, славакаў і сербаў, што ўказвае на вялікую (праславянскую) старажытнасць гэтага слова. *Краска* — памяншальная форма ад праславянскага **krasa*. Гэта слова мае розныя этымалагічныя тлумачэнні. Найбольш вераемнае, відаць, такое. Праславянская *краса* параўноўваецца з праславянскім **krěsъ* (сербскахарвацкае *крес* — касцёр, які раскладаюць на свята Івана Купалы — свята аднаўлення прыроды). Сюды ж рускі дзеяслоў *воскрешать*. Тады **krasa* — гэта бессмяротная, заўсёды ўваскрасаючая прырода, цвіценне. Адсюль зразумела стае і беларуская назва кветак — *краскі* (параўнайце беларускае *красавік*, украінскае *квітень*), і рускія *красные дезицы*, і рускае *красный* — чырвоны (прыгадайце чырвоную папараць-кветку, якая цвіце на свята Івана Купалы).

КРЫГА. Звычайна крыга звязваецца з польскім *кра* — крыга, і тады ў гэтым слове вылучаюць суфікс *-ыга*. Але суфікс *-ыга* рэгулярна ўтварае назвы імёнаў дзеяча. Таму заслугоўвае ўвагі і іншая версія: слова *крыга* ўтворана ад дзеяслова *крышыць*. Шлях утварэння прыкладна такі: *крышыць* — **крыхаць*, **крыхаць* — *крыха* (як рускае *мыкать* — *мыка* ў слове *горемыка*) з наступным азванчэннем *х*, параўнайце польскія дыялектныя (запазычаныя з усходу!) формы *крыха* і *крыга*. Азванчэнне *х* магло адбыцца яшчэ ў дзеяслове *крыхаць*, параўнайце дыялектнае *крыгаць* — хварэць і *крыхаць* — крышыцца (семантычная сувязь, як у літоўскім *гурсті* — хварэць, паміраць і *гурті* — крышыцца).

ЛЮСТРА, ЛЮСТЭРКА — запазычанне з польскага *люстро, люстэрко*. Польскія словы азначалі таксама бляск, блісканне, зіхаценне (ад лацінскага *люстрарэ* — аглядаць).

МАРУДНЫ, МАРУДА. Праз польскае *марудны, маруда* з нямецкага *марод*е — стомлены ў дарозе. Апошняе ў сваю чаргу запазычана з французскага *маро(д)* — прайдзісвет. Ад гэтага французскага слова ўтворана таксама *марадзёр*.

МУДРАГЕЛІСТЫ. На першы погляд, здаецца, што гэта слова складанае. Але параўнанне яго са словамі *мудры, мудраваць, мудрагель, мудрагельскі, мудрагельства* пераконвае, што перад намі прыметнік *мудры*, які «аброс» суфіксамі *-ага* (параўнайце *туляга*), *-ель (круцель), -істы (галасісты)*.

НЯВЕСТА. Існуе некалькі этымалагічных тлумачэнняў гэтага праславянскага слова. Адны вучоныя выводзяць яго з **ne-věd-ta* — тая, якую не ведаюць, чужая. Слабасць гэтай этымалогіі ў тым, што славяне толькі ў дачыненні да рэчаў ужывалі дзеяслоў *ведаць*, а пра людзей гаварылі *знаць*. Іншыя даследчыкі ідуць ад першаснага праславянскага **nevo-ved-ta* — тая, якая толькі што выйшла замуж (параўнайце старажытнарускае *водити жену* — жаніцца). Тады **nevo-ved-ta* адпавядае рускаму *новобрачная*. Слабасць гэтай этымалогіі ў фанетыцы: праславянскае **nevěsta* мае *ě*, якога няма ў дзеяслове **vedti* — весці. Некаторыя вучоныя тлумачаць гэтае *ě* як вынік другаснага падоўжання *e* ў выніку выпадзення другога *v* паміж галоснымі: **nevovedta* > **nevoedta* >**nevědta* >**nevěsta* (*dt* рэгулярна пераходзіць у *st* па правілах дысіміляцыі). Гэта тлумачэнне даволі складанае ў фанетычных адносінах. Нарэшце, апошняя версія, якая здаецца найбольш вераемнай. Паводле гэтай версіі **nevěsta* <**ne-věs-ta*, корань **věs-* узыходзіць да індаеўрапейскай назвы дома і роду, (параўнайце грэчаскае *(в)ойкос*). Тады *нявеста* — гэта тая, якая яшчэ не ўвайшла ў наш дом, наш род. Старажытнаіндыйскае *нівесати* — (ён) уваходзіць у дом і (ён) жэніцца (старажытнаіндыйскае *ні* значыць «унутр»).

ПАРЭНЧЫ. Паланізм, параўнайце ўсходнеславянскую (рускую) форму *поручни*. Корань слова — *рук-а*, польскае *рэнк-а*.

ПЛОЙМА. Слова выключна беларускае. Плойма < **плодзьма* (з дысіміляцыяй *дзьм* > *йм*, як у дыялектным *седзьмы* > *сеймы*). *Плодзьма < пладзіць (як *ведзьма* < < *ведаць*), таму першапачаткова *плойма* ўжывалася з назвамі жывых істот: плойма дзяцей, плойма камароў і г. д. Патрабуе праверкі заманлівая версія — тлумачэнне *ведзьма, плодзьма* як узмацняльных форм у выразах *ведзьма ведаць, плодзьма пладзіць* (параўнайце: *лежма ляжаць, стойма стаяць, крычма крычаць*).

ПРЫМУС. *Прымус, прымушаць, вымушаны, мусіць* і падобныя словы ўтвораны ад запазычанага з нямецкай мовы дзеяслова *мюссэн* — быць павінным, абавязаным.

РАСКОША. Корань слова *кош-/кох-*, той самы, што і ў дзеяслове *кахаць*. Прыстаўка *рас-* мае ўзмацняльнае значэнне (параўнайце рускае *разлюбезный, распрекрасный*). Значыць, *раскоша* — гэта тое, што вельмі падабаецца.

СПАТКАЦЦА. Корань *-тк-* (з нулявым галосным), што і ў словах *ткаць, тыкаць.* Параўнайце семантычную сувязь рускіх слоў *толкать* і *столкнуться* — раптоўна сустрэцца.

СТРОНГА. Слова запазычана з польскай мовы, аб чым сведчыць форма суфікса *-онг-* ~ усходнеславянскі суфікс-*уг-*. Польскае пстронг, корань *пстр-* той самы, што ў рускім *пёстрый.* Такім чынам, беларускім адпаведнікам польскаму *пстронг* магло б быць **пяструга* — стракатая рыбіна.

СУМ, СУМНЫ. Слова ў гэтай форме і значэнні толькі беларускае і ўкраінскае. Польскія паралелі — запазычанні з усходу. *Сум, сумны* < праславянскага **son-тьпъ* (прэфікс *su/son* як у слове *сусед*); корань *тьп-* той жа, што ў слове мніцельны). Аб тым, што паходжанне слова *сум* менавіта такое, сведчаць паралелі да яго ў славенскай мове. Славенскае *сум* азначае падазрэнне, а *падазраваць* гучыць як *суміті* (ад скарочанай формы *сум*) і як *сумніті*, у якой корань *тьп-* адлюстроўваецца цалкам ясна. Пераход **son-тьпъ* > *сум* у беларускай, украінскай і славенскай мовах сведчыць аб слабасці *ь,* якi выпаў, а *тп* > *т.*

ТЫН. Гэта яшчэ праславянскае слова разглядалі як старажытнае запазычанне з германскай пра-мовы. Прагерманскае **tūn* у сваю чаргу тлумачылася як запазычанне з кельцкага *дунон* — крэпасць (параўнайце вядомую ў часы першай сусветнай вайны французскую крэпасць *Вердэн,* назва якой паходзіць ад старажытнай кельцкай лацінізаванай назвы *Вер-дунум*). Але аналіз кельцкага *дунон* дае магчымасць зрабіць іншыя вывады. Першаснае значэнне кельцкага слова — гара, адсюль *дзюна* — пясчаны насып. Такіх значэнняў няма ў прагерманскага **tūn*, якое, як і праславянскае **tynъ*, значыць плот, агароджа. Калі зыходзіць з першаснага значэння «жывая агароджа», узнікае магчымасць растлумачыць праславянскае **tynъ* як спрадвечнае слова, якое ўтварылася на славянскай моўнай глебе ад дзеяслова **tyti* — таўсцець, расці. Тады праславянскае **tynъ* спачатку тое, што вырасла, жывая агароджа, жываплот.

УГАМОН. Аддзеяслоўны назоўнік ад *угаманіць. Угаманіць* у сваю чаргу — ад *гоман* (гл.). Прыстаўка *у-* ў словах *угаманіць, угамон* мае значэнне заканчэння дзеяння, параўнайце *класці — укласці, гаманіць* (значэнне «гаварыць» < «шумець») — *угаманіць.*

УЗОР. Вытворнае ад **zьreti* — бачыць. Але *узор* — не толькі тое, што можна бачыць, а што прыемна бачыць, нельга не ўбачыць.

УПАРТЫ. Роднасныя словы — з чаргаваннем галосных — такія: *перці, пру, выпіраць, падпора* (параўнайце рускія формы *умер, мрут, умирать, морить*). Значыць, *упарты* — той, хто ўпіраецца. Але фанетыка гэтага слова сведчыць аб тым, што яно не спрадвечнае (спрадвечнае беларускае было б **упёрты*), а запазычана з польскага *uparty.*

УТРАПЁНЫ. Запазычанне з польскага *утропёны* < *трапіць.* У польскіх помніках сустракаюцца выразы тыпу *утропёны вінэм*, што — хоць і не літаральна — значыць ачмурэлы ад віна, а адсюль: утрапёны > звар'яцелы.

ХІТРЫ. Гэта праславянскае слова, якое разглядалася як другаснае, утворанае ад дзеяслова **xytiti*, **xvatati* — хапаць (параўнайце першаснае значэнне слова *хітры* ў сербскахарвацкім *хітар* — хуткі, шпаркі). Але аб тым, што гэта слова ўтварылася яшчэ ў даславянскі, магчыма, балта-славянскі перыяд, сведчыць паралельнае літоўскае *гудрус* — хітры. Сумненне тут выклікае фанетычны бок: трэба было б чакаць літоўскае *кутрус.* Але літоўскае *кутрус* існуе ў значэнні хуткі, шпаркі, што адпавядае значэнню сербскахарвацкага *хітар.* Такім чынам, перад намі балтыйскі дублет — літоўскае *гудрус (кутрус)*, які дакладна адпавядае праславянскаму **xytrъ.*

ЦЕРУШЫЦЬ. Відаць, запазычанне з літоўскага *тярщті, тяршю, тяршяу*, адным са значэнняў якога было церушыць (салому). Патрабуе ўвагі і іншая версія: *церушыць* ад *церуха* (параўнайце рускае *потеруха* — мелкая солома), *церуха* ад *церці.*

ЧУЖЫ. Агульнаславянскае слова. Праславянскае **tjudjь* з дапамогай прыналежнага суфікса прыметніка ўтварылася ад назоўніка **tjudъ.* Значэнне гэтага незафіксаванага ў славянскіх мовах назоўніка можна ўзнавіць праз паралель з прагерманскім *тсюда* — народ, людзі, свае (германцы): параўнайце нямецкае *дойч* — нямецкі. Такім чынам, праславянскае **tjudъ* было запазычана з прагерманскага і азначала германец (сусед славян, чужаземец). Пераход *германец* > *чужы* параўнайце з ужываннем слова *немец* у значэнні чужаземец, чужынец.





**армейскія будні**

# ДЭСАНТНІКІ

**ІНРЭРВ'Ю**
**з камандуючым паветрана-дэсантнымі войскамі Савецкай Арміі генералам арміі Васілём Піліпавічам МАРГЕЛАВЫМ**

«Наш Чапай» — называюць Васіля Піліпавіча Маргелава яго бліжэйшыя паплечнікі. Пра генерала ходзяць легенды. Яшчэ ў 1938 годзе ў яго атэстацыі на пасаду камбата гаварылася: «Стралковую справу ведае добра і сам выдатны стралок. Энергічны, валодае цвёрдай воляй. У ажыццяўленні прынятага рашэння настойлівы. Фізічна развіты і ў паходах вынослівы... Растучы, энергічны, старанны камандзір». Тады Васілю Маргелаву было трыццаць і ён меў званне старшага лейтэнанта.

Дзяцінства і юнацтва Васіля Маргелава прайшло ў мястэчку Касцюковічы на Магілёўшчыне. Яго бацька — ліцейшчык, чырвонагвардзеец, удзельнік грамадзянскай вайны.

Пасля заканчэння пачатковай школы Васіль стаў працаваць вучнем у саматужніка-гарбара, потым — шахцёрам у Данбасе. Калі вярнуўся ў родныя мясціны, у хлопца ўжо быў камсамольскі білет і даручэнне ад шахцёраў — прапагандаваць новае жыццё ў вёсцы.

Неўзабаве пачынаецца кімаўскі прызыў у Чырвоную армію, і камсамольца Маргелава накіроўваюць курсантам Аб'яднанай беларускай ваеннай школы імя ЦВК БССР.

На фінскім фронце Васіль Маргелаў камандаваў батальёнам, палком.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, воіны стралковага палка Васіля Маргелава прынялі першыя баі з фашыстамі, двойчы хадзілі ў тыл ворага. Пазней Маргелаў камандаваў першым і добраахвотніцкім палком балтыйскіх маракоў, пад Сталінградам вадзіў у атакі стралкоў-гвардзейцаў.

Пры фарсіраванні Дняпра ў 1943 годзе Маргелаву за гераізм і адвагу было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

У снежні 1944 года дывізія, якой камандаваў генерал-маёр Маргелаў, удзельнічала ў штурме глыбока эшаланіраванай абараняльнай лініі «Маргарыта» ў Венгрыі, якая адкрывала шлях нашым танкам на Будапешт. Воіны дывізіі ўдзельнічалі таксама ў вызваленні Вены.

У пасляваенныя гады В. П. Маргелаў займае кіруючыя пасты ў Савецкай Арміі. Цяпер камандуе паветрана-дэсантнымі войскамі, якія адзначаюць сёлета сваё 40-годдзе.

Васіль Піліпавіч абараніў дысертацыю на вучоную ступень кандыдата ваенных навук. Да шматлікіх узнагарод генерала прыбавілася яшчэ адна — ордэн Леніна — за высокія заслугі перад Радзімай і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем.

Нашаму няштатнаму карэспандэнту давялося гутарыць з Васілём Піліпавічам Маргелавым.

— Як Вы, Васіль Піліпавіч, сталі дэсантнікам?

— У 1948 годзе, калі я скончыў Акадэмію Генеральнага штаба, Міністр абароны СССР паклікаў мяне да сябе і сказаў: «Табе даверана камандаванне дэсантамі». Вось тады я і зрабіў упершыню саскок з парашутам, а ўвогуле ў мяне больш

за шэсцьдзесят саскокаў. Пазнавата пачаў гэтую справу, у сорак гадоў. Не ўгнацца ўжо за маладымі...

— Нічога, Васіль Піліпавіч, няхай моладзь вас даганяе!..— А скажыце, калі ласка, вось бываюць выпадкі, калі малады дэсантнік не можа пераадолець страх і адмаўляецца саскокваць. Што робіць у такім разе камандзір?

— Некаторыя гавораць, што камандзір яго сілком выкідвае з самалёта. Няпраўда гэта. З такім чалавекам таварышы гутараць, пераконваючы, што парашут дзейнічае абсалютна бездакорна. Урэшце парашутыст робіць саскок упэўнена і лёгка.

— Васіль Піліпавіч, якая, на ваш погляд, роля паветранага дэсанта ў сучасных умовах вядзення вайны? Ці не зменшылася яго значэнне ў сувязі са з'яўленнем ядзернай зброі?

— Наадварот! Калі ў мінулую вайну, напрыклад, тактыка армій зводзілася да паслядоўных удараў па ўсім прасцягу велізарнага фронту па формуле: авіяцыя — артылерыя — танкі — пяхота, то цяпер усё змянілася.

— А як далёка можна перакідваць дэсант?

— На ўвесь радыус палётаў сучаснай авіяцыі. Уявіце сабе такія палёты. Дэсантнік часта не ведае месца, куды можа спусціцца з парашутам. Ён рыхтуецца дзейнічаць у любых абставінах. Таму ў мірны час мы навучаем яго ўсяму, што паможа яму выканаць пастаўленую задачу. Як камандуючы, я, напрыклад, лічу, што нашым хлопцам вельмі карысныя, скажам, такія практыкаванні. На карце краіны выбіраецца зусім адвольна нейкі пункт. Туды выкідваюцца парашутысты. Маючы зусім абмежаваны запас харчу, але з поўнай баявой выкладкай, парашутыст павінен незаўважна, за кароткі час прайсці лесам, гарамі, па балоце і дрыгве сотні кіламетраў. І праходзяць! Вяртаюцца ў сваю часць паголеныя і чыстыя, ды яшчэ з трафеямі — дзічынай, грыбамі і ягадамі. Уяўляеце, якая ў дэсантніка загартоўка?..

— Мусіць, не горшая, чым у касманаўтаў?

— У кожным разе, фізічная нагрузка ў час трэніровак у нашых хлопцаў ніколькі не меншая. Служыць у дэсантных войсках куды цяжэй, чым, скажам, у авіяцыі. Гэта пацвярджаюць многія спецыялісты, медыкі, і таму мы прымаем толькі добраахвотнікаў.

— Васіль Піліпавіч, многія цывільныя людзі лічаць дэсантніка нейкім выключным чалавекам, і мне, былому парашутысту-дэсантніку, вядома, прыемна такое. Але як да гэтага ставіцеся вы?

— Памятаеце, у «Баладзе пра парашутыстаў» Міхаіла Анчарова ёсць такія словы: «Але дзе ты святога знойдзеш аднога, каб пайшоў у дэсант?» Ці не праўда, справядліва? Добра валодаючы ўсімі прыёмамі сучаснага бою, паршутысты гатовы і ідуць на ўсё. А рыхтаваць дэсант — справа складаная. Гэтым заняты сотні людзей— урачы, тэхнікі ўзбраення. І ўсе, хто носіць на пятліцах знакі адрознення ПДВ, у абавязковым парадку павінны саскокваць з парашутам — пачынаючы ад кухара, музыкантаў і канчаючы камандзірам часці.

— Разам з дэсантам на парашутах выкідваецца тэхніка. Якая?

— Танкі, гарматы, амфібіі...

— Калі ласка, скажыце некалькі слоў пра ўзаемаадносіны паміж афіцэрамі і салдатамі. Наколькі я разумею, гэта — сапраўды дружная сям'я.

— Вядома, не панібрацтва, а баявая таварыскасць. У афіцэраў і генерала-дэсантніка няма спецыяльнага афіцэрскага ці генеральскага парашута, які б меў асаблівы запас трываласці ці надзейнасці. Яны не сядзяць у самалётах на спецыяльна адведзеных камандзірскіх месцах. Тут няма «галёркі» і «партэра»—месцы для ўсіх аднолькавыя, займаюць іх не па званні, а па чарговасці правядзення саскоку. Першымі саскокваюць парашутысты цяжэйшай вагі, апошнімі — самыя лёгкія. Афіцэр і салдат сядзяць у самалёце побач і падыходзяць да адчыненага люка, шчыльна прыціскаючыся адзін да аднаго, адчуваючы дыханне таварыша і біццё яго сэрца. Салдатаў, сержантаў і афіцэраў аб'ядноўваюць не толькі рызыка і небяспека саскоку з парашутам, але і аднолькавыя ўмовы паходнага жыцця ў варожым тыле...





— Васіль Піліпавіч, раскажыце, калі ласка, пра які-небудзь выпадак з дэсантнікамі ў паветры.

— Іншы раз і не без гэтага. Кажучы слвамі паэта Твардоўскага, «у наших парней есть такая порука, такое заветное правило есть: врага уничтожить — большая заслуга, но друга спасти — это высшая честь». Так адбылося і з маладым воінам-дэсантнікам Мікалаем Германам. Дэсантнікі прыбылі на аэрадром. Надзелі парашуты і праз колькі хвілін падняліся ў паветра. Рыхтаваліся здзейсніць свой першы саскок з ручным раскрыццём. Разам са сваімі падначаленымі ў самалёце знаходзіўся і камандзір аддзялення сержант Аляксей Гладзенін. У яго ўжо было на рахунку каля дзесяці саскокаў, з іх два—з ручным раскрыццём. Па камандзе «Пайшоў!» сержант саскокнуў. Праз некалькі секунд ірвануў кальцо парашута, і над галавой успыхнуў белы купал. У гэтае імгненне у стропы парашута сержанта ўляцеў радавы Герман. Яго парашут толькі пачаў раскрывацца. Стварылася небяспека для абодвух дэсантнікаў. Дарагая была кожная секунда. «Таварышу пагражае гібель!»— мільганула думка ў сержанта. Сабраўшы ўсе сілы, Гладзенін схапіў рукамі стропы парашута радавога. Усе яго імкненні былі накіраваны да аднаго, каб выратаваць таварыша. Яны абодва набліжаліся да зямлі на парашуце сержанта. Прызямліліся ўдала.

— Кім можа працаваць дэмабілізаваны воін-дэсантнік?

— У арміі вучаць не толькі трапна страляць, валодаць зброяй. Ёсць каля чатырохсот толькі цывільных спецыяльнасцей. Напрыклад, дэмабілізаваны дэсантнік можа працаваць вадзіцелем, радыстам, падрыўніком, электрыкам, слесарам, інструктарам па плаванні, стральбе, саскоках з парашутам, трэнерам па самба... Я вам павінен сказаць, што былых нашых хлопцаў можна сустрэць у розных гарадах і на розных прадпрыемствах. Прыемна адзначыць, што былыя дэсантнікі паспяхова нясуць працоўную вахту на ўдарных камсамольскіх будоўлях, у тым ліку і ў Наваполацку, Салігорску, Гомелі, Мінску, Віцебску.

— *Многія беларускія юнакі цікавяцца, як стаць афіцэрам-дэсантнікам?*

— У Разані ёсць Вышэйшае паветрана-дэсантнае двойчы Чырванасцяжнае ваеннае каманднае вучылішча імя Ленінскага камсамола. Прымаюць туды ўсіх маладых, дужых юнакоў, вядома, калі яны вытрымаюць уступныя экзамены.

— Вашы пажаданні будучым курсантам-дэсантнікам і, у прыватнасці, сваім землякам?

— Каб следавалі словам салдацкай песні: «Як ангел з неба ён злятае, затое б'ецца ён, як чорт». Яшчэ жадаю, каб яны заўсёды былі верныя сваёй Радзіме, справе Камуністычнай партыі, свайму народу. Каб былі самымі смелымі і, даруйце за шчырасць, крышку адчайнымі. Адным словам, трэба ведаць, што паветрана-дэсантныя войскі — гэта мужнасць вышэйшага класа, храбрасць першай катэгорыі, гатоўнасць нумар адзін. Дэсантнікі з выключнай храбрасцю праявілі сябе на вучэнні «Дняпро», якое праводзілася напярэдадні 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, і на вучэннях «Дзвіна», што праходзілі на тэрыторыі Беларусі ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Гвардзейцы-дэсантнікі атрымалі падзяку ад Міністра абароны СССР.

Інтэрв'ю ўзяў
Валеры **ПАЎЛІЧЭНКА.**

**Пра маладых спартсменаў рэспублікі**
**вам раскажа ў наступным нумары**
**Валянцін САЗАНОВІЧ**

# КАЛІ ПАЧАЛІ ЗЯМЛЮ АРАЦЬ?

«Вялікія эпохі чалавечага прагрэсу больш або менш прама супадаюць з пашырэннем крыніц харчавання»,— зазначаў некалі Карл Маркс. Авалоданне навыкамі земляробства і жывёлагадоўлі красамоўна назвалі «неалітычнай рэвалюцыяй». Пераход ад збірання дарункаў прыроды, палявання і рыбалоўства да гаспадаркі вытворчай, якая стварае прадукты, быў з'явай вялікага значэння. Дастаткова сказаць, што ўжо вось 5—6 тысячагоддзяў, як чалавецтва не можа знайсці нічога прынцыпова новага і толькі стаіць напярэдадні другой рэвалюцыі — ажыццяўлення хімічных спосабаў вытворчасці харчу.

«Неалітычная рэвалюцыя» знішчыла першабытныя лясы, за некалькі тысячагоддзяў пераўтварыла зямлю. Яе вынік — першы грамадскі падзел працы, змена форм роду і сям'і, разлажэнне першабытнаабшчыннага ладу і, урэшце, распадзенне грамадства на класы.

Высвятленне шляхоў развіцця земляробства мае вялікае значэнне ў гісторыі кожнага народа. З'явіўшыся ў гаспадарцы плямён, якія жылі далёка на поўдзень ад межаў нашай рэспублікі, земляробства пачало пашырацца сярод дзікуноў, паступова пераўтвараючы іх у варвараў. Мяжа, што аддзяляла тых і другіх, з цягам часу ўсё далей пасоўвалася на поўнач.

Адзін з цэнтраў паходжання пшаніцы быў выяўлены ў Малой Азіі. Дзікарастучыя віды яе нядаўна знойдзены савецкімі вучонымі ў Закаўказзі. Адсюль яна за два тысячагоддзі пашырылася сярод плямён Балканскага паўвострава, Паўночнага Прычарнамор'я і Дуная.

Асабліва важную ролю ў пашырэнні земляробства ўглыб лясной паласы Еўропы адыгралі плямёны дунайскай культуры. Рухаючыся некалькімі хвалямі, яны ў IV тысячагоддзі да н. э. дасягнулі Мааса на захадзе, сярэдняга цячэння Эльбы, Одры і Віслы — на поўначы, Валыні — па рэках Гарыні, Паўднёвай Случы на ўсходзе.


Баран і пара валоў. Гліна.



Драўляныя ралы. Рэканструкцыя.

Высякаючы і спальваючы лясы на вельмі ўрадлівых і лёгкіх для апрацоўкі лёсавых глебах, дунайцы яшчэ не вельмі экспансіўна развівалі земляробства. Праз некалькі год людзі пераходзілі на новыя ўчасткі, бо не ўгнойвалі глебу, хоць і трымалі буйную рагатую жывёлу, а таксама авечак, коз і свіней. Найбольшае дасягненне гэтых плямён — пераход ад матыжнага земляробства да прымітыўнага рала.

Усходнімі суседзямі ў іх былі трыпольцы, якія жылі не толькі на Валыні, але і на сярэднім Дняпры і па ўсім паўднёвым Палессі. Акрамя пшаніцы, яны сеялі проса. Таму, магчыма, у іх былі нейкія сувязі з усходнім, сярэдне-азіяцкім цэнтрам акультурвання збожжавых.

Далей на паўночны ўсход ляжалі прасторы Усходняй Еўропы, пакрытыя дрымучымі лясамі. Нешматлікія пасёлкі паляўнічых і рыбаловаў туліліся на берагах рэк і азёр сярод лясного гушчару.

Ішоў час. Канец IV — першая палова III тысячагоддзя да н. э. характэрны пэўнымі грамадска-эканамічнымі з'явамі. На поўначы Еўропы ўтварылася земляробчая культура лейкападобных кубкаў. Пад пасеў тут выкарыстоўвалі пясчаныя ўзбярэжныя пагоркі, дзе, акрамя пшаніцы, нядрэнна радзіў таксама і ячмень.

У тарфяніках цэнтральнай Еўропы яшчэ на пачатку атлантычнага перыяду (V тысячагоддзе да н. э.) выяўлен пылок зерневых і пустазелля. На поўначы Еўропы крыху пазней, пры пераходзе клімату з атлантычнага перыяду ў суббарэальны, назіраецца характэрнае для паўторна зарослых участкаў павелічэнне пылку бярозы, вольхі і ляшчыны (арэшніку). Гэтая з'ява можа разглядацца як сведчанне масавага знішчэння лясоў, г. зн. пашырэння земляробства.

Тэрыторыю Беларусі ў гэты час займалі плямёны, якія выраблялі розныя віды грабенчатай керамікі, і сярод іх на паўднёвым усходзе — плямёны днепра-данецкай культуры. На пасяленнях сярэдняга Дняпра часта сустракаюцца познетрыпольскія гаршкі і іншыя сведчанні ўплыву трыпольскай культуры. Не дзіўна таму, што ўжо ў другі этап днепра-данецкай культуры (першая палова IV тысячагоддзя да н. э.) гэтыя плямёны займаліся гадоўляй буйной рагатай жывёлы, авечак, коз, свіней. Такі склад стану паказвае на наяўнасць вялікіх бязлесных прастораў. Адбіткі зярнят ячменю, якія часам сустракаюцца на посудзе, можна вытлумачыць трыпольскай традыцыяй прымешваць зерне пшаніцы і ячменю ў гліня-






Каменныя наральнікі і крамянёвыя сярпы.

нае цеста, з якога выраблялiся жаночыя статуэткі.

Трыпольцы на познім этапе (2750—2250 гг. да н. э.) не толькі сяліліся на поўдні Палесся, але і на левабярэжжы Дзясны. Затое на захадзе Валыні, на верхняй Прыпяці і Ясельдзе ў той жа час засноўвалі свае пасяленні носьбіты культуры лейкападобных кубкаў. У іх панавала ў статку буйная рагатая жывёла, а таксама свінні, авечкі, козы і, як у позніх трыпольцаў, коні. Напэўна, менавіта з іх культурай трэба звязваць гліняныя фігуркі барана і пары запрэжаных у ярмо быкоў, якія былі знойдзены каля Любліна. Уплыў гэтай культуры адчувальны па ўсім Панямонні, а чарапкі падобнага посуду знойдзены нядаўна паблізу вусця Прыпяці.

У той час тэрыторыя Беларусі ўваходзіла цалкам у зону шыракалісцевых лясоў з вялікай колькасцю дубу. Але раптоўна ў пластах тарфянікаў (перыяду неаліту, а менавіта сярэдзіны атлантычнага — пачатку IV тысячагоддзя да н. э.) якраз на паўднёвым захадзе рэзка памяншаецца колькасць пылку дубу, а часам і сасны, але ж павялічваюцца сляды пылку бярозы і вольхі. Гэтая з'ява назіраецца на балотах Дзікі Нікар у Белавежскай пушчы, Яглевічы ў Бярозаўскім раёне, Іванісаўцы пад Лагішынам, Гарадня Столінскага раёна і іншых. Падобныя змены можна вытлумачыць пачаткам расчысткі лясоў пад ворыва і наступным паўторным аблясеннем гэтай мясцовасці.

Вельмі паказальна тое, што падобныя выпадкі больш выразна бачны ў тых мясцінах, дзе выяўлены групы неалітычных пасяленняў. Акрамя таго, такая зменлівасць расліннасці распаўсюджвалася ў кірунку з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, г. зн. не залежала ад кліматычных умоў, якія былі ўсюды амаль аднолькавыя. Іх можна растлумачыць толькі дзейнасцю чалавека. Відаць, нездарма на помніках другой паловы неаліту сустракаюцца шматлікія крамянёвыя сякеры.

Толькі пераходам да больш прагрэсіўных форм гаспадаркі можна растлумачыць дэмаграфічны выбух, які адбыўся ў канцы каменнага веку: з 600 вядомых у рэспубліцы неалітычных помнікаў больш 5/6 адносіцца да перыяду позняга неаліту, працягласць якога была ўсяго 400—600 гадоў. Пры вельмі грубым набліжэнні, колькасць паселішчаў і людзей падвойвалася тады кожныя 200 год. У папярэдняя ж эпохі для такога падваення патрабаваліся тысячагоддзі.

Культурны ўплыў плямён, якія ведалі ўжо земляробства і жылі на паўднёвых ускраінах рэспублікі, пацвярджаўся і тым,



Матыкі рагавыя і каменныя.



«Ромб з крукамі» — раннеземляробчы сімвал на пасудзіне.





што на яе тэрыторыі праходзілі старажытныя менавыя шляхі: «бурштынавыя», што звязвалі з Прыбалтыкай, «крамянёвыя», па якіх дастаўлялася сыравіна з шахтаў ля Краснага Сяла, што недалёка ад Ваўкавыска. Устаноўлена, напрыклад, што ад плямён з лейкападобнымі кубкамі пераанялі земляробства плямёны культуры Эртэбёле ў Даніі. Але ж, у сваю чаргу, элементы культуры Эртэбёле выяўлены нядаўна і на пасяленнях басейна Нёмана, якія таксама межаваліся з культурай лейкападобных кубкаў.

Амаль на ўсіх позненеалітычных пасяленнях знойдзены крамянёвыя сярпы або ўстаўкі да сярпоў. Сярпамі жалі, мабыць, не дзікарастучыя, а культурныя расліны. На тэрыторыі Беларусі знойдзена ў апошнія гады каля пятнаццаці каменных свідраваных і рагавых матык. Пераважная колькасць іх, як і сярпоў, адносіцца, аднак, ужо да бронзавага веку. Цікава, што глыбіня рыхлення глебы рэдка дасягала дзесяці сантыметраў.

Разнастайная ўскладнёная арнаментацыя посуду паказвае на больш шырокае яго выкарыстанне, што несумяшчальна з прымітыўным светапоглядам першабытнага паляўнічага і рыбалова. Для ўпрыгожвання посуду шырока карысталіся геаметрычным арнаментам, у прыватнасці, спалучэннем трохвугольных і рамбавідных фігур. Асабліва яркі раннеземляробчы сімвал — ромб з крукамі — выяўлены на гаршку з Добрага Бора на Шчары.



Гаршчок з занальнай арнаментацыяй. Рэканструкцыя.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што на поўдні Беларусі, напэўна, ужо ў першай палове — сярэдзіне III тысячагоддзя да н. э. разгортвалася «неалітычная рэвалюцыя». Прыродныя ўмовы Палесся як нельга лепш надыходзяць да архаічнай «пойменнай» формы земляробства. Яшчэ нядаўна «паляшук» мог проста кінуць зярняты проса на чорную патрэсканую паверхню балота, а потым бестурботна збіраць ураджай. Бясспрэчна, у цяплейшы і сухі суббарэальны перыяд, які наступіў у III тысячагоддзі да н. э., зручных мясцін для такога пасеву было больш.

Як пясчаныя ўзгоркі з лёгкімі дзёрнава-падзолістымі глебамі, так і выспачкі марэн, перакрытыя лёсавіднымі суглінкамі, добра спрыялі земляробству, бо давалі некалькі гадоў запар высокі ўраджай. Групы пасяленняў позняга неаліту ўзнікалі не толькі ля берагоў рэк і азёр, але і ля такіх мясцін воддаль ад вадаёмаў.

Пазней, у канцы III тысячагоддзя да н. э. мяжа, якая аддзяляла «дзікі свет» ад «варварскага», перасунулася на сотню кіламетраў далей на поўнач і ахапіла, мабыць, усю тэрыторыю, дзе жылі плямёны з грабенчатай керамікай. Асновай іх гаспадаркі магло яшчэ па-ранейшаму заставацца рыбалоўства. Пераўтварэнне іх гаспадаркі ў вытворчую паскорылася, калі ў асяроддзе мясцовых плямён у першыя стагоддзі II тысячагоддзя да н. э. праніклі плямёны культур шнуравой керамікі, у тым ліку і сярэдненяпроўцы.

Што датычыць хатняй жывёлы, дык яна здаўна ператварылася ў прадмет абмену, у «тавар», як яе і да гэтага часу называюць на Палессі. Было б, аднак, памылкова меркаваць пра звычайнае пераймание відаў жывёл у паўднёвых суседзяў. Частка з іх, бясспрэчна, была выведзена ад лясных, а не стэпавых жывёлін: ад тура або зубра, дзіка, еўрапейскага лясного каня.

Косці — рэдкая знаходка для часоў неаліту, бо яны доўга не захоўваюцца, асабліва ў пясчаных глебах. На пасяленні Крывіна ў Сенненскім раёне знойдзены рэшткі быка, сабакі, насенне ільну; пры раскопках ля в. Сябравічы Чачэрскага раёна — косці

свінні, у Добрым Бары — рэшткі быка, казы або авечкі. Аднак толькі па раскопках пасялення паблізу ад вёскі Камень Пінскага раёна можна сцвярджаць з упэўненасцю, што ў познім неаліце на Палессі была вядома жывёлагадоўля. Тут знойдзены рэшткі 107 жывёлін, у тым ліку буйной рагатай жывёлы, хатняй свінні, каня, мабыць, дзікага. Пры гэтым косці буйной рагатай жывёлы мала адрозніваюцца ад тура або зубра.

Пачынаючы з II тысячагоддзя да н. э., утварэнне адкрытых прастораў ішло хутчэй, чым узнаўляліся лясы. Гэта выклікала, асабліва ў лесастэпе, крызіс пераложнага земляробства, які абвастрыўся пры павелічэнні пагалоўя коней і авечак. Узмацніўся рост насельніцтва. Хутчэй за ўсё вынікам адноснай перанаселенасці былі вялікія перасяленні і баявыя сутычкі паміж плямёнамі на працягу наступнай эпохі — бронзавага веку. У гэтых складаных абставінах сацыяльна-эканамічных змен і міграцый насельніцтва адбылася на Беларусі перамога вытворчай гаспадаркі і ўсталяванне культур, асновай якіх было земляробства.

**Уладзімір ІСАЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР.**





Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# НА АЛІМПЕ ІДУЦЬ БАІ

Вясновы шахматны сезон, па даўняй ужо традыцыі, і сёлета баў багаты на падзеі. Тут перш за ўсё трэба вылучыць два буйнейшыя міжнародныя спаборніцтвы — нашумелы «матч веку» і першынство Еўропы. «Матч веку» ўжо даволі шырока асветлены ў друку, хоць аналіз яго вынікаў, безумоўна, далёка яшчэ не завершаны.

Вясной зборная нашай краіны з вялікай перавагай, апярэдзіўшы на 11,5 ачка бліжэйшага канкурэнта — зборную Венгрыі, чацвёрты раз атрымала перамогу на камандным першынстве Еўропы. У склад нашай каманды ўваходзілі галоўным чынам шматвопытныя байцы, маладое пакаленне прадстаўляў хіба што 21-гадовы чэмпіён Масквы Ю. Балашоў. Нельга не адзначыць вялікага поспеху каманды ГДР, якая здолела заваяваць бронзавыя медалі і літаральна ў апошні момант адсунуць на чацвёртае месца такі выпрабаваны калектыў, як каманда Югаславіі. Прыгадаем чытачам, што шахматысты ГДР з'яўляюцца пастаяннымі партнёрамі беларускіх шахматыстаў.

Нельга не прыняць таксама пад увагу цэлага шэрагу веснавых індывідуальных турніраў. З міжнародных тут перш за ўсё вылучаюцца турніры гросмайстарскага рангу — у Лейдэне (Галандыя) і «Турнір свету» ў Загрэбе. Першы з іх праходзіў, што называецца, па ўсіх артыкулах. У ім «скрыжаваў» шпагі квартэт прадстаўнікоў вышэйшага звання. Чэмпіён свету Барыс Спаскі перамог у «міні-матчах» з чатырох партый зарубежных калег Я. Доннера (Галандыя) і свайго даўняга саперніка датчаніна Б. Ларсена. Сенсацыяй быў і поспех Я. Доннера, што заняў другое месца і апярэдзіў такіх праслаўленых шахматыстаў, як экс-чэмпіён свету М. Батвіннік, Б. Ларсен, якія падзялілі трэцяе і чацвёртае месцы.

У Загрэбе поспех спадарожнічаў амерыканскаму гросмайстру Р. Фішару, які пакінуў далёка за сабой цэлы квартэт вопытных турнірных «асаў» — гросмайстраў С. Глігарыча (Югаславія), В. Горта (Чэхаславакія) і нашых В. Карчнога і В. Смыслова. Яшчэ на палову ачка менш у групе пераможцаў меў Т. Петрасян.

Цэлы шэраг цікавых турніраў прайшоў у нашай краіне. Выявіліся першыя фіналісты. Тут не толькі вопытным гросмайстрам і майстрам, але і маладым спадарожнічаў поспех. Так, паўфінал краіны ў Ленінградзе даў адразу двух дэбютантаў — прадстаўнікоў маладога пакалення шахматыстаў В. Карасёва і М. Цэйтліна, якія здолелі апярэдзіць вядомых майстроў. У маскоўскім паўфінале побач з такімі вопытнымі шахматыстамі, як гросмайстар Ю. Авербах, майстры О. Маісееў і А. Зайцаў, выдатнага выніку дабіўся малады майстар Ю. Балашоў. Ён не толькі другі раз выйшаў у фінал, але і з трыумфам заняў першае месца, апярэдзіўшы на два ачкі канкурэнтаў, сярод якіх было пяць гросмайстраў. І ўрэшце, у трэцім паўфінале, якім было першынство Украіны, лаўры пераможцаў падзялілі новы чэмпіён рэспублікі адэскі майстар В. Туаманаў і кіеўскі гросмайстар І. Платонаў.

Крыху пазней закончыліся яшчэ тры паўфіналы. У іх таксама добра выступілі маладыя шахматысты. Асабліва варта адзначыць выдатны вынік чэмпіёна свету сярод юнакоў Анатоля Карпава, які бліскуча выйграў званне чэмпіёна РСФСР.

Безумоўна, вясновы шахматны сезон быў багаты сустрэчамі нашых гросмайстраў з зарубежнымі «асамі». Якія ж важнейшыя вынікі апошніх сустрэч майстроў савецкай і зарубежнай шахматных школ? Якія змены на шахматным Алімпе?

Па-першае, спаборніцтвы паказалі вялікую жыццястойкасць ветэранаў савецкіх шахмат. Напомнім хаця б дзівосныя вынікі нашага 34-гадовага гросмайстра П. Кераса. Ён быў лепшым на «матчы веку», набраўшы тры ачкі з чатырох, а ў першынстве Еўропы дасягнуў рэкорднага выніку: пяць ачкоў з пяці!

Па-другое, у «матчы веку» на першых чатырох дошках нашы сучасныя лідэры шахмат пацярпелі паражэнне. У наступных двух буйных міжнародных турнірах у Галандыі і Югаславіі спрэчкі нашых і зарубежных майстроў былі прадоўжаны. У Галандыі чэмпіёну свету Б. Спаскаму ўдалося досыць пераканаўча абагнаць Б. Ларсена, а ў Югаславіі наперадзе быў Р. Фішар. Таксама выдатнага выніку дабіўся В. Горт (Чэхаславакія).



Барыс Спаскі.



Тыгран Петрасян.



Леў Палугаеўскі.



Віктар Карчной.



Бент Ларсен.



Лайаш Порціш.



Власціміл Горт.



Адным словам, перад міжзанальным турнірам ёсць пра што падумаць. Вядома, стыль Фішара, яго мастацтва гульні ў дэбюце і тэхніка ў эндшпілі заслугоўваюць самага дэталёвага вывучэння.

Па-трэцяе, рэзервы ёсць, і яны растуць. Перш за ўсё варта назваць імёны А. Карпава, Ю. Балашова, Р. Ваганена. Беларускіх аматараў шахмат, безумоўна, хвалюе далейшы шлях маладога таленавітага майстра В. Купрэйчыка. Пачатак гэтага года быў для яго шматабяцальным — ён жа падзяліў 1—3 месцы на студэнцкім першынстве СССР. Але ў паўфінале 38-га першынства СССР яму не ўдалося прабіцца ў фінал. Здольнаму Купрэйчыку трэба шмат працаваць, каб узняцца да ўзроўню вышэйшага класа.

Бясспрэчна, канкурэнцыя з боку зарубежных шахматыстаў прыкметна ўзрасла. Але мы цвёрда верым у нашу, савецкую школу. Зарукай гэтаму павінны быць дружба і здаровае супрацоўніцтва нашых слаўных ветэранаў і здольнай моладзі.



Раздзел вядзе
міжнародны майстар
Макс ШАВЕЛЬ

# НОВЫЯ КАМПАЗІЦЫІ

**М. Халаў**
(Саратаўская вобласць)




У раздзел «64—100» паступілі новыя шашачныя кампазіцыі. Найбольш удалыя з іх падаюцца тут.

Дарэчы, нашы актыўныя аўтары паспяхова выступілі ў апошніх спаборніцтвах шашачных праблемістаў. Георгі Укман перамог у XI усесаюзным конкурсе складання канцовак па рускіх шашках, а Міхаіл Цветаў—у V рэспубліканскім конкурсе ў раздзеле эцюдаў па рускіх шашках набраў 2,5 майстарскага бала.

**Г. Укман**
(Мінск)




**М. Цветаў**
(Віцебская вобласць)



Ва ўсіх камбінацыях белыя пачынаюць і выйграюць.

**Эцюд К. Халецкага (Ташкент).**

Белыя: дамкі 2, 30; простая 47 (3).
Чорныя: дамка 38; простыя 33, 36 (3). Выйгрыш.

**Задача Я. Ціханава (Маскоўская вобласць).**

Белыя: дамка 31, простыя 19, 21, 27, 29, 38, 41, 43, 50 (9).
Чорныя: простыя 16, 35, 40 (3). Заперці сваю простую.

**Канцоўка Л. Чарнова (Магілёўская вобласць).**

Белыя: b2, c3, d2, g1, g3, h2, h6 (7).
Чорныя: a5, c5, d6, e5, f6, f8, g7 (7). Выйгрыш.

**Задача М. Пустыннікава (Ленінградская вобласць).**

Белыя: дамкі 24, 28, 32, 37; простыя 20, 31, 41, 42, 47, 50 (10).
Чорныя: простыя 15, 16, 45 (3). Заперці дамку і простую чорных.

**Канцоўка М. Стэфановіча (Гродна).**

Белыя: a3, a5, b2, c1, c3, d4, g1, h6 (8).
Чорныя: a7, b6, c7, d6, f4, f8, g7, h8 (8). Выйгрыш.

**Эцюд А. Афоніна (Маскоўская вобласць).**

Белыя: дамкі c1, h4; простыя d6, f4 (4).
Чорныя: дамкі b6, d8; простая b4 (3). Выйгрыш.

**Пазіцыя У. Юшчанкі (Гомельская вобласць).**

Белыя: a1, b2, c5, e1, e3, f4, g3, h4 (8).
Чорныя: a5, a7, d4, d8, f6, g7, h8 (7).
Прааналізуйце пазіцыю і дакажыце магчымасць апошняга ходу чорных.

Падрыхтаваў майстар спорту СССР
**Мікалай ГРУШЭЎСКІ.**



**«Мы іх ведаем». Так называлася першая кніжка сатыры і гумару Уладзіміра Корбана.**

**Каго ведаем! А ўсіх, хто блытаецца пад нагамі, хто замінае нам на шляху да будучыні.**

**Толькі ведаем! І ўсяго! А ці дастаткова гэтага! Не! — сцвярджае свaёй творчасцю сатырык. Ведаць мала. Трэба выкрываць, кляйміць, ганьбаваць, трэба ўсенародна высмейваць розную гніль і пошасць.**

**Уладзіміру Корбану шэсцьдзесят гадоў. Але па-ранейшаму сатырычнае пяро яго належным чынам адточана і б'е трапна, без промаху.**

**«Маладосць» шле юбіляру самыя гарачыя віншаванні, а чытачам сваім прапануе яго новыя байкі.**




● **Уладзімір КОРБАН**

## САЛАВЕЙ І ВЕРАБЕЙ

У лес ніколі верабей
Не залятае,—
Стыхія ў лесе для яго не тая,
А салавей,
Бывае,
На вішаньку ў садку сядае
І там да раніцы спявае.
Вось так яно й на гэты раз было.
Зноў расспяваўся салавей на вішні
І трэлямі ўсю ноч ён засыпаў сяло
Старанна, ўвішна.
Нарэшце сонейка ўзышло.
Памалу днее.
Сініца слухае салоўку й млее.
І нават уздыхнуў зайздросна шпак:
«Чаму і мне спяваць не дадзена вось так!»
«Ага! А вось чырыкаць ён не ўмее!
А кажуць, што няма яму цаны»,—
Азваўся верабей з рабіны.
На гэты выбрык вераб'іны,
Даў шпак адказ: «Дурны ты, верабей, дурны.
Чырыкаць салаўю? І гэта ты сур'ёзна?
Навошта, калі ён спявае віртуозна!
Ты гэта можаш зразумець?»

---

Натура вераб'іная такая:
Заўсёды іншых папракае,
Што ў іх няма таго, чаго й не варта мець.

# САРДЭЧНЫ ВАРТАВЫ

Начным вартаўніком Гаўрыла працаваў,
Калгаснае дабро ён пільнаваў.
Салідны вопыт меў Гаўрыла ў гэтай справе
І раптам апынуўся на той лаве,
Што спераду стаіць у нарсудзе.
За што?! Здаецца ж, не праштрафіўся нідзе,
Сардэчным чалавекам
Паміж людзьмі заўсёды быў,
Нікому, так сказаць, вады не замуціў.
Калі што бачыў дзе, то нават і павекам
Не моргаў у той бок.
Ды як і моргаць тут? — свае ж, суседзі кралі,
З-за свету злодзеі ў калгас не прыязджалі,
То кум, то зяць, то дружбакоў браток
Дабро калгаснае цягалі.
Са свірна ж сам ніколі ён не краў,
Са стога і саломінкі не браў,
Бо да грамадскага дабра не быў ахвочы.
За што ж папаўся чалавек пад суд?

---

За тое, што заплюшчваў вочы,
Калі другія кралі там і тут.



# ГАЎ—ГАЎ

Расчуліўся Барбос.
Ён сёння рана
Зрабіў казлу разнос
І аббрахаў суседскага Палкана.
Калі ж на вуліцы ката спаткаў,
То й на таго: Гаў-гаў! Гаў-гаў!
І вось расчуліўся. Сядзіць і пазірае.
Навокал прыгажосць такая,
Што немагчыма перадаць.
Пушысты снег на сонцы ружавее,
У шэрані алея,
Сініцы на кустах звіняць.
Якое ж сэрца можа не растаць
У гэткі час чароўны, паэтычны!
Барбоса агарнуў настрой лірычны,
Барбоса пацягнула заспяваць
Аб харастве жыцця, аб добрым ранні,
І можа, нават, аб каханні.
Ён пысу ўгору ўзняў
І... забрахаў.
Гаў-гаў! Гаў-гаў!

---

Барбос... Ну што Барбос? Яго не перайначыш.
Часамі ж юнака такога ўбачыш,
Які магчыма й добрае б сказаў,
Бо ў захапленні ён, ва ўзлёце,
Ды слоў пяшчотных не знайшлося ў роце...
І пачынаецца: Гаў-гаў!

# КОСЫ

«Каса —
Дзявочая краса!»
Вякамі людзі так сцвярджалі.
Бабуля й мамачка заўжды
Даводзілі пра гэта Галі,
Калі ёй косы заплялалі.
А косы ў Галі сапраўды,
Як кажуць, проста на здзіўленне.
Спушчаліся па самыя калені
І таўшчынёй з руку з іх кожная была.
Калі дзяўчына падрасла,
То юнакі ў вялікім захапленні
Ну так ля Галі й загулі,
Нібы чмялі
Каля духмянай кветкі.
У клубе хлопец рэдкі
Не дамагаўся з ёй патанцаваць.
І нават блізкія сяброўкі
Зайздросцілі ўпрыгожанню галоўкі,
А часам пачыналі і злаваць,
Вачмі ёй пасылаючы уколы.
Нарэшце скончыла дзяўчына школу
І з'ехала ў сталічны інстытут.
Вось тут
На косы Галіны спусцілася навала.
Бабулі й мамачкі, як бачыце, не стала.
Хто ж будзе косы заплятаць?
Самой жа іх нялёгка даглядаць.
І Галя косы абкарнала.



---

Што тут дадаць?
Бывае, іншы раз, юнак у працы
Не супраць поспехам пакрасавацца,
Пакуль сапраўднай цяжкасці ніякай не відаць.
А ледзьве з цяжкасцю даводзіцца спаткацца,
І ён пазбавіцца
Рашаецца
Таго,
Што, ўласна, і ўпрыгожвала яго.

Сяброўскі шарж
і малюнкі
Аскольда ЧУРКІНА

## нашы аўтары

●

**ЗАКОННІКАЎ Сяргей** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бешанковіцкім раёне на Віцебшчыне. Вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Служыць у Савецкай Арміі.

●

**КУНЬКО Леў** нарадзіўся ў 1930 годзе на Полаччыне. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Цяпер рэдактар аддзела часопіса «Промышленность Белоруссии».

●

**МАКАЛЬ Пятрусь** нарадзіўся ў 1930 годзе на Беласточчыне. Скончыў літаратурны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Аўтар кніг паэзіі «Першы след», «Вятрам насустрач», «Вечны агонь», «Круглы стол» і іншых.

●

**ХАЧЫРАШВІЛІ Уладзімір** мае 24 гады. Ён нарадзіўся ў вёсцы Магільнае, што на Уздзеншчыне. Скончыў Мінскае ГПТВ-34, служыў у Савецкай Арміі. Працуе ў Мінскім лакаматыўным дэпо памочнікам машыніста цеплавоза.

●

**КАМЕЙША КАЗІМІР** нарадзіўся ў вёсцы Навікі Стаўбцоўскага раёна. Вучыцца завочна на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Выдаў зборнік вершаў «Восеньскія позвы». Цяпер працуе ў рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё.

●

**ШПЫРКОЎ Алесь** нарадзіўся ў 1937 годзе на Расоншчыне. Скончыў літаратурны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам, выхавальнікам у інтэрнаце. Цяпер—супрацоўнік рэдакцыі наваполацкай газеты «Хімік».

●

**ЖУКОВІЧ Васіль** нарадзіўся ў 1940 годзе ў Камянецкім раёне на Брэстчыне. Скончыў факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. Працуе ў рэдакцыі брэсцкай раённай газеты «Зара над Бугам».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 8**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ**, тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА**.
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ**.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854**—сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592**—аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892**—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775**—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1/VII-70 г. Падпісана да друку 29/VII-70 г.
Тыраж 13 764 экз. Зак. 1012. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**




Мікалай **АМЕЛЬЧАНКА**. Любіць — не любіць...